

*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*не разьбіць, не спыніць,*
*не стрымаць!*

Максім Багдановіч

1 115

ДА 1989 г. ЧАСОПІС ВЫХОДЗІЎ ПАД НАЗВАЙ «ПОМНІКІ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ»

ЧАСОПІС БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ДРУКУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# СПАДЧЫНА

1/96

## У НУМАРЫ

### АДЛЮСТРАВАННІ



### ДАКУМЕНТЫ І ЛЮДЗІ



### ПРОЗА



### ІНТЭРПРЭТАЦЫІ



### ЭТНАГЕНЕЗ

МЕМУАРЫ



РЭЛІГІЙНАЯ ГІСТОРЫЯ





Адрас рэдакцыі: 220029, Мінск, Старажоўская, 5. Тэл. 34-26-50.

Здадзена ў набор 22.12.95. Падпісана да друку 08.02.96. Фармат 84×108 1/32. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 15,12. Ум. фарба-адб. 24,52. Ул.-выд. арк. 16,90. Тыраж 3600 экз. Зак. 1496.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220013, Мінск, праспект Францішка Скарыны, 79.

Выходзіць 6 разоў на год. Выдавецтва «Полымя». Мінск.



**На першай старонцы вокладкі: пацір з Петрапаўлаўскай царквы ў Ружанах (Брэсцкая вобл.). Канец XV — пачатак XVI ст.**

**На чацвёртай старонцы вокладкі: г. Менск, старая Няміга. 1970-я гады.**

Дзьмітры КАРАЎ

# АРХІЎНАЯ СПАДЧЫНА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА І БЕЛАРУСКІЯ АРХІВЫ ў канцы XVIII — пачатку XX ст.

Падзелы Рэчы Паспалітай і пераход архіваў Вялікага Княства Літоўскага ў склад установаў Расейскай імпэрыі правялі рэзкую мяжу паміж іх мінулым станам і новым. Яны апынуліся пад уладай Расеі незадоўга да ўтварэньня міністэрстваў, пад кіраўніцтвам якіх усе архівы імпэрыі прыходзілі «ў запусьценьне», калі пагібель, сьвядомае зьнішчэньне, страта й пашкоджаньне дакумантаў, што да таго адбываліся толькі спарадычна, падчас усенародных няшчасьцяў, войнаў і пажараў, ператварыліся ў ста́лы працэс. Гэты працэс непапраўна «разьядаў» каштоўныя актасховішчы, на гарышчах апыналіся закінутымі такія дакуманты, як дамовы вялікіх князёў літоўскіх з польскім каралём Казімерам III альбо рукапісныя эвангельлі XIII стагодзьдзя.

З утварэньнем міністэрстваў (1811 г.) на зьмену неабходнасьці цэнтралізацыі архіваў, якая хоць і не ажыцьцяўлялася, але ў прынцыпе прызнавалася ў XVIII ст., прыйшла «шматлікасьць» і «дробнасьць» як у цэнтры, гэтак і ў правінцыі Расейскай імпэрыі. Першым крокам да гэтага зьявілася «Агульная Ўстанова міністэрстваў» 1811 году. Тыя ж рысы — шматлікасьць і вузкую ведамаснасьць — набываюць у XIX ст. і правінцыйныя даку-

мантальныя зборы «губерний, от Польши отошедших». «Агульная губэрская ўстанова» скасавала цэнтралізаваныя архівы, што пачалі ўжо складвацца ў Расеі ў канцы XIX ст., і замяніла іх на архівы пры кожнай, нават маленькай, ячцы мясцовага кіраваньня. У 1914 годзе на Першым Усерасейскім зьезьдзе прадстаўнікоў губэрскіх вучоных архіўных камісіяў у Петраградзе даводзілася інфармацыя пра існаваньне ў асобных губэрнях краіны да 1000—1500 невялікіх збораў.

Галаўны боль ураду ў XIX — пач. XX ст.— пытаньне пра вызваленьне архіваў ад узрастаньня папяровага патопу — прыводзіў да такіх захадаў па іхнай «разгрузцы», якія запісалі шэраг найбольш сумных старонак у гісторыю архіўнае справы Расеі ў цэлым і Беларусі ў прыватнасьці. Захады па «ачыстцы» архіваў ад «старых папераў», непатрэбных дзеля бягучых справаў, праводзіліся пераважна з частковай рэарганізацыяй саміх дзяржаўных установаў. Гэтыя захады трагічна адбіваліся на лёсе беларускіх збораў. Калі да таго ж улічыць і разбуральнае ўзьдзеяньне на стан дакументальных помнікаў беларускай мінуўшчыны войнаў 1812 і 1914—1918 гг., падзеяў, зьвязаных зь ліквідацыяй паўстаньняў 1830—1831 і 1863—1864 гг., «перапампоўваньня» найбольш каштоўных у палітычным дачыненьні дакументальных комплексаў Беларусі ў цэнтральныя архівасховішчы імпэрыі, дык не выпадае зьдзіўляцца з таго, што бальшыня архіўных крыніц па гісторыі краю да пачатку XX ст. ці апынулася далёка па-за яго межамі, ці беззваротна згублена.

Яскравы прыклад раздрабненьня архіўных фондаў, што адбывалася на глебе частага перамяшчэньня дакумантаў з аднаго месца ў іншае,— лёс так званага «Архіву Агульнага Адукацыйнага Фундушу» (Дакумантальная спадчына ордэну езуітаў ВКЛ.— Дз. К.). Расейскі ўрад пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай перадаў ягоныя справы на пачатку XIX ст. у Архіў Міністэрства народнай асьветы. Міністар — граф С. С. Увараў — вырашыў перадаць іх у Дэпартамант дзяржаўных маёмасьцяў, і ў 1834 годзе частка фонду пайшла ў архіў дэпартаманту. Шмат якія дакуманты езуітаў вызначаліся старажытнасьцяй (XVI і 1-я пал. XVII ст.), таму ў 1837 годзе частку фонду ўзяла Пецярбурская Археаграфічная камісія. І яшчэ адна частка пайшла ў сховішчы МЗС.

Але найбольшай бядой правінцыйных збораў Расеі, на думку прафэсійных архівістаў пачатку XX ст., было непасрэднае зьнішчэньне архіўных справаў у дзяржаўных установах XIX стагодзьдзя. Хоць эпоха Мікалая I і лічыцца адным з найлепшых пэрыядаў у разьвіцьці археалёгіі і археаграфіі, менавіта «катэгарычна выяўленая воля» Яго Вялікасьці натхняла ўсе ведамствы на стараннае зьнішчэньне архіўных дакумантаў. МЗС Расеі ў 1845 годзе выдаў «Установу губэрскіх управаў», паводле якой пры кожнай губэрскай управе штогод ствараліся камісіі дзеля «разборкі» дакумантаў і зьнішчэньня тых зь іх, якія па сканчэньні дзесяцігадовага тэрміну даўнасьці лічыліся «непатрэбнымі больш для даведак». Архіўныя матар'ялы разглядаліся «экспэртамі» гэтых камісіяў з вузка ўтылітарных пазыцыяў. Да таго ж, калі напачатку гэтыя камісіі маглі засноўвацца з «Найвышэйшай ласкі», дык з 1867 году стварэньнем іх займаліся мясцовыя ўлады. Дасьведчаных кадраў архівістаў не было, таму ў камісіі прыцягваліся сябры губэрскай управы, губэрскія пракуроры, дырэктары і дазорцы вучэльняў, судзьдзі. У выніку — масавае вынішчэньне дакумантаў, што ніяк не маглі быць зьліквідаваныя праз сваю гістарычную каштоўнасьць. Прыклад МЗС у 1850 годзе пераняло й Міністэрства юстыцыі, якое таксама падало «Праект» аб ліквідацыі справаў ва ўсіх правінцыйных архівах судовых установаў. Дзеля «досьледаў» у парадку экспэрымэнту, побач з Архангельскай, Наўгародзкай, Чарнігаўскай выбралі і Віленскую губэрню, дзе на працягу 5 гадоў зьнішчылі больш ад 10 000 справаў. Калі ў 1850-я гады выйшла «Пастанова» Кабінэту Міністраў аб складаньні кожным ведамствам «Правілаў зьнішчэньня дакумантаў», за МЗС і Міністэрствам юстыцыі пайшлі і іншыя: у 1861 г.— «інструкцыя» МНА, у 1862 г.— Галоўнага кіраўніцтва поштаў і тэлеграфаў, Міністэрства земляробства і дзяржмаёмасьцяў, Міністэрства фінансаў, Дзяржаўнага кантролю і інш. Унутранае супярэчлівае «ведамаснае» заканадаўства прыводзіла да хаосу і самадурства «чыноў», якім даручалася «разборка» справаў, празьмернага масавага зьліквідаваньня матар'ялаў. Як жа зьнішчалі паперы ў заходніх губэрнях дарэформавай Расеі? Дакументы несакрэтныя, папярэдне прыведзеныя ў стан «россыпу» (справы расшывалі, асобныя аркушы розных справаў пераблытвалі і псавалі,

праколвалі шылам і да т. п.), прадавалі на папяровыя фабрыкі. Сродкі, атрыманыя ад продажу справаў, ішлі на дапамогі і ўзнагароды чыноўнікам — «ліквідатарам», на найманьне новых «вынішчальных» камісіяў, на набыцьцё паперы і канцылярскіх прыналежнасьцяў. Толькі агульнанацыянальныя трагічныя падзеі (войны, паўстаньні, рэвалюцыі), што прыводзілі да пагібелі гістарычных матар'ялаў, прымушалі ўрадавыя колы Расеі задумвацца пра іхны лёс.

Але часам палітычныя падзеі штурхалі ўрадавых чыноўнікаў і дзяржаўных дзеячоў імпэрыі да думкі пра неабходнасьць канцэнтрацыі архіваў «асаблівай» палітычнай значнасьці. У канцы XVIII — 1-й палове XIX ст. гэтая тэндэнцыя выявілася ў стаўленьні кіраўнічых колаў дзяржавы да архіваў цэнтральных ведамстваў ВКЛ, рукапісных збораў каталіцкай і ўніяцкай цэркваў і магнатаў «Заходняй Расеі». Пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай гэтыя архівы дасталіся новым гаспадаром у бліскучым стане.

Напрыканцы XVIII стагодзьдзя Расейская імпэрыя атрымала матар'ялы такіх цэнтральных установаў Вялікага Княства, як канцылярыя ВКЛ (Літоўская Мэтрыка), канцылярыя маршалковага суду, Літоўскага Трыбуналу, Літоўскага задворна-асэсарскага суду, Скарбовай камісіі, Вайсковай камісіі, Найвышэйшай Радзівілаўскай камісіі, Таргавіцкай канфэдэрацыі. З багатых мясцовых збораў — архівы ваяводзтваў: Віленскага, Троцкага, Полацкага, Наваградзкага, Віцебскага, Берасьцейскага, Мсьціслаўскага, Смаленскага, Менскага. У гэтых ваяводзтвах ды іх паветах захаваліся архівы судоў земскіх, падкаморскіх і каморскіх, камісарскіх, таксатарска-эксдывізарскіх; архівы камісіяў грамадзянска-вайсковых і лякальных канфэдэрацыяў 1792—1793 гг. Судовыя кнігі гэтых збораў паводле сыстэмы, якой карысталіся ў Рэчы Паспалітай, падзяляліся на тры тыпы: індыкты, пратаколы і рэестры. Склад архіваў ВКЛ, якія ўвайшлі ў агульнарасейскую архіўную «прастору», з прычыны натуральных працэсаў (войны, зьмены сыстэмы кіраваньня, канцэнтрацыя і адабраньне асобных групаў крыніц з прычыны іх палітычнай значнасьці і г. д.) зьведаў да пачатку XX ст. істотныя зьмены. У выніку дакументы расьсеяліся як у сховішчах Варшавы, Пецярбургу, Масквы, Вільні, Коўна, гэтак і далёка па-за межамі былой Ра-

сейскай імпэрыі. Пачатак гэтай эпосе «вялікага расьсейваньня» дакумантальнай памяці пра беларускую мінуўшчыну паклалі падзелы Рэчы Паспалітай.

Найперш зьмены закранулі галоўны дзяржаўны архіў ВКЛ — Літоўскую Мэтрыку, якая перанесла ўжо нямала ўдараў і стратаў у падзеях XVII—XVIII стст. (Асабліва ў выніку знакамітага Патопу XVII ст.— Дз. К.). і пазбавілася шмат якіх арыгінальных актаў XVI — 1-й паловы XVII ст. У сярэдзіне 1740-х гадоў яна была перавезеная зь Літвы ў Варшаву. Тады ж правялі апісаньне і стварылі Рэгесты ЛМ. У 1786 годзе зь ініцыятывы А. Нарушэвіча кнігі ЛМ былі наноў пераплеценыя і пранумараваныя ўнутры аддзелаў, на якія быў разьбіты ўвесь комплекс дакумантаў.

Па загаду Кацярыны II ад 24 кастрычніка 1794 году і даручэньні літоўскага генэрал-губарнатара М. Рапніна па ўзяцьці войскамі А. Суворава ЛМ была забраная й перавезеная ў Пецярбург разам з той яе часткай, якую захоўваў у Віленскім касьцёле сьв. Казімера архіварыюс Качаноўскі. На працягу 1796—1798 гг. прывезеныя архівы падзялілі паміж Сэнатам і Калегіяй замежных справаў. У 1799 годзе на аснове канвэнцыі з Прусіяй прускаму каралю былі перададзеныя тыя часткі ЛМ і Мэтрыкі Кароннай (КМ), якія датычалі тэрыторыі Рэчы Паспалітай, што адышла да Прусіі, а апошняя пазьней перадала гэтыя часткі Варшаўскаму архіву старажытных актаў згодна з Тыльзыцкім трактатам. У 1798 годзе была ўтвораная камісія, якая праводзіла першапачатковае разьбіраньне і перасыстэматызацыю справаў з фондаў новага паступленьня. «Пецярбурскі» пэрыяд характарызуецца падагульняльным падыходам да матар'ялаў ЛМ і КМ, што знайшло адбітак і ў новым назове фонду — «Мэтрыка далучаных правінцыяў». Вынікам працы камісіі 1798 г. стаў рэестар дакумантаў, зь якога ў 1817 г. быў зроблены падрабязны сьпіс. Архіўнае і навуковае вывучэньне матар'ялаў абедзьвюх Мэтрыкаў у Расеі пачалося ў 1803 годзе, калі была створаная адмысловая Экспэдыцыя Сэнату пад назовам «Мэтрыкі злучаных правінцыяў». У задачы яе ўваходзілі разьбіраньне й сыстэматызацыя дакумантаў ЛМ, арганізацыя іхнага выкарыстаньня. У 1-й палове XIX ст. матар'ялы ЛМ, асабліва прывілеі і даравальныя лісты, мелі вялікае практычнае значэньне, бо зьявіліся афіцыйным пацьверджаньнем шараговых шляхоцкіх

правоў. За тых часоў вядомыя выпадкі падробак і фабрыкацыі дакумантаў, выцягнутых ці нават падшытых у сапраўдныя кнігі ЛМ. Дзеля ўпарадкаваньня справаў, выкараненьня падробак і далейшай навукова-даведкавай апрацоўкі фонду ў 1835 годзе на іменны загад была ўтвораная адмысловая камісія, якая замацавала ўнутраную разьбіўку ЛМ на аддзелы і нумарацыю адзінак захаваньня ўнутры іх. Камісія скончыла працу ў лютым 1837 году. Галоўным яе вынікам было складаньне інвэнтарнага вопісу. Камісія замацавала такі падзел фонду на часткі (разьдзелы), які склаўся да таго часу: 1) кнігі судовых справаў; 2) кнігі грамадзянскіх справаў; 3) кнігі перапісаў; 4) кнігі выпісаў; 5) справы за пячаткай; 6) кнігі неадменнай Рады і справы найноўшай вытворчасьці; 7) рэгістры; 8) новыя кнігі; 9) старажытныя акты; 10) радаводы; 11) мапы й пляны. У 1887 годзе ЛМ была перавезеная на захаваньне з С.-Пецярбургу ў Маскву. Гэтая перадача пазначыла сабой новы этап у гісторыі фонду ды ягонага апісаньня. Фонд складаўся тады з 1048 кніг, 393 старажытных актаў, 50 радаводаў і 19 мапаў. Някепская захаванасьць і ўпарадкаванасьць матар'ялаў ЛМ дазволілі расейскім гісторыкам канца XIX — пачатку XX ст. распачаць ейную публікацыю і паставіць пытаньне пра сыстэмнае выданьне вопісаў дакумантаў «ядра» дзяржаўнага архіву ВКЛ (М. Доўнар-Запольскі).

Падобны лёс напаткаў і іншы надзвычай важны дакумантальны комплекс ВКЛ, так званы «Нясьвіскі архіў» Радзівілаў. Зборы Радзівілаў у Нясьвіжы мелі як агульнадзяржаўную, гэтак і ўласнасямейную значнасьць. Яны складаліся з архіву, бібліятэкі, кабінэту манэтаў і мэдалёў. Публічна-праўны характар меў архіў, што ўзьнік у XVI стагодзьдзі. У 1551 годзе, згодна з загадам польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста, Мікалаю Радзівілу былі перададзеныя на захоўваньне «літоўскія» прывілеі. У Нясьвіскім архіве Радзівілаў знаходзілася і калекцыя дзяржаўных актаў ВКЛ эпохі Жыгімонта Старога, так званая «Tomiciana» — 17-томная канцылярыя ў цьвёрдых пераплётах, якая разьмяшчалася ў аддзеле рукапісаў Нясьвіскай бібліятэкі. Радзівілы надавалі шмат увагі свайму архіву й трымалі яго ў парадку. Пры ім заўжды працаваў архіварыюс, які меў аднаго, а часам і некалькіх памоч-

нікаў. На дакументы меліся вопісы. Сам Нясьвіскі архіўны збор засяроджваў дакументы ўсіх чальцоў роду Радзівілаў, даравальныя лісты расейскіх цароў і польскіх каралёў Радзівілам на маёнткі і разнастайныя льготы, статуты й прывілеі княскіх гарадоў, найбагацейшую перапіску службовага, ваеннага ды асабістага характару, жыцьцяпісныя крыніцы (радаводныя кнігі, генэалягічныя табліцы, шлюбныя кантракты), маёмасна-гаспадарчыя і фінансавыя дакументы маёнткаў і фальваркаў роду. Пасьля II падзелу Рэчы Паспалітай значная частка Нясьвіскага збору перавандравала ў С.-Пецярбург. А. Бібікаў вывез бібліятэку з 20 000 тамоў, якую па загадзе Кацярыны II перадалі Расейскай Акадэміі навук, дзе тамы Нясьвіскага кнігазбору праляжалі да 1842 году, калі іх аддалі часткова Пецярбурскай Духоўнай акадэміі, часткова — унівэрсытэцкай бібліятэцы ў Маскве (яна атрымала ўсе беларуска-літоўскія, польскія і лацінскія кронікі, што захоўваліся да таго ў Нясьвіжы) і бібліятэцы Генэральнага штабу ў Пецярбурзе. Наагул жа, збор кніг і рукапісаў Радзівілаў стаў падмуркам Расейскай Акадэміі навук. У ейным аддзеле рукапісаў апынуліся надзвычай каштоўныя крыніцы па гісторыі культуры ВКЛ і Беларусі. Але найбольшую частку рукапісных рарытэтаў Нясьвіскай бібліятэкі перадалі Імпэратарскай Публічнай бібліятэцы (Цяпер РНБ імя М. Салтыкова-Шчадрына.— Дз. К.), дзе яна і на сёньняшні дзень складае аснову калекцыі аўтографаў. Архіў, што застаўся ў Нясьвіжы, папаўняўся матар'яламі і ў XIX— пач. XX ст. Апроч дакумантаў роду Радзівілаў, у ім зьявіліся й паперы сваякоў радавітай сям'і — родаў Вітгенштэйнаў, Завішаў, Флемінгаў. Ужо ў 80-я гады XIX ст. П. Вітгенштэйн перавёз свае дакументы ў Слуцак, аднак значная іх частка, што датычыла маёнткаў Вітгенштэйнаў, яшчэ заставалася ў складзе Нясьвіскага архіву Радзівілаў. І хоць дасьледчыкаў сюды пускалі без асаблівай ахвоты, усё ж такі ў XIX ст. ён стаў аб'ектам пільнай навуковай цікавасьці шмат якіх выбітных гісторыкаў Расеі (З. Далэнгі-Хадакоўскага, А. Кіркора, М. Кастамарава, М. Каяловіча, М. Доўнар-Запольскага і інш.).

З далучэньнем Беларусі да Расейскай імпэрыі шматлікія старажытныя актавыя кнігі перайшлі ў распараджэньне губэрскіх і павятовых установаў, найперш павятовых судоў. Толькі ў архівах установаў Гарадзенскай губэрні

налічвалася 4395 актавых кніг, у тым ліку ў павятовых судох: Гарадзенскім — 209, Ваўкавыскім — 228, Слонімскім — 269, Пружанскім — 53, Берасьцейскім — 545, Бельскім — 125, Беластоцкім — 103; у гарадзкіх магістратах: Гарадзенскім — 18, Ваўкавыскім — 10, Пружанскім — 16, Кобрынскім — 6, Берасьцейскім — 12, Бельскім — 29, Дарагічынскім — 43, Беластоцкім — 14; у старажытных архівах: Дарагічынскім — 1418, Бранскім — 1103 кнігі. Аднак большая частка старажытных архіваў засталася без нагляду. Мноства каштоўных дакумантаў загінула падчас ваенных падзеяў і пажараў 1812 году, згарэлі ўсе старажытныя акты Кобрыньскага суду, архівы полацкага арцыбіскупа. Францускія акупацыйныя ўлады рабавалі й зьнішчалі каштоўную дакумантацыю і рукапісы. У Смаленску загінулі матар'ялы смаленскай кансысторыі, смаленскай палаты крымінальнага суду, скарбовай палаты. Амаль цалкам былі зьнішчаныя архівы Лепля, Мсьціслава, Віцебску, Барысава, Клімавічаў і інш.

Параза паўстаньня 1831 году зьявілася падставай дзеля разьвязаньня ўрадавымі коламі Расеі новых захадаў па канфіскацыі дакумантальных каштоўнасьцяў Беларусі, прычым ня толькі з найбагацейшых збораў, уладальнікі якіх (магнаты й шляхта краю) скампрамэтавалі сябе ўдзелам у згаданых падзеях, але й рарытэтаў з архіваў і бібліятэк касьцёлаў, каталіцкіх і ўніяцкіх кляштараў, прыватных калекцыяў. У 1832 годзе зь імпэратарскага загаду былі вывезеныя ўглыб Расеі (перадусім у Пецярбург) каштоўнасьці з больш як 200 кляштараў, шматлікіх шляхецкіх маёнткаў. Гэта найперш дакумантальныя ды кніжныя зборы, творы мастацтва. Такім чынам канфіскавалі неацэнныя кнігі й рукапісы Полацкай езуіцкай акадэміі, родавыя архівы й кнігазборы Радзівілаў, Агінскіх, Сапегаў, Плятараў, В. Ржавускага, К. Нямцэвіча, К. Валовіча і інш. Такі ж лёс напаткаў у 30-я гады XIX ст. зборы зачыненага ў 1832 годзе Віленскага ўнівэрсытэту (рукапісы Альбэртрандзі, М. Догеля, фэльдмаршала Шарамецева і інш.). Архівы Віленскай акадэміі (і Віленскага ўнівэрсытэту), а таксама калегіяў Сьніпіскай, Ігнатаўскай ды Гарадзенскай, якія захоўваліся ў Архіве Агульнага Адукацыйнага Фундушу, перавандравалі ў сакратарскі стол Міністэрства народнай асьветы.

З 1837 году па загадзе Мікалая I зь беларускіх гарадоў у Пецярбурскую Археаграфічную камісію пачалі адсылаць граматы й «слупкі». З гэтай нагоды ў С.-Пецярбург са шматлікіх бібліятэк і архіваў перайшлі каля 15 000 слупкоў: з Аршанскага гарадзкога магістрату й Куцеінскага манастыра, Берасьцейскага, Гарадзенскага, Бельскага, Вяліскага гарадзкіх магістратаў, Віленскага Трыбуналу, Віленскага капітулу, Віцебскай Скарбовай палаты, Магілеўскіх гарадзкіх думы й ратушы, Магілеўскай сэмінарыі і г. д. Згодна з гэтым загадам гарадзенскі губарнатар перадаў С.-Пецярбурскай Археаграфічнай камісіі вялікі збор старажытных рукапісаў XV—XVI стст. і архіўных дакумантаў XVII—XVIII стст. зь дзярэчынскага архіву князёў Сапегаў. Адна частка яго й кнігазбор Сапегаў паступілі ў С.-Пецярбурскую Публічную бібліятэку, другая частка трапіла ў Горадню, адкуль у 1858 годзе была перададзеная Віленскай публічнай бібліятэцы.

Абумоўленае пастановай Полацкага сабору 1839 году зьліквідаваньне ўніяцкай царквы ў Беларусі згубным чынам адбілася на лёсе ўніяцкіх бібліятэк, царкоўных і кляштарных архіваў. З 1841 году і да канца 1850-х гадоў зь ініцыятывы Я. Сямашкі адбывалася масавае зьнішчэньне й перадача ў Пецярбург і Кіеў найбагацейшай беларускай уніятыкі з Жыровічаў, Полацку, Быценю і іншых мясьцінаў краю. У 1845 годзе ў С.-Пецярбурскі сынадальны архіў быў перададзены каштоўны гістарычна складзены комплекс — так званы архіў «западнорусских униатских митрополитов», які пачаў зьбірацца яшчэ ў 1596 годзе і меў шэраг дакумантаў пачатку XV стагодзьдзя. Значную частку сваіх матар'ялаў ён страціў падчас шматлікіх пераездаў XVII—XVIII стст. Да «асяданьня» ў Пецярбурзе ён пасьпеў пабываць у Вільні, Наваградку, Варшаве, Горадні, Струнне (недалёка ад Полацку), Львове, Радамышлі, Луцку, Страблі, Лаўрышаве. Вандроўнае жыцьцё, безумоўна, не магло не адбіцца на ягонай захаванасьці. Частка ўніяцкіх архіваў стала асновай збораў шэрагу архіўных калекцыяў. Дакуманты па гісторыі ўніяцкай царквы ў 50—60-я гады XIX ст. лёгка можна было набыць у букіністычных крамах Вільні. 40 000 тамоў кніг і каштоўныя рукапісы з базылянскіх кляштараў нават у 1866 годзе знаходзіліся ў стане поўнага забыцьця і хаатычна ва-

ляліся на паліцах Віленскай публічнай бібліятэкі. Разбуранымі былі цэлыя сыстэмы кляштарных калекцыяў. У такіх умовах зьбіраць матар'ялы па гісторыі вуніі было, здавалася б, справай няцяжкай, але зь іншага боку — зьбіраньне дакумантаў з гісторыі ўніяцкай царквы не віталася ўладамі (асабліва царкоўнымі). Неабходна было валодаць ня толькі разуменьнем важнасьці гістарычнай крыніцы дзеля захаваньня памяці пра даўніну, але й немалой мужнасьцяй, каб ісьці насуперак поглядам царкоўнага кіраўніцтва. На шчасьце для гістарычнай навукі, такія людзі, як біскуп Паўла Дабрахотаў, знаходзіліся нават сярод ярархаў праваслаўнае царквы. Дзякуючы ягонай зьбіральніцкай чыннасьці да нас дайшоў найкаштоўны архіўны комплекс па гісторыі беларускай уніятыкі ў ВКЛ.

У 30-я гады XIX стагодзьдзя на Беларусі набыло масавасьць фальшаваньне дакумантаў, што зьвязана з урадавым «разборам» шляхты, які вырашаў задачы праверкі сапраўднасьці юрыдычных падставаў шматлікіх прадстаўнікоў гэтага стану на шляхоцкія прывілеі. Высакародныя беларускія «шляхцічы» ўжо ў XVII—XVIII стст. шырока практыкавалі падробку дакумантаў. Фальшывымі замяняліся сапраўдныя, якія зьнішчаліся часам пры непасрэдным садзеяньні прыстаўленых дзеля іх захаваньня пісараў ды іншых адказных асобаў. Гэтыя фальшаваньні дасягнулі ўжо ў XVIII ст. такіх памераў, што сойм 1726 году вымушаны быў устанавіць сьмяротнае пакараньне для адказных за захаваньне актаў асобаў, якія мелі дачыненьне да падробак. Пагрозьлівыя пастановы мала дапамаглі справе, бо спакусы жыцьцёвага характару былі мацнейшыя. У выніку да пачатку XIX ст. каля паловы менскіх актавых кніг зьмяшчалі падробкі. Менск у 1-й палове XIX ст. ператварыўся ў своеасаблівую «сталіцу» фальшывак. Яны былі нагэтулькі распаўсюджаныя, што прымусілі менскага грамадзянскага губарнатара прызначыць адмысловых чыноўнікаў дзеля сочкі за асобамі, якія мелі дачыненьне да сфальшаваных дакумантаў. Падобныя зьявы й падобныя захады «барацьбы» мелі месца ў 30—40-я гады XIX ст. у Горадні, Віцебску, Магілеве, Полацку, Коўне ды Вільні. У архівах гэтых гарадоў знаходзілася мноства падробак, падшытых ва ўжо пранумараваныя рэвізорамі кнігі. Загадам Мікалая I ад 19 сьнежня 1833 году былі створаныя тры

адмысловыя камісіі дзеля разгляду мэтрычных ды актавых кніг у «губерниях, от Польшы возвращённых». У склад камісіяў увайшлі чыноўнікі міністэрстваў юстыцыі і ўнутраных справаў, корпусу жандараў ды губэрскія страпчыя. Яны абавязаныя былі прашнураваць і пранумараваць усе актавыя кнігі, перакрэсьліць усе чыстыя аркушы, палі і прабелы. Аднак хутка высьветлілася, што многія кнігі засталіся без праверкі, а ў праveraных ня ўсе аркушы былі пранумараваныя, чыстыя аркушы й палі перакрэсьленыя неахайна. Усё гэта спрыяла далейшаму фальшаваньню старажытных дакумантаў. У актавых кнігах зьявіліся ўстаўкі відавочна падробленых папераў, сьпісаных дробным почыркам. Было выяўлена, што ў «праверанных» кнігах Гарадзенскай губэрні сапраўдныя пячаткі замененыя фальшывымі, а ў кнігі ўключаны падробленыя акты. Такім чынам, праверка 1833—1835 гг. і 1852 г. не дала асаблівых вынікаў, бо рэвізоры (жандарскія афіцэры, сьледчыя, губэрскія й павятовыя страпчыя) самі не былі адмыслоўцамі ў гістарычнай дакумантацыі. Другая камісія, створаная зь ініцыятывы віленскага (1842—1852) генэрал-губарнатара Маркевіча, хоць і вызначалася маштабнасьцяй «вышуку», але якасьці праверцы не дадала. Камісіі, распараджэньнем Кабінэту Міністраў ад 1842 году прызначаныя ажыцьцявіць паўторную праверку актавых кніг, мусілі скласьці ў паветах на кожную кнігу вопіс «з адзнакай у асобнай графе, ці прызнаецца акт несумненным альбо не, і чаму менавіта». Як і варта было чакаць, у шматлікіх павятовых установах вопісы былі складзеныя толькі на частку матар'ялаў. Так з 2521 актавай кнігі Дарагічынскага і Бранскага архіваў было апісана ўсяго 8.

З мэтай захаваньня старажытных крыніцаў «заходніх губэрняў», што мелі да таго ж сур'ёзнае палітычнае значэньне, расейскі ўрад вырашыў у сярэдзіне XIX ст. ажыцьцявіць частковую цэнтралізацыю найбольш каштоўных збораў Беларусі й Літвы. Імпэратарскім загадам ад 2 красавіка 1852 году былі заснаваныя Віленскі й Віцебскі архівы старажытных актаў (далей ВЦА і Віцебскі ЦА.— Дз. К.), якія мусілі зьбіраць старажытныя беларускія ды літоўскія актавыя кнігі й дакументы да 1799 году ўключна. Абавязак кантролю за канцэнтраваньнем гэтых архіўных крыніцаў быў ускладзены на віленскага генэрал-губарнатара. Кіраўнікі беларускіх і літоўскіх губэр-

няў мусілі кантраляваць выкананьне загаду аб перадачы старажытных актаў на падпарадкаваных ім тэрыторыях. У пункце 7 царскага загаду былі пералічаныя абавязкі ВЦА: 1) складаць, публікаваць і рассылаць ва ўсе губэрскія і павятовыя судовыя ўстановы і дэпутацкія шляхоцкія сходы заходніх губэрняў вопісы; 2) складаць і публікаваць каталёгі на дакументы, што захоўваюцца ў архіве. Значэньне гэтага загаду заключалася ў тым, што ён без стварэньня сыстэмы архіваў на Беларусі й Літве (яны існавалі й раней.— Дз. К.) цэнтралізаваў яе ўтварэньнем магутных дакументальных комплексаў пад адказнасьцяй найвышэйшай краёвай адміністрацыі, чым ратаваў іх ад фізычнай пагібелі. Сам факт арганізацыі, упарадкаваньня й асэнсаванага захоўваньня архіўных матар'ялаў зьявіўся важнай падзеяй у гісторыі архіўнае справы.

У ВЦА была сабраная перадусім канцылярыя цэнтральных установаў ВКЛ (за выключэньнем Літоўскай Мэтрыкі) ды правінцыйныя архівы Заходняй і Цэнтральнай Беларусі й Літвы. Віленскі Цэнтральны архіў старажытных актавых кніг складалі многія дакументальныя комплексы, што выйшлі з каралеўскай ці вялікакняскай канцылярыі з канца XIV да канца XVII ст. Ядро збору склалі стары архіў Галоўнага Трыбуналу ВКЛ, архівы Літоўскага Скарбовага Трыбуналу, Літоўскага Духоўнага Трыбуналу, Літоўскага задворна-асэсарскага суду, акты маршалковых судоў, Літоўскай скарбовай камісіі, вайсковай камісіі, дакументы з архіву Генэральнай канфэдэрацыі 1792—1793 гг. і інш. У значнай ступені сваёй добрай захаванасьцяй матар'ялы гэтых комплексаў былі абавязаныя сумленнай працы перадавых архівістаў канца XVIII — 1-й паловы XIX ст. (А. Малішэўскага, К. Шалюты, І. Тамашэўскага, Я. Зянковіча, Д. Нарбута і А. Дмахоўскага). На працягу першых 10 гадоў працы архіву пераважна было скончана канцэнтраваньне старажытных дакументаў. У 1863 годзе ў ім захоўвалася 17 439 актавых кніг цэнтральных і мясцовых установаў Віленскай, Гарадзенскай, Ковенскай, Менскай, часткова Магілеўскай і Смаленскай губэрняў. Толькі ў 1863 годзе фактычна распачаў сваю дзейнасьць Віцебскі ЦА, які знаходзіўся ў распараджэньні Міністэрства ўнутраных справаў і віленскага генэрал-губарнатара. На той час у ім захоўваліся 1823 актавыя кнігі,

прынятыя ад павятовых судоў Віцебскай і Магілеўскай губэрняў. Юрыдычнае й матар'яльнае становішча абодвух архіваў было ненармальным. Хранічны недахоп сродкаў і вельмі нязначная колькасьць штатных супрацоўнікаў (3—5 чалавек у ВЦА, 1—3 — у Віцебскім ЦА) рабілі практычна немагчымым выкананьне галоўнай задачы архівістаў — упарадкаваньня і апісаньня больш як 7 млн. дакумантаў.

Становішча беларускіх збораў у парэформавы пэрыяд іхнага існаваньня (60-я гады XIX — пачатак XX ст.) вызначалася засмучальным станам архіўнае справы ў Расеі і наступствамі, зьвязанымі з паразай паўстаньня 1863—1864 гг. Як і раней, за няйменьнем у сваім асяродзьдзі навукоўцаў-архівістаў, кожнае расейскае міністэрства праектавала й праводзіла праз Кабінэт Міністраў і Дзяржаўную Раду «сэпаратныя законы» арганізацыі і дзейнасьці архіваў сваіх ведамстваў. Таму дзейнае расейскае архіўнае заканадаўства ўяўляла сабой доўгі шэраг «узаконеньняў», прынятых з падачы дзяржаўных установаў розных ведамстваў у розны час і з розных намераў, без узгадненьня наступнага заканадаўства з папярэднім. Такая сытуацыя давала шырокія магчымасьці для разнастайных злоўжываньняў з боку архіўных службоўцаў, якія былі малазабясьпечанымі і стаялі па-за кампэтэнтным кіраўніцтвам і кантролем. Да пачатку XX ст. найвышэйшае архіўнае кіраўніцтва Расеі было падзеленае паміж усімі міністрамі ды іншымі асобамі на правох міністраў, а мясцовае складалася зь ведамстваў губарнатараў, кіраўнікоў палатаў, апекуноў навучальных акругаў, эпархіяльных архірэяў, вайсковых начальнікаў і іншых прадстаўнікоў мясцовай адміністрацыі, абцяжараных мноствам службовых справаў. Яны ня мелі нічога агульнага з архівамі, таму глядзелі на старажытныя гістарычныя зборы як баран у біблію і ня мелі аніякага ўяўленьня пра рацыянальнае архівазнаўства. Ажно да пачатку XX стагодзьдзя на становішча дакумантальных збораў Расеі ўплывала згубная інэрцыя «зацьверджанай Яго Вялікасьцяй» у 1860 годзе Пастановы Кабінэту Міністраў, што дазваляла кожнаму ведамству «складаць правілы» аб захоўваньні і зьнішчэньні архіўных справаў. Такія «правілы» ўяўлялі сабой законныя падставы паўсюднага вынішчэньня ня толькі «непатрэбных папераў», але й найважнейшых у навуковым

сэнсе гістарычных матар'ялаў. На практыцы справа «разбору», апісаньня й зьнішчэньня архіўнай дакумантацыі, што захоўвалася пры канцылярыях дзейных установаў, залежала ад волі найдрабнейшых канцылярскіх чыноўнікаў, часта пазбаўленых знаёмства ня толькі з праблемамі айчыннага архівазнаўства, але й айчыннай гісторыі. Паводле ацэнкі выбітнага расейскага вучонага Дз. Я. Самаквасава, адсутнасьць у імпэрыі ў 2-й палове XIX ст. агульнага архіўнага заканадаўства, кіраўніцтва й кантролю мела сваім вынікам «такі разгром расейскіх дзяржаўных архіўных матар'ялаў, перад якім марнее разбурэньне архіваў Францыі недасьведчаным натоўпам эпохі 1-й рэвалюцыі». Дэкляратыўнае патрабаваньне закону пра захаваньне дзяржаўнай канцылярыі ўсіх узроўняў у цэласьці й парадку, «каб ніводная справа не магла згубіцца», заставалася толькі на паперы.

Пасьля «разборкі» ў 1874 годзе справаў Гарадзенскага губэрскага архіву зьнікла ў нябыт 1000 пудоў «непатрэбных» справаў. Эстафэту Горадні падхапіў Віцебск. У 1885 годзе зь Віцебскай губэрскай управы «прызначылі» на продаж больш ад 1000 пудоў старадаўніх справаў, у тым ліку дакументальныя комплексы двух генэрал-губарнатараў па Віцебскай, Магілеўскай, Менскай і Віленскай губэрнях. Матар'ялы гэтыя былі ў добрым стане і пераплеценыя. У архіў Віленскага акруговага суду перайшлі матар'ялы дарэформавых судовых установаў. Пасьля іх «разборкі» 5100 справаў былі зьнішчаныя. Да стратаў, заплянаваных мясцовымі чыноўнікамі, свой унёсак дадалі пажары й стыхійныя беды; дакуманты гінулі і з прычыны неахайнага захоўваньня. У 1863 годзе ў мястэчку Расьне паўстанцы спалілі ўсе паперы заснаванай там у XVIII стагодзьдзі езуіцкай місіі. У 1868 годзе падчас пажару ў Вяліжы згарэў гарадзкі архіў, што зьмяшчаўся ў будынку ратушы. У 1870-я гады згарэлі багатыя зборы Ўваскрасенскага манастыра й царквы, перавезеныя з Полацку ў Віцебск яшчэ ў XVI ст., у 1880 г. зьніклі старадаўнія дакуманты з кляштара сьв. Марка. Пажарам дапамагала й гарадзкое начальства, якое прадало зь віцебскіх архіваў у Рыгу да 3000 пудоў матар'ялаў XVI—XVII стст. (у тым ліку паперы Полацкага намесьніцтва). У 1884 годзе ўладальнікам Шклова баронам Корфам былі прададзеныя на вагу дакуманты з архіву Зорыча. У Горадні падчас пажару

1885 году згарэў архіў Гарадзенскага шляхоцкага дэпутацкага сходу і г. д.

Па задушэньні паўстаньня 1863 году віленскі генэрал-губарнатар М. Мураўёў актыўна заняўся канфіскацыяй культурных каштоўнасьцяў (у прыватнасьці, архіваў ды калекцыяў старадаўніх рукапісаў) у «неблагонадёжных» дзеячоў «покорённого Северо-Западного края». Супраціўленьне калянізацыі прывяло да масавага перамяшчэньня велізарных дакумантальных комплексаў як унутры Беларусі й Літвы, гэтак і па-за іхныя межы. Так была расьцягненая найбуйнейшая калекцыя помнікаў беларускай культуры, сабраная графам Я. Тышкевічам у Віленскім Музэі старажытнасьцяў. Большую частку яе (у тым ліку й 541 рукапіс) атрымаў Румянцаўскі музэй у Маскве. Ацалелыя пасьля разгрому рэшткі калекцыі перадалі Віленскай Публічнай бібліятэцы. У 1864 годзе туды ж перадалі й зборы зачыненых у зьвязку з паўстаньнем 1863 году бібліятэк, кляштараў, касьцёлаў, грамадзкіх згуртаваньняў ды асобных удзельнікаў паўстаньня (у прыватнасьці, гісторыка Т. Нарбута.— Дз. К.). Да гэтых фондаў і калекцыяў былі далучаныя рукапісы зачыненых навучальных установаў і найважнейшыя дакуманты, выяўленыя навукоўцамі ў архівах Беларусі ў 60—70-я гады XIX ст. Відавочна, што без надзеі на захаванасьць у такой сытуацыі сваіх радзінных збораў многія прадстаўнікі мясцовага магнацтва пачалі перавозіць іх на Захад. У 1867 годзе на загад Радзівілаў была вывезеная ў Бэрлін значная частка іхнага архіўнага збору зь Нясьвіжу. Шматлікія калекцыі старажытных дакумантаў адсылаліся ў Кракаў і замак Рапэрсьвіль у Швайцарыі (архівы Гутэн-Чапскіх, Плятараў, Шырынаў ды інш.). Найважнейшая дакумантацыя нават «зьнікала» ў загадкавых варунках. Так у 1865 годзе па даручэньні ўраду палкоўнікамі Камаровым і Райкоўскім было распачатае вывучэньне прычынаў «мятежнических политических движений» у Павісьленьні і «Заходнім краі». Тры гады (1865—1867) зьбіраліся дакумантальныя матар'ялы з усіх архіваў Беларусі, Літвы ды Ўсходняй Польшчы. У выніку ўтварыўся значны калекцыйны фонд (больш за 22 000 аркушаў), які доўга захоўваўся ў Камарова. Рыхтавалася публікацыя гэтых дакумантаў, але ў 1879 годзе падчас ад'езду Камарова зь Пецярбургу гэты архіў зьнік зь ягонай кватэры.

Няздольная кантраляваць сытуацыю са старажытнай канцылярыяй на ўсім абшары «Паўночна-Заходняга краю», урадавая адміністрацыя засяродзіла свае намаганьні на ўпарадкаваньні хаця б двух цэнтральных архіваў Беларусі й Літвы — ВЦА і Віцебскага ЦА. У іх была сканцэнтраваная найважнейшая інфармацыя ня толькі навукова-гістарычнага пляну, але й вялікай палітычнай значнасьці. Памагатыя М. Мураўёва апякун Віленскай навучальнай акругі І. Карнілаў і «правая рука» крывавага дыктатара І. Нікіцін рупліва ахоўвалі цэнтральныя архівы й створаную ў 1864 годзе Віленскую Археаграфічную камісію ад уплываў «пальшчызны» й лацінскага «папізму». Першы ў сваёй чыннасьці зыходзіў з думкі, што ў «Паўночна-Заходнім краі ня мае быць і ня будзе месца для любой іншай цывілізацыі, апрача расейскай», а польскую цывілізацыю ацэньваў як такую, «якая нараджала хіба вар'ятаў ды лайдакоў». Культура польская не заслугоўвала, на ягоную думку, «падтрымкі, а толькі перасьледу». Нікіцін жа трактаваў «польскую справу» ў краі як «скончаную» і «архіўную».

Погляды кіроўных «апекуноў» адбіліся як на падборы кадраў для службы ў гэтых архівах (звычайна гэта былі сыны былых уніяцкіх сьвятароў, якія перайшлі ў праваслаўе, альбо асобы, зьвязаныя з праваслаўнай царквой прафэсійна й паводле атрыманай адукацыі.— Дз. К.), гэтак і на характары архіўна-археаграфічнай чыннасьці ВЦА і Віцебскага ЦА. З 1865 году чыннасьць гэтая разгортвалася пад сьцягам русыфікацыі і барацьбы з «польскім каталіцызмам». На думку М. Мураўёва, служыць у архіве маглі асобы «русского и православного вероисповедания». Галоўнай задачай у працы архівістаў як ВЦА, гэтак і Віцебскага ЦА да самага канца XIX ст. заставалася камплектаваньне: ад пасьпяховага вырашэньня гэтай праблемы непасрэдна залежалі пытаньні апісаньня ды публікацыі сабраных дакументальных скарбаў. У 80-я гады XIX ст. Віленскі архіў прыняў больш як 5000 актавых кніг і старажытных інвэнтароў ад скарбовай палаты, палаты крымінальнага й грамадзянскага суду, кіраўніцтва дзяржаўных маёмасьцяў Гарадзенскай губэрні. Актыўна папаўняўся і Віцебскі архіў, але паводле інтэнсіўнасьці камплектаваньня й багацьця сабраных дакумантаў ён відавочна саступаў Віленскаму. Віной таму шмат у чым былі галоўныя ворагі архіваў

у XVII—XIX стст.— пажары ды войны. У выніку іх у Віцебску не было аніводнага поўнага збору эпохі ВКЛ раней за апошнюю чвэрць XVIII ст. У 1633 годзе падчас вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай у Полацку згарэлі практычна ўсе гарадзкія кнігі; у 1664—1667 гг. згарэлі дакуманты Крычаўскага замку; у 1812 годзе архівы Полацку спазналі чарговае спустошэньне з прычыны эвакуацыі дакумантаў у Пскоў; у 1835—1862 гг. у Віцебску пацукі зьелі мноства каштоўных матар'ялаў; у пажарах 1837, 1860-х згарэла частка Полацкага ваяводзкага архіву. Усё гэта адбівалася ня толькі на якасьці, але й на структуры ацалелых у Віцебскім ЦА дакумантальных комплексаў. Да 1865 году ў Віцебскім архіве было засяроджана 1750 актавых кніг са збораў Віцебскай і Магілеўскай губэрняў. Надзвычай доўга (ажно да 1862 году) Віцебскі ЦА ня меў свайго сталага памяшканьня, што было адной з галоўных прычынаў адтэрміноўкі з адкрыцьцём архіву і пачаткам ягонай рэальнай дзейнасьці. Разьмяшчэньне архівасховішча ў будынку фарнага касьцёлу стварала неспрыяльныя ўмовы для нармальнага захаваньня дакумантаў і працы зь імі. І ўсё ж дзякуючы мэтанакіраванай зьбіральніцкай чыннасьці архівістаў-археографаў Беларусі й Літвы таго часу (І. Гарбачэўскага, І. Спрогіса, Я. Галавацкага, Ю. Крачкоўскага, Дз. Даўгялы, А. Сапунова, А. Мілавідава, А. Дабранскага і інш.) да пачатку XX ст. у сховішчах ВЦА і Віцебскага ЦА было сабрана і ўратавана ад пагібелі больш за 25 000 актавых кніг, зьвязак і дакумантаў за 1428—1810 гг. Нягледзячы на матар'яльнае становішча архівістаў, якое заўважна палепшылася на пачатку XX ст., іхная надзвычайная малалікасьць не дазваляла ажыцьцяўляць эфэктыўнае плянавае апісаньне. У ВЦА да пачатку XX ст. было апісана ўсяго 1238 актавых кніг. Працу запавольвала й тое, што ў вопісы звычайна заносіўся ня толькі кароткі зьмест кніг, але й тэкст дакумантаў. Частка зь іх была апублікаваная ў шэрагу археаграфічных выданьняў Вільні й Віцебску ў 60-я гады XIX — пачатку XX ст. Пачалі зьяўляцца і першыя архіўна-археаграфічныя агляды й апісаньні, прысьвечаныя лёсу і складу рукапісных збораў «правінцыйных» і ведамасных архіваў Беларусі XVIII—XIX стст. І ўсё ж велізарная маса старажытных актавых кніг і дакумантаў

так і засталася неразабранай ажно да І Сусьветнай вайны. І да пачатку ХХ ст., нягледзячы на ажыцьцёўленую канцэнтрацыю архіўных фондаў, найважнейшыя дакуманты з гісторыі Беларусі заставаліся распыленымі па зборах кляштараў, касьцёлаў, грамадзкіх установаў і мясцовых дзяржаўных органаў улады, прыватных асобаў. Віленская Археаграфічная камісія (існавала ў 1864—1915 гг.) — галоўная расейская выдавецкая інстытуцыя ў краі — уяўляла сабой, паводле зьедлівай адзнакі Р. Мяніцкага, «месца нагэтулькі навуковае, наколькі й палітычнае; камісія падпарадкоўвала навуку выразным палітычным зацікаўленьням, падмяняла яе слугаваньнем палітыцы, ставіла пад сьцягі сучасных лёзунгаў, залежных ад урадавай ідэалёгіі». Надта марудная апрацоўка й апісаньне архіўных справаў у Вільні, Віцебску ды Кіеве вымусіла Дзяржаўную Раду ў 1884 годзе прапанаваць МНА, МУС, МФ і МЮ сумесна абмеркаваць пытаньне пра такія зьмены ў цэнтральных архівах імпэрыі, якія б спрыялі больш пасьпяховай іхнай дзейнасьці. У 1890 годзе ўрадам была ўтвораная Адмысловая камісія з прадстаўнікоў ведамстваў, прафэсараў Маскоўскага й Пецярбурскага ўнівэрсытэтаў, чальцоў Археаграфічнай камісіі ды загадчыкаў архіваў старажытных актаў. Яна выказвалася за злучэньне Віленскага й Віцебскага ЦА ў Вільні з павелічэньнем штатаў і акладаў службоўцам гэтых установаў. Зь фінансавых прычынаў гэтае рашэньне ўдалося рэалізаваць толькі ў 1902 годзе. У 1903 годзе актавыя кнігі перавезьлі зь Віцебску ў Вільню, што прыявяло да фактычнага зьліквідаваньня першага гістарычнага архіву Беларусі. У наступныя гады ў краі значную працу па зьбіраньні гістарычнай дакумантацыі праводзілі царкоўна-археалягічныя камітэты Вільні, Менску, Віцебску, Магілева, Полацку й Горадні, утвораныя ў губэрнях пасьля заснаваньня ў 1909 годзе пры Найсьв. Сынодзе Архіўна-археалягічнай камісіі.

Ці спрабавалі расейскія гісторыкі-архівісты парэформавага пэрыяду пераламіць надзвычай складаную сытуацыю зь мясцовымі дакумантальнымі фондамі ў лепшы бок? Спрабавалі, і неаднаразова. Зь ініцыятывы М. Калачова, які на І і ІІ археалягічных зьездах (1869, 1871 гг.) прачытаў спавешчаньні пра драматычны стан архіўнае справы ў Расеі, была створаная Камісія па

падрыхтоўцы архіўнай рэформы. Галоўныя пытаньні рэформы вызначылі слушна: 1) спыненьне масавага зьнішчэньня архіўных справаў; 2) цэнтралізацыя канцылярыяў асобных ведамстваў; 3) стварэньне ў губэрскіх гарадох абласных архіваў, а пры іх — губэрскіх архіўных камісіяў. З задуманага шырокамаштабнага праекту часткова ўдалося вырашыць толькі трэці пункт. У 1884 годзе ў шэрагу расейскіх губэрняў зьявіліся першыя губэрскія архіўныя камісіі (Арлоўская, Разанская, Тамбоўская і Цьвярская), галоўным абавязкам якіх меўся быць папярэдні прагляд справаў, прызначаных губэрскімі ведамствамі да зьнішчэньня.

Установы Беларусі па пытаньні экспэртызы навуковай вартасьці дакумантаў мусілі зьвяртацца ў Арлоўскую камісію, да якой былі прыпісаныя. Апошняя на падставе вопісу, які не заўжды даваў дастатковае ўяўленьне пра зьмест дакумантаў, вырашала, якія справы варта перадаць ёй, а якія можна зьліквідаваць. На ўласна беларускіх землях губэрскія архіўныя камісіі былі створаныя зь вялікім спазьненьнем: у Смаленску — у 1908 годзе зь ініцыятывы генэрал-маёра А. Жыркевіча і настаўніка гімназіі І. Арлоўскага, а ў Віцебску — у 1909 годзе. Апошняя на правох аматарскага таварыства гісторыкаў-краязнаўцаў сабрала невялікую архіўную калекцыю адасобленых справаў з фондаў шэрагу губэрскіх і паятовых установаў. Віцебская камісія ставіла сваёй мэтай стварыць гістарычны архіў, але ня здолела ажыцьцявіць гэтую задумку, бо ня мела сродкаў і памяшканьня дзеля ягонай арганізацыі. Сур'ёзнай перашкодай для збору старажытных справаў была адсутнасьць памяшканьня і ў Смаленскай камісіі; гістарычныя зборы Смаленшчыны зьмяшчаліся ў мураваных вежах гарадзкой крэпасьці, дзе не было сьвятла, затое сырасьці ды бруду нават зь лішкам. Такія ўмовы захоўваньня дакумантальных сьведчаньняў свае гістарычнае памяці былі тыповымі і для пераважнай бальшыні ведамасных канцылярскіх фондаў Беларусі. Будынак буйнога архіву судовых установаў Менскай губэрні быў зусім не прыстасаваны для захоўваньня дакумантаў. У такіх жа ўмовах знаходзіліся матар'ялы беларускіх духоўных кансысторыяў (Гарадзенскай, Магілеўскай), Віцебскай ды Магілеўскай скарбовых палатаў і іншых ведамстваў. І хоць шэрагі губэрскіх архіўных камісіяў ужо нярэдка пачалі папаўняць кваліфікаваныя

архівісты — выпускнікі адчыненага ў 1873 годзе М. Качалавым Археалягічнага інстытуту, радыкальна зьмяніць да лепшага гэтую сытуацыю яны не маглі. Губэрскія архіўныя камісіі, пазбаўленыя сродкаў і рэальных вагароў узьдзеяньня на мясцовую адміністрацыю, ня здолелі эфэктыўна забясьпечыць захаванасьць мясцовых архіваў XIX — пачатку XX ст. Нядзіўна, што ва ўмовах I Сусьветнай вайны й рэвалюцыяў 1917 году яны апынуліся без надзейнай абароны і падпалі пад рабаваньне й зьнішчэньне. Зь ліставаньня вайсковага міністра зь міністрам народнай асьветы нам вядома, што ў выпадку вайны меркавалася вывезьці ВЦА як архіў I катэгорыі за Дзьвіну — у Віцебск альбо Маскву (каля 5500 пудоў у 11 вагонах). Між тым, пасьпелі вывезьці толькі частку, праўда, найбольш каштоўных дакумантаў XI—XVII стст. Сотні вагонаў неацэнных рарытэтаў беларускай культуры з архіваў, бібліятэк, музэяў, кляштараў, манастыроў, цэркваў, касьцёлаў і маёнткаў у 1914—1915 гг. былі вывезеныя чыгункай на ўсход, углыб Расеі (Яраслаўль, Калугу, Саратаў, Растоў). Тое, што не пасьпявалі забіраць, зьнішчалі на месцы. Зборы, эвакуяваныя ў гарады Ўсходняй Беларусі ды цэнтральных губэрняў Расеі, заставаліся без нагляду, скідваліся ў памяшканьні, непрыдатныя на захаваньне, гінулі й раскрадаліся. Вялікая колькасьць дакумантаў, захопленых нямецкімі акупацыйнымі ўладамі, апынулася ў Нямеччыне.

## ЛІТАРАТУРА

**Автократова М. И., Светенко А. С.** К вопросу об истории формирования и архивного освоения фонда ЛМ // Исследования по истории Литовской Метрики. М., 1989.

**Без-Корнилович М. А.** Исторические сведения о примечательных местах в Белоруссии. СПб., 1855.

**Викентьев В. П.** Полоцкий кадетский корпус. Полоцк, 1910.

**Голуб В.** 50-летие Виленского Центрального архива древних актовых книг. Исторический очерк. 2.IV.1852—1902. Вильно, 1902.

**Горбачевский И. И.** Каталог древним актовым книгам губерний: Виленской, Гродненской, Минской и Ковенской. Вильно, 1869.

**Горбачевский И. И.** О центральном архиве древних актовых книг губерний: Виленской, Гродненской, Минской и Ковенской // ВЗР, 1869.

**Добрянский Ф.** Описание рукописей Виленской публичной

библиотеки церковно-славянских и русских. Вильно, 1882.

**Довгялло Д.** Лепель — Витебск, 1905. Исторические документы // Витебские губернские ведомости, 1909, № 149.

**Довгялло Д. И.** 50-летие Виленской комиссии для разбора и издания древних актов. 1864—17.IV.1914. Вильно, 1914.

**Жукович П.** Сообщение об архиве Западно-русских униатских митрополитов. Пг., 1915.

**Забирев И. И.** Прошлое и настоящее русских архивов (краткий исторический очерк). СПб., 1911.

Записки Иосифа митрополита Литовского. Т. II. СПб., 1883.

**Иконников В. С.** Опыт русской историографии. Т. II. Киев, 1908.

**Иконников В. С.** О польском отделении вещей, памятников и портретов, перевезенных в Румянцевский музей в 39 тюках и опись их // Вестник Западной России, 1868, № 2.

Исторический Вестник, 1885, № 11.

Исторический очерк и обзор фондов рукописей отделения Библиотеки Академии наук. Вып. 2. М.— Л., 1958.

**Киприанович Г.** Жизнь Иосифа Семашки — митрополита Литовского и Витебского. Вильно, 1879.

Колекція та архів епископа Павла Доброхотова. Київ, 1992.

**Корнилов И. П.** Русское дело в Северо-Западном крае. СПб., 1901.

**Крыловский А. С.** Систематический каталог книг библиотеки Киевской духовной академии (бывшей Полоцкой униатской библиотеки). Киев, 1906.

**Лаппо И. И.** Витебский Центральный архив и его издания. // ЖМНП, 1904, май.

**Леонтьева Т. Е.** Документальные материалы фонда Радзивиллов как исторический источник // Вопросы архивоведения и источниковедения в БССР. Мн., 1971.

**Лялин В. В.** Витебский центральный архив // Сборник С.-Петербургского историко-археологического института. Т. III. СПб., 1890.

**Маяковский И. Л.** Исторический очерк архивного дела в России: Лекции, читанные слушателям архивных курсов при Петроградском Археологическом институте. Пг., 1920.

**Миловидов А. И.** Архив упраздненного Пинского Лещинского монастыря. М., 1900.

**Миловидов А. И.** Виленский Центральный архив (1852—1902). // ЖМНП, 1902, март, ч. СССХХХХ.

**Миловидов А. И.** Краткий исторический очерк Виленской Публичной библиотеки. Вильно, 1902.

**Миловидов А. И.** Описание славяно-русских старопечатных книг Виленской публичной библиотеки. 1491—1800. Вильно, 1908.

**Миловидов А. И.** Прошлое и современное положение археографии в Северо-Западном крае // ЖМНП, 1904, № 9, отд. 4.

Наш край, 1920, № 1.
**Никитин И. А.** Из записей Ивана Акимовича Никитина. СПб., 1905.
Описание Архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 1—2. СПб., 1897—1907.
Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов; 1700—1839. Т. II. СПб., 1907.
Описание документов и бумаг МАМЮ. М., 1915.
Описание рукописного отделения Виленской публичной библиотеки. Вып. I—V. Вильно, 1895—1906.
Отчет Смоленской ученой архивной комиссии за первый год ее существования (3-го апреля 1908 — 3-го апреля 1909 г.). Смоленск, 1910.
**Паевский Л. С.** Наши провинциальные архивы и их значение для Западно-Русского края. Гродно, 1894.
Памятная книжка МАМЮ. М., 1890.
**Перевощиков В. М.** Роспись книгам и рукописям имп. Российской Академии. СПб., 1840.
Подробный каталог изданий Виленской комисеии для разбора древних актов Виленского Центрального Архива, бывшего Витебского Центрального Архива, Виленской Публичной библиотеки и Виленского учебного округа, вышедших в свет с 1865 по 1905 гг. Вильно, 1905.
**Пташицкий С. Л.** Описание книг и актов Литовской Метрики. СПб., 1897.
**Пташицкий С. Л.** Щорсовская библиотека. М., 1899.
**Реусс.** Каталог книг Московской университетской библиотеки. Т. 1—3. М., 1831—1836.
**Родосский А. С.** Описание 432 рукописей, принадлежащих С.-Петербургской Духовной академии. СПб., 1893.
**Самоквасов Д.** Архивное дело в России. Т. I —II, 1902.
**Сапунов А. П.** Архив Полоцкой духовной консистории. М., 1898.
**Сапунов А. П.** Архивы в городах Могилевской губернии и Минске. М., 1902.
**Сапунов А. П.** Университет в Полоцке. Витебск, 1908.
Сборник материалов, относящихся до архивной части в России. Т. II. Пг., 1917.
**Слёзкин Н. Р.** Из архивных дел Витебского губернского правления. Витебск, 1910.
**Смаленец Алесь.** Да стацьці Власта «Аб паленьні кніг на Беларусі» // Крывіч (Коўна), 1924, № 2.
**Смолко В.** Пагібель старасьветчыны // Часопіс Міністэрства Беларускіх Справаў (Коўна), 1919, № 1.
**Сомошенко В. Н.** История архивного дела в дореволюционной России. М., 1989.
**Спрогис И. Я.** Виленские архивы — правительственные, общественные и другие. Вильно, 1902.

Старинные описи Литовской Метрики. СПб., 1900.

**Тихонов П. Н.** Каталог российских рукописных книг, находящихся в библиотеке Софийского Собора. СПб., 1880.

Труды первого съезда представителей губернских ученых архивных комиссий и соответствующих им установлений 6—8 мая 1914 г. СПб, 1914.

**Турцевич А. О.** Краткий исторический очерк Виленской комиссии для разбора и издания древних актов. 1864—1906. Вильно, 1906.

**Цылов Н.** Сборник распоряжений гр. М. Н. Муравьева по усмирению польского мятежа в северо-западных губерниях 1863—1864 гг. Вильно, 1866.

Хронологическая опись исторических документов Несвижского архива, составленная в 1862 году. // ЛЗАК за четыре года. СПб., 1871, вып. 5, отд. 3.

**Шохін Л. І.** Маловідомі документи про діяльність М. В. Довнар-Запольского в галузі архівної справи // Архіви України, 1987, № 1.

**Шлюбскі Ал.** Матэрыялы да крыўскай гісторапісі // Спадчына, 1992, № 3.

**Энгель А. А.** Описание дел, хранящихся в архиве Виленского генерал-губернатора. Т. 1—2. Вильно, 1869—1870.

**Юницкий Н.** Фундуши и стипендии Виленского учебного округа. Ч. I. Вып. I. Вильно, 1884.

**Ярославцев С.** Гор. Климовичи // Зап. Северо-Западного отдела РГО. Т. IV. Вильно, 1914.

**Burwiński St.** Archiwum Ks. Radziwillow w Nieświeżu // Archiwum komisji hist. Kraków, 1909—1913.

Wykaz skasowanych w XIX w. katolickich klasztorów na Rusi. Kraków, 1918.

**Mienicki R.** Biblioteka archiwum państwowego w Wilnie. Wilno, 1932.

**Mienicki R.** Archiwum akt dawnych w Wilnie w okresie od 1795 do 1922 roku. Wilno, 1939.

**Mienicki R.** Archiwum akt dawnych w Witebsku (Centralne archiwum Witebskie. 1852—1903). W-wa, 1939.

**Mienicki R.** Wileńska komisja archeograficzna (1864—1915). Wilno, 1925.

**Radziszewski Fr.** Wiadomość historyczno-statystyczna o znakomitych bibliotekach i archiwach publicznych i prywatnych w Królewstwie Polskim, Galicji, w ks. Poznańskim i zachodnich guberniach państwa Rosyjskiego. Kraków, 1875.

**Sachaniewicz K.** Sprawa rewindykacji archiwów i mienia kulturalnego Polski od Rosji // Biblioteczka wschodu Polski, 1921, № 5.

# МАРЦІН І ЯХІМ БЕЛЬСКІЯ — ГІСТОРЫКІ ПОЛЬШЧЫ І ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

XV—XVI стст. для Еўропы — залаты век, калі адбываліся глабальныя незваротныя змены ў грамадстве: скончылася сярэднявечча з яго схаластыкай і замкнёнасцю жыццёвага складу, пачалі вяртацца антычныя ідэалы ў навуку і культуру. Парасткі новага светапогляду сустракаюцца ў гэты час на прасторах усёй Еўропы — ад Гішпаніі і Англіі да Вялікага Княства Літоўскага і Валахіі.

Беларусь у гэты час (у складзе Вялікага Княства Літоўскага) знаходзілася на самай ускраіне еўрапейскай Айкумены. Рэвалюцыйныя змены амаль не закраналі яе гаспадарчых і палітычных падставаў, але ў духоўнай сферы ўсё больш адчувальнымі станавіліся рэнэсансавыя павевы, якія даходзілі сюды перш за ўсё з суседняй Польшчы. Разумовае жыццё ў ВКЛ XVI ст. было складаным кангламератам сярэднявечных і адраджэнскіх рысаў і з'яваў, якія прасочваюцца не толькі ў культуры ў цэлым, але і ў творчасці асобных яе прадстаўнікоў.

XVI ст.— перыяд вялікай зацікаўленасці гісторыяй. Успомнім, што менавіта тады выходзіць у свет першая друкаваная гісторыя ВКЛ Мацея Стрыйкоўскага. Але культура нашае дзяржавы ўсё больш становіцца знітаванаю з культурай Польшчы, таму цяжка бывае запісаць знакамітых прадстаўнікоў эпохі Рэнэсансу толькі да беларускай ці літоўскай альбо толькі да польскай культуры. Як сапраўдныя тытаны Адраджэння, яны значна перасягалі рамкі аднае культуры ці народа. Пазбаўляючыся вульгарна-сацыялагічных падыходаў, сучасныя даследнікі нарэшце ўвялі ў анталогію старажытнае беларускае літаратуры імёны і творы Я. Вісліцкага, Ф. Градоўскага, А. Рымшы, Я. Радвана, Г. Пельгрымоўскага [1]. Сюды ж трэба дадаць гісторыкаў М. Стрыйкоўскага, А. Віюка-Каяловіча, гісторыка і праўніка А. Ратундуса. Вялікай памылкай было лічыць беларускімі вылучна творы на старабеларускай і царкоўна-славянскай мовах. Гэты крытэрый, выгадны пэўным колам у палітычных мэтах, прыводзіў да абкрадання і збяднення нашай спадчыны. Як



Партрэт Марціна Бельскага з 3-га выдання «Хронікі». 1564 г.

і сёння, беларуская культура была шматканфесійная і шматмоўная. Пераважная бальшыня кніг у ВКЛ (больш як 80 %) выходзіла на польскай і лацінскай мовах, і іх паўсюдна разумелі і чыталі на абшарах поліэтнічнай Рэчы Паспалітай [2]. Такім чынам, сёння да беларускай культурнай спадчыны, як і нашы суседзі, мы можам залічваць творы на старабеларускай, польскай, лацінскай мовах, якія добра ведалі і якімі штодзённа карысталіся больш ці менш адукаваныя колы на беларускіх землях Вялікага Княства Літоўскага.

Вялікі ўплыў на культуру ВКЛ мела польская гістарыяграфія. Яна дасягнула ў гэты час вяршыняў развіцця і выйшла на першае месца сярод славянскіх краінаў. Узо-




Тытульны ліст «Хронікі» М. Бельскага 1564 года выдання.

рам хранікальнага жанру ў XV ст. для ўсёй Усходняй Еўропы (у Заходняй Еўропе гэты жанр ужо заняпаў) сталі «Рочнікі» Яна Длугаша, якія захоўвалі прыярытэт на працягу амаль двух стагоддзяў. «Рочнікі» (якія, дарэчы, яшчэ доўгі час заставаліся ў рукапісе) так ці інакш выкарыстоўвалі ў сваіх працах іншыя польскія храністы — Мацей з Мехава (каля 1457—1523), Бэрнард Вапоўскі (каля 1450—1535), Юстус Дэцыюс (каля 1485—1545), Марцін Кромэр (1512—1589). Усе яны ў сваіх працах у большай ці меншай ступені закраналі гісторыю ВКЛ, і таму



Строі маскоўскія. З «Хронікі ўсяго свету».

іхныя творы служаць сёння неацэннай крыніцай інфармацыі пра мінуўшчыну нашае краіны.

У польскай гістарыяграфіі другой паловы XVI ст. асобнае месца займаюць імёны яшчэ двух храністаў — бацькі і сына Бельскіх. Феномен гэтага пісьменніцкага тандэму да канца яшчэ не высветлены, але «сёння ўжо гэтых двух пісьменнікаў раздзяліць немагчыма»[3]. Старэйшы — Марцін Бельскі (1495—1575) — знакаміты гісторык і паэт, упершыню пачаў пісаць свае творы па-польску



Іван IV Жахлівы. Ілюстрацыя з «Хронікі ўсяго свету» М. Бельскага.

(афіцыйнай мовай справаводства і навукі ў Польшчы лічылася лаціна). Яго «Хроніка ўсяго свету» была першай у Польшчы спробай стварэння навуковага гістарычна-геаграфічнага апісання тагачаснага свету і фактычна першым падручнікам агульнай гісторыі. Сама ідэя напісання падобнага твора падаецца прагрэсіўнай для свайго часу, праявай гуманістычнага светапогляду аўтара; папраўдзе ж постаць Марціна Бельскага ў польскай і еўрапейскай гістарыяграфіі ў цэлым вельмі складаная і супярэчлівая. Ён як бы адной нагой стаяў у сярэднявеччы, а другой рабіў крок насустрач гуманістычным тэндэнцыям.

Пра жыццярыс аўтара захаваліся вельмі скупыя звесткі. Нічога невядома пра ягоную адукацыю, хаця, магчыма, вучыўся ў Кракаўскай акадэміі. У спісах студэнтаў у 1509 г. фігуруе нейкі «Martinus Nicolai de Volja Szalejska». Месцам нараджэння лічыцца вёска Бяла пад Паенчным у Серадзкай зямлі, адсюль паходзіць ягонае прозвішча — Бельскі. Але продкі насілі імя Вольскіх, таму часам і Марцін ужываў гэтае прозвішча. Так, у першым сваім творы «Жыцці філёзафаў» падаваў: «Марцін Вольскі з Велькапольскі да прыхільніка рыфмуе».

Для жыццяпісу Бельскага вельмі важнае значэнне мае так званая «Размова майстра з кніжкамі» з ягонай «Камедыі Юстына і Канстанцыі» (Кракаў, 1557) — паэтычная аўтабіяграфія, поўная ўласных успамінаў і пачуццяў. Тут ён уваскрашае свае маладыя гады, праведзеныя ў «рускіх землях», на магнацкім двары Пятра Кміты, перамыскага старасты. Менавіта гэтаму дыгнітару, бываламу рыцару і мецэнату, прысвечаныя былі потым «Жыцці філёзафаў». Тут і адбывалася галоўнае выхаванне і адукацыя Марціна Бельскага, бо пры двары Кміты была закладзеная школа, якой кіраваў выдатны дзяяч Адраджэння Марцін з Апочна, існавала вялікая бібліятэка. Дастойнік не шкадаваў грошай на вучобу моладзі за мяжой. Пры ягоным двары праводзілі час Клеменс Яніцкі, Якуб Пшылускі, Шыман Марыцкі, Марцін Кравіцкі, Станіслаў Ажахоўскі і іншыя бліскучыя асобы.

Тут жа, паводле Анджэя Тшэцескага, «днямі і начамі чытаў вучоныя кнігі» Марцін Бельскі (гл. Lectori candido, верш у першым выданні «Хронікі свету» 1551 г.). Якую службу выконваў Бельскі на двары Кміты, невядома; падобна, быў ягоным сакратаром [4]. Як і Мацей Стрыйкоўскі, Бельскі здабываў веды ўпартай і настойлівай працай. Фактычна ён быў геніяльным самавукам. Хаця наконт яго «геніяльнасці» існуюць спрэчныя погляды. Адзін з даследнікаў творчасці М. Бельскага А. Павіньскі даў наступную характарыстыку галоўнаму твору храніста: «Цудоўная «Хроніка свету», якая, уласна кажучы, павінна блішчэць бляскам зоркі першай велічыні» [5]. Іншы польскі даследнік І. Хшаноўскі лічыў «Хроніку свету» «сярэднявечнай кампіляцыяй, якую ад суцэльнай сярэднявеччыны ратуе толькі пратэстанцкая тэндэнцыя, як адзіны новы элемент, адзіная рыса XVI ст., бо іншых рысаў гэтага стагоддзя, духу гуманізму «Хроніка свету» не мае» [6]. Маг-

чыма, апошняе сцверджанне і слушнае, але з гледзішча верагоднасці пададзеных у творы гістарычных фактаў, маштабнасці ахопленых падзеяў, урэшце, з гледзішча гераічнасці спробы напісаць усеагульную гісторыю з касмаграфіяй — гэта рэч далёка не ардынарная. Хаця ў Заходняй Еўропе першая хроніка ўсяго свету з'явілася яшчэ за сто год да Бельскага [7], у Польшчы, а таксама ў Вялікім Княстве Літоўскім хроніка Бельскага ўпершыню знаёміла шырокага чытача, які не бываў за мяжой і не меў магчымасці чытаць іншамоўныя выданні, з сусветнай гісторыяй і геаграфіяй.

Над «Хронікай» Бельскі працаваў некалькі гадоў, мусіць, адразу пасля выдання першай сваёй працы «Жыцці філёзафаў» у 1535 г., падчас напісання якой упершыню сутыкнуўся з гістарычным матэрыялам. У гэты перыяд жыцця храніст пераважна знаходзіўся ў Кракаве, у атачэнні славутых дзеячоў Рэнэсансу, сярод якіх ён, дарэчы, здабыў сабе імя «сармацкага Карыёна» (Ян Карыён — нямецкі гісторык, агульная гісторыя якога мела вялікую папулярнасць у XVI ст.). Асяродкам, блізкім Марціну Бельскаму ў Кракаве, хутчэй за ўсё, было так званае Колка Анджэя Тшэцескага, сын якога, таксама Анджэй, прысвяціў Бельскаму хвалебны верш на пачатку першага выдання «Хронікі свету». Спецыфікай гэтага Колка было тое, што ў ім з 1544 г. збіраліся прыхільнікі рэфармацыі з асяроддзя кракаўскіх інтэлектуалаў — друкар Бэрнард Ваявудка, які ў 1553 г. распачаў друкарскую дзейнасць у Берасці; Якуб Пшылускі, кракаўскі натарыюс і знакаміты праўнік; славуты Мікалай Рэй і Анджэй Фрыч Маджэўскі [8].

Тут, у Кракаве, у 1551 г. выйшла першае выданне «Кронікі ўсяго свету, на шэсць вякоў, чатыры манархіі раздзеленай, з новай Касмаграфіяй і з рознымі каралеўствамі, як паганскімі, жыдоўскімі, так і хрысціянскімі, з сібіламі і прароцтвамі іх, па-польску пісана, з фігурамі. У якой таксама жыцці цэсарскія, папескія і тых каралёў з іх каралеўствамі, асырыйскіх, егіпецкіх, жыдоўскіх, грэцкіх, персіх, турэцкіх, вугорскіх, чэшскіх і іншых розных як каралёў, князёў, так іншых гаспадароў ад пачатку свету аж да таго году, які пішацца 1551, напісаны. Між якімі таксама наша Польшча напрыканцы асобна выпісаная». Мудрагеліста названы опус быў прысвечаны Жыгімонту Аўгусту і пачынаўся з «Касмаграфіі, гэта значыць размя-

рэння зямлі паводле ступеняў і іншых знакаў у нябесных акругах». Пад касмаграфіяй у сярэднія вякі разумелася геаграфія. Падзел Хронікі на шэсць вякоў быў традыцыйны з часоў св. Аўгустына (выкладзены ў яго «De civitate Dei»). Гэта перыяды ад Адама да Ноя; ад Ноя да Абрама; ад Абрама да Давыда; ад Давыда «да разбурэння Вавілоніі Кірам і Дарыем»; «ад зняволення жыдоў альбо ад захопу Ерусаліма Навухаданосарам аж да Нараджэння Пана Хрыстуса»; ад Хрыстуса «аж да суднага дня альбо сканчэння свету». Чатыры манархіі, вынесеныя ў назву Хронікі, азначалі халдзейскую, перскую, грэцкую і рымскую манархіі, якія пакінулі найбольш глыбокі след у гісторыі чалавецтва. Такі падзел М. Бельскі запазычыў у іншых сярэднявечных гісторыкаў, што пісалі падобныя хронікі да яго — Наўклера, Якуба з Бергама, Блёндуса, Слейдана, Карыёна.

Ужо ў «Касмаграфіі» мы сустракаем цікавую інфармацыю: «Руская краіна дваякая: вялікая і малая. Вялікая Русь — уся Масква аж да Вялікага мора Акіяна Татарскага (іншыя пішуць Ледавітага). Малая Русь — тыя ўсе, якія пад Польскім каралеўствам у Сармацыі Рускія землі; Масква, як і мы самі, заселі на трэцяй частцы Еўропы, а хто яе складзе з Гішпанскімі каралеўствамі — ужо будзе палавіна Еўропы ўсёй, бо гэтыя каралеўствы найвялікшыя ў Еўропе. **Літоўская зямля таксама ёсць Русь, бо Літва да іх прыйшла з марскіх берагоў...** Ліфлянты таксама ў Рускіх краёх сядзяць, тыя нядаўна прыйшлі да тых краёў з Нямеччыны...» З гэтага ўрыўка ясна, што Бельскі ў сваіх геаграфічных уяўленнях не пайшоў далей за папярэднікаў — Мехавіты («Трактат аб дзвюх Сарматыях, еўрапейскай і азіяцкай», Кракаў, 1517) і Бэрнарда Вапоўскага, а калі-некалі і саступаў ім у агульных разважаннях.

Пасля геаграфічнага ўступу ў першым выданні «Хронікі свету» ідзе біблейская гісторыя ўперамешку з гісторыяй Усходу, Грэцыі і Рыма, далей апісваюцца хрысціянскія часы, жыццё Езуса Хрыстуса і дзеі апосталаў, хроніка папства, цэсараў, некаторых французскіх каралёў і нямецкіх князёў разам з крыжовымі паходамі і жыццём Магамета. Пра ўсё напісана вельмі сціслa. Потым таксама пабежна пішацца «Аб італьянскіх землях, аб нямецкім народзе і краіне, аб Гішпаніі, аб Татарах, аб амазонскіх нявестах, татарскіх жонах, аб каралях турэцкіх, аб Вала-

**ІЛЮСТРАЦЫІ З 1-ГА ВЫДАННЯ «ХРОНІКІ» М. БЕЛЬСКАГА. 1551 ГОД.**







хах, аб Вугорскім каралеўстве, аб Чэшскім каралеўстве». Значна больш і падрабязней Бельскі спыняецца на «Вывадзе польскага народу» (с. 154). У гэтым раздзеле першага выдання «Хронікі свету» са старонкі 191 пачынаецца як бы асобны параграф «Аб Літве», у якім пачатковы этап гісторыі Вялікага Княства Літоўскага выкладаецца наступным чынам: «Літоўскі народ здаўна пайшоў з заморскіх краін Паўночнага мора, які гісторыкі таксама завуць Гэпіды, па-гоцку лянівыя, таму што, будучы з ваяўнічымі готамі адзінага роду, не хутка за імі са сваімі караблямі да Прусаў прыцягнуліся, а готы, іх продкі, ужо былі выйшлі з Прусаў да Вуграў. Яны, туляючыся над морам, за сваімі ісці не смелі, не маючы слушнай справы, і так некаторыя з іх у Прусах засталіся, з якімі крыжакі доўг чынілі. Некаторыя ў пустэльнях над морам аселі, дзе сёння Жмудзь і Ліфлянты. Некаторыя на поўдзень пайшлі, як Полаўцы, некаторыя — на захад, як Яцвягі. І так, будучы паміж рознымі народамі, розных словаў у сваю мову намяшалі; будучы над морам, дзе спачатку былі Цымбры, шмат нямецкай мовы да сваёй намяшалі. Немцы завуць караля альбо князя кініг, а яны конігас, мала змяніўшы; па-грэцку Бог theos, а яны завуць Дзівос, бо таксама каля Грэцыі былі над морам Понцкім. Ёсць і лацінскіх словаў досыць у іхнай мове, бо таксама даўно былі на моры блізка Брытаніі... А калі ў тых краях аселі, дзе сёння знаходзяцца, перамяшалі народ і мову з Руссю, так што ўжо самі сябе мала разумеюць, па-рознаму гавораць Жмудзіны, а таксама Куроны і Літва, альбо Яцвягі. Ліфлянты на іх месцы прыйшлі разам з Крыжакамі з Нямецкіх краінаў. Пталемей, даўні хранограф, на тых месцах, дзе сёння Літва, іншыя народы размяшчае — першыя гэта Галінды, Судэны, Бадзіны, а тыя прэч пайшлі да італьянскіх краін з Готамі, з Геруламі альбо з Аланамі. На іх месца Літва прыйшла са сваім князем Літаонам (ад каторага яе завуць Літвою), а калі раздзяліліся, адныя да Прус, другія ў палі, каторых завем Полаўцы. Русі ўжо лёгка было яе пераламіць. І так.... зняволіла яе Русь, што мусілі ім даваць лыка, венікі да лазні, жалуды і іншыя рэчы, толькі каб адчувалі над сабою ўладу, бо там, будучы ў пустых месцах, нічога іншага не мелі, да таго ж выслужваліся перад імі, адтуль яшчэ і сёння ў іх звычай, што ў няволю даюцца, аднак жа потым, калі ўзмацніліся і агледзеліся, вырваліся з няволі, казацтвам харчавання шукалі, чынячы

наезды на Русь, да Польшчы, да Масквы». Пра гэтыя апошнія наезды храніст піша год за годам, карыстаючыся ранейшымі польскімі хронікамі, вельмі падрабязна.

Як бачым з урыўка, Бельскі, разважаючы пра пачатны этап дзяржаваўтварэння старажытных ліцвіноў, не паўтарае легенду пра рымскае паходжанне літоўскай знаці, лічачы яе, мабыць, беспадстаўнаю. Але замест аднаго вымыслу нагрувашчвае іншыя (пра Літаона — міфічнага князя ліцвіноў), паўтараючы ўслед за папярэднікамі — Мехавітам, Вапоўскім, а таксама Р. Гайдэнштайнам — памылкі ранейшых часоў. Гаворачы пра пачатак этнагенезу літоўцаў, Бельскі не дадае нічога новага да вядомых сярэднявечных уяўленняў. Сучасная навука згаджаецца, што першым гістарычным народам на гэтай тэрыторыі маглі быць готы, якія, вандруючы са Скандынавіі ў кірунку Чорнага мора, сустракаліся тут з аўтахтоннымі эсціямі Тацыта альбо галіндамі і судэнамі Пталемея[9]. Што да гепідаў, якія да 567 г. мелі сваю дзяржаву на ўсход ад тэрыторыі рассялення лангабардаў, якая была разбураная аварамі, то іхны ўдзел у этнагенетычных працэсах ліцвіноў спрэчны.

Бельскі ахвотна паўтарае байку пра тое, што літоўцы плацілі даніну рускім князям лыкам, венікамі і жалудамі, бо ўвогуле ён непрыязна ставіўся да Вялікага Княства Літоўскага. Дарэчы, падобная «niechęć», нелюбоў да ліцвіноў заўважаецца і ў іншых польскіх храністаў XV—XVI стст., пачынаючы з Я. Длугаша і сканчваючы Кромэрам. Канчаткова перамагае яе Мацей Стрыйкоўскі — у чым нам бачыцца ягоная вялікая заслуга.

Другое выданне «Хронікі свету» выйшла ў 1554 г. таксама ў Кракаве, у друкарні Гераніма Шарфэнбэргера. Яно было значна папраўлена і пашырана аўтарам (калі першае налічвала 336 лістоў — 672 старонкі in quarto, то другое — 346 лістоў in folio, г. зн. было ў два разы большае за папярэдняе) і складалася з 4 кніг. У першай гаворка ідзе пра часы дахрысціянскія. Кніга другая прысвечана падзеям пасля нараджэння Езуса Хрыстуса, аўтар даводзіць яе да 1550 г., дадае шмат новага матэрыялу. Трэцяя кніга — гэта «Касмаграфія», але значна пашыраная і ўдасканаленая, тут з'явіліся новыя раздзелы «Аб Славянскіх землях; Аб Галіі; Аб Брытанскіх інсулах» і г. д. Тут не толькі геаграфічныя паведамленні, але і гістарычныя звесткі, апісанні розных гарадоў, раслінаў, жывё-

лаў і інш. У гэтай жа кнізе — вугорская, чэшская і польская хронікі амаль без зменаў у параўнанні з першым выданнем. Нарэшце, чацвёртая кніга, акрамя перадрукаваных з першага выдання раздзелаў аб моры, гарах і раю зямным,— зусім новая і апавядае «аб марскіх выспах, нанова знойдзеных, якія могуць быць названыя новы свет, таму што не былі знаёмыя ніколі старым людзям, маракам, купцам альбо таксама і астраномам... таксама аб Калькуце, вялікім порце на ўсход сонца і іншых краінах у Індыі».

Праз дзесяць гадоў пасля другога выдання «Хронікі ўсяго свету», г. зн. у 1564 г., пабачыла свет трэцяе выданне — самае вядомае і папулярнае з трох. У ім аўтар паправіў памылкі папярэдніх двух, за некаторыя з якіх (асабістага характару) яго нават прыцягвалі да суда; але неабходнасць чарговага перавыдання трэба бачыць перш за ўсё ў вялікай папулярнасці першага падручніка ўсеагульнай гісторыі і геаграфіі. Трэцяе выданне складаецца з 10 кніг (483 лісты). Хаця колькасць кніг значна павялічылася, змест у асноўным захаваўся той самы. Нас больш за ўсё павінна цікавіць зусім новая IX кніга «Аб маскоўскім альбо рускім народзе. Аб пасольстве Васіля да папы рымскага. Аб Літве. Аб Ліфлянцкай зямлі. Аб Татарах».

Амаль увесь раздзел «Аб народзе маскоўскім альбо рускім» — гэта кампіляцыя з розных хронік, але пераважна — скарачэнне «Запісак аб Масковіі» Сігізмунда Гербэрштайна. Прычым геаграфічная частка, звесткі пра тэрытарыяльныя памеры ўзятыя з «Трактату аб дзвюх Сарматыях» Механіты. Інфармацыя пра Літву ў гэтым раздзеле таксама запазычаная з С. Гербэрштайна.

«Хроніка» М. Бельскага мае пераважна кампіляцыйны характар, але ў шэрагу паведамленняў, раней вядомых з іншых хронік, ён часта падае цікавыя ўласныя заўвагі, напрыклад, з часоў Лівонскай вайны: «Магістр Ліфлянцкі мае свой двор у горадзе Вэндэн, за 12 міляў ад Рыгі, які лічыцца вярхоўным; праз тое, што даў пасадзіць арцыбіскупа Вілельма (Вільгельм з Брандэнбургу.— А. С.), шмат злога паўстала ў той зямлі ў тыя часы, што яе з усіх бакоў непакоілі. Арцыбіскуп уцёк да караля польскага, каб яго бараніў як падданага. Польскі кароль Жыгімонт Аўгуст, хаця яму ліфлянты подласць учынілі, калі забілі літоўскага пасла, аднак ён за іх моцна заступіўся перад маскоўскім князем Іванам. Той Іван, спаймаўшы

лівонскага магістра, кінуў яго ў вязніцу, так доўга яго мучыў, што той мусіў здаць яму ліфлянцкую зямлю. З гэтае прычыны вялікі князь маскоўскі падняў зброю на польскага караля, сабраўшы вялікі люд, прыйшоў без весці пад Полацак, 50 міляў ад Вільні, а таксама ад Ноўгарада Вялікага, абагнаў іх, схаваўшы ў засаду вялікую гармату, здабыў яго ў месяцы лютым 1563 г., шмат скарбаў і людзей забраўшы, паехаў прэч, адных толькі палякаў пусціўшы вольна. У тыя ж часы шведскі кароль альбо ў змове з маскоўскім, альбо па сваёй ахвоце тое ўчыніў, узяў у польскага караля ў ліфлянцкай зямлі замак і горад Рэвель, потым Новы Камень... такі ў той час ліфлянцкая зямля мела ўціск з усіх бакоў».

У нас няма прычынаў не давяраць Марціну Бельскаму як сучасніку падзеяў, які не толькі пільна сачыў за ваеннымі дзеяннямі, але быў непасрэдным удзельнікам іх у маладосці. Так, да ўласных заўваг храніста належаць згадкі як у Хроніцы, так і ў «Рыцарскай справе» (Кракаў, 1569) пра славутую бітву пад Мохачам у 1526 г., у якой аўтар, магчыма, удзельнічаў [10].

Пачынаючы з першага, кожнае наступнае выданне «Хронікі» аўтар пашыраў і дапаўняў, таму з гледзішча багацця зместу трэцяе выданне самае каштоўнае; яно карысталася папулярнасцю не толькі ў Польшчы, але і далёка за яе межамі, перакладалася на вугорскую (1559 г.)[11], беларускую і расейскую мовы (1565—1568 гг., 1584, 1670 г.)[12], а «тлумачэнні ахвотна перапісваліся ў самых аддаленых кутках Расеі, аж да далёкіх Халмагораў і Сійскага манастыра» [13]. Акадэмік А. Сабалеўскі сцвярджаў, што пераклад «Хронікі ўсяго свету» М. Бельскага належыць да найстарэйшых перакладаў маскоўскага паходжання (да гэтага тлумачэнні рабілі ў Ноўгарадзе.— А. С.). Ён быў зроблены з беларускага перакладу ў Маскве ў 1584 г., але ёсць згадкі пра больш ранні пераклад 1565—1568 гг.[14] Такім чынам, беларускі пераклад «Хронікі ўсяго свету», зроблены на загад Жыгімонта Аўгуста шляхцічам Вялікага Княства Літоўскага Амброжым Бражэўскім (што вядома з нататкі, захаванай у адным са спісаў), з'яўляецца адным са старажытных перакладаў польскіх хронік другой паловы XVI ст. Сёння вядомыя некалькі спісаў беларускіх перакладаў «Хронікі» Бельскага — адзін у Расейскай Нацыянальнай бібліятэцы імя М. Салтыкова-Шчадрына ў Пецярбургу (F.IV.688, XVII ст.),

другі ў Музеі князёў Чартарыскіх у Кракаве (№ 1274), трэці ў Варшаве, у Нацыянальнай бібліятэцы (Miscellanea, № 256), але загінуў у II Сусветную вайну.

Як было сказана, пераклад на беларускую мову быў зроблены на загад караля Жыгімонта Аўгуста, які любіў праводзіць час у Вільні, упадабаўшы гэты горад яшчэ з дзяцінства; тут ён заклаў вялікую бібліятэку, куды прывозілі кнігі з усёй Еўропы. Апошні з Ягайлавічаў, будучы натурай вытанчанай, узнёслай і высокаадукаванай, добра адчуваў патрэбы літоўскага грамадства, у тым ліку наспелую патрэбу ў падручніку агульнай гісторыі і геаграфіі. Адчуванне яго неабходнасці існавала ў шырокіх пластах насельніцтва, а не толькі адукаванай часткі, якая аднолькава добра валодала як беларускай, так польскай і лацінскай мовамі. Адсюль і загад караля ператлумачыць «Хроніку свету» на афіцыйную мову ВКЛ. Хочацца тут нагадаць словы вядомага польскага даследніка старажытных помнікаў пісьменства Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага Станіслава Пташыцкага аб прычынах з'яўлення асобных перакладаў: «Гэтыя пераклады (беларускія, украінскія і расейскія.— А. С.) сведчаць, што ў тыя часы не думалі аб пляменнай еднасці рускіх плямёнаў, не разумеліся моўна і не стараліся аб'яднацца»[15].

У цэлым, трэба адзначыць, «Хроніка ўсяго свету» Марціна Бельскага ёсць сярэднявечнай паводле характару кампіляцыяй. Ён перапісваў нямецкіх і чэшскіх хранітаў XV ст., прычым не самых лепшых з іх, хаця сцвярджаў, што ў працах розных касмографаў і гісторыкаў выбіраў толькі «грунтоўнейшыя і патрэбнейшыя часткі». Часам на паданні і гістарычныя анекдоты Бельскі звяртае больш увагі, чым на праўдзівыя выпадкі і падзеі. Гэта адно з самых слабых месцаў ягонай працы, якое сёння асабліва кідаецца ў вочы. Іншым такім слабым месцам было тое, што Бельскі не адрозніваў важных выпадкаў ад менш істотных. Сярод недахопаў «Хронікі свету» яшчэ можна назваць непрапарцыйнасць структуры: памеры розных кніг, раздзелаў і частак беспадстаўна павялічаныя альбо паменшаныя. Гэта залежала як ад наяўнасці матэрыялаў, так і ад уласных сімпатыяў і антыпатыяў: напрыклад, чэшская хроніка вялізная ў параўнанні з кароткай хронікай Русі.

Бельскі з даверам ставіцца да выдумак і легендаў, якімі кішэлі сярэднявечныя хронікі, і старанна перапісвае

іх. Увогуле ён вельмі некрытычны да інфармацыі тых крыніцаў, якімі ён карыстаўся. Тут можна прачытаць і пра яшчарак з цялячымі галовамі (саламандраў), і пра розныя дзіўныя народы, пра сатыраў, што жывуць у лясах, андрагінаў і пад., не кажучы ўжо пра недакладнае прачытанне лацінскага тэксту.

Як падкрэслівае І. Хшаноўскі, параўноўваючы двух храністаў-сучаснікаў, Кромэра і Бельскага, «Кромэр паступова абтрасаецца ад сярэднявеччыны; Бельскі тымчасам сядзіць у ёй па самыя вушы» [16].

І, магчыма, засталася б «Хроніка ўсяго свету» Марціна Бельскага адным з недарэчных прыкладаў сярэднявечнай пісаніны і даволі банальным эпізодам у гістарыяграфіі XVI ст., калі б сын Марціна Яхім, значна больш адукаваны і амбітны, чым бацька, не перакроіў да непазнавальнасці і не выдаў у зусім новым выглядзе, але захаваўшы бацькава імя ў тытуле, адзін з галоўных раздзелаў ягонай працы. Выдадзеная ў кракаўскай друкарні Ежага Сэбэнайхэра ў 1597 годзе «Хроніка польская Марціна Бельскага нанова Яхімам Бельскім, сынам ягоным, выдадзеная», з таго часу стала адной са складаных загадак для крыніцазнаўцаў: дзе скончваецца Марцін і пачынаецца Яхім, вельмі цяжка высветліць. Як пісаў Ул. Нэрынг, «Яхім ёсць дапаўненнем бацькі, таксама як і яго спадкаемцам» [17]. Сын запэўнівае, што бацька дацягнуў хроніку да 1575 года, у якім памёр, ён жа толькі дапісаў эпоху панавання Стэфана Баторага. М. Вішнеўскі мяркуе, што Яхім перарабіў, пашырыў і паглыбіў, карыстаючыся ў асноўным творамі Ажахоўскага, восьмую кнігу «Хронікі свету» трэцяга выдання [18].

Хто ж быў сапраўдным аўтарам «Хронікі Польскай» 1597 г.? На гэтае пытанне спрабавалі адказаць вядомыя польскія даследнікі Багамолец, Асалінскі, Сабешчанскі. Уладыслаў Нэрынг прыходзіць да высновы: «З параўнання многіх асаблівасцяў аказваецца, што Яхім, а не Марцін яе аўтар» [19]. Але больш карэктна лічыць аўтарамі як сына, так і бацьку, хаця з гледзішча не так зместу, як формы, літаратурнай апрацоўкі, безумоўна, твор належыць пяру аднаго аўтара — Яхіма. Гэта відаць з параўнання ўсіх трох выданняў «Хронікі свету» і «Польскай хронікі» 1597 г. Стыль апошняй больш выразны, навуковы (падобным чынам пісаліся ў той час іншыя хронікі такога кшталту — Кромэра, Стрыйкоўскага і пад.). У аўтары мы адразу

пазнаем чалавека адукаванага, знаёмага з гістарычнымі тэорыямі свайго часу, які імкнуўся быць аб'ектыўным і крытычным. Урэшце адрозніваюцца самыя канцэпцыі «Хронікі свету» і «Хронікі Польскай»: першая носіць выразна рыцарскі характар, а другая — шляхоцкі (Нэрынг называе яе «шляхоцкімі рочнікамі», а Фінкель — «першай шляхоцкай гісторыяй»)[20]. Калі Марцін, стары ваяр, удзельнік бітваў пад Абэртынам (1531) і, магчыма, Мохачам (1526), галоўнай дабрачыннасцю шляхоцкага саслоўя лічыў валоданне рыцарскім рамяством, а галоўным абавязкам уладаў — узмацненне баявой гатоўнасці дзяржавы (ён лічыў: «Мір шкодзіць»), то Яхім імкнуўся патрапіць густам шляхты іншым спосабам — на старонках хронікі ён разглядае геральдычныя сымбалі шляхоцкіх ды магнацкіх фаміліяў. Канцэпцыя і пазіцыя бацькі састарэла яшчэ падчас напісання твора і ў канцы стагоддзя была б яўным анахранізмам, таму сын свядома ці падсвядома ўкладвае іншы сэнс у свой твор. Сёння можна спрачацца, што было карысней на той час: ці цвёрда трымацца прынцыпаў Бельскага-старэйшага (у «Хроніцы свету» рэфрэнам паўтараецца, напрыклад: «Лета 1522 быў мір у Польшчы, таму нічога значнага для пісання не было»), ці, паддаўшыся модным уплывам, вышэйшай мужнасцю лічыць прыдворную службу і звязаныя з ёю наданні і рэгаліі. Марцін Бельскі паслядоўна выклаў свае погляды на гэтыя рэчы ў іншай каштоўнай з пункту гледжання крыніцазнаўства працы «Рыцарская справа» (Кракаў, 1569). Яхім жа Бельскі, падобна Б. Папроцкаму, падпарадкаваў змест сваёй «Хронікі» мэтам высвятлення шляхоцкіх радаводаў.

Дарэчы, над Яхімам, як дамоклаў меч, вісеў «грэх» бацькі, які ён старанна выпраўляў усё жыццё. «Грэх» гэты — рэфарматарскія погляды бацькі. У маладосці Марцін трапіў пад уплыў рэфармацыйных ідэй, што знайшло адлюстраванне на старонках «Хронікі свету». З-за гэтага творы Бельскага-старэйшага былі ўключаныя ў «index Librorum prohibitorum» (Індэкс забароненых кніг). Кляймо ерэтыка лягло і на сына. Яхім, напрыклад, пасля парафіяльнай школы працягваў вучобу не ў артадаксальнай Кракаўскай акадэміі, а ў адкрытай у 1569 г. пратэстанцкай акадэмічнай гімназіі ў Бжэгу, якая ў той час перажывала росквіт[21]. Ужо тады кнігі Марціна Бельскага пачалі знішчаць як ерэтычныя. І сёння 1-е выданне

«Хронікі свету» з'яўляецца вялікім рарытэтам. Толькі перарабіўшы галоўны бацькаў твор, г. зн. пазбавіўшы рэфармацыйных тэндэнцыяў, можна было захаваць ягонае імя для нашчадкаў. Праўда, пратэстантызм не быў у тыя часы вялікім грахом: не хавалі рэфармацыйных перакананняў С. Сарніцкі, М. Рэй, А. Фрыч-Маджэўскі, іншыя выбітныя дзеячы. Але, па-першае, за панаванне Стэфана Баторага пашыраецца контррэфармацыя, сам кароль спрыяў каталікам; па-другое, мецэнатам і апекуном Яхіма прыблізна з 1575 г. стаў падканцлер каронны Пётр Дунін-Вольскі, які з 1578 г. атрымаў Плоцкае біскупства. Паступова Яхім пазбаўляўся духу пратэстантызму (калі ўвогуле ён быў ім «заражаны», бо ў ніводным творы гэта не адчуваецца, наадварот, ён падкрэслівае свой каталіцызм). Але канчаткова пакідае евангелісцкую рэлігію ў 1595 г., калі атрымоўвае разграшэнне з рук папскага легата [22].

Пераходзячы да зместу «Польскай хронікі», трэба заначыць, што Вялікае Княства Літоўскае ў ёй разглядаецца як адна з правінцыяў Рэчы Паспалітай (Я. Бельскі піша «Польскага Каралеўства»), якая «добраахвотна ўцеленая была ў Карону за Ягайлы і вечнай уніяй за Жыгімонта Аўгуста была звязаная, захаваўшы свае правы і юрысдыкцыю цалкам» [23]. Згодна з шляхоцкаю канцэпцыяй свайго твора, Яхім піша, што «Вялікае Княства Літоўскае ўжывае на харугве з аднаго боку Пагоню, г. зн. узброенага мужа з голым мечам на кані, бягучага на ўсім скаку, з другога боку — тры белыя слупы ў чырвоным полі». Далей ён пералічвае ваяводствы, якія ўваходзілі ў склад ВКЛ: Віленскае, Троцкае, Смаленскае, Полацкае, Наваградскае, Берасцейскае, Віцебскае, Мсціслаўскае, Менскае,— падзяляючы кожнае на паветы. Характэрны той факт, уласьцівы, дарэчы, і «Хроніцы свету», што ўсе сённяшнія беларускія землі Бельскія без вагання называюць літоўскімі. «Русь жа мае тыя самыя ваяводствы: Рускае, Бэлзскае, Падольскае, Брацлаўскае» [24]. У Рускае ваяводства ўваходзілі Львоўская, Галіцкая, Холмская і Перамыская землі. Падобная традыцыя цягнецца і дагэтуль: Русь у польскай гістарыяграфіі атаясамліваецца з сённяшняй Украінай (былой Галіцка-Валынскай зямлёй), беларускія ж землі традыцыйна называюцца Літвой.

«Польская хроніка» падзяляецца на дзве няроўныя часткі: ад старажытнасці да 1553 г. і ад 1553 да 1586 г. Першая частка носіць кампіляцыйны, другасны харак-

тар, бо нічога новага для гісторыі ВКЛ у параўнанні з іншымі хранiстамі XVI ст., напрыклад М. Кромэрам, не дадае. Найбольш важная для нас другая частка — ад 1553 да 1583 г. Але і тут толькі чацвертая частка носіць зусім самастойны характар: гэта нататкі з уласнага досведу ці здабытыя ў архівах альбо іншых сховішчах дакументаў.

Пашыраючы пачатковы бацькаў тэкст, узяты за аснову, Яхім дапаўняе яго іншымі крыніцамі — Длугашам (апісанне Грунвальдскай бітвы), Дэцыем (апісанне бітвы пад Воршай і ўсяго панавання Жыгімонта Старога) (De temporibus Sigismundi I, Zbiór Pistoryusza I, II), Ажахоўскім, Стрыйкоўскім (Стрыйкоўскі — адзіны з хранiстаў падае, што «Чартарыскі князь не быў русін, але літвін Альгердавіч, толькі меў удзел на Русі, а веру рускую трымаў»[25], а Бельскі паўтарае: «Чартарыскі, каторыя княжаты ад Гедыміна ідуць»). Але галоўным чынам Яхім кампілюе Кромэра, які на той час лічыўся недасяжным майстрам гісторыяграфічнага жанру і цаніўся вышэй за Длугаша дзякуючы «элегантнаму стылю». Шкада, што ў пагоні за гладкасцю стылю і формы Яхім адмаўляўся ад дакументальнасці, хаця, будучы спачатку пісарам каралеўскай канцылярыі, а з 1588 г. сакратаром Жыгімонта III[26], меў доступ да Кароннага архіва (напрыклад, пад 1499 г. аб пацверджанні вуніі Польшчы з Літвой у доказ сваіх словаў піша: «На што ёсць лісты ў скарбе каронным»), а таксама да Метрыкі Літоўскай (пра дыспенсію папежа для жонкі Аляксандра I Алены пад 1501 г. піша: «Бачыў у Метрыцы»). Апрача таго, будучы сучаснікам многіх падзеяў, ён аддаваў перавагу не ўласным назіранням, а сведчанням іншых. Толькі невялічкія рэмаркі дазваляюць меркаваць, што ён быў удзельнікам тых ці іншых падзеяў. Так, пад 1227 г. у «Польскай хроніцы» чытаем: «Пусты касцёл св. Сафіі на той час бачыў, калі кароль Стэфан Полацак узяў». У першым маскоўскім паходзе Стэфана Баторага Бельскі ўдзельнічаў хутчэй за ўсё ў якасці пісара каралеўскай канцылярыі. Як заўсёды, ён не апісвае ўласных уражанняў ад маскоўскіх войнаў і ўсяго панавання Стэфана Баторага, а ідзе ўслед за Райнгольдам Гайдэнштайнам (De bello Moscovitico commentarii, Кракаў, 1584), хаця абодва былі сучаснікамі падзеяў і шляхі іх неаднаразова перакрыжоўваліся, як і ў выпадку з Янам Дымітрам Салікоўскім, рукапісам каментароў якога

з перыяду кароткачасовага панавання ў Кракаве Генрыха Валуа Бельскі часта карыстаўся [27].

У XVII ст. пра Бельскіх не чуваць, і толькі напрыканцы XVIII ст., а менавіта ў 1764 г., «Польскую хроніку» перавыдаў руплівец на глебе старажытнапольскага пісьменства ксёндз-езуіт Ф. Багамолец. Ён высока яе ацаніў, чым прывабіў увагу аматараў даўніны з усёй Рэчы Паспалітай.

Вялікай загадкай застаецца так званы «Далейшы працяг Польскай Хронікі», які ахоплівае падзеі ад 1587 да 1598 г., адкрыты і надрукаваны Ф. М. Сабешчанскім у Варшаве ў 1851 г.; яго поўная назва «Польская хроніка пісаная, альбо гісторыя Кароны Польскай, таксама жыцці і дзеі ўсіх каралёў польскіх, якая ўзяла пачатак ад Леха, найпершага манарха польскага, а скончваецца аж да сённяшняга Жыгімонта III, з розных аўтараў сабраная і ў многіх месцах ад памылак ачышчаная і папраўленая. Прыдадзеныя фігуры галоўных каралёў і манархаў польскіх. Распачатая пісацца лета Гасподняга 1606 дня 22 месяца траўня, а скончылася ў лета Гасподняе 1607 дня 28 таго ж месяца траўня». Сабешчанскі прыходзіць да высновы, што нехта з сучаснікаў Бельскага ўсю хроніку Яхіма (і друкаваную, і працяг яе, які застаўся пасля яго смерці) перапісаў пад новай назвай і, змяніўшы ўсё, што тычылася Бельскага, прысабечыў увесь твор, разлічваючы на няведанне чытачоў альбо жадаючы пісьменніцкай славы. Але твор надрукаваны тады не быў. Сабешчанскі на падставе параўнання рукапіса з тэкстам хронікі Яхіма Бельскага прыходзіць да высновы, што перапісчык сам працягу «Польскай хронікі» не пісаў. Так, у рукапісе напісана: «Пісаў таксама Яхім Хроніку з грунту ўсяго свету... Але ў гэтым сквапная смерць праспела на яго ў 1599 г. дня 8 студзеня. У Кракаве памёр, там жа ў капліцы св. Тройцы пахаваны» [28]. Ул. Нэрынг на падставе моўнага аналізу даказвае, што «Польская хроніка» і «Працяг» належаць пяру розных аўтараў. На сёння пытанне застаецца адкрытым.

Хаця гістарычныя творы Марціна і Яхіма Бельскіх, як бальшыні сярэднявечных твораў, носяць кампіляцыйны характар, зярняты ўнікальных звестак рассеяныя па іх старонках у мностве. Гісторыку старажытнасці аналізаваць працы Бельскіх, як мыць золата,— цяжка, марудна,— але ніхто не сумняваецца, што рабіць гэта трэба.

## ЗАЎВАГІ

[1] Кавалёў С. В. Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст. Мн., 1993.

[2] Анушкин А. А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970.— С. 13.

[3] W. Nehring. O życiu i pismach Joachima Bielskiego. Poznań, 1860. s. VI.

[4] J. Chrzanowski. Marcin Bielski, studium historyczno-literackie. Lwów — Warszawa, 1926. S. 10—11.

[5] Tygodnik illustrowany, r. 1880, N 216.

[6] J. Chrzanowski. Marcin Bielski. S. 97—98.

[7] Antonio Pierozzi (Antoninus), арцыбіскуп фларэнцкі, дамініканін, у 1459 г. напісаў сваю «Агульную гісторыю».

[8] M. Korolko. Seminarium Rzeczypospolitej Królestwa Polskiego. Humaniści w Kancelarii królewskiej Zygmunta Augusta. Warszawa, 1991.

[9] H. Łowmiański. Prusy — Litwa — Krzyżacy. Warszawa, 1989. S. 42—44; B. Zientara. Świt narodów europejskich. Warszawa, 1985. Мapa.

[10] T. Korzon. Dzieje wojen i wojskowości w Polsce. Lwów, 1923. I. S. 317.

[11] W. Nehring. O życiu i pismach Joachima Bielskiego. S. 8.

[12] Переводная литература Московской Руси XIV—XVII веков. Библиографические материалы академика А. И. Соболевского. СПб., 1903. С. 53—54.

[13] Рогов А. И. Известия по истории России в «Хронике всего света» Мартина Бельского // Новое о прошлом нашей страны. Памяти акад. М. Н. Тихомирова. М., Наука, 1967. С. 123.

[14] Переводная литература Московской Руси. С. 54.

[15] S. Ptaszycki. Ruskie przekłady kronik Bielskiego i Stryjkowskiego. Pamiętnik Literacki. Rocz. XXX. Lwów, 1933. S. 170.

[16] J. Chrzanowski. Marcin Bielski. S. 68.

[17] W. Nehring. O życiu i pismach. S. 68.

[18] M. Wiszniewski. Historia literatury polskiej. T. 7. Kraków, 1845. S. 436—437.

[19] W. Nehring. O życiu i pismach. S. 23.

[20] L. Finkel. Marcin Kromer, historyk polski XVI w. Rozbiór krytyczny. Rozprawy i sprawozdania z posiedzeń wydziału historyczno-filozoficznego AU. Kraków, 1883. S. 139—149.

[21] Polski Slownik Biograficzny (PSB). T. II. Kraków, 1936. S. 61.

[22] Ibid. S. 63.

[23] Kronika Polska Marcina Bielskiego. Sanok, 1856. S. 10.

[24] Ibid. S. 12—13.

[25] Kronika Polska... Macieja Stryjkowskiego. Krolewiec, 1582. S. 591.

[26] PSB. S. 62.

[27] W. Nehring. O życiu i pismach. S. 48.

[28] Dalszy ciąg Kroniki Polskiej... zawierającej dzieje 1586 do 1598. Wyd. F. M. Sobieszczański. Warszawa, 1851.

**Альбіна СЕМЯНЧУК.**

*Працуючы ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі АН Літвы, я знайшоў рукапіс артыкула Антона Луцкевіча «Краёвае становішчэ» (1914 г.). Наколькі ўдалося вызначыць, гэты рукапіс так і ня быў надрукаваны. Між тым ён дазваляе даволі глыбока зазірнуць у сутнасьць нацыянальнай пазыцыі аднаго з кіраўнікоў беларускага руху. Акрамя гэтага, і сваім зьместам артыкул застаецца актуальным.*

*Сыгнатура рукапісу: БАН Літвы, аддз. рукап. F 21,334.*

**Алесь СМАЛЯНЧУК**

# КРАЁВАЕ СТАНОВІШЧЭ

Соткі гадоў жывем мы тутака разам — на аднэй Зямлі — беларусы і літвіны, палякі і жыды. Нейкі гістарычны прымус, дужэйшы, чым жаданьня мільёнаў людзей, звязаў нас усіх і разам далучыў да дзержавы Расейскай.

Нельга думаць, каб нам калі-небудзь давялося разыйсьціся ў розные бакі і разсяліцца. Нельга думаць, бо Край гэты стаў родным роўна для ўсіх: і для адвечных жыхароў яго — беларусоў і літвіноў, і для «прымакоў» колішніх палякаў і жыдоў. З гэтай Зямлёй звязана наша мінуўшчына і будучына. На ёй спазналі мы многа гора і бед — і лепшай долі тутака дажджэмся.

Але гэту долю павінны мы здабыць усе разам: мэты ў нас тые самые, і тые-ж перашкоды спатыкалі мы ўсе на дарозі сваёй.

Чаму гібее народ беларускі? Бо цёмны, а дарога да разьвіцьця сваёй культуры для яго зачынена, ды нават у школі заместа прасьветы суляць яму «абрусеньне». Бо бедны, а ўсялякая грамадская праца дзеля стварэньня экономічнай сілы натыкаецца на паліцэйскі окліч: «Стой! Ані кроку ўпярод!» Бо раздзелен балотамі, лесамі ды абшарамі чужых зямель; бо брата проці брата іншай веры цкуюць яго вора-

гі; бо ня ведае нават, хто ён... Ці-ж у такіх варунках жыцьцё народу можэ цячы вольна і шырока?!

Тые-ж ненормальные варункі спыняюць развіцьцё літвіноў, прымушаючы іх кожную драбніцу здабываць страшэнне вялікай цаной. Тые-ж варункі спарадзілі ў тутэйшых палякаў нейкі хворы нацыяналізм, каторы не дае ім бачыць навакол сябе братоў іншых націй, што цяжка змагаюцца «За нашу і вашу волю». І гэтые самые варункі, гэтае-ж безпраўнае палажэньне адрывае ад жыдоўскага народу яго інтэлігенцію, прымушае яе перарабляцца ў расейцоў і аддаваць усе сілы свае на працу дзеля развіцьця расейскай культуры, забываючы аб мільённай грамадзе цёмнаго, галоднаго, загнанаго жыдоўскага «дэмоса», духоўнае багацьце катораго змешчаецца ў хедэры і сынагозе.

Дзесяткі гадоў жыве наша старонка ненормальным жыцьцём. Гэта рэзультат так званай «окраінная» палітыкі ураду, каторы сваей мэтай на «окраінах» паставіў дэнацыяналізацію «інородцоў» — у тым ліку й беларусоў. Ня кажучы аб аграніченьнях правоў кожнай націі па асобку, адмецім, што і экономічнае жыцьцё нашага краю, ад катораго залежыць доля ўсіх націй, спатыкае тутака страшэнные перашкоды. Аграніченьня права куплі-прадажы зямлі задзержываюць пераход дворных абшароў да сялян. Колонізація Літвы і Беларусі вялікарускімі сялянамі (стараверамі) прымушае лепшые мейсцовые сілы шукаць спосабу да працы ажно за акіанам — у Амерыцы; тут, дома літвін ці беларус, калі ён каталік, дакупіцца ня можэ,— ды нават праваслаўным беларусам банк прадае зямлю тады, калі астаецца лішэк пасьля прывозных расейскіх колоністаў. Праз дзесяткі гадоў ніхто не рупіўся аб селянскай гаспадарцы, не даваў нашым хлебаробам падмогі ні навукай, ні грашмі (таннага крэдыту і цяпер німа ў вёсцы), а ўселякіе сялянскіе хаўрусы — банчкі, крамы хаўрусные і т. п.— зацьверджаюць у нас вельмі неахвотна. У трох губернях — Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай, дзе народ найбольш культурны, дагэтуль не заводзяць земства, і ўсім жыцьцём вёскі найчасьцей кіруюць тутака людзі, прысланыя с чужой стараны, незнаёмые с тутэйшым жыцьцём, с тутэйшымі патрэбамі. У таргоўлі гэтак сама бачым уселякіе аграніченьні некаторых націй (права свабодна жыць усюды), а фабрычные промыслы часта-густа не маглі развівацца затым, што ўстаноўлены былі для нашаго краю надта невыгодныя для нас прывозные тарыфы. Урэшці тут, на

нашай зямлі урад ні за што не дазваляе аткрыць універсытэту, без катораго мы ніколі не будзем мець даволі культурных работнікоў, патрэбных для развіцьця краёвага жыцьця.

Усё гэта вельмі цяжка адбіваецца на жыцьці кожнай асобнай нацыі, кожнай кляссы, кожнага стану. Гэткая «аўтаномія in minus» задзержывае ўсестароннее развіцьцё краю і яго жыхароў. І кожын павінен ведаць, што першая справа, дзеля каторай с чыстым суменьнем могуць і павінны працаваць поруч беларусы і літвіны, палякі, жыды і іншые, гэта — адвярнуць тую «аўтаномію наадварот».

Гэтак бачым, што ўсе тутэйшые нацыі звязаны ня толькі тым, што на аднэй зямлі жывуць: нас злучае ў вадну вялікую сямью, у вадно брацтво наша доля-нядоля, нашы беды і жаданьня, наша **супольная палітычная думка.** С тэй думкі творыцца краёвая програма, павэдлуг каторай усе мы павінны **змагацца за шчасьце краю.**

Ня ўсе прыстаюць на гэта. У кожнай нацыі ёсць людзі, каторым і цяпер жывецца добра, каторые патрапілі накінуць уласьць сваю на шыю тых слабейшых, чым яны, і жывуць іх працай крывавай... У іх свая асобная мэта. Так сама ёсьць людзі, каторые ня хочуць працаваць дзеля нашай старонкі затым, што для іх яна чужая: адны працуюць дзеля Польшчы, другіе шукаюць бацькоўшчыны ў Палестыне, трэйціх сэрцэ цягне ў Маскву. Тут — у нас — яны быццам госьці дачэсные. Яны хаваюць свае сілы, сваю здольнасць дзеля іншай зямелькі, каторую лічаць сваёй бацькоўшчынай. Гэта не грамадзяне нашага краю, а **колоністы.** Яны заўсёды астануцца для нас чужымі. Для іх краёвая ідэя ня мае ніякай цаны.

Найгоршы вораг краёвай ідэі — гэта **нацыяналізм.** Нацыяналізм — гэта хворае пачуцьцё сваёй нацыянальнай асобнасці. Нацыяналісты — усё роўна, якой нацыі — апрача сваіх, сваёй нацыі сьвету ня бачуць. Для іх німа нічога важнага, цэннага, калі гэта стварыў чужы народ. У іх вачах вялікія сусьветныя ідэалы адыходзяць на другі плян. Жадаючы волі для свайго народу, нацыяналісты ня бачуць, што іншые нацыі гібеюць у няволі, ды самі гатовы ціснуць і зневажаць слабейшую нацыю, калі маюць над ею ўласьць. Здзек і ўціск, кажуць яны, благі тады, калі яго пераносіць іх народ; калі-ж іншы — гэта іх не цікавіць. Нацыяналісты гавораць

павэдлуг асноў этыкі людаедоў: «Калі вораг забіў і з'еў маю жонку,— гэта дрэнна; калі-ж я гэтак сама зраблю з жонкай ворага, то будзе добра». Ня дзіва, што і ў нашым краю людзі, каторых захапіў нацыяналістычны шал, ня могуць жыць у згодзі, ня могуць згаварыцца аб супольнай працы дзеля супольнай карысьці ўсяе зямлі нашай: тутака больш, чым дзе-небудзь, уселякіх нацыянальных спорак, і ў ненормальных палітычных варунках яны вырастаюць у вялікі пажар нацыянальнага змаганьня ўсіх з усімі. Нацыяналісты асьвячаюць гэтае змаганьне, ставяць яго сваёй мэтай. Сьляпые: яны ня хочуць ці ня могуць зразумець, што карабель, плывучы ў буру па бязмерным акіяні, напэўне пайшоў-бы на дно, калі-б кожын матрос думаў аб сабе, забыўшыся аб караблі!

Нацыяналізм дужэ пашырэн у нас. Ён пануе ў польскім грамадзянстве, захапіў багата літвіноў і жыдоў, агарнуў безмала ўсіх тутэйшых расейцаў, асабліваж перароблены з беларусоў. Не сяганьня, дык заўтра можна спадзевацца, што гэта хвароба не абміне і беларусоў, нясучы з сабой ненавісьць да іншых нацыяй, каторай дагэтуль у нас не было і німа, кіруючы сілы нашага народу не на творчэскую дарогу, а на дарогу змаганьня з нашымі братамі, звязанымі з намі гісторыей краю і супольнай нядоляй. Ад яе павінны мы бараніць наш народ, пакуль ня позна, пакуль яна не ўелася ў душу яго. І ў гэтым змаганьні з нацыяналізмам нам пададуць руку ўсе шчырые дэмакраты іншых нацый, каторым і мы павінны, чым мага, памагаць у іх рабоці. Мы павінны цьвёрда памятаць, што ў дэмакратоў усіх нацый ёсьць адна супольная дарога, адны ідэалы — агульна-людзкія ідэалы **волі, роўнасьці і брацтва,** каторые абыймаюць і ўсе нашые, беларускіе патрэбы, нясуць і нам вызваленьне. Шчыры дэмакратызм, ваюючы за спаўненьне гэтых ідэалоў, роўна бароніць ад здзеку і ўціску беларуса і літвіна, паляка і жыда.

Дэмакратызм — гэта жаданьне вызваліць з палітычнага і экономічнаго ўціску тую вялікую, многамільённую грамаду народу, што працай сваёй корміць усенькі сьвет, а за гэта сама падчас галодна, што сваімі рукамі будуе фундамент для высокай культуры, а сама жыве ў цемнаце, што бароніць дзержавы ад ворагоў, а сама гібее ў безпраўі. Мы, беларусы, гэта йшчэ бадай чыста мужыцкі народ, і німа ў нас дагэтуль станоў і клясс, каторым бы жылося вольна. Мы,

беларусы, гэта прыродные дэмократы. І затым-то ў той момэнт, калі ідэалы дэмократызму заваююць сабе пачэснае мейсца ў жыцьці, настане мінута вызваленьня і беларускаго народу. З дэмократамі ўсіх націй мы можэм і павінны існьці поруч, нага ў нагу: толькі між імі знойдзем мы таварышоў у змаганьні за **нашу** волю, за **нашэ** шчасце. На грунці ўеднаньня дэмократычных элементоў усіх тутэйшых націй здолеем мы стварыць вялікую сілу, здолеем вясьці выразную **палітычную лінію,** карысную для ўсяго краю, усіх жыхароў яго.

Гэтак вырысовываецца палітычнае становішчэ беларусоў у нашых краёвых справах: становішчэ **дэмократычна-краёвае.** Яно — і толькі яно адно — дае нам можносць абмінуць ці хацябы зменшыць, колькі можна, тые національные сваркі, каторые што-болей развіваюцца ў нашай старонцы, марнуючы безкарысна падчас найлепшые сілы народу. Яно пазваляе нам усю творчэскую сілу збудзіўшагося ад векавога сну народу накіраваць да спакойнай культурна-національнай работы, да працы дзеля ўзмацаваньня нашаго грамадзянства, да вызваленьня народу з экономічных путаў, да ўсестароньняго адраджэньня яго.

Вільня, I/IV 1914 г. **Ант. НОВІНА.**

Марцін ЛЮЦІЧ

# «ЯНКА СЕЯЎ — ЛЮДЗІ ЖАЛІ»

## АПАВЯДАНЬНЕ

Ніколі і нідзе ня трацілася столькі чалавечай энэргіі на доказ вольнасці, роўнасьці, сацыяльнага дабра й іншых атрыбутаў наземнага раю, як у «сацыялістычнай бацькаўшчыне». І ніколі і нідзе не было столькі супярэчнасьцяў між словамі й справамі, як пайменна там. Вось урачыстасьці кастрычніцкай рэвалюцыі, якія, як ведама, прыпадаюць на 7 лістапада. Да гэтага рыхтуюцца тысячы розных брашураў, артыкулаў, выступленьняў, успамінаў, апісаньняў. Усе друкарні ўва ўсіх рэспубліках мабілізаваныя надрукаваць іх у ўдарным парадку ў мільённых тыражох і разаслаць праз адпаведныя ворганы і арганізацыі, гэта значыць — праз райкомы, абкомы ў самыя далёкія куточкі. Апрача таго, пачынаючы з 6 лістапада, і навет раней, пэрыядычныя выданьні запоўненыя прыгатаваньнямі да надыходзячых урачыстасьцяў. Чыноўнікі партыйнага апарату: райкомаў, абкомаў, ЦК КП(б) саюзных рэспублік і самога ВКП(б) разьмеркаваныя й разьяжджаюцца па хвабрыках, заводах, шахтах, сёлах, вёсках і аулах. І дзень і ноч грымяць радыя-

Друкуецца паводле: «Ля чужых берагоў». Альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменнікаў.— Мюнхен, выдавецтва «Бацькаўшчыны», 1955.

рупары літаральна з усіх перакрыжаваньняў аб тым-жа. Партрэты, сьцягі, лёзунгі, ілюмінацыі — усё ў чырвоным колеры,— і ўсё гэта мусіць сьветчыць аб дасягненьнях, аб волі, аб шчасьці пад савецкай зоркай.

## I

Кузьма Вальтэр атрымаў пяць год Калымы за дурноты. У палітыцы ён разьбіраўся мала, быў хутчэй чалавекам пасыўным: сярод студэнтаў вылучаўся сваімі здольнасьцямі. Гэтым апошнім крыху злоўжываў, што ўласьціва амаль усім або, у ўсякім выпадку, шмат каму зь юнакоў. І калі на сцэне, у дзень кастрычніцкіх урачыстасьцяў, зьяўляўся той ці іншы прамоўца з сваім неадменным «падвядзеньнем вынікаў», ён знаходзіў для яго вельмі трапную характарыстыку. Гэта сьмяшыла сяброў, якія сядзелі побач, і на іх нехта нябачны зьвярнуў увагу. Затым, ужо на банкеце, якімі заўсёды канчаюцца ўрачыстасьці, была зробленая й другая неасьцярожнасьць. А тут якраз і трэба асьцерагацца больш за ўсё, бо НКВД, бясспрэчна, ведае: «што ў цьвярозага ў галаве, тое ў п'янага на языку».

...Сядзелі хэўрай за сталом, налівалі «нарзан» (ад слоў: «і нарэзаўся, напіўся»), налівалі «нарзан» у шклянкі, як сьлед на падобных дармовых папойках. Расказвалі адзін аднаму ўсе мажлівыя гісторыі, сьмяяліся. Кузьма быў у цэнтры ўвагі. Часам да іх падыходзіў хто-колечы з кіруючых, напрыклад парторг, вучком або й зусім хто-небудзь незнаёмы, і таксама падымаў напоўненую шклянку.

— Ну, сябры, вып'ем! Чаго-ж там, на тое і сьвята, каб усім было весела!

Стукаліся шклянкамі, праліваючы гарэлку на стол, і выпівалі.

— Хроніка зазначае: Расеец выпіць ня дурань! — заўважыў раптам Кузьма.— Вось на што-небудзь іншае, дык глузду часам не хапае, а выпіць?!

— Ну, Кузьма, гэта ты ўжо беспадстаўна... Былі-б у мяне такія здольнасьці...

— А хто сказаў, што я Расеец?

— Ну, усё-ж «малодшы брат»?!

— Зусім не! Чуеш, як гучыць маё прозьвішча? Можа быць, крыху Немец, крыху Ангелец, прасьцей кажучы,— цэлы інтэрнацыянал ува мне адным!..

— Што-ж, гэта ня так і дрэнна, ува ўсякім разе, на гэным этапе!..

Кузьма працягваў:

— Апроч таго, калі-б быў і Расеец, дык гэта зусім супярэчыць таму, што я сказаў, бо вось ужо год, як пішу дысэртацыю па дыямату і ніяк не магу скончыць!..

Усе весела засьмяяліся.

— Так, маючы такую нагрузку, як ты!.. Ты-ж прыходзіш на лекцыі толькі паспаць.

— А якога чорта там рабіць? Выйдзе, вось, гэтакі пятушок і пачынае кукарэкаць аб дыялектычным разуменьні... Трэба ведаць: «Дыялектыка што дышла, куды павернеш, туды і вышла...»

Зноў усе гучна засьмяяліся. Але знайшоўся і такі, што папераджальна сказаў:

— Цішэй, хлопцы! Непрыстойна-ж усё такі так!

Гэта быў аднакурсьнік Кузьмы і ягоны першы сябра Нупрэй Орлік.

— Што непрыстойна? Сьмяяцца? Ты, як будучы лекар, мусіш хутка рэцэпты выдаваць на сьмех, бо, зразумей, паміраe...

— А гэта востра ўсё-ж: дыялектыка што дышла...— заўважыў студэнт Алесь, калі зноў аднавілася цішыня.

— Ты, Ляксей, чалавек Божы, відавочна, п'яны? Дыялектыка — гэта аснова марксысцкага пазнаньня існуючага! — раптоўна атакаваў яго Орлік.— І чаго тут сьмяяцца?

— Сяньня сьмяяцца ўсім можна! — умяшаўся Кузьма.

— І ты сяньня, Кузьма, таксама...

— Дыялектыка — гэта ёсьць спосаб давесьці...— сур'ёзна загаварыў Алесь.

— Давесьці, што ты грыб, а не студэнт! — пасыпалася на яго з усіх бакоў.

— Хай сабе грыб, але першы, Баравік (такім было ягонае прозьвішча)!

— Ну і баравік! Проста атрутны мухамор, смаршчок!..

— Я навет скажу, што і не смаршчок, а звычайны грыб неазначанага роду, шаплык, як кажуць у нас.

Зноў усе весела засьмяяліся, і гэты інцыдэнт быў-бы скончаны, калі-б не ўмяшаўся нехта пабочны.

— Пра што спрэчкі? — спытаў.

— Ды ні пра што! — быў адказ.— І наагул, ніякіх спрэчак няма.

— Дыялектыка што дышла...— усё-ж захіхікаў Алесь

Баравік.— Не, як сабе хочаце, а гэта прамоўлена...

Адразу-ж усе прыціхлі.

— А вы ведаеце, грыбы-ж самі сеюцца,— заўважыў Орлік, шматзначна пераглядаючыся зь сябрамі.— Таксама, як дурні.

Гутарка адразу-ж спынілася, бо намёк быў вельмі яскравы. Але моўчкі сядзець было няёмка і нехта запрапанаваў:

— Давайце засьпяваем!

— Не, гэта наробе шмат шуму, якога і так у залі хоць адбаўляй!

Сапраўды, за сталамі амаль нікога ўжо не было. Хадзілі, курылі, гучна размаўлялі; недзе стукалі більярднымі кіямі; нехта гістэрычна рагатаў — нейкая падвыпіўшая дзяўчына. І ўсё гэта пакрывалася шалёным звонам фартап'яну, на якім нехта стараўся ўзяць: «У Кацюшы вырасьлі ігрушы» *, але з пад п'яных пальцаў выкслізала кляўятура. Урэшце, яму ўдалося схапіць матыў і адразу-ж падхапілі няроўныя крыклівыя галасы:

«У Кацюшы вырасьлі ігрушы,
Бо ночку ў садзе правяла...»

— Вось, бачыце? Папросім лепей Кузьму прачытаць штонебудзь,— запрапанаваў Орлік.

— Які-небудзь верш!

— Які там верш! Ён можа нам цэлага Джамбула напамяць выкласьці.

— Маналёг Раскольнікава — ён прыхільнік Дастаеўскага.

— Ён прыхільнік Дастаеўскага? — пачуўся голас таго-ж незнаёмага, які пытаўся толькі-што аб спрэчцы, але некуды быў адыйшоў і цяпер зноў стаяў за сьпіной Кузьмы.

— Сьледчы! — адразу-ж прыйшла адна і тая-ж думка шмат каму.

Орлік заўважыў:

— Мы студэнты! Мы мусім вывучаць ня толькі тое, што выклікае спачуваньне, але й тое, што ўпакарэньне...

Кузьма больш адчуў, чым зразумеў, што акалічнасьці склаліся неяк нядобра. Але яго нешта штурхала, як гэта нярэдка бывае зь не зусім цьвярозымі людзьмі — зьдзівіць чым-небудзь прысутных. Ён падняўся, каб голас ягоны больш даходзіў да слухачоў, і прадэклямаваў верш Янкі Купалы, верш, які быў быццам забаронены, але тым ня

---

* Пераробка ведамай савецкай песьні.

менш ня сходзіў з вуснаў людзей. У вершы гэтым шмат разоў паўтараліся радкі:

«Янка сеяў — людзі жалі,
А зязюлька кукавала:
Ку-ку! Ку-ку!»

Чытаў Кузьма сапраўды добра і заслугоўваў на пахвалы, але калі скончыў, наўкола стаяла амаль мёртвая цішыня.

## II

Здавалася-б, усё гэта дзяціныя гульні, на якія ня сьлед зьвяртаць увагі. Толькі пару гадзінаў таму, на ўрачыстай частцы вечара, столькі было слоў пра волю. А ўсё-ж і гэтым нехта зацікавіўся. Першым пра гэта даведаўся Орлік. Кузьма яшчэ ляжаў у ложку з кнігай у руках (студэнты жылі ў інтэрнаце), калі Орлік падыйшоў да яго. Быў усхваляваны або, праўдзівей, прыгнечаны. Аблакаціўся на ложак супраць Кузьмы, і вочы іхныя спаткаліся. Кузьма адразу-ж зразумеў: нешта здарылася. Запытаў:

— Хворы ці што зь перапою?

— Так, хворы, і вельмі сур'ёзна хворы...— скрывіўся.— Але як мне сказаць табе пра гэта?..

— Што за дурноты?! Язык у цябе прысох?

— Здаецца, на цябе зрабілі данос. Але ведай: я табе пра гэта нічога не казаў; у мяне й без таго клопатаў хапае...

— А што такое?

— З бацькамі ня добра.

— А што зь імі ёсьць: раскулачаны, высланы?

— Пакуль не! Але вось прычапіліся, што некалі мелі малатарню, пазычалі яе суседзям, ну, значыць, эксплятататары, карысталіся чужой працай.

— Тут нямашака лёгікі...

— Ты шукаеш лёгікі? — Орлік прыкра ўхмыльнуўся.— Не шукай яе цяпер, асабліва пасьля даносу — будзь асьцярожным!

— Пра які данос ты ўжо ў другі раз пляцеш?

— Я-ж сказаў: на цябе ёсьць данос.

— На мяне?

— За ўчарайшае, я так думаю.

— А што ўчора адбылося? — задумаўся.— Ах, гэта! Які можа быць данос, калі я зусім сумленны?! Ды пры тым яшчэ — уроджаны пралетар!

— Ну, як хочаш!

— Але адкуль у цябе гэтакія весткі?

— Бачыў, як Алеська празьмерна пасьпешна выскачыў із спэцаддзелу.

— На падставе гэтага ты мяркуеш, што на мяне данос? Але-ж ён ходзе туды амаль штодня, бо яму даручана рэгістрацыя вайсковаабавязаных! Якая дурнота! І пра што на мяне могуць даносіць, калі я чысты, як крыштал?

— Ну, не скажы, і на крыштале могуць выявіць лішаі, калі гэта патрэбіцца.

— Але-ж у цябе няма ніякіх ня толькі доказаў, але й пасьлядоўнасьці?!

— Бачыш, Алесь тут раззваніў пра ўчарайшае па ўсяму ўнівэрсытэту, і стварылася ўражаньне...

— Учора я ня быў п'яны і дасканала памятую ня толькі кажнае слова, але і гэст, зь якім яно было выказана. Тое, што пажартаваў з прафэсара па дыямату? Але-ж зь яго сьмяюцца ўсе.

Гэтая гутарка адбылася, як было ўжо зазначана, раніцой на наступны дзень пасьля ўрачыстасьцяў, а гадзіне чацьвертай нечакана зьявіўся загадчык спэцаддзелу таварыш Падкаблук. Прайшоўся разы два па залі, кінуў позіркам на ложак Кузьмы. Хаця той, здавалася, і не прыняў блізка да сэрца паведамленьня свайго сябра Орліка, усё-ж ён, пэўне, непакоіўся. На працягу цэлага дня нікуды не выходзіў, за выключэньнем як на палудзень ў сталоўку, на які затраціў каля гадзіны. Як толькі вярнуўся, зноў разьдзеўся і лёг на ложак. Узяў у рукі кнігу, але чытаньне ў галаву ўжо ня йшло. Дзіўна! Данос? Які можа быць данос? На мяне! Хіба няведама, хто я? І што мог раззваніць асёл Алесь? Дыялектычнае разуменьне... Хіба гэная фраза такая страшная? Вершы Янкі Купалы? Але-ж ён народны паэт! І, здаецца, яшчэ паза западозраньнем!.. Дурнота нейкая. Не, Орлік проста здэнэрваваны сваімі асабістымі справамі — непрыемнай сытуацыяй з бацькамі і свой настрой перадае іншым. Адклаў у бок кніжку і задумаўся. Хай сабе даносяць — ён зусім спакойны. Зноў пачаў пазіраць у кніжку, але радкі, быццам жывыя, рушыліся й расплываліся перад ім. Гэта пройдзе — трэба толькі прагуляцца. Падняўся, апрануўся і выйшаў на калідор. Насустрач яму ішоў таварыш Падкаблук, быццам ён спэцыяльна нейдзе тут яго чакаў.

— Вось і добра! — падумаў, адчуваючы ўсё-ж, як моцна загрукала сэрца.— Можна будзе зь ім пагутарыць, на-

мякнуць яму на данос,— якая ягоная будзе рэакцыя?

Але Падкаблук, не дайшоўшы да дзьвярэй інтэрнату, сам паклікаў студэнта пальцам.

— Зайдзіце да мяне на хвілінку! — прашаптаў, як-бы баючыся, каб хто не пачуў.— Ведаеце куды? У спэцаддзел, нумар дзевяць.

Кузьма заглянуў яму ў вочы і ўбачыў у іх нешта хітрае, лісьлівае і, разам з тым, пагрозьлівае, небясьпечнае.

— Калі — цяперака?

Падкаблук ледзьве не падскочыў.

— Чаго-ж вы крычыцё? Чаго крычыцё? — засіпеў. І потым зь незадавальненьнем: — Ну, зразумела, цяпер, а ня заўтра.— Азірнуўся і зноў зашаптаў, ужо ветліва: — Перад тым, як увайсьці, пастукайце ў акенца, вось так во! — І пальцам пастукаў аб сьцяну, паказваючы, як трэба.— Пашпарт не забудзьце, так, пашпарт!..— папярэдзіў.

Павярнуўся і пайшоў у той бок, адкуль зьявіўся.

— Дзіўна! — Кузьма адчуваў, як пачынае разьбіраць хваляваньне.

Вярнуўшыся ў залю, забраў дакумэнты і ўзьняўся нагару. Але пакою нумар дзевяць нідзе не было — усё ішлі сотні. Ён успомніў: нумары для большай зручнасьці ідуць ад сотні. Падыйшоў да нумару 209. Праўда, у дзьверы было ўроблена невялічкае акенца, такое невялічкае, каб толькі можна было зазірнуць на калідор. Пастукаў, як вучыў Падкаблук. Акенца адчынілася, нібы аўтаматычна, і паказаўся твар заўспэцаддзелу. Быў як-бы заклапочаны, павекі падміргвалі.

— Ага! Вы? Заходзьце!

Француская замок на дзьвярох мякка пстрыкнуў, і дзьверы бяз шуму адчыніліся. Як толькі Кузьма пераступіў парог, зараз-жа зачыніліся.

— Ну, вось і добра. Сядайце!

Кузьма азіраўся. Ён і на думках ня меў, што пры ўнівэрсытэце можа быць установа на гэтулькі засакрэчаная. Дзьверы, сьцены, столь, навет рамы акон, дзе мог пранікаць гук, былі абкладзены нечым мяккім, коркам або ватай, а можа быць, тым і другім. Зьверху аббітыя цыратай. Падлога засланая мяккім і грубым дыванам. Але мэблі было параўнаўча мала: тры-чатыры крэслы, апрача двух фатэляў, канапа з увагнутымі падушкамі і агнятрывалая шафа ў кутку. На сьценах вісела колькі партрэтаў: Ленін, Сталін, Дзяржынскі...

Падкаблук узяўся за адзін з трох тэлефонаў, што стаялі

на стале. Потым перадумаў, паклаў слухаўку на месца і зьвярнуўся да Кузьмы:

— Ну што, пакукуем?

Студэнт зачырванеўся.

— Пашпарт пры вас?

Кузьма перадаў пашпарт.

— Уперад мушу вас папярэдзіць: сам факт, што вас сюды паклікалі, а таксама тое, аб чым з вамі тут размаўлялі, мусіць застацца таямніцай. Зразумелі?

Студэнт кіўнуў галавой.

— Калі-ж-бы выявілася, што вы свайго слова не стрымалі, будзеце адказваць як за разгалошваньне дзяржаўнай таймніцы...

Потым Падкаблук пачаў дапытваць студэнта пра ягонае асабістае жыцьцё: дзе праводзіць час, з кім спатыкаецца, якія вядзе гутаркі. Кузьма адказваў, што, апрача навукі, ён мае васьмігадзінную нагрузку ў школе, для гульні часу ня мае, і таму знаёмствы ягоныя абмяжоўваюцца студэнцкім і настаўніцкім асяродзьдзем.

— А вы знаёмы з палкоўнікам Міхалам Дуброўскім?

Кузьма зразумеў, што прозьвішча выдуманае, і спакойна адказаў:

— Ведаю аднаго Дуброўскага, сакратара райкому, а ці палкоўнік ён ці не, ня ведаю.

Падкаблук на момант як-бы зьмяшаўся.

— Ага, так! А вось вытлумачце, як вы ўчора правялі вечар кастрычніцкіх сьвятаў: ці не здаралася з вамі чаго-небудзь асаблівага, ці не спатыкаліся вы з кім-небудзь такім?..

Кузьма перадаў усё пра вечар, як і было, бо дагадваўся, што Падкаблук дастаткова паінфармаваны.

— Так, ня добра! — заўважыў.— Вось-жа вы там кідаеце розныя туманныя тырады... І гэты верш, як ён там: «Зязюлька кукавала» ці што?

— Янка Купала народны паэт, узнагароджаны ордэнам!

— Так, усё гэта так. Але бывае ўсялякае і зь вельмі вялікімі людзьмі, што-ж казаць пра народных паэтаў?

— У вершы гэным няма нічога, што магло-б...

— Вы так пераканаными? Гэта даволі дзіўна, прыймаючы пад увагу ваш век. Я, напрыклад, знаходжу ў ім і вельмі шмат.— Ён узяў нейкі лісьцік паперы і пачаў: — Па-першае, высьмейваньне калгаснага будаўніцтва — адчыненае, яўнае. Вось нейкі Янка сеяў, а прышлі людзі і зжалі. Хіба гэта не намёк на беднату і не абарона кулака? Па-другое,

у той час, як Янка сеяў, зязюлька кукавала. Якая яна, гэтая птушка? А птушка яна такая, што не клапоціцца зрабіць сабе гнязда, а таму бяздомная. Хіба тут, у гэтай бяздомнай птушцы, не відавочны намёк на пралетарыят, вясковую беднату, ліквідацыю прыватнай уласнасьці на адной шостай зямной кулі? Не працуюць, ня дбаюць, а, як Янка пасее, сажнуць. Так, Янка Купала народны паэта, адзначаны ордэнам, пакінем яго ў баку, хай жыве сабе на здароўе, пакуль што... Але чытаць такія вершы публічна?! Адно толькі абляг-чаючае віну ёсьць ува ўсім гэтым тое, што вы нічога не схавалі, паведамілі пра ўсё, як было, і калі захочаце пакапацца ў сваёй памяці і ўспомніць тое, што зь вечарам ня зьвязана, але мае для нас вялікае значэньне, дык вам гэта дапаможа знайсьці правільны шлях у будучыні...

Як гэта ня дзіўна, Кузьма зарагатаў, зарагатаў ад усіх гэтых бязглуздых інтэнцыяў і выдумак. Падкаблук зірнуў на яго ўніклівым позіркам. Але тут быў усё-ж унівэрсытэт, і ён нічога лепшага не знайшоў, як толькі змаўчаць. Узяў ручку тэлефону, прыклаў да вуха. Ціха і доўга размаўляў зь некім. Потым таксама ціха зьвярнуўся да Кузьмы:

— Вельмі шкадую, але абавязаны параіць вам безадкладна зьявіцца ў вадну паважаную ўстанову на Савецкай. Вы, зразумела, дагадваецеся ў якую! Не палохайцеся, яна страшная толькі для дывэрсантаў, шпіёнаў, контррэвалюцыянэраў і падобнае брыды. Людзей-жа сумленных яна бярэць пад сваю апеку...

І ён пачаў тлумачыць, як патрапіць у гэтую ўстанову, куды для гэтага патэлефанаваць і да каго зьявіцца.

## III

Кузьма, не заходзячы ў інтэрнат, выйшаў. Ідучы, ён ня стаў разьбірацца ў тых супярэчнасьцях, якія хаваліся ў вапошняй заўвазе Падкаблука адносна паважанай установы. Ён спадзяваўся: там разьбяруцца. Страшная для дывэрсантаў, шпіёнаў. Ён-жа не дывэрсант, не шпіён, і не контррэвалюцыянэр. Яму ня можа пагражаць нічога благога. Тое, што тутака нагаварыў гэны крэтын, проста плюгаўства, на якое ня сьлед звярачаць увагі.

Увайшоў у пад'езд паважанай установы, знайшоў тэлефонную будку, набраў паданы Падкаблуком нумар. Яму нехта адказаў: — Трэба чакаць, выклічуць.— Добра, калі не сьпяшаюцца. Значыцца няма і ніякай небясьпекі. Проста

разьдзьмуханы пажар. Не сьпяшаюцца! Ён прайшоўся па прыймовай залі. Агледзеў сьцены з партрэтамі й лёзунгамі. Прачытаў на адным: «ЧК-ГПУ-НКВД — вартаўнік рэвалюцыйнай законнасьці». Што тут страшнага? Наадварот, вельмі добра. Якое-ж жыцьцё без законнасьці? Выглянуў праз акно, застаўленае кратамі. На двару ціха, нідзе ніякіх жахаў. І чыста, культурна. Як відаць, і напраўду больш выдумак пра гэтую ўстанову. Злыя языкі, таму што сьцірае з твару зямлі дывэрсантаў, шпіёнаў, контррэвалюцыю. Для іх можа быць страшная. Засьвістаў нейкі матыў, як свой чалавек у гэтай установе, і сеў на адну з лавак, што стаялі каля сьцяны і на якіх ужо сядзелі, галоўным чынам, чамусьці жанчыны. Якраз у гэты час акенца адчынілася, і яго выклікалі па імені й прозьвішчы.

Як толькі ён зайшоў за дзьверы, зь ім цацкацца ня сталі: скамандавалі падняць рукі ўгару і абшукалі кішэні. Потым прымусілі разьдзецца аж да ніжняе бялізны. Заглянулі ў рот, у вушы, між пальцамі рук і ног, пад пахі, між ног... Круцілі налева, направа, нешта сьпісвалі; глядзелі ў твар і ў вочы; зьмерылі і зважылі, ашчупвалі кожны рубец і кажны гузік у вопратцы. Урэшце, загадалі апрануцца. Ну, цяпер, мабыць, адпусьцяць. Але яго павялі ў нейкі калідор і загадалі чакаць, пакуль зноў ня выклічуць. Стаяла адна-адзіная лаўка, і ён сеў. Гумар ягоны адразу-ж зьнік. Абразьліва было ўспамінаць, як яго абшуквалі. Што-ж гэта? Выходзіць — арыштант?! Хацелася то плакаць, то крычаць, то ісьці ламаць дзьверы й вокны. Чакаў хутчэйшага выкліку, хацеў пратэставаць і спадзяваўся, што, можа быць, тады выпусьцяць. Але ніхто не прыходзіў. І наагул, у калідоры было зусім ціха, пуста, толькі час ад часу недзе далёка, мабыць у «амэрыканцы», аб існаваньні якой ён чуў, недзе там брынчэлі нейкія зялезныя запоры. Цяпер інтарэсы навукі, працы, адпачынку, сну і ўсяго іншага, чым жыў чалавек, адыйшлі на задні плян. Ламаў пальцы. Раптам яму стала зімна. Здавалася, на двары сьцюдзёны дождж ізь снегам, тады, як толькі што было цудоўнае надвор'е.

Ён сядзеў ужо гадзіну, другую, трэцюю... Ім ніхто не цікавіўся. І ад гэтага думкі находзілі самыя змрочныя. Урэшце ён падумаў: ці не ўцячы яму адгэтуль? І хай тады вырашае лёс. Ён паспрабаваў адчыніць адны дзьверы, якія, на ягоную думку, маглі-б вывесьці на вуліцу або куды-небудзь у цёмны кут двара. Але за дзьвярыма быў нейкі катух, у якім стаялі насілкі, а на іх ляжалі вымачаныя крывёю анучы, два ра-

менныя бізуны, цьвякі, малаток, а з боку стаяла вядро з вадой, таксама разбаўленай крывёю. Не пасьпеў ён зачыніць з агідай дзьвярэй, як з пакою насупраць нехта выйшаў і спыніўся ў яго за сьпіной. Кузьма так спалохаўся, што баяўся варухнуцца і азірнуцца. Але той, хто стаяў за сьпіной, хрыпавіта сказаў:

— Пайдзем!

Пакой, у які яго ўвялі, быў невялікі, але ён злучаўся з двума іншымі — налева й направа. Дзьверы ў іх былі адчыненыя. Каля адных зь іх, паставіўшы крэсла проста на праходзе, сядзеў зь вінтоўкай баец. Кузьма зразумеў, што цяпер яму адсюль ужо ня выйсьці, і ён мэханічна спыніўся на парозе. У другім пакоі, за вялікім сталом, заваленым справамі й паперамі, стаяў чалавек у вайсковай форме з маліневымі пятліцамі. Твару ягонага не было відаць, бо ён глядзеў у паперы.

Сонца ўжо вісела на кончыку дугі, якую яно робіць ад усходу да заходу. Крывавыя праменьні, ахварбаваўшы неба ў заходняй яго частцы, нацэліліся ў вокны. І ўсё ў гэтым пакоі — і людзі і рэчы — здавалася чырвоным, быццам залітым крывёй. Кузьма стаяў і чамусьці доўга глядзеў на кончык штыха — добра адточаны і таксама заліты сонцам. І яму здалося, што і з штыха сочыцца кроў...

Раптам той, у вайсковай форме, узьняў галаву, кароткім позіркам зіркнуў на Кузьму і як-бы засьмяяўся.

— Філёзав! — прамовіў.

І зноў панік у чытаньне папераў.

Прайшло хвілін пяць або дзесяць. Кузьма не варушыўся. Ногі ягоныя зьдзервянелі, у вушах зьявіўся шум. Ён адчуваў, што тоне, і яму хацелася крычаць аб дапамозе, як некалі ў дзяцінстве, калі ён сапраўды тануў.

— Ку-ку! — зноў адгукнуўся вайсковец.

І зноў апусьціў вочы ў свае паперы. Потым, ужо суво-ра, да байца:

— Ну, што-ж ён будзе стаяць? Адвядзі яго ў вадзіночку «амэрыканкі», хай там пакукуе!

## IV

Кукаваў Кузьма ў «амэрыканцы» досыць доўга, каля дзевяці месяцаў. Потым яго асудзілі завочна на пяць год Калымы. Адпрацаваўшы чатыры з паловай гады, справу ягоную раптам патрабавалі на перагляд. Што было прычынай гэтага, і ці на

карысьць яму гэта, ці на шкоду, Кузьма ня ведаў. Але калі яго пасадзілі ў вагон і павезьлі на захад, у яго, быццам-бы, зьявілася радасьць. Не таму, што ён спадзяваўся на нешта. Ён ужо пагадзіўся зь няшчасьцем, было дастаткова часу, каб зразумець, што маладое жыцьцё ягонае пакалечанае, зламанае, і цяперака, каб навет выпусьцілі, яму ўжо ня ўзьняцца, не папасьці зноў у ўнівэрсытэт, не заняць адпаведнага месца ў жыцьці,— заўсёды і ўсюды над ім будзе цяжэць гэтае «рэпрэсаваны». Але, так ці іначай, ён едзе ў родныя мясьціны, дзе цьвітуць яблыні й цудоўна сьпяваюць птушкі, дзе жыцьцё выкавала яму душу. З вакна вагону ён спадзяваўся ўбачыць родныя хаткі, крытыя саломай; палі, па якіх бегаў босым; рэчкі й ручаі, у якіх ныраў у пошуках рыбаў; лясы, у якіх лазіў па дрэвах і зьбіраў ягады. Спадзяваўся пачуць родную гаворку. Пасьля дзікай Калымы гэта было так шмат!

Выгляд у Кузьмы быў больш чым сумны: высах, пачарнеў, згорбіўся, нягледзячы на свае дваццаць шэсьць год. Залягло ў вачох цяжкое ўпакарэньне, і калі-б яго цяперака ўбачыла маці, яна магла-б не пазнаць. Навет чэрап, і той быццам набыў іншую форму: занадта выпукаў ззаду, над шыяй, і хаваўся пад валасы сьпераду, што рабіла яго нізкім. Галіцца ў вязьніцы, а потым у ссылцы не было ніякай магчымасьці, і ён разы два-тры на год бараду падпальваў, каб стала карацей. Ад гэтага яна хоць і губляла ў колеры, але расла значна гусьцейшая і лепей абараняла ад сьцюжы.

Падарожжа працягвалася больш месяца. Яно было зьнясільваючым, галодным і халодным, нягледзячы на вясну, але стан ягоны ўсё-ж не пагаршаўся. Калі-ж яго прывезьлі ў турму, у родную, як ён яе называў, і зусім павесялеў. Страшэнных допытаў яму не прадбачвалася — ён усё гэта перажыў ужо, на цяжкія працы не ганялі, ежа й абыходжаньне лепшыя, чымся ў лягерах. І, калі-б у камэры было хоць крыху вальней, ён палічыў-бы гэта за шчасьце да канца сваёй адседкі.

...Была ціхая раніца. За вакном чылікалі вераб'і. Падагнуўшы каленкі сабе пад жывот, бо ногі выцягнуць не было куды, Кузьма ляжаў у найдалейшым куце камэры. Усе яшчэ спалі, таму што было зусім рана, толькі ўзышло сонца, якога, праўда, адсюль не было відаць. У камэры стаяла цяжкое паветра, хрып. Час ад часу нехта блюзьніў скрозь сон, капашыўся, стараючыся выпрастаць адлежалую руку ці нагу, паскрабсьціся пад лахманамі.

«Жыць стала весялей...»
«Я другой такой страны не знаю,
Где так вольно дышит человек!»

Пэўна таксама думалі аб гэтай «стране» Аракчэеў і Мураўёў? Але чыліканьне вераб'ёў перашкаджала Кузьме думаць. І тады, як і заўсёды, як толькі заставаўся сам-на-сам, пачаў успамінаць родны кут, грушу пад вакном, дзяцінства. І там яны таксама ў гэты час праводзілі свае дыскусіі. Як даўно гэта было! І, здаецца, так нядаўна! Гэта-ж толькі ўчора прыходзіла маці пераканацца, ці мякка будзе спаць? Так, старэнькая! Мабыць, і цяперака яшчэ кладзе падушку з надзеяй: авось прыдзе! Ці жыве яшчэ? І наагул, ці ўцалела што: можа ўжо і ні хаты і ні вёскі навет? Раптам за вакном стрэл. Куля, ударыўшыся аб цэглу муру, прасьвісьцела ў паветры. Вераб'і ўсёй сям'ёй адляцелі. І ўсьлед за тым пачуўся енк з жаночага аддзелу. З чаго-б гэта? Хіба жанчына можа зрушыць гэтыя цяжкія краты? Ніколі, здаецца, гэтага не было? Але тут-жа ўспомніў: заўсёды так было, калі хто падыймаўся да вакна.

Прайшлі хвіліны. Вераб'і, адзін па аднаму, зноў занялі свае месцы. Шчасьлівыя: ім вось можна адлятаць і прылятаць. Сярод іх няма падзелу на добрых і злых, актыўных і пасыўных, бальшавікоў і небальшавікоў. Усе роўныя і ўсе вольныя. У гэты час за сьцяной пракацілася аўта. Кінуўшы думаць пра вераб'ёў, Кузьма стаў прыслухоўвацца: стане яно тут ці ня стане? Калі стане, значыць прывезьлі, як заўсёды ў гэтую пару, новых арыштантаў. Але шум аўто пакрыў новы — ішоў недзе цягнік. Цік-так-так! Гу-гу! Давай дарогу! Кузьма забыўся пра аўта і пачаў думаць пра цягнікі: вось, можа быць, ідзе цэлы транспарт туды, у тайгу, на Калыму... А можа, едуць людзі, хто куды хоча. Але ўсёроўна:

«Усе чатыры стараны
Для цябе адкрытыя.
Прыляцелі вораны
І калы ў магілу ўбітыя...»

Гэта ягоныя вершы, якія ён пісаў і завучваў напамяць у ссылцы. Так, калоў над магіламі панаўбівана ня сотні і ня тысячы. Калі высякчы пару дзесяткаў гэктараў лесу, яго не хапіла-б. Калы і калы — ударная работа сьмерці. І найбольш «малодшых братоў», Беларусаў, Украінцаў...

Вераб'і чылікалі...

Але вось вясна. І добра ўсё-ж, што тут, а ня там, калі навет і кол... І яму палка, амаль да сьлёз, захацелася пабываць на волі. Лонкі цяперака,— як прыгожа яны ўбраныя? І на рэчцы плаваюць, як на талерках, жоўтыя і бела-ружовыя гарлачыкі. Вось і разважайце, што такое шчасьце?! Скінуць-бы свае анучы і акунуцца, нырнуць туды, а потым ужо хоць-бы і гэны кол... Шум цягніка зьмяніўся шумам самалёту, які, праўда, ляцеў недзе далёка або дужа высока. Кажуць: высока лятаюць шчасьлівыя. Яму хоць-бы ўзглянуць на прастор, які адчыняецца адтуль, з вышыні, і потым параўнаць, як цесна тут воку! А так вось і памерці можаш за гэтымі сьценамі, нічога ўжо ня ўбачыўшы...

Раптам грукнуў страшэнны выбух — такі страшэнны, што замкі заскрыгаталі ў вязьнічных дзьвярох, як лютыя зьверы зубамі, і, здавалася, пахіснуліся самі муры. Каб гэта адбывалася ня ў СССР, можна было-б падумаць, што падкладзена міна. Тут такая магчымасьць выключаная. Усьлед за першым пачуўся выбух другі, а потым трэйці... Змоўклі за вокнамі вераб'і. Вапна ад столі ўбяліла падлогу. Вязьні раптам паўскаквалі, трывожна аглядаліся.

— Што такое?

— А трасца яго ведае — нейкі выбух!

— Які там выбух — з гарматаў сьцябаюць!

Праўда, цяпер ужо зусім выразна «сьцябалі» з гарматаў, зацяўшы ў пярсьцёнак места (ува ўсякім выпадку, так здавалася). Жалобным выцьцём уздымалі трывогу сырэны.

— Практыкаваньні, на ворагаў усё шыкуюцца!

Прайшло з паўгадзіны. Увесь гэты час гарматы стралялі безь перапынку, і было чуваць кружэньне самалётаў. Заціснутыя сярод сьцен, вязьні не маглі нічога зразумець — стаялі, слухалі, адзначаючы кожны гук, кажнае патрэсканьне мुроў, і выказвалі свае меркаваньні.

— Практыкуюцца забіваць людзей...

— Ня нам судзіць! Мне-б вось вырвацца найхутчэй адсюль... Зусім задарма ўскочыў... Нехта зацягнуў расейскую песьню:

«Понапрасну, Ванька,
ходишь,
Понапрасну ножки бьешь,
Ничего ты не заслужишь,
Дураком домой пойдешь...»

— Хай-бы сабе і дурнем, абы вярнуцца...

— Аняго! Так табе і адчыняць дзьверы — сюды лёгка, а адсюль?

— Я і кажу: згінеш тут, у гэтых сьценах!

— Ня мудрона! Вязьніца не курорт, сала тутака не загадуеш!

— А вось-жа вытрымліваюць і па некалькі год. Бачыш, там сядзіць адзін,— паказалі на Кузьму,— на Калыме пяць год ужо адбарабаніў...

— Так. Але які вярнуўся?

У гэты час тупат ног на калідоры, бразганьне зялезных запораў, крык:

— Выходзь! З рэчамі выходзь!

— Рэвалюцыя? — прамовіў нехта.— Або вайна?

— Пастраляюць каты! — прарочыў адзін, жыцьцё якога і так вісела на валаску, бо пад пабоямі мусіў «прызнацца» ў самым цяжкім, у шпіёнстве.

Ляснуў замок.

— Выходзь! Выходзь з рэчамі! Не затрымлівай!

Усе пасьпешна кінуліся ўніз. Каля сходаў стаяў вартавы і кажнага ўзнагароджваў прыкладам. Кузьма быў ужо дасьведчаны ў гэтай справе і праскочыў у яго за сьпіной. Пры выхадзе на двор яго нехта схапіў у вабдымкі.

— Кузьма, браток!

Той азірнуўся — перад ім стаяў Орлік.

— Жыў?

— Жыў! Як тамака?

— Дрэнь...

— А цябе за што?

— Ды ўсё-ж па тваей-жа справе! Прынамсі, так дагадваюся з пытаньняў сьледчага...

Кузьма наморшчыўся: няпрыемна было слухаць «па тваей-жа...» Але, разам з тым, высьветлілася, чаму справу патрабавалі на перагляд.

— Пачакай, тут недзе Алесь,— сказаў Орлік. І пачаў клікаць: — Алесь, Алесь!

З натоўпу выйшаў Баравік. Зьбялелы й змучаны, ён быў не падобны на сябе.

Глядзеў на Кузьму і таксама не пазнаваў.

— У яго пры допытах пашкоджаны рэбры,— зазначыў Орлік.

Кузьма сьціснуў у сваіх абдымках Алеся, адчуваючы, як нейкая цяжкасьць спадае ў яго з сэрца. Да суду ў вязьніцы, а потым пасьля суду ў ссылцы ён усё журыўся, што

праданы сябрамі. Думаў: можа быць, і так! Зайздрасьць, хвілёвая крыўда, жаданьне выслужыцца, стаць больш прыкметным маглі паслужыць спакусай. І да сэрца падступала цяжкая роспач, асабліва тады, як яго штурхалі прыкладамі. Але цяпер Кузьма якраз адчуваў сябе вінаватым і перад Алесем...

Людзей усё яшчэ праганялі цераз прыклады.

— Куды-ж нас, куды? — енчыў спалохана Алесь.

— Трымайцеся мяне! — казаў Кузьма.— Я ў гэтых справах ужо маю дасьведчаньне.

Ад варот пачуўся крык:

— Станавіцеся па тры! Чаго стаіцё, як стада бараноў?!

— Ды няго-ж хто? Зразумела, стада! — працадзіў амаль дзяціным галаском нейкі чалавечак у вялікіх вайлаках, нягледзячы на сьпякоту.

Пачалі станавіцца. Усе ўтрох сталі разам. Але хутка зьявіўся начальнік канвою. Зьяўленьне яго выклікала страх ува ўсіх палітычных. Гэта быў «Нэрон» — прыземісты, моцны, напорысты. Як не адгараджваецца НКВД усемажлівымі таямніцамі, і ў месьце, і ў вязьніцы ведалі пра яго шмат. Напрыклад, што ён лічыў сябе майстрам выконваць сьмяротныя прысуды. У тыя дні або тыдні, калі гэтакая праца адсутнічала, ён нудзіўся, ня еў, сядзеў панура ў сваім куце. Закідаў навет свае іншыя абавязкі — аднаго з камэндантаў. Некаторыя меркавалі, што ён заўсёды пад уплывам алькаголю. Ня праўда. Алькаголю ён зусім не прымаў, а карыстаўся какаінай. Уцягнуўся ў яе з дазволу лекара, які праводзіў у вапошнюю дарогу сьмяротнікаў. Першая праца ніяк не выходзіла чыста. Ён нэрваваўся, наган дрыжэў у ягоных руках. Вось тады лекар і падсунуў яму парашок. Пазьней ён атрымаў на какаіну санкцыю і карыстаўся ёй афіцыйна.

Як толькі Нэрон даведваўся, што ахвяра ўжо замкнутая ў вадзіночку, да яго вярталася жыцьцё. Ён ішоў у камэнданцкую даведацца аб часе катаваньня. Потым зь вялікім апэтытам зьядаў сьняданьні, палудні й вячэры, як марак перад штормам. Быў вясёлым, жартаваў зь людзьмі і забаўляўся з жонкай. Ці ведала яна пра ягоную працу? Можна дапусьціць, што ведала, бо Нэрон зусім ня лічыў сваю працу горшай за другую, наадварот, пераканаты чэкісты, ён навет ганарыўся ёю: не ўсялякі навет партыец заслугоўвае такога даверу.

Справу сваю ён узапраўды ведаў дасканала. Усіх тых, каго прыходзілася ліквідаваць, ён падзяляў на тры катэгорыі. Першая — гэта тыя, што з моманту ўзяцьця іх з камэры

сьмерці гублялі ўсялякую волю над сабой і, па сутнасьці, ужо ня жылі. Зь імі ён канчаў хутка: выцягнуўшы з машыны, настауляў наган у чэрап і націскаў на курак. Другая — гэта гістэрыкі, што ў апошнюю хвіліну пачыналі плакаць, кусаліся, кідаліся. Зь імі ён быў як-бы мяккім, навет як-бы чалавечым.

— Станьце, я аблягчу вашыя пакуты! — казаў.

Але ніякага жалю ў яго, зразумела, не было, ён гэтых ненавідзеў. І ў той час, як яны ўставалі, падводзіў вочка нагану і канчаў. Трэйцяя — гэта волявыя характары. У дачыненьні да іх ён перажываў пачуцьці, падобныя тым, што бываюць пры змаганьні. А калі так, дык усё-ж зьяўлялася ў ім нейкая іскарка, хаця-б сабе садыстычная. Ён выводзіў іх з аўта, ставіў на пэўнае месца і пачынаў нацэльвацца. Калі ахвяра скрыгатала зубамі і крычала ў шаленстве: «Ну, страляй-жа, сабака!» — адводзіў наган. Так прарабліваў некалькі разоў, даводзіў да газарту і сябе і ахвяру. Потым ужо нацэльваўся, як належыць, і спускаў курак. У момант, калі лекар зьяўляўся канстатаваць сьмерць, сядзеў у аўта і спакойна пакурваў.

Вось гэтай істоце ўцякаючыя галаварэзы з НКВД і даручылі эвакуацыю дому прымусовага адпачынку.

Як толькі ён зьявіўся на дварэ вязьніцы, гудзеньне галасоў замянілася шэптам:

— Нэрон! Нэрон!

Глядзелі на ягоны крыху рабаваты твар зь вялікім носам, загнутым, як у савы. Страх у некаторых быў настолькі вялікі, што яны стаялі белыя, як палатно.

— Што гэта будзе? Што гэта будзе?

Халодным, як сталь, зрокам Нэрон павёў па натоўпе.

— Адыйсьці ад сьцяны! — крыкнуў.— Стаць па тры: контра асобна, шпана асобна!

Да яго падскочыў баец і пачаў нешта гаварыць. Нэрон махнуў рукой. Кузьма добра ведаў, што ў няволі крымінальным лепей, чымся палітычным,— менш прыпадае ўдараў прыкладам.

— Куды я, туды і вы! — шапнуў сябрам, становячыся да крымінальных.

Калі мужчыны былі ўжо пастаўленыя і пачалі выводзіць жанчын, Нэрон меў кароткую прамову.

— Вы, контра сусьветная, такую вашу і растакую!.. Я з вамі цяпер распраўлюся! Я цяпер для вас і судзьдзя і міласьцівец! Калі хто адважыцца даваць драпача, усіх пастаўлю пад

сьценку! Пастраляю як сабак! Зразумелі? Слухайце далей: хто ліча сябе нявінаватым — гэта датычыць тых, што пад сьледзтвам,— пяць крокаў наперад! Хто хоча на волю, таксама пяць крокаў наперад!

Здавалася, пастка была зусім простай, але тут людзі аказаліся настолькі наіўнымі, што некалькі зь іх выступіла наперад, як загадваў начальнік. Гэта былі, галоўным чынам, навічкі з Заходняй Беларусі.

— Адвядзіце іх у тыл двара! — загадаў Нэрон байцом. Павялі, і потым пачулася некалькі стрэлаў.

Натоўп замёр. Некаторыя потайкам перахрысьціліся.

— Вызвалілі! — уздыхнуў Кузьма.

Алесь дрыжэў і стукаў зубамі.

Калі былі выведзеныя і жанчыны, іх таксама пачалі ставіць паводля таго-ж прынцыпу: контра асобна, крымінальныя асобна. Розьніца была толькі ў тым, што цяжарных ставілі асобна. Нэрон аглядаў усіх, заходзячы то сьпераду, то ззаду. У ваднае не аказалася дастатковых адзнакаў. І выгляд у яе быў яшчэ зусім сьвежы. Было відавочным, што яна тут усяго толькі некалькі дзён, узятая згодна загаду аб «изъятии подозрительных лиц» з прычыны вайны.

— Як на ймя?

— Мар'я.

— Ага, Марыя, прасьвятая дзева... За што ўляцела?

Тая паціснула плячыма.

— Ня ведаеш?

— Не.

— Прафэсія?

— Настаўніца,— адказала.

— Нацдэмка! Два крокі наперад!

Нэрон паклікаў байца.

— Вядзі ў лазьню, калі хочаш,— ёй-жа цяпер усёроўна!

Баец глядзеў на начальніка.

— Ну, чаго стаіш — вядзі!

Баец пагнаў жанчыну штыхом. Нэрон заставаўся некаторы час на месцы, аглядаючы яшчэ раз апошніх. Потым пашоў усьлед за байцом. Празь некалькі хвілін пачуўся стрэл.

Калі вярнуліся, ужо ўсе стаялі ў радох. З паўсотні байцоў, наставіўшы штыхі, абкружалі іх.

— Яшчэ гэтых у тыл двара! — паказаў Нэрон на групу цяжарных.— Усё-ж роўна прыдзецца ў дарозе ліквідаваць...

Адвялі...

Напасьледак вароты адчыніліся.

## V

...Места гарэла. Гарэла страшна, цэлым морам агню, як могуць гарэць у сухую пагоду напалавіну драўляныя гарады. Будынкі, тэлеграфныя слупы, электрычныя кабэлі, асфальт — усё плавілася й шугала полымем. Агонь перакідаўся з будынку на будынак, з вуліцы на вуліцу, працягваючы жоўтыя языкі туды, дзе яшчэ не гарэла. Ляцелі ўніз галавешкі, валіліся цэлыя сьцены. Неба счарнела і, здавалася, абвісла, спаўзло ўніз, закрываючы сонца. Вось па гэтых пылаючых, напоўненых жарам і дымам, вуліцах іх пагналі на ўсход — бягом, без затрымкі.

Напасьледак вышлі з пажарышча. Бег зьмянілі на шаг, але сілы ў шмат каго забракла. Адзін вязень паваліўся. Да яго падскочыў Нэрон.

— Зь якой калёны?

— Палітычны, прыстрэльце, калі ласка...

І зьняволены, сьцяўшы зубы, уткнуўся ў пясок тварам. Нэрон павольна выняў наган, нацэліўся ў галаву і выстраліў. Спакойна паклаў наган на месца і паскакаў уперад. Праходзячы міма забітага, зьняволеныя ўкрадкам здымалі шапкі й хрысьціліся.

Алесь усё стагнаў:

— Куды-ж нас? Куды?

— Маўчы! Маўчы — бачыш?

— Не, гэта не рэвалюцыя, гэта пэўна вайна...

Але запытацца не было ў каго: жыхары пакінулі места, пахаваліся...

Апынуліся за горадам. Крымінальных сьцераглі ня так пільна, як палітычных, і рады іхныя значна парадзелі. Гэта яшчэ горш злосьціла канвой супроць палітычных. Нэрон скакаў з канца ў канец расьцягнутай на кілямэтр калёны, і час-ад-часу чулася траскатня аўтамату й нагану.

Па паўдні сонца прыпякло. Пыл засланіў небасхіл. Даймала прага, а да студняў, якія спатыкаліся па дарозе, не пускалі. З учарайшага дня таксама нічога ня елі. Аслабелых зьявілася больш, і стрэлы чуліся часьцей. Алесь так мучыўся, што жыцьцё для яго згубіла ўжо каштоўнасьць. Ён прасіў сяброў:

— Дайце мне памерці! Дайце мне памерці!

Становішча ўскладнялася яшчэ тым, што Кузьма ішоў босы. Абутак ягоны, чырвонаармейскія старыя чаравікі, атрыманыя яшчэ на Калыме, канчаткова разьбіліся, і ён іх

выкінуў. Гарачы пясок паліў яму ногі, жвір раніў іх да крыві. Кузьма стараўся ступаць ня ўсёй ступнёй, а толькі той яе часткай, якая менш балела. Гэта пазбаўляла яго цьвёрдай апоры, а трэба было яшчэ цягнуць і Алеся. Яны апынуліся ў хвасьце ўжо досыць далёка. На шчасьце, Нэрон быў нейдзе ўперадзе — ззаду рухаліся толькі некалькі байцоў, падганяючы або расстрэльваючы тых, хто аставаўся. Раптам Алесь апаў на дол, ня маючы магчымасьці трымацца ў вертыкальным стане. І якраз у гэты момант скакаў да іх Нэрон. Спалохана пачалі падымаць Алеся. Але самі былі зьнясіленыя, і той раз-па-разу высклізаў з рук.— Як улагодзіць гэтага чалавека? — думаў Кузьма аб Нэроне.

— Як яго ўміласьцівіць? — Абраз расстрэлу ажыў перад яго вачыма, і яму самому рабілася кепска. Алесь! Ён-жа таксама невінаваты, як і я! Сэрца ня знойдзе супакою. Нагнуўся над Алесем, стараючыся абхапіць яго за плечы і паставіць на ногі. Орлік дапамагаў з другога боку. І ў гэты час падскочыў Нэрон.

— Вперед! — крыкнуў ён.

— Кузьма ўраніў сябру, выпраставўся і з благаньнем паглядзеў на начальніка.

— Дазвольце глыток вады — з чалавекам нядобра! — сказаў.

— Вперед!

І Кузьма і Орлік апусьцілі рукі, але ўсё-ж зь месца ня рушыліся, засланяючы сабой ляжачага на пяску сябру.

— Контра? — раптам спытаўся Нэрон.

— Крымінальныя! — зь нейкім нутраным пад'ёмам ухапіўся за гэта Кузьма.— У дошку свой...

— Памылкова залез не ў сваю кішэню... усе ўтрох накрытыя на месцы...

Веданьне блатнога жаргону, як відаць, пераканала Нэрона, і рука ягоная з нацэленым на Алеся вочкам нагану пасьлізнулася ўніз.

— Калі-б контра, самі коцнулі-б, не чакаючы помачы «архангела»,— дадаў ужо сьмялей Кузьма.

Жорсткія людзі заахвочваюць жорсткасьць і ў іншых, і Нэрон фыркнуў, быццам конь у сьпякоту.

— Упал, лучше всего облегчить его выстрелом...

І вочка зноў пачало падымацца ўгару. Кузьма і Орлік не адводзілі зроку ад гэтага кружка, у якім таілася сьмерць.

— Страляй тады ўжо ўсіх трох, Нэрон! Можна сказаць, аднэй цыцкай выкармлены.

І Кузьма сарваў з галавы шапку, як-бы падстаўляючы лоб пад люфу нагану.

Мянушка — Нэрон, як відаць, падабалася начальніку, і ён гучна зарагатаў. Потым паклаў руку на кабуру. Кузьма заплюшчыў вочы, але стрэл не наступіў...

— Паехаў? — спытаў Алесь, на гэты раз зусім бязудзельна.— Але на што вы мяне мучаеце?

Орлік у гэтыя дзьве-тры хвіліны амаль ня жыў. Сэрца, здавалася, некуды адляцела і ў галаве не было ніякіх думак. Калі-ж пачуў голас Алеся, увесь уздрыгануўся.

— Зразумей, чалавек за цябе ахвяраваў жыцьцё! — крыкнуў.

— Ён хворы! — ціха сказаў Кузьма.

— Вы жадаеце, каб я ішоў... у імя дружбы?

— Калі ты ня можаш ісьці, мы цябе панясём.

— Добра, я пайду!

Ён падняўся, але хутка пачаў зноў ападаць. Сябры яго падхапілі — адзін з права, другі зь лева.

— Ну, вось так, Алеська,— загаварыў з ласкай Кузьма.— Цяпер абхапі меня за шыю левай рукой, а Орліка правай.

Калі Нэрон параўняўся зь імі зноў, скачучы да галавы калёны, яны ўжо амаль дагналі астальных. Зьняўшы шапку, Кузьма ў нейкай экстазе ўзьняў свой худы твар да неба. Уздыхнуў. І ў гэты мамэнт адчуў: наўкола іх адбываецца нешта надзвычайнае; адна хвіліна можа прынесьці сьмерць, але гэтая-ж хвіліна можа даць ім і волю. Падбадзёрваў Алеся, ведаючы добра з дасьведчаньня, што гэта найлепей захоўвае сілы.

— Вось, ужо хутка, ужо хутка... Ты, чуеш, Алесь, як нейдзе грукочуць панцыры? Гэта-ж рухаецца фронт, і тады... Адступаюць! Ты-ж дагадваешся й сам, што адступаюць? Алесь, можа быць, праз паўгадзіны мы будзем вольныя?! І вось калі-небудзь зьбярэмся і будзем сьмяяцца з усяго гэтага... Так! Мы рухаемся павольна, а фронт увесь час даганяе. Таму і расстрэльваюць... Зразумей!

— Фронт ідзе, кажаш? А хто ідзе?

— Хто-б ня йшоў, нясе нам волю...

— Ціха, нешта адбываецца ўперадзе!

Запраўды, калёна нечакана тузанулася ўбок, і ўсьлед затым пачаўся трэск кулямётаў.

— Мабыць, расстрэльваюць усіх упокат...

— Не, нешта іншае. Калёна павярнулася назад. Так, назад ідуць! Праз хвіліну-дзьве насустрач ляцела аўта з дву-

ма вайсковымі тузамі ў ім. Пыл засланіў усё. Калі напасьледак небасхіл адкрыўся, паказаўся ўсхваляваны Нэрон, які размахваў наганам і крычаў:

— Назад!.. Верни с шоссе... Постреля-я-ю!

Але дарожка была вузкай, жыта па бакох яе высокім, і зьняволеныя, паварачваючыся, губляліся ў ім з галавой. Па іх секлі аўтаматы канваераў.

— Дэсант уперадзе! — у адзін мамэнт пранеслася па натоўпе.

Орлік і Кузьма, сабраўшы ўсе свае сілы, выкарысталі мітусьню, каб адарвацца ад калёны. Як толькі яны апынуліся ў жыце, страшны абраз зьнік. Чуліся толькі крыкі:

— Вярні!.. Пастраля-я-ю!.. Тррр!..

Але кулі ляцелі некуды далёка, бо скачок быў зроблены ў бок, супрацьлеглы таму, куды скіроўвалася калёна.

Ляглі. Калі калёна, мяркуючы па рухах, крыху аддалілася, папаўзьлі. Але сілы не ставала. Алесь пачаў губляць сьведамасьць. Яго трэба было рухаць неяк на руках. Праз кажныя дзесяць шагоў адпачывалі. А недалёка, адкуль павярнула калёна, адбывалася бойка: трашчэлі кулямёты, бухалі, гарматы і, быццам каршун, кружыў самалёт. Выбухла бомба, як відаць, скінутая самалётам. Зямля варушылася пад нагамі. Потым самалёт павярнуў да іх, ляцеў над шашой, па якой маглі рухацца часткі чырвонага войска. Калі ён пралятаў над галавой, яны бачылі чорныя кругі, а ў іх адзнакі чужой дзяржавы. Іх гэта не палохала,— толькі адпаўзьлі далей ад дарогі. У канцы жыта адчынілася лонка. Вады ў ёй ня было, але мох утрымліваў вільгаць. Яны падалі ў яго і пачалі доўга і прагна смактаць. Алесю стала лягчэй. Кузьма і Орлік ляглі ў траву.

Кузьма ўсё яшчэ ня верыў, што гэта вызваленьне. Хутка пяць год, як яго арыштавалі. Успомніў Падкаблука, абраз якога быў да гэтага заслонены больш агіднымі тыпамі. Увесь гэты час кажны ягоны рух кантраляваўся. Паспрабаваў падняцца — і яго ніхто не спыніў. Паваліўся тварам на зямлю і пачаў удыхаць ейныя пахі. Потым запусьціў пальцы ў траву, нібы баючыся, што яго ад яе адарвуць. І, як жывая, паўстала маці.

— Як-жа зрабіць, каб яе не спалохаць? — падумаў.

Орлік заўважыў:

— Як-бы я цяпер хацеў спаткацца з сваім сьледчым і з гэтым начальнікам канвою!

— З Нэронам?

— Не, з гэтым...

— Ну, гэта і ёсьць Нэрон! — растлумачыў Кузьма.— Ды, здаецца, і ў месьце яго іначай не называюць.

Пачаў глядзець у неба. Там плылі лёгкія белыя воблачкі.— Якое шчасьце карыстацца з волі! — падумаў. Потым да Орліка:

— Не, дружа, я нічога не жадаю; атрымаў усё, чаго жадаў...

І ён закрыў вочы і доўга ляжаў так моўчкі.

Бойка цягнулася нядоўга — хвілін дзесяць, пятнаццаць. Самалёт зьнік. Ужо даўно заціх і рух калёны. Цяпер можна было паглядзець, што робіцца наўкола. Падняліся з травы: нідзе ніякага жыльля не было. А есьці і піць хацелася жудасна. Кажны трымаў у руках пучок моху і высмоктваў зь яго вільгаць. Калі-б жыта было сьпелым, можна было-б падмацавацца каласамі. Але яно толькі пачало наліваццца. Ірвалі і елі шчаўе. І зноў ляжалі ў траве, бо ногі млелі і слабелі. Алесь увесь час спаў. Твар ягоны стаў жоўта-зялёным, пад вачыма апухліна й чорныя кругі. Дыхаў цяжка і няроўна.

(...) — Ляжу і думаю,— раптам прамовіў да Орліка,— воля можа быць куплена толькі няволяй! Вось чаму ім так добра сходзяць справы там, за мяжой. Людзі, якія не жылі тут, ніяк ня могуць зразумець нас. Пяць год, як я травінкі ня бачыў! За што?

Раптам з таго боку, дзе праходзіла шаша, з жыта выйшаў чалавек. Ад яго клаўся на траву доўгі цень. Было відавочным — гэта вайскавік. З правага боку каля пояса навет тырчэла кабура. Кубікі на пятліцах сьвяціліся ружовым блескам. На грудзях паблісквалі нейкія адзнакі. Кузьма і Орлік пасьпешна схаваліся ў траву, але чалавек усё-ж іх заўважыў; ішоў да іх, трымаючы руку на кабуры.

— У выпадку чаго, трэба яго абяззброіць! — заўважыў Орлік.

— Голымі рукамі? — запратэставаў Кузьма.

— Навет і голымі! — становўка адказаў Орлік.— Лепш памерці ў змаганьні, чым зноў трапіць у іхныя рукі.

Але чалавек, падышоўшы бліжэй, гучна і пасяброўску засьмяяўся.

— Арыштанты? — запытаў, водзячы па іх зрокам.

Сябры маўчалі.

— Не палохайцеся! Такімі тут перапоўнена жыта... і жывымі, і мёртвымі...

Чалавек перасунуў пас з кабурай за сьпіну і сеў каля іх.

Яму было год каля трыццаці пяці. Бялявы, лейтэнант, з ордэнам Леніна на грудзях. Сінія вочы глядзелі спакойна і ласкава. Шырока раставіў ногі, непамерна доўгія параўнаўча з тулавам. Апусьціў галаву; ад гэтага фігура набыла некаторую сутуласьць. Прамовіў зноў:

— Разьбегліся ўсе: арыштанты і не арыштанты, генэралы і байцы, сябры партыі й беспартыйныя. А ЦК КП(б)Б на чале з сакратаром Панамарэнкам ганебна ўцёк першым. Дваццаць тры гады балбаталі аб абароне, умацоўваліся, ачышчаліся, зьнішчалі ворагаў, замыкалі граніцу на замок, будавалі танкі й адлівалі гарматы, а разьляцелася ўсё зноўжа за дваццаць тры гадзіны ад першага-ж удару. Арміі няма — пайшла ў палон. Прабіваюцца ў тыл толькі паасобныя часткі. Гарматы й танкі ляжаць на дарогах. Самалёты згарэлі на аэрадромах! — Павольным позіркам зірнуў на ўпрыгожаныя ордэнамі грудзі. Раптам даўгаватыя пальцы скорчыліся, як у драпежнай птушкі, і ён шпаркім, можа быць, нечаканым навет для самога сябе рухам учапіўся за ордэн Леніна.

— Чортава бляха! — выкрыкнуў.

Адарваў ордэн, сагнуў яго, зламаў і кінуў у балота.

— Колькі пакутаў прынёс мне гэты кавалак бляхі!

Змоўк. Цяпер яго ўжо не баяліся. Орлік зацікавіўся:

— За Фінляндыю, мабыць, узнагародзілі?

Лейтэнант узьняў вочы і доўга глядзеў на яго, быццам не разумеючы, аб чым пытаюцца.

— Так, за Фінляндыю! — адказаў напасьледак.

Задзёр на жываце кашулю. Паказаўся вялізны сіняваты шрам.

— Шрапнэль! — прамовіў.

Закасаў рукаво на правай руцэ.

— Куля!

Зьняў абодвы боты, паказваючы пакрамсаныя ікры галеняў.

— Таксама шрапнэль!

Зноў змоўк.

— Досыць, наваявалі! Прабіваюся да сваіх, дамоў...

— А вы адкуль?

— З-пад Менску.— Шукаю жонку зь дзіцем, была недалёка тут на летнішчы. Хто ведаў, што так хутка вайна? — Зноў маўчаў.— А гэта што — хворы?

— Так, у яго на допытах пашкоджаны рэбры...

— Так, ламалі рэбры і ламаюць. Колькі з гэтай няшчас-

най Беларусі пагінулі ў вязьніцах, на Калыме, за Уралам?
Раней, за царамі, ехалі самі ў пошуках вольнай зямлі і ска-
рынкі хлеба, ехалі й паміралі, як мухі, у дарозе. А цяпер як
кулакоў, нацдэмаў, непажаданы элемэнт з пагранічча... Па-
літычныя? — запытаў празь некаторы час.— Пэўна, з студэн-
таў? Сярод іх усё раскрывалі ўсякія змовы...
— Студэнты,— адказаў Орлік.— Ён вось,— паказаў на
Кузьму — адпарыўся каля пяці год на гэтай самай Калыме,
увесну патрабавалі справу на перагляд, і нас прышылі...
— Ага, разумею! Доказаў не было, успомнілі старое...
Прачнуўся Алесь.
— Нядобры выгляд у яго,— заўважыў лейтэнант.
І, адшпіліўшы ад пояса торбу, зазірнуў у яе.
— Што-ж вы зь ім мяркуеце рабіць?
— Як-небудзь дабірацца да сваіх.
— Далёка?
— Мае бацькі кілямэтраў за сто адсюль,— сказаў
Орлік.— Яго,— паказаў на Кузьму,— трохі бліжэй, сам-жа
хворы — зь Віцебску.
— У Віцебск не дабярэцеся — гэта відавочна. Да каго-
колечы з вашых сваякоў. Але ці даведзяцё? Яму-ж перш-
наперш патрэбна апэрацыя, калі рэбры запраўды палама-
ныя.
— Тут, недзе недалёка, ёсьць торфзавод,— адказаў Ор-
лік.— Там у мяне знаёмы лекар.
— Так, торфзавод імя Ва-ара-ашылава, кілямэтраў за
дванаццаць. Але як вы да яго з хворым дабярэцеся?
— Небясьпечна?
— Небясьпека, бадай, мінула,— хіба толькі Немцы мо-
гуць патрывожыць, напрыклад, да закапваньня трупаў, якімі
ўсеяны дарогі...
Орлік пачаў расказваць, як цяжка ім было ў дарозе і як
хацелі Алеся прыстрэліць.
— Так, б'юць нас, б'юць! — уздыхнуў лейтэнант.—
Гэтая вайна адчыніла мне вочы: Менск гарыць, гараць гара-
ды і сёлы ад Бугу да Дзьвіны, Прыпяці й Дняпра!.. Каму
патрэбная вайна — нам? Ваююць Масква і Бэрлін!..
Меў звычай перарываць гутарку й думаць.
— І так будзе датуль, пакуль ня возьмем свой лёс у
свае рукі... Аддаю рацыю нашым нацдэмам, якіх раней не
разумеў; адгарадзіцца ад захопніцтва і з заходу і з усходу
неабходна...
Адкрыў торбу і выняў адтуль тэрмас зь нейкай вад-

касьцю, здавалася, цёплай. Потым дастаў хлеб, пакроены на кавалачкі, каўбасу і якраз беларускую, вясковую. Пах яе раздражняў апэтыт Орліка й Кузьмы. Лейтэнант сказаў:

— Пакуль што падмацуемся, чым Бог дараваў, як кажуць у нас простыя людзі.

Дастаў з торбы таксама масла, акуратна ўпакаванае ў ружовую скрыначку. Памазаў чатыры кавалкі хлеба. Адрэзаў столькі-ж кавалачкаў каўбасы і таксама паклаў на хлеб.

— Ну, пачнём, сябры па няшчасьцю.

— Не, дзякуем! — адказалі ў адзін голас і Кузьма і Орлік.— Вось толькі, калі можаце, падмацуйце нашага хворага сябру — яму гэта вельмі неабходна, асабліва кава!

— Падумана і аб ім! Усё прадугледжана!

Адкруціўшы ад тэрмаса вечка, наліў у яго нечага, але толькі ня кавы, і разам з хлебам падаў хвораму.

— Віно,— сказаў.— Гэта падтрымае сілы лепей, чым кава, якой на гэты выпадак якраз і няма. Выпіце адразу ўсё, а потым закусіце!

Наліў і Кузьме, у якога выгляд быў таксама вельмі дрэнны. Потым Орліку і сабе. Тэрмас зноў паставіў у торбу.

— Гэта пакінем, можа быць пільна спатрэбіцца.

Сонца ўжо стаяла над самым лесам. Ад травы на лонцы падымалася пара. Недзе недалёка запілікала перапёлка. Жаўрукі, як гэта бывае заўжды перад заходам у ціхі й сонечны вечар, падняліся зь сьпевамі ў неба.

— Вось бачыце, навет птушкі дзякуюць прыродзе, што яна дала ім магчымасьць пражыць дзень! А мы, людзі, усё забылі! — Памаўчаў.— Не забылі толькі адзін аднаго рэзаць на дарогах...

Студэнты адчулі да лейтэнанта яшчэ большую сымпатыю.

— Колькі добрых людзей на нашай зямлі! — падумаў уголас Кузьма.— І як іх не псуюць, не калечаць, а натура, традыцыі здаровага сэнсу бяруць сваё!

— Цяпер час і ў дарогу!

І, дастаўшы свой нож, лейтэнант скіраваўся да альховых кустоў, што расьлі па краёх лонкі. Выразаў дзьве даволі тоўстыя і доўгія палкі, іншых некалькі карацейшых. Зьвязаў даўжэйшыя па канцох пасамі так, каб атрымаліся насілкі. Потым нарэзаў гальля і ўслаў імі тое, што атрымалася.

— Вось так мы яго і панясём! — заўважыў.— Я з аднаго канца, як найбольш мацнейшы, а вы ўдвух з другога. Думаю, што пераможам гэтыя дзесяць кілямэтраў.

— Які ваш плян?

— Тут няма чаго доўга думаць над плянам — трэба ратаваць жыцьцё чалавеку!

— Божа мой, дарогі ўсеяныя трупамі нявінных! — уздыхнуў Кузьма.

— Абавязак чалавека ратаваць да апошняга мамэнту, а не забіваць, хаця гэта і гучыць ад мяне як парадокс?

— Бачыце, я на гэта гляджу трохі глыбей,— умяшаўся Орлік.— Вайна ў абароне...

— Якраз! Але гэтая вайна не ў інтарэсах нас самых, а толькі партыйнае касты... І так, дабярэмся да бацькоў маёй жонкі, а адтуль на фурманцы да вашага лекара...

На заходзе яшчэ шугала зара. Але тут, паміж жыта, ужо клаўся змрок. Лонка схавалася пад парасонам туману. У густой траве, пад гэтым парасонам, надрываўся драч. Тры чалавекі ўзьнялі насілкі й рушыліся ў дарогу. І ў гэты час, як-бы па ўмове, закукавала зязюля:

— Ку-ку! Ку-ку!

Зь містычным пачуцьцём Кузьма ўздрыгануўся.

> — Янка сеяў — людзі жалі,
> А зязюлька кукавала:
> Ку-ку! Ку-ку!

— Вось і адкукаваў! — уздыхнуў.

— Будзе жыць! — у гэты-ж час прамовіў Орлік.— Я лічыў: сорак і адзін раз.

— Гэта ты пра Алеся?

— Пра яго.

— Зязюлька распачлівая птушка — гэта пэўна! — заўважыў лейтэнант.

— Вось з-за гэтай распачлівай птушкі я і адпарыўся каля пяці год на Калыме! — адгукнуўся Кузьма.

І пачаў расказваць лейтэнанту ўсю гісторыю з пачатку. Калі скончыў, зрабіў вывад:

— У вершы народнага паэта сьпяваецца аб іншым, аб селяніну Янку, які сеяў, а людзі жалі... Зязюля тут толькі наш родны калярыт. Але, бачыце, птушка ня робіць сабе гнязда, лічыцца бяздомнай, таму ГПУ палічыла прадэклямаваны мною верш за зьдзек над савецкай уладай, і мне прышылі агітацыю супраць калгаснага будаўніцтва, абарону кулака і насьмешку зь беднаты а разам зь імі і наццдэмаўшчыну, каб было больш пераканаўча...

Нью-Ёрк, 1951 г.

Генадзь ПРЫБЫТКА

# БАРАЦЬБА МАГНАЦКІХ ГРУПОВАК У XVIII ст.

Да пачатку XVIII ст. Вялікае Княства Літоўскае, як і Рэч Паспалітая ў цэлым, прыйшло слабым эканамічна, раздратаваным нутранымі супярэчнасьцямі й скрайне дэцэнтралізаваным, што натуральным чынам прывяло да залежнасьці дзяржавы ад драпежных суседніх краінаў. Выбарнасьць караля, які мусіў дзеля пасьпяховае элекцыі гарантаваць шляхце ўсё большыя саступкі, хутка прывяла да канцэнтрацыі ў руках гэтага стану фактычна поўнае заканадаўчае і выканаўчае ўлады. Баючыся згубіць уладу, шляхта прызнала існы ў краіне лад аптымальным і рашуча супраціўлялася любым рэформам. Прынцып «непарушнасьці» палітычнага ладу быў падстававым у дзяржаўнай дзейнасьці, што выдатна адлюстравалася ў палажэньнях канстытуцыі 1669 г.: «...ніякая навіна ў Рэчы Паспалітай ня можа быць дапушчаная дзеля пагрозы разлажэньня і вялікіх рэвалюцыяў». Тагачасны палітычны трактат сьцьвярджаў, што «наваўвядзеньні шматкроць павялічаць небясьпеку, бо новы прысмак у страўніку турбуе, здароўю шкоду чынячы». (1; 26)

У гэтай сытуацыі галоўнаю мэтаю сойму, які ўяўляў сабою вярхоўны і галоўны орган Рэчы Паспалітае, было прасачыць, каб нішто не зьмянялася ў дзяржаўнай сыстэме. Гэтаму служыў прынцып liberum veto, які ня



Ян Фрыдэрык Сапега.

толькі гарантаваў нязьменнасьць ладу Рэчы Паспалітае, але і фактычна паралізоўваў работу найвышэйшага органу кіраваньня краіны. Таму палітычнае жыцьцё засяродзілася на сойміках і ў Трыбунале. Аднак найбольш дзейсным сродкам правядзеньня патрэбных той ці іншай палітычнай групоўцы пастановаў сталі сканфэдэраваныя соймы, дзе рашэньні прымаліся простаю бальшынёю галасоў. Правадырамі гэтых груповак, натуральна, станавіліся найбольш заможныя і ўплывовыя магнаты, якія фактычна й кіравалі дзяржаваю ці, дакладней, сваімі непамернымі амбіцыямі вялі яе да канчатковага заняпаду.

Магнаты мелі велізарныя валоданьні, у якіх карысталіся неабмежаванаю ўладаю. Ім падпарадкоўваліся тысячы халопаў і мяшчанаў; землі магнатаў вартавалі шматлікія замкі, якія ахоўвала залога; кожны з заможных «крулявятаў» меў прыватнае войска (так званыя «надворныя харугвы»), уласныя двары, поўныя залежнае

ад іх шляхты, зьбіраў падаткі і мыта з праезных празь іхныя землі. Часта магнаты праводзілі ўласную замежную палітыку, вялі прыватныя войны адзін з адным, арганізоўвалі выправы за межы дзяржавы... (2; 253)

У канцы XVII ст. найбольшы ўплыў у Вялікім Княстве Літоўскім меў род Сапегаў, але ў выніку барацьбы зь іншымі магнацкімі родамі (перш за ўсё — з Агінскімі й Вішнявецкімі), якіх падтрымалі шырокія колы шляхты, яны ўрэшце былі пераможаныя пад Алькенікамі (18 лістапада 1700 г.) і вымушаныя былі пакінуць краіну ды шукаць заступніцтва ў шведзкага караля Карла XII. Шляхта, узрадаваная перамогаю над сваімі даўнімі ворагамі, працягвала рабаваць іхныя маёнткі. Так, вядома, што толькі Іўе, якое належала Сапегам, панесла страты на суму 50 000 залатых (3; 59). Гэты луп прымаў самыя розныя формы — ад простага збройнага грабежніцтва да абкладаньня падаткамі былых Сапегавых староstваў. Распараджацца ж гэтымі прыбыткамі было даручана кіраўнікам канфэдэрацыі — Людвіку Пацею і Міхалу Коцелу. Апошнія меркавалі сабраць з Сапегавых падданых велізарную суму ў 200 000 залатых. Непамерныя злоўжываньні ў зборы падаткаў прывялі да збройнага паўстаньня сапежынскіх сялянаў (4; 39), якое падтрымалі Сапегі (5; 394—395). Вядома, неарганізаваныя, кепска ўзброеныя сяляне не маглі супрацьстаяць шляхце, асноўным заняткам якой была вайна. Так, у адной толькі бітве пад Дуброўнаю палягло больш за 2,5 тысячы халопаў. Велізарныя страты панеслі паўстанцы і ў бойцы пад Лоевам... (3; 59)

Грамадзянскую вайну, што зыркім полымем зашугала на абшарах краю, не маглі не скарыстаць драпежныя суседзі. Швэдзкі кароль, абвесьціўшы сябе абаронцам правоў Сапегаў, рушыў свае войскі ў межы Вялікага Княства Літоўскага. Натуральна, ворагі апальнага вялікага гетмана літоўскага схіліліся да расейскага лягеру. Разумеючы, што гэтым яны падтрымліваюць Аўгуста II, і баючыся ягоных абсалютысцкіх памкненьняў, пачалі рабіць захады адарваць Вялікае Княства Літоўскае ад Кароны. З гэтаю мэтаю праціўнікі Сапегаў пачалі выступаць як «Рэч Паспалітая Літоўская». Канонік Белазор стаў яе афіцыйным прадстаўніком — «рэзыдэнтам» — пры каралю, а ў 1702 г. быў пасланы ў той самай якасьці да цара Пятра І. Увесну 1702 г. у Праабра-



Карл XII.

жэнскім пад Масквою была заключаная дамова, паводле якой Вялікае Княства Літоўскае фактычна аддавалася пад пратэктарат цара, атрымліваючы ад яго вайсковую дапамогу і велізарную бязвыплатную рублёвую пазыку. Апроч гэтага, «Рэч Паспалітая Літоўская» згаджалася ўпусьціць расейскае рэгулярнае войска на сваю тэрыторыю, саступала Друю (якая раней належала Сапегам) у якасьці галоўнага пункту пастою й апэратыў-

нае базы расейскае арміі. Увесну ж 1703 г. была скліканая Генэральная канфэдэрацыя Вялікага Княства Літоўскага, якая абвесьціла саюз з Расеяй.

На тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага прыехаў спэцыяльны прадстаўнік Масквы П. Патоўцаў, у таемнай інструкцыі якому было патрабаваньне рыхтаваць трывалае злучэньне Княства з Расеяй. З гэтаю ж мэтаю ў чэрвені Пётр I зьвярнуўся з адмысловаю граматаю да літоўскіх «бурмістраў, райцаў, лаўнікаў, мяшчанаў і ўсяго паспольства», запрашаючы перасяляцца ўглыб Расейскае дзяржавы і абяцаючы розныя даброты. (3; 72)

Аўгуст II, які ўжо быў саюзьнікам Расеі як курфюрст саксонскі, бачачы небясьпеку з Усходу ды будучы няпэўным у сваіх сілах, неаднакроць зьвяртаўся да Карла XII з прапановамі міру і нават абяцаў яму ва ўзнагароду частковы падзел Рэчы Паспалітае. (6; 394—395) Але швэдзкі кароль лічыў (і не без падставаў), што Аўгусту верыць нельга, бо ўважаў яго зусім несумленным палітыкам. Так, ён пісаў Людовіку XIV: «Паводзіны ягоныя такія ганебныя, што ён заслугоўвае помсты ад Бога й пагарды ад усіх дабрамысных людзей». (7; 172) Таму Карл XII яшчэ ў 1701 г. задумаў дэтранізаваць Аўгуста II з пасаду Рэчы Паспалітае, што дазволіла б сканцэнтраваць усе сілы Швэцыі на барацьбе з Расеяй. Кандыдата ў каралі шукаць было нядоўга. З рэкамэндацыі Канці Карл XII выдаў дыплём асэкурацыі, у якім абяцаў трон, Якубу Сабескаму. Даведаўшыся пра гэта, у лютым 1704 г. Аўгуст II завязьніў прэтэндэнта разам зь ягоным братам Канстантынам у замку Пляйсэнбург, адкуль пазьней, улетку 1705 г., тыя былі пераведзеныя ў замак Кёнігштайн. Тут, нягледзячы на розныя захады, у тым ліку і Папы Рымскага Клемэнса XI, яны былі пратрыманыя да 1706 г. (8; 8)

Карл XII ня быў надта засмучаны лёсам Сабескіх. «Нічога, мы сфабрыкуем палякам іншага караля»,— заявіў ён. За словамі неўзабаве падышлі й справы. Пры падтрымцы швэдзкіх штыхоў была створаная канфэдэрацыя на чале з апальнымі Сапегамі, якая абвесьціла каралём Станіслава Ляшчынскага.

У адказ 20 траўня 1704 г. у Сандаміры завязалася Генэральная канфэдэрацыя прыхільнікаў Аўгуста II, якая ў жніўні 1704 г. заключыла саюз з Расеяй і






Фрыдэрык Аўгуст, кароль Польскі, электар Саксонскі.

абвесьціла вайну Швэцыі. Хоць і неахвотна, да яе далучыліся і «караняжы» (жыхары Кароны Польскае), што баяліся канчатковага адрыву Вялікага Княства Літоўскага ад Польшчы. (3; 83)

Пачаўся новы пэрыяд страшнае грамадзянскае вайны, якая сталася працягам былое «дамовае вайны» між Сапегамі ды іхнымі ворагамі. У спустошаным краі пачынаўся голад, людзі гінулі як мухі. Забіваў, хто хацеў і як каму падабалася. Што казаць пра халопаў, мяшчанаў ці звычайных шляхцічаў. Так, харужы жмудзкі Казімер Грыбоўскі захапіў у Травянах і расстраляў падкаморага літоўскага Яна Крыштапа Паца. (3; 72) Нават жанчыны бралі ўдзел у братазабойчай вайне... (9;66)

А тымчасам па раздратаванай краіне сноўдаліся

чужаземныя войскі, зводзілі рахункі між сабою й нішчылі край. Так, вядомы загад Пятра I, паводле якога патрабавалася «...везде провиант и фураж, тако ж хлеб стоячий в поле и в гумнах или в житницах по деревням... жечь, не жалея и строения... уничтожать мосты, мельницы, а жителей со скотом переселять в леса...» (10;24)

Увогуле, паводзіны «саюзьнікаў» на нашай зямлі інакш як акупанцкімі не назавеш. Сам цар уласнаручна забіваў вуніяцкіх сьвятароў у храме, расейскія войскі палілі гарады й вёскі, забівалі, гвалцілі... (11;39—42)

Ня лепшае было стаўленьне і з боку іншых «саюзьнікаў» — швэдаў. Так, загад Карла XII прадугледжваў: «Кантрыбуцыю спаганяць агнём і мечам. Хутчэй хай пацерпіць невінаваты, чым высьлізьне вінаваты... Было б найлепей, каб усе гэтыя мясьціны былі панішчаныя рабункамі й пажарамі і каб усе, хто там жыве, вінаватыя ці невінаватыя, былі зьнішчаныя». (7;303)

Грамадзянская вайна падзяліла краіну на два варожыя лягеры й паставіла яе на мяжу выжываньня. Пасол Расеі ў Рэчы Паспалітай Г. Даўгарукі пісаў: «Бог ведае, як можа стаяць Польская Рэспубліка: уся ад няпрыяцеля і ад міжусобнай вайны разрабаваная ўшчэнт, і апроч учынкаў сабе на зло, іншага рабіць нічога на карысьць ня хочуць». (7;184)

У жніўні 1706 г. Карл XII накіраваўся ў Саксонію, якую без аніякага супраціву заняў. Разгублены Аўгуст II даслаў да швэдзкага караля сваіх прадстаўнікоў з мальбою аб міры. Саксонскі курфюрст згаджаўся падзяліць Рэч Паспалітую напалам са Станіславам Ляшчынскім. Швэды з пагардаю адпрэчылі гэтую прапанову і паставілі ультыматум, паводле якога Аўгуст II павінен быў назаўсёды адмовіцца ад каралеўскага пасаду і прызнаць законным каралём Станіслава Ляшчынскага. Курфюрсту нічога не заставалася, як прыняць усе патрабаваньні, і 19 верасьня ў Альтранштаце была падпісаная адпаведная дамова. Больш за тое, ён нават пачціва павіншаваў новага караля з набыцьцём кароны Рэчы Паспалітае.

Альтранштацкая дамова сталася важнаю вяхою ў гісторыі Паўночнае вайны на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Пецярбург добра ўсьведамляў небясьпеку, якая крылася для яго ў гэтым міры — пры выхадзе з вайны Рэчы Паспалітае (што мела адбыцца пасьля дэтрані-



Якуб Сабескі.

зацыі Аўгуста II) тэрыторыя ваенных дзеяньняў перамясьцілася б у Расею, што прынесла б для ўсходняй суседкі ўсе выдаткі вайны: разбурэньні, сьмерць насельніцтва, зьнішчэньне гарадоў і вёсак. Пётр I зь непакоем пісаў: «...мы и сысканая потерять можем...», калі Аўгуст II «не точию от неприятеля, но и от бешеных и весма добра лишеных поляков с срамом выгнан и весма престола лишен быти может». (12;71) Таму расейскія «саюзьнікі» пачалі ліхаманкава шукаць кандыдата на пасад Рэчы Паспалітае, які пагадзіўся б быць паслухмяным Пецярбургу.

Спачатку карона была прапанаваная сыну Яна III, Якубу Сабескаму, але той не схацеў быць няўдзячным Карлу XII, які толькі што вызваліў яго з саксонскае няволі, і адмовіўся прыняць расейскую прапанову. (13;120) Да таго ж, каб у такі цяжкі для краіны час

адважыцца заняць пасад краіны, якая была ахопленая грамадзянскаю вайною і ўяўляла сабою вузел супярэчнасьцяў з боку суседніх дзяржаваў, патрэбная была ня толькі мужнасьць, але й авантурызм. Такога спалучэньня магчымым кандыдатам на пасад яўна неставала. Абодва браты Якуба Сабескага — Аляксандар і Канстантын — адмовіліся ад спакусьлівае прапановы. Аўстрыйскі прынц Аўген Савойскі, якому расейскі цар асабіста накіраваў запрашэньне заняць трон суседняе дзяржавы, баючыся канчатковага разрыву з Карлам XII, чые войскі стаялі ў блізкай Саксоніі, дыпляматычна згадзіўся прыняць карону толькі пасьля заканчэньня вайны. Вугорскі князь Фэранц Ракачы на аналягічную прапанову расейскіх прадстаўнікоў даў таксама адмову: вугорскі вызвольны рух, які князь ачольваў, карыстаўся заступніцтвам Людовіка XIV, таму выступаць супраць С. Ляшчынскага, сваяка францускага караля, (14;329) ён ня мог. (7;206—207)

Бадай, адзіным, хто ахвотна згаджаўся ўзяць вакантную карону, быў гетман вялікі каронны Сяняўскі. Але Пецярбург не сьпяшаўся задаволіць ягоныя амбіцыі, зважаючы на пярэчаньні магнатаў. Куды больш задавальняў у якасьці караля і Расею, і магнатаў Рэчы Паспалітае вялікі гетман літоўскі Міхал Вішнявецкі. Але ён, зьняверыўшыся ў Сандамірскай канфэдэрацыі, што была марыянэткаю ў руках моцнага суседа, ужо рыхтаваўся перайсьці на бок С. Ляшчынскага.

Урэшце, складаная й працяглая дыпляматычная мітусьня вакол кароны дзяржавы посьпеху не прынесла. Заставаўся ўсё той жа Аўгуст II, які ня раз патаемна пацьвярджаў сваё жаданьне пры спрыяльных варунках ізноў сесьці на трон Рэчы Паспалітае. Вядома, такія ўмовы маглі ўзьнікнуць пасьля разгрому Карла XII, але да гэтага было яшчэ далёка.

У такой сытуацыі сандаміране па ўказцы Расеі і пры яе поўнай падтрымцы выступілі супраць умоваў Альтранштацкага міру й адмовіліся прызнаць дэтранізацыю Аўгуста II.

Галоўнае месца ў лягеры сандамiранаў сярод магнатэрыі Вялікага Княства Літоўскага ў той час займалі Агінскія, Дэнгофы, Пацеі й Вішнявецкія. Асабліва імкліва падчас Паўночнае вайны рос уплыў Людвіка Пацея, падскарбія вялікага літоўскага (з 1704 г.). Гэты магнат



Станіслаў Ляшчынскі.

здолеў маланкава ўзбагаціцца ў зруйнаванай краіне. Пачатак паклала яшчэ перамога пад Алькенікамі, калі яму, як аднаму з кіраўнікоў пераможцаў, было дадзенае права распараджацца сапежынскімі маёнткамі (1700), пасьля — з 1703 г.— ён валодаў манаполіяй гандляваць тытунём на тэрыторыі Рэчы Паспалітае, а з 1704 г. Пацей атрымаў права біць срэбную манэту й неўзабаве літаральна навадніў Вялікае Княства Літоўскае сапсаванаю манэтаю, якая, паводле ягоных ініцыялаў, выбітых на ёй (L. P.), атрымала назву «Людзкі плач». (4;40)

Да таго ж, Пацей ня грэбаваў і іншаю супрацьпраўнаю дзейнасьцяй: у 1713 г. быў выкрыты нелегальны манэтны двор, на якім таемна білася манэта ня толькі для

Рэчы Паспалітае, але й фальшывыя аўстрыйскія талеры, якія мелі накіроўвацца ў дзяржаву Габсбургаў. Ня дзіва, што Л. Пацей хутка стаў адным з найбагатых магнатаў Княства.

Найбліжэйшыя сувязі меў падскарбі вялікі літоўскі з гетманам польным літоўскім Міхалам Вішнявецкім. Калі яшчэ ў 1703 г. апошні атрымаў вялікую літоўскую булаву, абодва паплечнікі прэтэндавалі на вызваленую такім чынам малую булаву для Л. Пацея. Кандыдат меў ужо нават адпаведную грамату ад Аўгуста II на вакансію, але супрацоўніцтва і тым больш сяброўства абодвух гетманаў не ўваходзіла ў пляны Расеі, якая не жадала ўзмацненьня іхнага ўплыву ў краі. Таму высілкамі Даўгарукага польным гетманам літоўскім стаў Рыгор Агінскі, што пасеяла семя варожасьці між Пацеямі й Вішнявецкімі, з аднаго боку, і Агінскімі — з другога.

Сувязь паміж прыяцелямі захоўвалася і пасьля пераходу вялікага гетмана літоўскага на бок Станіслава Ляшчынскага (1708), калі яны апынуліся ў варожых лягерах разьдзертае грамадзянскаю вайною ды інтэрвэнцыяй краіны. Няпэўная палітычная сытуацыя й боязь абодвух магнатаў згубіць пасады прывяла да заключэньня паміж імі дамовы аб «узаемнай пратэкцыі», паводле якой, калі б Вішнявецкі атрымаў і ў Ляшчынскага вялікую булаву літоўскую, ён мусіў падрыхтаваць глебу для пераходу ў прашвэдзкі лягер Пацея. У выпадку ж перамогі прарасейскага лягеру, Пацей меў загарантаваць бясьпечнае вяртаньне Вішнявецкага да сандаміранаў. (4;41)

Асьцерагацца ім было чаго: у краіне, дзе дзьве групоўкі падтрымлівалі двух розных манархаў, фактычна ўсталявалася дваяўладзьдзе. Адны і тыя ж пасады займалі прыхільнікі як Аўгуста II, так і Станіслава Ляшчынскага. Але сам спосаб прызначэньня на дзяржаўныя пасады яскрава адлюстраваў сапраўдную вагу абедзьвюх груповак у страшнай вайне, што зыркім полымем шугала на абшарах Рэчы Паспалітае — рэдка якая пасада надавалася бяз згоды на тое расейскага цара ці, адпаведна, швэдзкага караля. Так здарылася і ў выпадку з М. Вішнявецкім. Калі Ст. Ляшчынскі хацеў пакінуць вялікую літоўскую булаву за былым сандамірскім вялікім гетманам, супраць гэтага рашуча выступіў Карл XII,



Харугва Станіслава Ляшчынскага.

які падараваў яе старасту бабруйскаму Яну Казімеру Сапегу, даўняму няпрыяцелю Вішнявецкіх. Гэта адразу ахаладзіла пыл М. Вішнявецкага, які пачаў падумваць пра вяртаньне ў лягер сандаміранаў. (8;12) Але захады Л. Пацея не далі належных вынікаў з-за супрацьдзеяньня Рыгора Агінскага, які не хацеў звароту вялікага гетмана, сам марачы пра вялікую булаву. Абураны Пацей перапыніў усялякія кантакты з польным гетманам літоўскім і пайшоў са сваім войскам пад кіраўніцтва вялікага гетмана кароннага Сяняўскага. (4;41)

Між тым, у 1708 г. швэдзкі наступ працягваўся. Вайсковыя фармаваньні Вялікага Княства Літоўскага бралі ў ваенных дзеяньнях самы непасрэдны ўдзел. Так, корпус Я. Сапегі прыкрываў правы флянг арміі Карла XII, наносіў удар уздоўж Прыпяці да Бярэзіны.

Аддзелы Р. Агінскага вымушаныя былі адступаць разам з арміяй Пятра I. Да канца 1708 г. тэрыторыя Вялікага Княства Літоўскага апынулася пад кантролем швэдзка-станіславаўскіх войскаў. Харугвы Я. Сапегі на чале з рэгімэнтарам Хмарам і палкоўнікам Урбановічам выбілі расейскае войска з Магілёва й Воршы, заблякавалі расейскі гарнізон у Старым Быхаве. Вайскаводзец арміі Пятра I у гэтым рэгіёне генэрал Корсак адступіў у Смаленск і прасіў у цара падмацаваньняў. (15;276)

Напалоханыя перамогамі швэдзкіх войскаў і станіславаўцаў, сандаміране пачалі вагацца. Быў складзены спэцыяльны праект прызнаньня Ляшчынскага каралём пры ўмове нэўтралітэту Рэчы Паспалітае ў Паўночнай вайне і захаваньня ўмоваў «вечнага міру» з Расеяй. У крытычны момант расейская дыпляматыя вымушаная была пагадзіцца на гэта. Але неўзабаве яна ж і адмовілася падтрымліваць згаданы праект. Гэта тлумачылася тым, што войскі Карла XII зьвярнулі з генэральнага кірунку (Масква) на Украіну, тым самым зьменшыўшы пагрозу непасрэдна Расеі. Прычынаю стала тое, што ўся тэрыторыя Усходняе Беларусі паспытала на сабе ўсе даброты царскае палітыкі «оголожения», паводле якой на велізарнай тэрыторыі вынішчаліся правіянт і фураж, каб не дасталіся ворагу. Швэдам неставала прыпасаў для працягу наступу на Маскву. Як не было чаго есьці і тысячам, дзясяткам і сотням тысячаў мірных жыхароў гэтых земляў...

Але вялікі гетман каронны А. Сяняўскі працягваў весьці перамовы са Станіславам I аб прызнаньні яго каралём Рэчы Паспалітае. Каб не дапусьціць гэтага, Пётр I прапанаваў Сяняўскаму прыняць карону і прыслаў яму 10000 рублёў як плату за вернасьць Расеі. (16;27—29) Шанец прымірыць варожыя бакі і скончыць грамадзянскую вайну так і застаўся няспраўджаны. Як і раней, харугвы Р. Агінскага палілі маёнткі станіславаўцаў, аддзелы Я. Сапегі нішчылі сядзібы сандамiранаў. Ды каб толькі гэта! Рабавалі нават валоданьні паплечнікаў, калі тыя не выклікалі ў рабаўнікоў асаблівае сімпатыі. Так, Л. Пацей скардзіўся на Р. Агінскага, абвінавачваючы яго ў рабаўніцтве сваіх маёнткаў. (4;41)

Як ні дзіўна, але Аўгуст II, былы кароль Рэчы Паспалітае, які надалей прэтэндаваў на карону гэтае краіны, не выказваў аніякага спачуваньня бядзе й сьмерці

ад рук суайчыньнікаў сваіх былых і будучых падданых. Вядомыя ягоныя словы: «Выдатна, няхай сабака сабаку грызе!» (17;126)

Тымчасам надыходзіў 1709 г.— год пераломү ў Паўночнай вайне. Разгром швэдзкай арміі пад Палтаваю рэзка памяняў палітычную сытуацыю ў краіне. 8 жніўня Аўгуст II заявіў пра разрыў Альтранштацкага міру і ўвёў свае войскі ў Рэч Паспалітую. Шляхта, зьняверáная ў былым манарху, усё ж пагадзілася аднавіць яго на пасадзе, бо баялася, што ўсяўладны цар навяжа ёй караля з Расеі. (13;150)

Тэрыторыя Вялікага Княства Літоўскага была ачышчаная ад швэдзкіх войскаў. Пачаўся масавы пераход станіславаўцаў у лягер сандаміранаў. Перайшоў на іхны бок і вялікі гетман літоўскі Я. Сапега, атрымаўшы амністыю разам са сваімі палкоўнікамі. Але расейцы даравалі ўдзел у варожым лягеры далёка ня ўсім. Выў арыштаваны Міхал Вішнявецкі. Закаванага ў кайданы, яго павезьлі ў Кіеў, які знаходзіўся пад уладаю Расеі.

Пасьля Палтавы Пётр I мала зважаў на праўныя акты. Так, ён паставіў свае гарнізоны ў беларускіх гарадох, гвалтоўна вывозіў рамесьнікаў і моладзь у Расею. Расейскія войскі адкрыта рабавалі краіну. Плата ад цара Рэчы Паспалітай за пастой на ейнай тэрыторыі войскаў суседняе дзяржавы склала 3 мільёны залатых, тады як толькі правіянту было забрана на 500 мільёнаў залатых. (16;31,57,59)

Не спыняліся расейскія «саюзьнікі» і перад адкрытаю раздачаю пасадаў сваім прыхільнікам. Так, падчас праезду ў Памор'е Меншыкаў «сместил все чины» на сваім шляху. (16;104)

У кастрычніку 1709 г. у Торуні адбылося спатканьне абодвух манархаў — Аўгуста II і Пятра I. Сюды зьявіўся і Я. Сапега. Расейскі цар падышоў да гетмана, выцягнуў ягоную шаблю з похваў і «пытаўся, ці секла гэтая шабля расейцаў, а калі староста бабруйскі адказаў сыцьвярджальна, пачаў над галавою ягонаю шабляю фэхтаваць так блізка, што ледзь яго ня сьцяў». (3;113—114) Настаяньнем Пятра I Аўгуст II, хаця і неахвотна, перадаў вялікую булаву ад Сапегі Л. Пацею. Польную ж атрымаў Станіслаў Дэнгоф. Гэтыя прызначэньні прывялі да значных вынікаў. Я. Сапега, пазбаўлены вялікае гетманскае булавы і абражаны ўсяўладным

чужаземным манархам, ізноў перакінуўся на бок станіславаўцаў. Дэнгоф, гэты найвярнейшы прыхільнік Аўгуста II, які спадзяваўся на вялікае гетманства, быў абураны тым, што яго абышлі. Адгэтуль дачыненьні караля і польнага гетмана літоўскага пачалі імкліва ахалоджвацца. Праўда, Дэнгоф працягваў служыць каралю і надалей, але галоўнаю задачаю сваёй службы бачыў зьвядзеньне асабістых рахункаў са сваім ворагам — Л. Пацеем. (18;116) Дый нават у вялікага гетмана былі прычыны быць незадаволеным новымі прызначэньнямі: на месцы Дэнгофа ён хацеў бачыць свайго старога прыхільніка, троцкага ваяводу Казімера Агінскага.

Вынікам гэтае варажнечы стала абмежаваньне правоў вялікага гетмана, інсьпіраванае Дэнгофам і праведзенае на Варшаўскім сойме 1712 г. Падтрымаў польнага гетмана і Аўгуст II, незадаволены супрацівам Пацея ўвядзеньню саксонскіх войскаў у межы Вялікага Княства і прызначэньню ў войска краіны накіраваных каралём саксонскіх афіцэраў.

А ўзмацненьне асабістае ўлады ў Рэчы Паспалітай было адною з галоўных мэтаў Аўгуста II, які даўно марыў пра ўвядзеньне тут абсалютнае манархіі.

Вельмі зручнаю падставаю для ўвядзеньня саксонскіх войскаў на тэрыторыю фэдэратыўнае дзяржавы стаў пачатак вайны з Турцыяй, ва ўмовах якой, па фактычна поўным выгнаньні швэдзкіх і сапежынскіх аддзелаў за межы краіны (1712 г.), каралю можна было амаль непадзельна валадарыць у краі. Аўгуст II быў зацікаўлены ў збройным канфлікце саксонскіх войскаў з апазыцыйнаю шляхтаю, спадзеючыся на поўнае падпарадкаваньне дзяржавы. Таму ён ня думаў супрацьдзейнічаць жудаснаму рабаўніцтву і спусташэньню, якое чынілі саксонскія войскі ў Рэчы Паспалітай. (14;349—350) Паводле данясеньня Г. Даўгарукага Пятру I: «В Польше, государь, не малая конфузия. Саксонцев по квартирам в Польше и Литве, сказывают, около 30000, и поступают они с поляками очень гордо, что полякам, по их нравам, всего противнее... Сильно озлоблены поляки, и думаю, насколько я их знаю, что будет между ними смута; и как мы теперь видим, житьё польское несносно им, не могут выдержать; так стали убоги, что и поверить нельзя». (7;307)



Станіслаў Дэнгоф.

І «смута» неўзабаве пачалася. Пасыпаліся шматлікія пратэсты на паводзіны саксонскіх войскаў. На згаданым ужо Варшаўскім сойме 1712 г. паслы дамагаліся ад караля тэрмінова выдаліць замежныя войскі, склікаць «конны сойм», паспалітае рушаньне, распусьціць сандамірскую канфэдэрацыю й разьвязаць саюз з Расеяй, войскі якой рабавалі спакутаваную краіну.

Паслы нават мелі намер дэтранізаваць Аўгуста II на карысьць Канстантына Сабескага або баварскага курфюрста. У выніку кароль і расейскі пасол зрабілі ўсё для зрыву сойму. Але напалоханы Аўгуст II усё ж мусіў саступіць шляхце і, каб утрымаць яе ад паспалітага рушаньня, 12 красавіка забараніў пастаўку хлеба расейскім войскам ды абвесьціў амністыю эмігрантам. «Саюзныя» ж улады ня надта спалохаліся пагрозаў, бо цудоўна ведалі баявы патэнцыял разьдзіранае

супярэчнасьцямі, недысцыплінаванае, кепска ўзброенае шляхоцкае масы, якая не магла супрацьстаяць шматлікаму рэгулярнаму расейскаму войску. «А что грозят посполитым рушением, и то есть полской страх, а не дело»,— пісаў Пётр I. (16;122—123)

Аднак узброеныя дзеяньні супраць саксонскіх войскаў усё ж пачаліся, прычым у іх удзельнічалі нават мяшчане й халопы, хаця галоўную ролю ў гэтым руху адыгрывала сярэдняя шляхта. (14;350)

Паўстаньне ў Вялікім Княстве Літоўскім узначаліў Л. Пацей. Адкрыты разрыў вялікага гетмана літоўскага з дваром адбыўся ўжо даўно. I для гэтага былі падставы. Рэч у тым, што ў атачэньні караля трывала замацаваўся станіславаўскі вялікі гетман літоўскі, бабруйскі староста Я. Сапега, які атрымаў амністыю і пачаў хутка набіраць палітычную вагу. Пацей баяўся, зважаючы на напружаныя дачыненьні з Аўгустам II, згубіць вялікую булаву на карысьць прэтэндэнта. I гэты страх быў недарэмны. Кароль сапраўды ўсур'ёз падумваў замяніць літоўскіх гетманаў на больш паслухмяных. Паводле ягоных намераў, вялікую булаву меў атрымаць Дэнгоф, а малую — Я. Сапега. Для абароны правоў Л. Пацея на гетманскую булаву 15 траўня ў Вільні паўстаў тайны зьвяз уплывовых магнатаў Вялікага Княства Літоўскага. Змоўнікі плянавалі збройнае зьвяржэньне Аўгуста II у саюзе з С. Ляшчынскім і крымскім ханам. Аднак галоўным саюзьнікам у барацьбе зь ненавісным манархам апазыцыя бачыла Расею. У жніўні 1714 г. саксонцы перахапілі ліст Казімера Агінскага, які ад імя Пацея і Вялікага Княства Літоўскага заклікаў цара паслаць у межы краю расейскі 15-тысячны корпус, які меў дапамагчы дэтранізаваць Аўгуста II узамен на разрыў вуніі Княства з Каронаю і пераход яго пад расейскі пратэктарат.

Спадзеючыся на падтрымку моцнага суседа, абодва вялікія гетманы ў верасьні нават дамовіліся злучыць свае войскі дзеля падняцьця рокашу, і толькі няспрытнасьць Сяняўскага перашкодзіла пляну. (4;43)

Чаму ж канфэдэраты, якія толькі што выступалі за ліквідацыю расейскіх уплываў у краіне, зьвярнуліся да цара па збройную дапамогу, што, натуральна, прадугледжвала яшчэ большае ўмяшаньне ў нутраныя справы Рэчы Паспалітае? Рэч у тым, што шляхта баялася,

каб Аўгуст II, афіцыйны саюзьнік Пятра I, не пасьпеў першы папрасіць у Пецярбургу падтрымкі супраць яе. (32;106)

Безумоўна, і ў караля былі паплечнікі. Галоўную ролю сярод іх адыгрываў маршалак Сандамірскае канфэдэрацыі. Дэнгоф перасьледаваў свае мэты — ён даўно ўжо чакаў для сябе Калускага староства ў спадчыну па састарэлай экс-каралеве Марыі-Казімеры. (13;221) Але гэта не замінала яму побач зь іншымі прадстаўнікамі шляхты Вялікага Княства Літоўскага патрабаваць ад Аўгуста II вываду саксонскіх войскаў зь межаў краіны. (18;116) Падтрымлівала караля і староньніцтва пісара польнага літоўскага Сапегі.

Але краіну аб'ядноўваў адзіны парыў — пазбавіцца саксонскіх войскаў. Ворагам абвяшчаўся кожны, хто падтрымліваў саксонцаў. Так, на рынку ў Ашмянах бязь сьледзтва быў забіты шляхтаю падкаморы Тызэнгаўз, які падазраваўся ў спрыяньні Аўгусту II. (3;188) У такіх умовах 25 лістапада 1715 г. (у Вялікім Княстве Літоўскім — 23 сакавіка 1716 г.) была абвешчаная канфэдэрацыя зь яскравым антысаксонскім, антыаўгустаўскім характарам, што абвяшчала сябе абаронцаю шляхоцкіх вольнасьцяў. У праграме канфэдэратаў былі і пэўныя антымагнацкія тэндэнцыі, сярод якіх — патрабаваньне зьменшыць войска, што павінна было ня толькі скараціць падаткі, але й абмежаваць уплывы ўсемагутных гетманаў. Узьніклі нават тэарэтычныя абгрунтаваньні непатрэбнасьці войскаў для Рэчы Паспалітае, у якіх даводзілася, што дзяржава выдатна абыдзецца без уласнае арміі, бо краіна слабая, нікому не пагражае, і таму на яе ніхто нападаць ня будзе... (19;200)

Грамадзтва, саслабелае ў выніку несканчальных нутраных закалотаў, нястрымнае барацьбы разнастайных магнацкіх груповак, грамадзтва, што вышэйшаю каштоўнасьцю лічыла нічым не абмежаваную свабоду шляхты, якая пераходзіла ў сваволю, забылася на старую, як сьвет стаіць, ісьціну: «Дзяржава, якая ня хоча карміць сваё войска, будзе карміць чужое».

Пляны скарачэньня і без таго нешматлікіх вайсковых аддзелаў ніяк не маглі задаволіць вялікага гетмана літоўскага, што і паўплывала на ягонае стаўленьне да канфэдэрацыі. (14;350) Л. Пацей заняў дваістую пазыцыю ў гэтай палітычнай сытуацыі: з аднаго боку,



Князь Даўгарукі.

ён вымушаны быў падтрымаць канфэдэратаў, з другога — прыкладаў намаганьні да мірнага вырашэньня канфлікту. Варожасьць да караля цяпер мяшалася ў ім са страхам перад шляхтаю. І ў гэтай сытуацыі вялікі гетман літоўскі зьвярнуўся па дапамогу да Расеі, каб тая стала пасярэднікам у канфлікце. Тую ж упрошваць доўга не давялося — ва ўмовах Паўночнае вайны суседняя дзяржава была вельмі зацікаўленая яшчэ больш уплываць на нутраное жыцьцё Рэчы Паспалітае. У краіну зноў увайшлі расейскія палкі...

Канфэдэраты, ня бачачы ў вялікага гетмана жаданьня змагацца за сваю праграму, абмежавалі ягоныя правы на карысьць маршалка Крыштапа Сулістроўскага. Супярэчнасьці між Л. Пацеем і сканфэдэраванаю шляхтаю прывялі ў ліпені да адкрытага бунту і спробы ўвязьніць магната. Апошняму ледзь удалося выратавацца ўцёкамі.

Тут у абарону свайго абражанага кліента не марудзіла выступіць Расея. Расейскі пасол Г. Даўгарукі заявіў, што спробаю завязьніць Л. Пацея канфэдэраты абразілі асобу самога цара, і папярэдзіў, што расейскія войскі да таго часу не пакінуць межы краю, пакуль правы гетманаў ня будуць надзейна абароненыя. Але рашучая пазыцыя шляхты ўсё ж прывяла да таго, што правы гетманаў былі значна абмежаваныя. (4;44)

Пасьля нязначных сутычак з саксонскімі войскамі ўвосень 1716 г. у Варшаве дайшло да паразуменьня паміж канфэдэратамі й каралём. Пасярэднікам у гэтай згодзе выступіў Пётр I, зацікаўлены захаваць на пасадзе Рэчы Паспалітае хаця й ня надта надзейнага, але ўсё ж саюзьніка, і не дапусьціць на ягонае месца магчымага няпрыяцеля. Пад штыхамі расейскіх войскаў у лютым 1717 г. адбыўся сойм, які атрымаў назву «нямы», бо пад страхам ягонага зрыву не было дадзенае слова ніводнаму дэлегату. Паводле рашэньняў сойму саксонскія аддзелы мелі быць выведзеныя за межы краіны. Адначасова ўзброеныя сілы Рэчы Паспалітае істотна зьмяншаліся: каронныя — да 18 тысячаў, а княскія — ажно да 6 тысячаў чалавек. Расейскі бок правёў і такія рашэньні, якія мелі гарантаваць яму захаваньне Рэчы Паспалітае як саюзьніцы на фоне Паўночнае вайны. Сярод іх — пацьверджаньне незалежнасьці фэдэратыўнае дзяржавы ад Саксоніі, забарона пачынаць вайну бяз згоды сойму і інш.

Скарачэньне войска, закасьцянеласьць аджылых палітычных нормаў, усяўладзьдзе магнатэрыі зводзілі на нішто замежнапалітычную вагу Рэчы Паспалітае, у чым была вельмі зацікаўленая Расея. Пётр I выдатна бачыў супярэчнасьці, што разьдзіралі краіну, і выкарыстоўваў іх дзеля ўласных мэтаў. У гэтым яму дапамагала і прарасейская арыентацыя многіх прадстаўнікоў магнатэрыі краіны — перш за ўсё С. Дэнгофа і Л. Пацея.

Аднак Аўгуст II усё больш адчуваў цяжар жалезнае рукі суседняга манарха. Падставаў для гэтага хапала: і рабункі расейскіх войскаў у межах краіны, і гвалт з вольнага Гданьска, і прысабечваньне Расеяю Інфлянтаў, якія, паводле ранейшых дамоваў, мелі адысьці да Рэчы Паспалітае, і курляндзкія праблемы, і непрыхаванае ўмяшаньне Пецярбургу ў нутраное жыцьцё фэдэратыўнае дзяржавы...

Аўгуст II пачаў рабіць захады да вываду чужаземных войскаў з тэрыторыі краіны і да ўмацаваньня нутранога ладу Рэчы Паспалітае. Вынік яскрава засьведчыў Горадзенскі сойм 1718 г., што, хаця і не прынёс чаканага плёну, але выклікаў занепакоенасьць Даўгарукага, які сказаў, што Аўгуст II становіцца падобным да «самодержца» на чале Рэчы Паспалітае. (32; 111—112)

Акрылены першымі посьпехамі, Аўгуст II пачаў шукаць падтрымкі ў іншых эўрапейскіх дзяржаваў. Каралю ўдалося ажаніць свайго сына, Фрыдэрыка Аўгуста, з прынцэсаю Габсбурскага дому Марыяй Юзэфай (1719 г.), а 5 студзеня таго ж году ў Вене падпісаць трактат, паводле якога Англія і Аўстрыя абавязваліся бараніць Рэч Паспалітую ад вонкавых ворагаў, гарантаваць яе тэрытарыяльную цэласьць і трываласьць Аўгуста II на яе пасадзе. Апроч гэтага, бакі абавязаліся спрыяць выводу расейскіх войскаў з тэрыторыі краіны, разам караць магнатаў, якія палегчылі б пераход царскіх войскаў праз фэдэратыўную дзяржаву і г. д. Ніколі яшчэ ніводнаму манарху Рэчы Паспалітае не ўдавалася знайсьці супраць Масквы такое моцнае й шчырае падтрымкі...

Але ўсе захады, накіраваныя на адраджэньне незалежнасьці краіны, разьбіліся аб магнацкую анархію. Варшаўскі сойм (30 сьнежня 1719 — 23 лютага 1720), які мусіў выступіць абаронцам сувэрэнітэту, скончыўся адно выступамі супраць Флемінга (тады ўжо канюшага літоўскага) ды ягонае пасады на чале іншаземных вайсковых аддзелаў. Венскі трактат так і ня быў ратыфікаваны... Да гэтага прычынілася Расея й ейная крэатура, прадстаўнікамі якой у Вялікім Княстве Літоўскім былі перш за ўсё Л. Пацей і С. Дэнгоф. Падпарадкаваньне дзяржавы Расеі працягвалася... (32;112—113)

Расея ж была зацікаўленая надалей захоўваць анархію ў фэдэратыўнай дзяржаве. Гэтым і было выкліканае падпісаньне расейска-прускага трактату 1720 г., паводле якога абедзьве дзяржавы абавязваліся ўтрымліваць існы стан у Рэчы Паспалітай. У 1724 г. мусіла далучыцца да яго пераможаная ў Паўночнай вайне Швэцыя, што было зазначана ў мірнай дамове з Расеяй, а ў 1726 г. падпісала аналягічнае пагадненьне і Аўстрыя. Сам факт прыняцьця такіх дакумэнтаў засьведчыў глы-

біню ўпадку Рэчы Паспалітае, калі іншыя дзяржавы бралі на сябе ролю судзьдзяў лёсу гэтае краіны. (14; 350—352) Сведчаньнем гэтаму — і побыт на тэрыторыі дзяржавы іншаземных войскаў. Асабліва па-гаспадарску пачуваліся тут вайсковыя фармаваньні Расеі, якая пачала разглядаць Рэч Паспалітую як сваю вотчыну. Мала таго, што насельніцтва фэдэратыўнае дзяржавы павінна было ўтрымліваць шматлікія аддзелы расейскай арміі, забясьпечваць іх правіянтам і зносіць кантрыбуцыі. Пры найменшым супраціве гвалту чужаземнае войска не спынялася ні перад чым. Вядома, што нават цэлыя харугвы войскаў Вялікага Княства Літоўскага раззбройвалі і высылалі ўглыб Расеі ў няволю. (13;322—323)

А між тым у фэдэратыўнай дзяржаве працягвалася зацятая барацьба груповак, якія ўтвараліся вакол найбольш магутных магнацкіх родаў і вялі барацьбу за ўладу, уплывы ў грамадзтве і за поўную незалежнасьць у дзеяньнях. З кожным годам усё радзей падставаю да суперніцтва былі палітычныя пытаньні, і ўсё часьцей барацьба вялася вакол канкрэтнае пасады, дзяржаўства, маёмасьці і да т.-п. У такіх умовах цяжка вызначыць расклад сілаў у дзяржаве. Аднак з большай ці меншай доляй пэўнасьці можна вылучыць тры групоўкі, якія адыгрывалі ў палітычным жыцьці краіны надзвычай важную ролю.

Адну зь іх рэпрэзэнтавала так званая «рэспубліканская» або «гетманская» партыя, якая аб'ядноўвала прыхільнікаў старога парадку й гуртавалася вакол найбуйнейшых старажытных магнацкіх родаў. На яе чале ў Вялікім Княстве Літоўскім стаялі смаленскі біскуп Багуслаў Гасеўскі ды Л. Пацей. Неўзабаве па «нямым» сойме да «рэспубліканцаў» далучыўся і Станіслаў Дэнгоф, незадаволены роспускам Сандамірскае канфэдэрацыі, маршалкам якой ён быў, і стратаю ў сувязі з гэтым свайго ўплыву. Апроч таго, адной з вызначальных падставаў для пераходу на ейны бок польнага гетмана літоўскага, як і для гуртаваньня ўсяго староньніцтва, стала рашэньне «нямога» сойму перадаць камандаваньне аддзеламі іншаземнага войска саксонцу Флемінгу. (18;116—117)

Гэты кансэрватыўны лягер выступаў за захаваньне шляхоцкіх вольнасьцяў і супраць узмацненьня цэнтралізаванае ўлады. Аднак няправільна лічыць, што «рэспублі-

канцы» праводзілі ідэі анархіі, што ў іх не было ніякае канструктыўнае праграмы. Праграма ў іх якраз была даволі дэталёва распрацаваная.

Зыходзячы з натуральнага для манарха імкненьня да абсалютызму, да спадчыннасьці трону ды з магчымасьці карумпаваць сойм, «рэспубліканцы» былі гарачымі прыхільнікамі захаваньня выбарнасьці караля і кантрактных дачыненьняў між ім і Рэччу Паспалітаю. Liberum veto, на іхны погляд, зьяўлялася ахоўным сродкам супраць карупцыі ў сойме, бо заўсёды знойдзецца хоць адзін сумленны дэпутат, які выратуе вольнасьць ад небясьпекі. Армія як магчымая зброя караля на ягоным шляху да абсалютызму мусіць быць абмежаваная да мінімуму, а абарону краю належыць даверыць шляхоцкаму паспалітаму рушаньню. Каралю трэба адмовіцца ад права раздаваць пасады па сваім жаданьні: гэтая прэрагатыва мусіць быць нададзеная сойму й соймікам, каралеўшчыны ж павінны перайсьці ў агульнадзяржаўны скарб. Тады, паводле меркаваньняў гетманскае партыі, зьнікне і галоўная прычына карупцыі. Такія былі асноўныя пункты праграмы «рэспубліканцаў».

Зразумела, што пазыцыя «гетманскае» партыі, накіраваная супраць узмацненьня каралеўскае ўлады, не магла ня выклікаць супраціву з боку манарха, вакол якога таксама пачала складацца свая партыя, што лучылася з палітыкаю дынастыі Вэтынгаў у Рэчы Паспалітай. Пэрсанальная вунія Саксоніі з фэдэратыўнаю дзяржаваю стварыла для саксонскіх ўрадаўцаў магчымасьць шырока прасоўвацца па службе і атрымліваць тут маёмасьць. Яны глядзелі на Рэч Паспалітую як на абсяг эксплюатацыі і неаднойчы — па атрыманьні шляхоцтва гэтай краіны — набывалі найвышэйшыя дзяржаўныя годнасьці. Так, Флемінгу па «нямым» сойме было перададзенае камандаваньне іншаземнымі вайсковымі аддзеламі, якія складалі немалую частку арміі краіны. (21; 281)

У дворскай групоўкі шукала падтрымкі і тая генэрацыя магнатаў, якая вылучылася на вяршыню палітычнага жыцьця дзяржавы толькі нядаўна. Кіраўнікамі гэтае партыі, якая атрымала назву «Фамілія», сталі Чартарыйскія. Род Чартарыйскіх належаў да ня менш старажытных за Радзівілаўскі. Так, яшчэ з пачатку панаваньня Жыгімонта Аўгуста яны тытулаваліся fratteres et consanguinei (братамі й крэўнымі) Ягайлавічаў. Але



Якуб Флемінг.

не такія багатыя, як Радзівілы, Чартарыйскія на працягу стагодзьдзяў не адыгрывалі вялікае ролі ў грамадзкім жыцьці Рэчы Паспалітае. Толькі напачатку XVIII ст. яны імкліва разбагацелі і ўзьняліся на адно зь вядучых месцаў. «Фаміліяй» Чартарыйскіх кіравалі браты Фрыдэрык Міхал — падканцлер літоўскі, Аўгуст Аляксандар — ваявода рускі і Тодар — біскуп познанскі. Значна бяднейшыя за магнатаў старое генэрацыі, якія сталі на чале «рэспубліканцаў», яны мелі ня менш амбітнасьці й прагі да ўлады. Супрацоўніцтва з дворскаю партыяй давала ім надзею на атрыманьне пасадаў і намесьніцтваў ад караля.

Як і бальшыня найвышэйшых прадстаўнікоў тагачаснага шляхоцкага грамадзтва, Чартарыйскія напачатку выступалі за захаваньне «залатое вольнасьці» і за



Міхал Фрыдэрык Чартарыйскі.



Тодар Чартарыйскі.

гарантыі непарушнасьці правоў шляхты, але з часам паступова прыйшлі да ідэі неабходнасьці рэформаў у нутраным ладзе дзяржавы. Гёнэза рэфармісцкіх схільнасьцяў «Фаміліі», аднак, была вельмі простаю: «гетманская» партыя сыстэматычна зрывала соймы, робячы немагчымым наданьне каралём вакансіяў, на якія прэтэндавалі Чартарыйскія. (14; 353—354)

Праграма рэформаў, выпрацаваная «Фаміліяй», прадугледжвала скасаваньне liberum veto, падначаленьне сойму незалежных дагэтуль міністраў, перадачу прэрагатывы прызначэньня на пасады ад караля да сойму і соймікаў і інш. Безумоўна, у становішчы, у якім апынулася Рэч Паспалітая на той час, гэтая праграма мела прагрэсіўны характар.

Вайна староньніцтваў пачалася адразу пасьля «нямога» сойму і датычыла пытаньняў: хто павінен кіраваць войскамі чужаземнага строю, лёсу liberum veto, праблемы адтэрміноўкі сойму ды інш. Пры падтрымцы шматлікае шляхоцкае кліентуры «рэспубліканцам» удалося перашкодзіць рэалізацыі прынятых у 1717 г. ухвалаў. Адначасна ў 20-я гг. каралеўскі двор, бачачы сваю палітычную слабасьць і адасабленьне, навязаў кантакт з «Фаміліяй». (21; 281) Аднак гэты зьвяз ня быў ані доўгім, ані трывалым. Імкненьне састарэлага й хворага



Аўгуст Чартарыйскі.



Ізабэля з Флемінгаў Чартарыйская.

Аўгуста II запэўніць перадачу кароны сыну не знайшло падтрымкі з боку «Фаміліі». Чартарыйскія мелі вялікія амбіцыі ды плянавалі па вызваленьні трона пасадзіць на яго Аляксандра Аўгуста Чартарыйскага. (22; 62) У той жа час, разумеючы праблематычнасьць гэтага, яны вялі перамовы з францускім паслом дэ Манці наконт абраньня на пасад Рэчы Паспалітае Станіслава Ляшчынскага.

Такія ж самыя перамовы з францускім пасланьнікам вяла і партыя «рэспубліканцаў». Ад імя гэтае групоўкі ў сьнежні 1730 г. да апальнага караля быў пасланы ліст з абяцаньнем яму вайсковае дапамогі ў выпадку сьмерці Аўгуста II. (23; 14—15) Такое аднадумства прадстаўнікоў варожых партыяў — зьява выключная ў гісторыі краіны XVIII ст.

Зьняверыўшыся ў іншых мэтадах, Аўгуст II вырашыў усталяваць моцную каралеўскую ўладу сілаю. На сойм 18 верасьня — 2 кастрычніка 1732 г. ён прывёў шматлікае саксонскае войска. Пачаліся арышты праціўнікаў манарха. Нават прыхільнікі караля адмаўляліся зь ім супрацоўнічаць. Так, Міхал Вішнявецкі, які меў атрымаць з рук Аўгуста II пасаду вялікага гетмана літоўскага, заявіў, што браць булаву ў такіх умовах ня будзе, бо ня хоча ўдзельнічаць у бяспраўі. Апазыцыя, натхнёная

гэтым учынкам, голасам рэчыцкага пасла Сіліча сарвала сойм. (32; 282)

Аўгуст II, баючыся за лёс кароны Рэчы Паспалітае па сваёй сьмерці і прадбачачы, што галоўным прэтэндэнтам на каралеўскі пасад будзе Станіслаў Ляшчынскі, шмат разоў (1707; 1714; 1717; 1725 гг.) спрабаваў зьнішчыць суперніка рукамі наёмных забойцаў. (33; 121) Замахі не далі вынікаў, і курфюрст імкнуўся перадаць хоць якую частку краіны сваім нашчадкам на правох спадчыннага валоданьня. У 1732 г. ён зьвярнуўся да Фрыдрыха Вільгельма, прускага караля, з прапановаю перадаць таму Курляндыю, Каронную Прусію і частку Вялікае Польшчы, Расеі — частку Вялікага Княства Літоўскага бязь Вільні, а Аўстрыі — Сьпіскае староства з тым, каб астатняя частка Рэчы Паспалітае перайшла пад вечную абсалютную ўладу саксонскіх манархаў. (23; 15) Але суседнія дзяржавы не былі да часу зацікаўленыя ва ўзмацненьні адна аднае. Іх больш задавальняла вялізная бясьсільная Рэч Паспалітая, чым агрэсіўныя магутныя краіны.

Дый намеры шляхты Рэчы Паспалітае абраць каралём Ст. Ляшчынскага ніяк ня ўпісваліся ў пляны драпежных суседзяў. У 1732 г. паміж Расеяй і Прусіяй на выпадак сьмерці Аўгуста II была падпісаная дамова аб падтрымцы нэўтральнага кандыдата — партугальскага інфанта Эмануэля. Аднак, бачачы непрыхільнасьць да яго бальшыні шляхты ды імкнучыся забясьпечыць сабе падтрымку хаця дворскае партыі, суседнія дзяржавы вырашылі падтрымаць іншага кандыдата — сына Вэтынга.

1 лютага 1733 г. Аўгуст II памёр. У верасьні на элекцыйным полі пераважная бальшыня шляхты абрала каралём Станіслава Ляшчынскага. Але кандыдатура цесьця французскага манарха на пасадзе Рэчы Паспалітае ніяк не задавальняла суседнія дзяржавы. У межы краіны ўвайшлі 30-тысячны расейскі корпус і саксонская армія. Пад абаронаю штыхоў інтэрвэнтаў нешматлікая апазыцыя выгукнула Вэтынга як Аўгуста III. (21; 282) Станіслаў I зь вернымі яму аддзеламі мусіў схавацца ў Гданьску, разьлічваючы на дапамогу Францыі й рэгулярных войскаў Рэчы Паспалітае...

Гвалтоўнае, з дапамогаю чужаземных войскаў, укаранаваньне не было новым для краіны. Бацька Аўгуста III, Аўгуст II, стаў каралём таксама абапіраючыся на

штыхі расейскіх і саксонскіх арміяў, што сталася адною з прычынаў грамадзянскае вайны, якая разгарэлася на абшарах дзяржавы напачатку XVIII ст. Грамадзянская ж вайна, што выбухнула пасьля новай яўнай зьнявагі незалежнасьці й годнасьці Рэчы Паспалітае, выразна паказала бясьсільле і глыбокі заняпад краіны.

Ужо ўвесну 1734 г. шляхта Ашмянскага й суседніх зь ім паветаў утварыла канфэдэрацыю дзеля абароны законна абранага караля. Ейным маршалкам быў абраны ваявода віцебскі Марцін Агінскі, а рэгімэнтарам — стражнік літоўскі Аляксандар Пацей. Падобная канфэдэрацыя пад кіраўніцтвам Адама Тарлы была завязаная і ў Кароне.

Літоўская генэральная канфэдэрацыя, згуртаваўшы каля 3000 шляхцічаў, распачала марш на захад, на дапамогу абложанаму ў Гданьску каралю. Падчас гэтае выправы, у ліпені 1734 г., іх і засьпела вестка пра падзеньне Гданьска. Поўныя рашучасьці збройна абараняць незалежнасьць дзяржавы, канфэдэраты ў лістападзе гэтага ж году занялі Берасьце, дзе да іх далучыліся аддзелы зяця М. Агінскага, валынскага ваяводы Міхала Патоцкага. Зь Берасьця маршалак піша адчайныя лісты да Папы Клемэнса XII, дзе просіць галаву Касьцёлу падтрымаць справу Станіслава I.

Але рашучасьць да збройнае барацьбы за незалежнасьць разьбілася, як гэта ўжо ня раз было, аб асабістыя амбіцыі магнатэрыі. Ужо ў сакавіку 1735 г. пачаліся звадкі М. Агінскага з маршалкам Каронна Генэральнае канфэдэрацыі А. Тарлам. Літоўскі маршалак даведаўся, што той падпісваў лісты як аднаасобны кіраўнік канфэдэрацыі Рэчы Паспалітае, бяз подпісу М. Агінскага. Гэты факт так абурыў апошняга, што ён ад імя ўсяе Літоўскае канфэдэрацыі выказаў гатоўнасьць прыбыць да Варшавы, каб прысягнуць Аўгусту III. Да самага канца трымаўся С. Ляшчынскага, бадай, толькі літоўскі стольнік Пётра Сапега. (32; 134) Недысцыплінаваныя харугвы каронных канфэдэратаў, не падтрыманыя паплечнікамі з Княства, былі разьбітыя расейскімі й саксонскімі войскамі. (22; 622)

У ліпені 1736 г. быў склiканы пацыфікацыйны сойм, які зацьвердзіў уладу Аўгуста III, пацьвердзіў права ўплыву суседніх дзяржаваў, якім дазвалялася адкрыта ўмешвацца ў нутраныя справы Рэчы Паспалітае, а таксама абвесьціў амністыю ўдзельнікам канфэдэрацыі.

М. Агінскі ж «за вялікія заслугі перад Айчынаю» атрымаў ордэн Белага Арла...

Параза Ст. Ляшчынскага кардынальна паўплывала на зьмену арыентацыі «Фаміліі», якая, хутка перабудаваўшыся, стала гарачай прыхільніцай Аўгуста III і саюзу з Расеяй. Натуральна, «гетманская» партыя заняла супрацьлеглую пазыцыю, падтрымліваючы Ст. Ляшчынскага й Францыю. Хаця, як і іншыя краіны, Францыя была зацікаўленая падтрымліваць анархію ў Рэчы Паспалітай, каб тая не падтрымала каго-небудзь са сваіх суседзяў — магчымых ворагаў Францыі. Трэба зазначыць, што істотнае дапамогі «гетманская» партыя ад Францыі так і не дастала, але яўная апазыцыйнасьць групоўкі аддаліла яе як ад двара, так і ад Расеі. Таму «рэспубліканцы» мусілі напачатку задаволіцца зрывам сойму 1738 г., які меў ухваліць скарбова-вайсковыя рэформы. Годам пазьней на Украіне былі зарганізаваныя збройныя выступы супраць саксонскага двара. Нягледзячы на занятасьць Расеі ў чарговай расейска-турэцкай вайне (1736—1739), рэгулярныя расейскія войскі бязь цяжкасьцяў зламілі гэты рух, які ўзначальваў Патоцкі. (21; 283)

У выніку «рэспубліканская» партыя засталася значна аслабленаю. З гэтага скарыстала «Фамілія», якая ў 40-я гады здолела значна ўмацавацца. Прыхільнікі Чартарыйскіх усё часьцей займалі важныя дзяржаўныя пасады. Гэтаму садзейнічала і збліжэньне «Фаміліі» з дворскаю партыяй, якая з элекцыяй Аўгуста III атрымала новы штуршок для разьвіцьця. Новы кароль мала цікавіўся справамі нованабытае дзяржавы, а паўнату ўлады аддаў у рукі ўвішных фаварытаў, якіх у вялікай колькасьці прывёз з сабою з Саксоніі, ды мясцовых сваіх прыхільнікаў.

Галоўную ролю ў дворскай партыі адыгрываў першы міністар Саксоніі Генрых фон Бруль, які карыстаўся поўным даверам манарха. Вымушаны пакінуць сваю радзіму з-за нянавісьці насельніцтва (ён увёў невыносныя падаткі), гэты дзяяч вырашыў забясьпечыць інтарэсы ўласнага дому ў суседняй Рэчы Паспалітай.

Бруль хутка разабраўся ў палітычнай сытуацыі і, зважаючы на выключны ўплыў Расеі на нутраныя справы Рэчы Паспалітае ды на прарасейскую арыентацыю «Фаміліі», узяў бок Чартарыйскіх. Разьлік быў слушны — саксонскі міністар прадбачыў, што наступны кароль

будзе ізноў пасаджаны Расеяй і што ім стане прадстаўнік «Фаміліі».

Калі Бруль дапамагаў Чартарыйскім, дык і тыя дапамагалі свайму дабрадзею. Так, з дапамогаю «Фаміліі» Брулю ўдалося здабыць сфальшаваныя дакумэнты індыгенату, якія пацьвярджалі шляхоцтва Рэчы Паспалітае, а таксама запэўніць свайму непаўналетняму сыну пасаду варшаўскага старасты. Але гэтага яму падалося мала, і ён вырашыў ажаніць свайго сына з дачкою рускага ваяводы Аўгуста Чартарыйскага, а дачку выдаць за Казімера Панятоўскага (брата будучага караля Станіслава Аўгуста). Чартарыйскія адмовілі яму, уважаючы, што род Бруляў для іх занізкі. Абражаны саксонец тады выдаў сваю дачку Амэлію за надворнага кароннага маршалка Юрыя Мнішка, даўняга ворага «Фаміліі», і гэта непасрэдным чынам паўплывала на разрыў дворскае партыі з Чартарыйскімі. (24; 152)

Але гэтае няўдалае сватаньне было не адзінаю прычынаю разыходжаньня «камарыльлі Мнішка» (як пазьней сталі называць партыю Бруля) і «Фаміліі». Не апошнюю ролю тут адыгралі і праекты рэформаў, што выношвалі Чартарыйскія і якія не маглі прыняць кароль і ягоныя прыбліжаныя. Апроч таго, Аўгуст III марыў, як і ягоныя папярэднікі, аб прыжыцьцёвай элекцыі свайго сына, Карла, на трон Рэчы Паспалітае. У той жа час Чартарыйскія, што адчувалі за сваёй сьпінай моцную падтрымку Пецярбургу, цешыліся надзеяй забясьпечыць карону за адным з прадстаўнікоў свайго дому. Такія супярэчнасьці канчаткова разьвялі «Фамілію» і дворскую партыю ды прычыніліся да збліжэньня апошняе з «рэспубліканцамі». Абедзьве групоўкі лучыла адмаўленьне ад усялякіх рэформаў, якія спрыялі б цэнтралізацыі ўлады і абмяжоўвалі б уплыў магнатаў на палітычнае жыцьцё краіны.

«Фамілія» ня надта непакоілася з нагоды набыцьця новае ролі на палітычнай арэне — ролі апазыцыянэраў. Іх натхняла сувязь з царскім дваром, якая пастаянна ўзрастала. Асабліва заўважна стала гэта з 1755 г., калі малады пляменьнік Чартарыйскіх, літоўскі стольнік Станіслаў Панятоўскі, быў накіраваны паслом Рэчы Паспалітае ў Пецярбург. Ст. Панятоўскі зьяўляўся верным правадніком плянаў «Фаміліі», асабліва што да ўзмацненьня асабістае ўлады манарха. І рэч ня толькі ў родных су-

вязях. Немалое значэньне мела тое, што, будучы фаварытам царыцы Кацярыны II, ён сам цешыўся надзеяю здабыць з дапамогаю Пецярбургу карону.

Калі дагэтуль соймы зрывалі прыхільнікі «гетманскае» партыі, якія імкнуліся паралізаваць рэформы, у 50-х гг. XVIII ст. гэтую эстафэту перахапілі кліенты «Фаміліі» з разьлікам не дапусьціць прыняцьця невыгодных для іх пастановаў. Ненавіснае Чартарыйскім liberum veto стала небясьпечнаю зброяй у іхных руках. (21; 284)

А між тым у абозе «рэспубліканцаў» адбыліся істотныя зьмены. Пасьля сьмерці ў 1749 г. Мікалая Патоцкага й Яна Тарлы, а ў 1751 г. вялікага гетмана кароннага Язэпа Патоцкага, у гэтым лягеры пачаў адчувацца недахоп правадыроў. На чале «гетманскае» партыі ў Кароне стаў па атрыманьні вялікае кароннае булавы Ян Клемэнс Браніцкі, а ў Княстве — вялікі гетман літоўскі Міхал Казімер Радзівіл Рыбанька.

У першай палове XVIII ст. род Радзівілаў зноў імкліва набыў такія багацьці і палітычную вагу, зь якімі ня мог параўнацца ніводны магнацкі род Вялікага Княства Літоўскага. У разьлеглых маёнтках Радзівілаў працавала больш за 300 000 падданых, а агульны кошт маёмасьці гэтых некаранаваных каралёў Княства складаў каля 30 мільёнаў талераў. (24; 26)

Маючы фактычна неабмежаваную ўладу ў краі, Радзівілы не хацелі дзяліцца ёю ані з Чартарыйскімі, якія хутка памножылі тут свае валоданьні ды перацягнулі на свой бок шляхоцкую кліентуру, ані з каралеўскаю ўладаю. У сваю чаргу, Чартарыйскія імкнуліся прыбраць з палітычнае арэны самых уплывовых прадстаўнікоў «гетманскае» партыі ў Вялікім Княстве Літоўскім, каб канчаткова падпарадкаваць сабе гэтую частку «Рэчы Паспалітае Абодвух Народаў». Адчуваючы падтрымку магутнае Расеі, «Фамілія» была ўпэўненая ў перамозе. Неаднаразовыя спробы вялікага гетмана літоўскага, мяккага і ня вельмі спрактыкаванага ў палітыцы чалавека, паразумецца са сваімі ворагамі сустракалі супраціў Чартарыйскіх. Так, напрыклад, у 1749 г. М. Радзівіл Рыбанька дамовіўся зь вялікім канцлерам літоўскім пра выбары сваіх маладых яшчэ сыноў дэпутатамі ў Трыбунал. Аднак Чартарыйскія ня выканалі сваіх абавязкаў,



Міхал Казімер Радзівіл.

з-за чаго лішне даверлівыя Радзівілы ў найвышэйшы судовы орган Княства тады ня трапілі. (24; 64)

Аднак роля Радзівілаў у жыцьці Вялікага Княства Літоўскага значна павялічылася з часу выхаду на палітычную арэну Кароля Радзівіла Пане Каханку, сына Рыбанькі, якому ў 1755 г. пры падтрымцы маршалка надворнага кароннага Мнішка й графа Бруля ўдалося стаць маршалкам Літоўскага Трыбуналу. Гэтаму паспрыяла і немалая ўжо папулярнасьць маладога Радзівіла сярод шляхоцкай моладзі, прывабленай шчодрасьцю ды багацьцем Пане Каханку.

Трэба нагадаць, што ў 1744—1762 гг. усе 11 соймаў былі сарваныя (25;152—166) і палітычнае жыцьцё Вялікага Княства Літоўскага сканцэнтравалася ў асноўным у Трыбунале (які па чарзе засядаў у Вільні й Менску). Таму

ня дзіва, што барацьба за кіраваньне гэтым органам яскрава адлюстроўвала барацьбу магнацкіх груповак у краі. (26;188)

Вялася гэтая барацьба мэтадамі, зусім згоднымі з тагачасным духам. Так, па перамозе Радзівілаў на Трыбунале Францкевіч, падстараста пінскі, заняты прыхільнік «Фаміліі», запрасіў менскага дэпутата Язэпа Валадкевіча, найлепшага сябра Пане Каханку, у палац Флемінга, дзе прадстаўніка «рэспубліканскае» партыі пасеклі шаблямі і таму проста цудам удалося выжыць. Аднак злачынца пазьбег адказнасьці, укрыты і ўзнагароджаны Чартарыйскімі. (24;55)

А тымчасам распачалася дзейнасьць прарадзівілаўскага Трыбуналу, якая вызначалася бясконцым шэрагам п'янак і авантураў. Пане Каханку не выносіў ніякага пярэчаньня сабе, адкрыта прымушаў дэпутатаў прымаць толькі тыя рашэньні, якія ён пажадае. Адсюль і пайшла прымаўка: «Трыбунал з дэкрэтам, а Радзівіл з мушкетам».

Пакуль Радзівілы спачывалі на лаўрах, Чартарыйскія пачалі бурную дзейнасьць дзеля падрыхтоўкі наступных выбараў. «Фамілія» распаўсюджвала чуткі, нібы зь Пецярбургу да Аўгуста III прыйшоў ліст з патрабаваньнем усімі сіламі падтрымаць Чартарыйскіх. Але нават калі гэтыя чуткі і ня мелі пад сабою глебы, то грашовая дапамога расейскім прыхільнікам у Вялікім Княстве Літоўскім, безумоўна, ішла. Так, паводле сьведчаньня сучасьніка, адзін з найбольш уплывовых прадстаўнікоў «Фаміліі» ў Княстве, граф Флемінг, раздаў велізарную колькасьць грошай прадстаўнікам паветаў, каб забясьпечыць сабе перамогу. Нарбут, напрыклад, атрымаў 3000 талераў за агітацыю ў Лідзкім павеце, Сямашка — 2000 талераў за агітацыю на Жмудзі... У выніку ў Вільню ў 1756 г. прыехала больш за 5000 прыхільнікаў «Фаміліі». Бальшыня ў Трыбунале была забясьпечаная за Чартарыйскімі. (24;63)

Радзівілы не маглі пагадзіцца на страту ўплыву ў гэтым важным палітычным органе краю. Яны вырашылі хаця паставіць маршалкам свайго чалавека. Вялікі гетман літоўскі зьвярнуўся па дапамогу да свайго брата Геранціма, які распараджаўся шматлікімі аддзеламі дворскае міліцыі, таксама ўведзенай у Вільню. Аднак калі шляхта, прыхільная «Фаміліі», напала на войска Ра-

дзівілаў, памяркоўны Рыбанька не рашыўся разьвязаць бітву, а даслаў да караля скаргу на Чартарыйскіх. Аўгуст III не падтрымаў ніводзін з бакоў, адно загадаў вывесьці ўсе войскі са сталіцы Вялікага Княства Літоўскага.

Пачаліся перамовы паміж Міхалам Радзівілам і Флемінгам. Магнаты не хацелі нават бачыць адзін аднаго: князь Рыбанька сядзеў у адным памяшканьні, а граф — у другім. Паміж памяшканьнямі была вольная зала, дзе час ад часу сустракаліся пасланцы абодвух бакоў... У выніку маршалкам Трыбуналу стаў Флемінг. Аднак у 1757 г. Радзівілы ізноў перамаглі на выбарах...

Барацьба за Трыбунал доўжылася зь пераменным посьпехам і надалей.

А краіна між тым усё больш губляла прыкметы незалежнасьці ды станавілася адно цацкаю ў руках хіжых суседзяў. Чарговым сьведчаньнем гэтаму сталі падзеі Сямігадовае вайны (1756—1762), у якой Рэч Паспалітая афіцыйна ня ўдзельнічала. Аднак гэта не перашкодзіла чужаземным войскам выкарыстоўваць ейную тэрыторыю як для ваенных дзеяньняў, так і для збору прыпасаў і фуражу. (27;263—281) Але вышэйшым колам фэдэратыўнае дзяржавы было не да таго. Яны змагаліся за ўплывы і пасады...

Гэтае змаганьне атрымала новы штуршок пасьля сьмерці Міхала Казімера Рыбанькі. Польны гетман літоўскі Масальскі, даўні прыхільнік Чартарыйскіх, не забавіўся скарыстаць са сьмерці даўняга ворага. Вось што піша сучасьнік: «Польны гетман тут жа ўсе вайсковыя рашэньні нябожчыка князя скасаваў і адмяніў, рэгімэнцтвы сваім прыхільнікам пачаў раздаваць, кіраўніцтва ў галоўных, прыбытковых ваяводзтвах Віленскім, Навагародзкім, Берасьцейскім і інш. сваім прыяцелям параздаваў, а дадзенае князем гетманам скасаваў». (28;III;176)

Аднак замест нерашучага й мяккага князя Рыбанькі кіраваць «рэспубліканскаю» партыяй стаў ягоны сын Кароль Радзівіл Пане Каханку, што не спыняўся ні перад чым дзеля дасягненьня сваёй мэты. Аднаго яму не хапала — падтрымкі ўсяўладнае Расеі, без пратэкцыі якой ужо амаль немагчыма было атрымаць рашучае перавагі ў палітычным жыцьці краіны.

І Пане Каханку даслаў Кацярыне II, якая толькі



Кароль Радзівіл Пане Каханку.

што ўзышла на расейскі трон, скінуўшы свайго мужа Пятра III, ліст, дзе запэўніваў расейскую царыцу ў сваёй суцэльнай прыязьні ды самых шчырых пачуцьцях да суседняе дзяржавы. Адказ быў ветлівы, але ў ім манархія дала зразумець князю, што на пратэкцыю яму спадзявацца няма падставаў. І на гэта былі прычыны. У чаканьні хуткае сьмерці хворага Аўгуста III расейскі двор ужо даўно вырашыў пасадзіць на трон Рэчы Паспалітае аднаго з прадстаўнікоў «Фаміліі», у адданасьці якіх Пецярбург быў упэўнены.

Адчуваючы за сабою падтрымку магутнага суседа, Чартарыйскія імкнуліся прысьпешыць падзеі ды дасягнуць канчатковае перамогі над «рэспубліканцамі». Яны плянавалі стварыць канфэдэрацыю, каб дамагчыся най-

хутчэйшае дэтранізацыі Аўгуста III пры дапамозе расейскіх штыхоў. Чартарыйскія бачылі на каралеўскім пасадзе найперш сябе: ваяводу рускага Аўгуста або ягонага сына Адама Казімера. Аднак гэта не ўваходзіла ў пляны Станіслава Панятоўскага, які таксама імкнуўся да кароны. І ў яго, з узыходам на расейскі трон Кацярыны II, ягонай каханкі, зьявіліся самыя рэальныя шанцы...

Кацярына II астудзіла запал сваіх прыхільнікаў. Так, у лісьце да амбасадара Расеі ў Рэчы Паспалітай Кайзэрлінга яна пісала: «Я бачу, што нашыя сябры вельмі разгарачыліся і гатовыя на канфэдэрацыю, але я ня бачу, да чаго прывядзе канфэдэрацыя пры жыцьці караля?..». У той жа час царыца патрабавала: «Я загадвала вам утрымліваць сяброў маіх ад нясвоечасовае канфэдэрацыі; але ў той жа час дайце ім самыя станоўчыя сьведчаньні, што мы іх будзем падтрымліваць ва ўсім, што мэтазгодна, будзем падтрымліваць да самой сьмерці караля, пасьля якой мы будзем дзейнічаць, без сумневу, на іхную карысьць».

Кацярына II адкрыта пагражала ворагам «Фаміліі». «Калі асьмеляцца схапіць ды адвезьці ў Кёнігсштайн каго-небудзь зь сяброў Расеі, то я насялю Сібір сваімі ворагамі...» (29;413—414)

Не атрымаўшы вайсковае дапамогі ад Расеі, але затое пачуваючы яе ўсямерную падтрымку, «Фамілія» ўступіла ў барацьбу за спадчыну Міхала Радзівіла. Яна плянавала пасадзіць на пасад віленскага ваяводы зяця Адама Чартарыйскага, вялікага пісара літоўскага Міхала Казімера Агінскага, малая ж булава, па атрыманьні Міхалам Масальскім ураду вялікага гетмана літоўскага, мелася перайсьці ў рукі Міхала Брастоўскага. Апошняе ніяк не магло задаволіць «рэспубліканцаў»: канцэнтрацыя поўнае гетманскае ўлады ў адным староньніцтве нязьмерна павялічыла б ягоныя ўплывы. Таму «рэспубліканцы» зрабілі ўсё магчымае дзеля таго, каб малую булаву атрымаў іхны прыхільнік, полацкі ваявода Аляксандар Міхал Сапега. 20 тысячаў чырвоных залатых для Бруля і фавор жонкі прэтэндэнта для сына пакуль яшчэ ўсемагутнага графа зрабілі сваю справу — Сапега стаў польным гетманам літоўскім. (28;III;205)

Тымчасам працягвалася барацьба за перавагу ў Трыбунале, якая шмат дзе перарастала ў адкрытыя бітвы паміж ворагамі. Чартарыйскія запрасілі ў Вільню ў якасьці

назіральніка за выбарамі расейскага маёра Пучкова, каб застрашыць сваіх праціўнікаў. Для Рэчы Паспалітае, дзе вольнасьць судоў зьяўлялася адной з падставовых шляхоцкіх свабодаў, гэта быў раней не чуваны ўчынак. Папулярнасьць Радзівіла як абаронцы сувэрэнітэту краіны расла.

Напачатку работы Трыбуналу абедзьве групоўкі, якія сьцягнулі ў Вільню і войскі, і шматлікіх прыхільнікаў, распачалі на вуліцах сталіцы сапраўдную міжусобную вайну, у якой Пане Каханку пачаў перамагаць. Але Радзівіл не разьлічыў усю меру прыхільнасьці Расеі да сваіх кліентаў Чартарыйскіх: 4 расейскія палкі на чале з генэралам Салтыковым перайшлі межы Вялікага Княства Літоўскага і пачалі рабаваць радзівілаўскія маёнткі. (28;IV;43) Пры расейскім генэрале знаходзіўся прадстаўнік вялікага гетмана літоўскага Адахоўскі. Пане Каханку абачліва адмовіўся ад збройнага супраціву войскам суседняе дзяржавы і пачаў перамовы з Салтыковым. Той абяцаў вывесьці палкі пры наступных умовах:

— Кароль Радзівіл забавязуецца, што Літоўскі Трыбунал «ня будзе перасьледаваць» ці фактычна, увогуле ня будзе судзіць прыхільнікаў Чартарыйскіх і Расеі;

— прысуды, якія раней вынес Трыбунал, будуць адменены.

Гэтыя ўмовы ня толькі таптаў сувэрэнітэт дзяржавы, але й рабілі зусім непрацаздольным галоўны судовы орган краю, бо крытэрыі для ідэнтыфікацыі «расейскіх староньнікаў» вызначыць было немагчыма. Таму Радзівіл адмовіўся ад пагадненьня. Палкі Салтыкова, пастрашыўшы яшчэ ворагаў «Фаміліі» ды парабаваўшы радзівілаўскія маёнткі, вырушылі з краю. Гэты інцыдэнт яшчэ больш падняў аўтарытэт Пане Каханку ў вачох шляхты як абаронцы вольнасьці дзяржавы.

Аднак 5 кастрычніка 1763 г. памёр Аўгуст III, дзейнасьць «радзівілаўскага» Трыбуналу была спыненая, а ягоныя паўнамоцтвы перададзеныя каптуровым судам.

Сьмерць караля адкрыла новы віток барацьбы паміж магнацкімі групоўкамі. «Гетманская» партыя плянавала пакінуць карону ў Вэтынгаў, пасадзіўшы на каралеўскі пасад сына Аўгуста III, Карла. Надзею на трон цешыўся таксама й вялікі гетман каронны Браніцкі.

Пра пляны Расеі, якія праводзіліся праз Чартарый-

скіх, было сказана вышэй. Іншыя ж дзяржавы не сьпяшаліся ўмешвацца ў гульню за сваіх кандыдатаў на трон Рэчы Паспалітае, бо ўсяўладная Расея мела тут абсалютны ўплыў. Фрыдрых II, кароль аслабленае Сямігадоваю вайною Прусіі, які даўно ўжо марыў набыць новыя тэрыторыі за кошт зьнясіленае суседкі, раіў Кацярыне II «пасадзіць на Польскі пасад караля па Вашым жаданьні». (29;416)

Перад царыцаю стаяла адна праблема: каго паставіць каралём — А. Чартарыйскага або С. Панятоўскага. Выбар паў на апошняга. Справа вырашылася ня толькі дзякуючы былому каханьню Кацярыны II і прэтэндэнта. У лісьце да прускага караля расейская царыца яскрава выказала прычыны абраньня літоўскага стольніка на трон Рэчы Паспалітае: «З усіх прэтэндэнтаў на карону ён мае найменш сродкаў атрымаць яе, значыць, ён будзе найбольш абавязаны тым, з чыіх рук ён яе атрымае. Гэтага нельга сказаць пра кіраўнікоў нашае партыі: той зь іх, хто дасягне трону, будзе лічыць сябе абавязаным гэтулькі нам, колькі і свайму ўменьню весьці справы...». (29;417)

Безумоўна, зьдзейсьніць свае пляны Расея мелася праз верных кліентаў — Чартарыйскіх, якія наіўна верылі, што з дапамогаю расейскіх грошай і штыхоў яны здолеюць падпарадкаваць сабе край ды правесьці тут рэформы. Пецярбург, як мог, падтрымліваў у сваёй партыі такія ілюзіі. І апошнія стараліся з усіх сілаў. Пакуль Пане Каханку, пасьля перамогі на папярэдніх выбарах у Трыбунал, упэўнены ў сваіх сілах, аддаўся чарговым п'янкам ды авантурам, «Фамілія» атрымала рашучую перамогу ў выбарах каптуровых судоў. Прыхільнікаў «гетманскае» партыі пачалі выклікаць на суды, пасьля чаго, паводле тагачаснага права, яны гублялі права быць кандыдатамі на пасlаваньне ў сойме. Справы элекцыі рашуча пераходзілі ў рукі «Фаміліі».

Каб выправіць становішча, Пане Каханку вырашыў дзейнічаць сілаю. 21 лютага 1764 г. ён на чале сваіх войскаў увайшоў у Вільню і па непрацяглых перамовах зь віленскім біскупам Масальскім на другі дзень захапіў залю суда, самачынна склаў сьпіс дэпутатаў, а сябе прызначыў маршалкам. Такія гвалтоўныя дзеяньні адбываліся па ўсім Вялікім Княстве Літоўскім. Так, у Рэчыцкім павеце, дзе перамагла партыя Чартарыйскіх, радзівілаўцы

склікалі альтэрнатыўны склад суда. А калі дэпутаты разагнанага суда сабраліся ў Рагачоўскім замку, «рэспубліканцы» пасьля непрацяглае аблогі захапілі фартэцыю штурмам, прычым многія былі параненыя, многія загінулі... (28;IV;203—204)

У выніку гэтых гвалтоўных дзеяньняў «Фамілія» атрымала падставу для чарговага запрашэньня расейскіх войскаў у межы краіны. Аднак Кацярына II не сьпяшалася выканаць просьбу Чартарыйскіх. Яна паспрабавала разьбіць лягер «рэспубліканцаў», перацягнуўшы на свой бок незгаворлівага Радзівіла. У Нясьвіж прыбыў расейскі пасол, які прапанаваў Пане Каханку ад імя царыцы 100 000 чырвонцаў узамен за адступленьне ад «гетманаўскае» партыі. Кароль Радзівіл ня толькі з пагардаю адмовіўся ад такой прапановы, але нават і абразіў пасланца. (24;107—109)

Тады ў межы краіны рушылі 12 000 расейскіх жаўнераў. З дапамогаю іхных штыхоў Масальскім удалося сабраць 1000 подпісаў пад актам канфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага, накіраванай супраць Радзівілаў, на чале зь літоўскім канюшым Міхалам Брастоўскім. Акт канфэдэрацыі назваў «гетманскую» партыю «ганьбаю Айчыны» і заклікаў усіх пад штандары «Фаміліі». На патрэбы гэтай канфэдэрацыі Расея выдаткавала 60 000 дукатаў. (30;23—24)

Лёс «рэспубліканскае» партыі ў будучым элекцыйным сойме быў вырашаны. Царыцы засталося толькі забясьпечыць паслухмянасьць «Фаміліі», якая надта ўжо захапілася марамі аб рэформах у дзяржаве. 11 красавіка 1764 г. Кацярына II падпісала з Прусіяй трактат, які гарантаваў захаваньне status quo ў Рэчы Паспалітай. Абедзьве краіны забавязаліся «ў разе патрэбы ўжыць нават моц зброі з мэтаю захаваць Рэч Паспалітую ад страты канстытуцыі й кардынальных правоў». А між тым Чартарыйскія, якія марылі пра дапамогу Расеі ў справе адраджэньня Айчыны, мабыць, ведалі словы сучасьніка, вядомага асьветніка Канарскага: «Няўжо іншыя больш за нас нашую Айчыну любяць? Няўжо сапраўды (як з нашых патрыётаў сёй-той разумна гаворыць) дапамогу, якой мы самі сабе даць ня хочам, яны нам дадуць? Няўжо яны пра нас з выдаткамі для сябе клапаціцца будуць? [...] Паверце хоць раз, што ўсе найбольшага дабра ня нам, а сабе жадаюць, свайго інтарэсу й пашы-



Ян Клемэнс Браніцкі.

рэньня, а ня нашага захаваньня пільнуюць, і ня могуць інакш, бо гэта ёсьць тое, што завецца ratio status...» (24;111)

Але мала хто зважаў на словы розуму. Краіна імкліва набліжалася да свайго канца...

На элекцыйны сойм былі прыведзеныя шматлікія аддзелы прыхільнікаў «Фаміліі». Расейскія ж войскі перакрылі ўсе дарогі ў Варшаву і фактычна ўзялі горад у аблогу. У сталіцу Рэчы Паспалітае прыбылі і невялікія недысцыплінаваныя аддзелы «рэспубліканцаў», якія скупіліся ў палацы Браніцкага. 7 траўня 1764 г. распачаўся элекцыйны сойм, на які «гетманская» партыя выслала толькі аднаго дэлегата, Макраноўскага, які меў сарваць сойм, што яму не ўдалося. Аддзелы «рэспубліканцаў», перасьледаваныя расейскімі войскамі ды харугвамі Чартарыйскіх, мусілі выйсьці з Варшавы, а неўза-

баве — і ўвогуле з краю. Браніцкі вымушаны быў зьбегчы ў Вугоршчыну. Неўзабаве і ён, і кіеўскі ваявода Францішак Патоцкі прысягнулі «Фаміліі». Адзіным неўтаймаваным кіраўніком «гетманскае» партыі застаўся Кароль Радзівіл. Ен накіраваўся з Варшавы, да сканфэдэраванага супраць яго Вялікага Княства Літоўскага, на дапамогу абложнаму расейскімі войскамі Нясьвіжу. Але дапамога Пане Каханку спазьнілася. Хутка паў Нясьвіж, за ім — Слуцак... Пад Слонімам дарогу Радзівілу заступілі расейскія войскі. Бітва доўжылася 8 гадзінаў зь пераменным посьпехам. Харугвы Пане Каханку былі разьбітыя. (28;IV;237—238) Кароль Радзівіл быў вымушаны пакінуць радзіму і зьехаць у Вугоршчыну.

Між тым элекцыйны сойм, на якім апазыцыя адсутнічала, працягваўся. На ім Чартарыйскімі былі праведзеныя пэўныя рэформы, сярод якіх:

— на элекцыйным сойме ўхвалы павінны былі прымацца бальшынёю галасоў;

— ужываньне liberum veto ў пэўнай ступені абмяжоўвалася;

— рашэньні, якія датычалі эканамічных пытаньняў, павінны былі прымацца бальшынёю галасоў;

— ствараліся скарбовая і вайсковая камісіі, якія ў пэўнай ступені абмяжоўвалі сваволю падскарбіх і гетманаў;

— быў уведзены адзіны мытны падатак для ўсёй Рэчы Паспалітай.

Былі і яшчэ сякія-такія зьмены. Але выдаткі ад гэтага сойму былі велізарныя. Праведзены з дапамогаю штыхоў чужаземных войскаў, ён яшчэ больш уцягнуў суседнія краіны ў нутраныя справы дзяржавы і фактычна ўзаконіў суцэльнае панаваньне іх у краі. Бездань перад будучыняй Рэчы Паспалітае раскрывалася ўсё шырэй...

Расея добра разумела тую нязьмерную ролю, якую адыграла «Фамілія» для правядзеньня ў краі ейнае палітыкі. Таму з падачы расейскага пасла сойм прыняў пастанову аб прыжыццёвым усталяваньні ў Вільні помніка князю Міхалу Чартарыйскаму, вялікаму канцлеру літоўскаму, ды аб пабудове пасьля ягонае сьмерці ў віленскай катэдры маўзалею. (30;25)

Каралём, пад аховаю 7000 расейскіх штыхоў, быў абраны Станіслаў Панятоўскі, які пры каранацыі атрымаў

імя Аўгуст. Расейскі пасол Рапнін так ахарактарызаваў новаабранага манарха: «Больш удзячнага й больш аддана нам чалавека мы б сёньня не знайшлі. Ен першы на соймавым сходзе выказаўся за тое, каб урачыста скласьці Вашай Імпэратарскай Вялікасьці падзяку за аказаную ўвядзеньнем нашых войскаў у Рэч Паспалітую дапамогу. Ен таксама ўнемажлівіў намер, каб соймікі адпраўляць бальшынёю, а не аднадушшам галасоў. А сталася гэта паводле нашага жаданьня». (24;121)

«Віншую вас з каралём, якога мы зрабілі»,— пісала Кацярына II М. Паніну, кіраўніку замежных справаў. (29;419)

Праўда, і для Расеі рашэньні сойму не былі цалкам задавольнымі: абмежаваньне ролі гетманаў у сувязі з утварэньнем вайсковае камісіі сталася прычынаю таго, што буйны клян Масальскіх на чале зь Міхалам Масальскім, вялікім гетманам літоўскім, перайшоў у апазыцыю да караля і Чартарыйскіх. Сойм не пагадзіўся заключыць з Расеяй наступальна-абарончы саюз, а зацьвердзіў толькі абарончы. (30;23—24) Але самым істотным для Пецярбургу было тое, што сойм рашуча адмовіўся ўраўнаваць у правох «дысыдэнтаў», бо пытаньне «дысыдэнтаў», г. зн. абароны праваслаўнага насельніцтва Рэчы Паспалітае, на працягу стагодзьдзяў было найбольш зручнаю падставаю для ўмяшаньня ў нутраныя справы фэдэратыўнае дзяржавы.

Стагодзьдзямі маскоўскія цары, прыкрываючы свае экспансіяніскія намеры, ішлі са зброяю ў руках «вызваляць» праваслаўных беларусаў. Вынікі гэтага «вызваленьня» зазвычай былі надта сумныя. Незьлічоныя ахвяры ад рук «адзінаверцаў», прыведзеных на нашыя землі Іванам Жахлівым... Больш за палову забітага, спаленага, вывезенага ў Расею, прададзенага на ўсход беларускага насельніцтва падчас «вызваленьня», якое ўчыніў на нашай зямлі ў сярэдзіне XVII ст. Аляксей Міхайлавіч «Тишайший»... Вынішчэньне траціны беларусаў, узарваная старажытная Полацкая Сафія ў Паўночнай вайне...

Між тым у межах Беларусі пад канец XVIII ст. заставалася толькі 6,5 % праваслаўных, тады як абсалютная бальшыня насельніцтва вызнавала вуніяцтва, а шляхта амаль пагалоўна была каталікамі...

Веравызнаўчая карта і была разыграная, калі новаабраны кароль, абавязаны каронаю магутнай суседцы,



Георгі Каніскі.

амаль адразу па абраньні пачаў рабіць таемныя захады да саюзу з Аўстрыяй з мэтаю ўзмацніць каралеўскую ўладу ў Рэчы Паспалітай. Станіслаў Аўгуст, жадаючы аднаасобна кіраваць «Фаміліяй», пайшоў на разрыў са сваімі дзядзькамі — Чартарыйскімі, якім таксама не ў малой ступені быў абавязаны. Кароль, які так і не знайшоў падтрымкі ў Габсбургаў ды зьявіўся прычынаю расколу ў шэрагах «Фаміліі», усё ж здолеў, дзякуючы канфэдэрацыі, завязанай на канвакацыйным сойме, правесьці сякія-такія рэформы дзеля ўзмацненьня войска. Быў павялічаны вайсковы бюджэт, прынятыя новыя статуты для пяхоты і драгунаў; адбылася пэўная рэарганізацыя артылерыі; павялічваліся іншаземныя аддзелы, пабудаваныя на новых прынцыпах; быў заснаваны Кадэцкі корпус... Усё большую ролю ў кіравань-

ні дзяржаваю стала адыгрываць рада міністраў пры каралю. Марудна, зь цяжкасьцямі, але краіна рухалася ў кірунку да парлямэнцкае манархіі. (21;294—295)

Тады і спатрэбілася ўзьняць дысыдэнцкае пытаньне як падставу ўтаймаваць непаслухмяную краіну. Зь ініцыятывы Расеі праваслаўны арцыбіскуп Г. Каніскі зьвярнуўся да Кацярыны II з просьбаю абараніць праваслаўных ад перасьледаў. Царыца тут жа паслала да Станіслава Аўгуста патрабаваньне ўраўнаваць праваслаўных у правох з каталікамі. Расейскі пасол у Рэчы Паспалітай аб'явіў каралю, што, калі на наступным сойме справа дысыдэнтаў ня будзе вырашаная, у межы Рэчы Паспалітае ўвойдзе яшчэ 40 000 царскіх войскаў. (29;431)

Гэтае патрабаваньне сустрэла аднадушны пратэст усіх колаў Рэчы Паспалітае. Кароль пісаў у зьвязку з гэтым: «Мне трэба будзе або адмовіцца ад сяброўства імпэратрыцы, або стаць здраднікам Айчыны». (29;432) Найбольш упарты супраціў у справе ўраўнаваньня ў правох дысыдэнтаў аказалі, як гэта ні дзіўна, Чартарыйскія. Канцлер вялікі літоўскі ў размове з Рапніным заявіў, што грамадзяне незалежнае дзяржавы «маюць права прымаць ухвалы, якія ім падабаюцца». (30; 25—26) У выніку Пецярбург вырашыў пазбавіць падтрымкі Чартарыйскіх, якія ня надта спраўна выконвалі распараджэньні царыцы ды яшчэ й выступалі за рэформы ды за скасаваньне liberum veto. Поўны разрыў Пецярбургу з «Фаміліяй» адбыўся пасьля сойму 1766 г., вядомага пад назваю «сойм Чапліца», ад імя маршалка — кіеўскага пасла Цэлестына Чапліцы. На сойме Чартарыйскія ня толькі выступілі супраць ураўнаваньня ў правох праваслаўных, але й падалі праекты рэформаў. Нягледзячы на тое, што рэформы не прайшлі, «Фамілія» канчаткова дыскрэдытавала сябе ў вачох Пецярбургу, які адгэтуль вырашыў паставіць на «рэспубліканцаў». Канфэдэрацыя «Фаміліі» была разьвязаная.

Аднак сойм «Чапліца» не пагадзіўся і на ўраўнаваньне ў правох дысыдэнтаў. І толькі рух царскіх войскаў да Варшавы вымусіў дэпутатаў абвесьціць свабоду веравызнаньняў і правядзеньня набажэнстваў, але згоды на наданьне праваслаўным палітычных правоў так і не было.

У такіх умовах Расея, пры падтрымцы пратэстанцкае Прусіі, вырашыла разьвязаць пытаньне сілаю. Безу-

моўна, перш за ўсё рукамі самое шляхты. 10 сакавіка 1767 г. у радзівілаўскім Слуцку пад аховаю штыхоў расейскіх палкоў генэрала Нумэрса была створаная канфэдэрацыя праваслаўных і кальвіністаў пад маршалкоўствам генэрала Яна Грабоўскага. У Кароне ж паўстала канфэдэрацыя пратэстантаў на чале з генэралам Юрыем Гольцам. (24;152)

Аднак Пецярбургу было ясна, што апора на нешматлікіх дысыдэнтаў ня можа быць моцнаю. З мэтаю забясьпечыць правядзеньне сваіх рашэньняў ды пашырыць уплыў у Рэчы Паспалітай было вырашана стварыць і каталіцкую канфэдэрацыю, накіраваную супраць караля і «Фаміліі», пад лёзунгам абароны вольнасьцяў. Лепшага правадыра для гэтай канфэдэрацыі за Караля Радзівіла знайсьці было цяжка. Пане Каханку зьяўляўся ў вачох шляхты адзіным абаронцам незалежнасьці краіны й шляхоцкае вольнасьці, які адзіны ў краіне збройна выступіў супраць Расеі. Шляхта ня ведала, што апальны князь даўно ўжо накіроўвае пакорлівыя лісты да Кацярыны II з просьбамі дараваць яму «непаслухмянасьць». Паміж расейскімі прадстаўнікамі й Каролем Радзівілам была падпісаная дамова, паводле якой Пане Каханку павінен быў адгэтуль заўсёды належаць да расейскага староньніцтва ды пастаянна мець пры сабе расейскага афіцэра, які мусіў даводзіць яму волю імпэратрыцы. Узамен баніту гарантавалася вяртаньне на радзіму і аднаўленьне правоў на сканфіскаваныя маёнткі. Каб згода была больш трывалаю, князь атрымаў ад расейцаў 10 000 дукатаў. (30;29) Паказальныя тлумачэньні Рапніна пра выбар кіраўніком будучай канфэдэрацыі менавіта Кароля Радзівіла: «Я больш пэўны ў ягонай залежнасьці ад нас, чым каго-кольвечы іншага. Я павінен мець каля сябе паслухмяных людзей, а не чакаць, каб справы, якія я вяду, залежалі ад людзей, на якіх ня маю надзеі». (24;156)

Маючы такога кандыдата на маршалка Генэральнае канфэдэрацыі, расейская амбасада парупілася перадусім аб завязаньні Генэральнае канфэдэрацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Паўставалі павятовыя і ваяводзкія саюзы, якія аб'ядналіся затым у Літоўскую канфэдэрацыю пад кіраўніцтвам Станіслава Брастоўскага, старасты быстрыцкага... У пачатку чэрвеня 1767 г. у Вялікім Княстве Літоўскім утварыліся ўжо 24 канфэдэрацыі, маршалкамі

якіх паўсюдна былі абраныя сябры Кароля Радзівіла. Сам жа Пане Каханку стаў маршалкам падляскае канфэдэрацыі. (29;440)

Становішча Чартарыйскіх імкліва пагаршалася. Былыя ўсемагутныя магнаты жаданьнем Пецярбургу ўмомант апынуліся пад пагрозаю трапіць у становішча, у якім толькі нядаўна знаходзіўся іхны вораг Кароль Радзівіл. Каб неяк адхіліць навіслую пагрозу, яны падапхнулі да ложка старога Рапніна жонку Адама Казімера Чартарыйскага Ізабэлю... Гэта іх у будучыні і выратавала. (24;156) Сярод распачатага неўзабаве тэрору супраць непаслухмянае Расеі шляхты Чартарыйскія, нягледзячы на грозныя патрабаваньні Пецярбургу, засталіся некранутымі. І ўсё гэта выключна дзякуючы заступніцтву расейскага пасла. Але адгэтуль Чартарыйскія ўжо ніколі не займалі высокіх пасадаў і ніколі не дасягнулі ранейшага высокага становішча.

Канфэдэраты рушылі ў Польшчу на злучэньне з кароннымі аднадумцамі. Рапнін вызначыў месцам збору горад Радам і, каб гарантаваць паслухмянасць шляхты, упэўненай у тым, што яна йдзе сюды дэтранізаваць Станіслава Аўгуста, прадбачліва загадаў палкоўніку Інгельстрому абкружыць горад расейскімі войскамі. Палкоўнік Кар, прыстаўлены, паводле дамовы, да Кароля Радзівіла як прадстаўнік імпэратрыцы, запатрабаваў ад Пане Каханку на надзвычайным сойме надаць поўныя палітычныя правы дысыдэнтам ды прыняць ад Расеі гарантыі захаваньня нутранога ладу Рэчы Паспалітае. Іншымі словамі, дэлегаты мусілі афіцыйна зацьвердзіць залежнасьць ад Расеі. Пра дэтранізацыю караля не было і мовы. Канфэдэраты нарэшце зразумелі, што іх ашукалі. З 88 дэлегатаў, прысланых прадстаўнікамі розных канфэдэрацыяў, толькі 6 безь пярэчаньня прынялі патрабаваньні Кара. Расейскі палкоўнік абвесьціў, што кожны вольны супраціўляцца, як яму заўгодна, але мусіць ведаць, што імпэратрыца абыдзецца зь ім як з асабістым ворагам і бунтаўніком ва ўласнай айчыне. Пад пагрозаю расейскіх гарматаў шляхта каторы раз забылася на ўласную годнасьць ды падпарадкавалася загадам чужаземнага службоўца, падпісаўшы акт канфэдэрацыі з прапанаванымі Карам пунктамі. (23;72)

Панятоўскі, напалоханы нянавісьцю шляхты ды ахалоджаньнем расейскага двара, кінуўся запабягаць перад

усясільным расейскім паслом. Паводле словаў Рапніна, «кароль... неаднаразова з клятвамі абяцаў... менавіта такімі тэрмінамі, што хаця б усе струны лопнулі, хаця б усе нашыя прыхільнікі ад нас адышлі, хаця б, нарэшце, адзін ён застаўся, неадменна й непахісна нас трымацца стане і без выняткаў усё тое рабіць будзе, што я запатрабую для посьпеху дысыдэнтаў і пажаданых для нас справаў». (29;443)

Першае, чаго запатрабаваў расейскі амбасадар ад караля,— далучыцца да акту канфэдэрацыі. Панятоўскі пагадзіўся, не пярэчачы.

Выбары на сойм, прызначаны на кастрычнік 1768 г., адбываліся паводле жаданьня расейскіх уладароў. Апроч грошай, у ход ішоў подкуп дэпутатаў ордэнамі Расейскае імпэрыі. Так, Кароль Радзівіл і маршалак літоўскае канфэдэрацыі С. Брастоўскі атрымалі зь Пецярбургу ордэны сьв. Андрэя. Але асноўным аргумэнтам расейцаў былі войскі, якія рабавалі маёнткі непаслухмяных ды не спыняліся перад наўпроставымі рэпрэсіямі супраць іх. Рапнін дамогся ад канфэдэратаў выданьня маніфэсту, які абвяшчаў царскія войскі «пасільнаю й сапраўднаю дапамогаю народу... Усе ж тыя, якія супраціўляцца яму наважацца або няпрыяцельскім чынам нахабна пастулаць зь імі пасьмеюць, ворагамі Айчыны прызнавацца будуць і паводле права й дадзенае нам улады судзіць і караць іх будзем...» (24;172)

Пры адсутнасьці збройнага адпору з боку шляхты расейскі пасол пачуваўся на землях чужое дзяржавы ўсё больш упэўнена. Ён запатрабаваў, каб на сойме была абраная дэлегацыя да яго, якая мела б усе паўнамоцтвы сойму і вырашала ўсе пажаданыя Пецярбургу пытаньні непасрэдна з удзелам Рапніна. Гэтая прапанова выклікала буру пратэстаў у сойме. І сапраўды, ніколі яшчэ так яўна не тапталіся правы краіны. Ніколі яшчэ не патрабавалі афіцыйна прызнаць таго факту, што лёсы дзяржавы мусіць вырашаць чужаземец... Але ўтаймаваць незадаволеных удалося даволі лёгка. Уначы з 13 на 14 кастрычніка галоўныя падбухторнікі былі арыштаваныя ды вывезеныя ўглыб Расеі, у Калугу. Паказальна, што, хаця арыштантаў везьлі ў Вільню пад зусім невялікаю вартаю, ніхто нават не зрабіў спробы адбіць іх. І гэта, нягледзячы на шматлікіх узброеных канфэдэратаў, што стаялі вакол Варшавы!



Кіраўнікі Барскай канфэдэрацыі.

Гэтым учынкам шляхта была вельмі напалоханая. Выбары дэлегацыі адбыліся. У выніку перамоваў з Рапніным было прынятае рашэньне пашырыць правы дысыдэнтаў. Але ня гэта было страшным. Расейскі пасол прымусіў ухваліць пункт, паводле якога ніводны наступны сойм ня меў права зьмяняць што-кольвечы ў нутраным ладзе Рэчы Паспалітае, а калі б усё ж наважыўся, у справу мусіла ўмяшацца Расея са сваім велізарным войскам... (24;172—186)

Абураная прыніжэньнем сваёй дзяржавы шляхта пачала сьцякацца ў мястэчка Бар, што на Падольлі, дзе была завязаная канфэдэрацыя, якая выступіла за захаваньне прывілеяў каталіцкага касьцёлу, супраць засільля расейскае палітыкі ў справах Рэчы Паспалітае. Канфэдэрацыя насіла ярка выражаны антыстаніслаўскі характар. Кароль ня тое што не карыстаўся аўтарытэтам у шляхты — тая бачыла ў асобе манарха асноўную прычыну заняпаду краіны, ейнага поўнага падпарадкаваньня суседняй дзяржаве. Нянавісьць да Панятоўскага была ўсеагульнаю.

Але задачы, якія ставілі перад сабою канфэдэраты, разьбіліся аб уласныя амбіцыі іхных кіраўнікоў. Барацьба паміж падчашым літоўскім Яўхімам Патоцкім, які быў абраны рэгімэнтарам, і маршалкам каронным Язэпам Пуласкім прывяла да расколу ў лягеры барцаў, што самым сумным чынам паўплывала на баяздольнасьць войска...

Між тым Рапнін дамогся ад Станіслава Панятоўскага і ад сэнату, каб тыя афіцыйна зьвярнуліся да Кацярыны II з просьбаю пра вайсковую дапамогу ў падаўленьні канфэдэрацыі. Тыя паслухмяна выканалі патрабаваньне расейскага пасла. Расейскія войскі пачалі наступ на барцаў. Нязгода ў шэрагах канфэдэратаў, іхная недысцыплінаванасьць спрычыніліся да вельмі слабой баяздольнасьці апошніх. Дастаткова сказаць, што ў бітвах з рэгулярнымі царскімі войскамі на аднаго забітага расейскага жаўнера прыходзілася 20 забітых шляхцічаў... (24;199—201)

Канфэдэраты хутка былі разьбітыя. Але незадаволенасьць парадкам рэчаў пакідала глебу для новых выступаў апазыцыйнае шляхты. Завязваліся новыя канфэдэрацыі па ўсёй краіне. У верасьні 1768 г. адбыўся выбух у раней спакойным Вялікім Княстве Літоўскім. Завязваліся шматлікія павятовыя й ваяводзкія канфэдэрацыі, якія нападалі на расейскія войскі. І не бяз посьпеху. Так, напрыклад, пад вёскаю Лань ашмянскія канфэдэраты пад кіраўніцтвам Козела разьбілі царскія аддзелы князя Мяшчэрскага. Пасьпяхова дзейнічалі ўланскія аддзелы Язэпа Беляка, укамплектаваныя літоўскімі татарамі... Па ўсім краі зь пераменным посьпехам ішло змаганьне з чужаземнымі войскамі.

Канфэдэраты пачалі зьбірацца каля Нясьвіжа. Кароль Радзівіл, якому належаў горад, з энтузіязмам далучыўся да паўстанцаў, забыўшыся пра ганебную ролю, якую ён толькі нядаўна адыграў у якасьці маршалка Радамскае канфэдэрацыі. Але энтузіязму гэтага хапіла ненадоўга. Нягледзячы на добрыя ўмацаваньні замку, на 32 гарматы, якія яго абаранялі, на шматлікія шэрагі абаронцаў, калі аддзелы генэрала Крачэтнікава аблажылі Нясьвіж, Пане Каханку пасьпяшаўся напісаць пакаянны ліст Рапніну ды здаць горад. А між тым расейскія войскі значна саступалі канфэдэрацкім у колькасьці...

Але барацьба працягвалася. Паводле сьведчаньня віленскага біскупа Масальскага, у Вялікім Княстве Літоўскім было 52 000 тайна сканфэдэраванае шляхты. 5 жніўня 1769 г. быў падпісаны акт Генэральнае канфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага. Генэральным маршалкам быў абраны Міхал Пац, а рэгімэнтарам — Язэп Сапега. 31 кастрычніка 1769 г. была падпісаная Генэральная канфэдэрацыя Абодвух Народаў. Кіраўніком яе стаў Міхал Красінскі, генэральны маршалак каронкае канфэдэрацыі, які знаходзіўся ў той час у выгнаньні ў Турцыі. Замяшчаць яго мусіў Міхал Пац і ягоны намесьнік Ігнат Богуш. Гэты факт выклікаў незадавальненьне вялікае часткі «каранямаў», якія не хацелі падпарадкоўвацца ліцьвінам. (31;731)

Генэральная канфэдэрацыя Абодвух Народаў рашуча абмежавала ўплыў магнатаў. Зьвязам кіравала «кола», у якое дапускаліся толькі маршалкі і рэгімэнтары асобных земляў, паветаў і ваяводзтваў. Магнаты маглі браць удзел у паседжаньнях «кола» толькі па асабістым запрашэньні, прычым мелі тут толькі дарадчы голас. Роля алігархаў імкліва зьменшылася менавіта падчас Барскае канфэдэрацыі і не паднялася ўжо да ранейшага ўзроўню да канца Рэчы Паспалітае. Пазьней гэта ўмела выкарыстаў Станіслаў Аўгуст, ствараючы сваю партыю зь ліку сярэдняе шляхты. (24;209)

Між тым кароль лявіраваў паміж Расеяй і канфэдэратамі. Ён нібы і пагаджаўся ваяваць супраць барцаў, браў на гэтую мэту грошы ад Пецярбургу, але распачынаць барацьбу не сьпяшаўся. Больш таго, ва ўмовах расейска-турэцкае вайны ён спадзяваўся пазбавіцца залежнасьці Рэчы Паспалітае ад Расеі. 30 верасьня 1770 г. на паседжаньні сэнату ён заявіў аб разрыве апошняга трактату, навязанага яму Рапніным. Разам з Чартарыйскімі, зь якімі зноў пачаў збліжацца, ён нават пачаў рабіць захады дзеля далучэньня да канфэдэрацыі, што магло б надаць апошняй агульнанацыянальны характар. Але супрацоўніцтва з каралём аслабіла б уплывы магнатаў, што не ўваходзіла ў іхныя пляны. Кароль Радзівіл піша да Ігната Богуша: «...Кароль і Фамілія Чартарыйскіх высылае Дэмбінскага, кашталяна войніцкага, каб іхным імем далучыўся да Генэральнае канфэдэрацыі. Барані Божа, каб гэтае

сталася... бо тады згуба Айчыны і нас усіх настане». (24;211) Канфэдэраты не прынялі да сябе караля...

Працягваліся звадкі між «караняжамі» і ліцьвінамі, між Радзівіламі й Пацамі, між Пацамі й Масальскімі... Ва ўмовах усеагульнага бязладу краіна ўяўляла сабою вельмі прывабны кавалак для драпежных суседзяў. Яшчэ ў сярэдзіне 1770 г. аўстрыйскія войскі занялі два польскія староствы, абʼяўленыя «вернутымі» на той падставе, што ў 1412 г. яны адышлі да Польшчы ад Вугоршчыны. Прускі кароль, нібы дзеля абароны сваіх валоданьняў ад мору, што ахапіў паўднёвую Польшчу, заняў памежныя польскія землі...

Але для ўзаконеньня захопаў была неабходная зачэпка. І гэтаю зачэпкаю стала абʼяўленьне 13 кастрычніка 1770 г. Генэральнай канфэдэрацыяй бескаралеўя. У маніфэсьце Станіслаў Панятоўскі абвяшчаўся дэтранізаваным як «узурпатар і тыран», абвяшчаўся ворагам Айчыны і выклікаўся ў суд як стольнік літоўскі. Паводле думкі барцаў, гэты акт мусіў зьвярнуць увагу эўрапейскіх дзяржаваў на падзеі ў Рэчы Паспалітай і выклікаць зь іхнага боку дапамогу. Але вынікі аказаліся цалкам працілеглыя. Эўрапейскія манархі былі абураныя такім абыходжаньнем з каралеўскаю асобаю, а сам Станіслаў Аўгуст канчаткова адвярнуўся ад канфэдэратаў ды кінуўся ў абдымкі Пецярбургу.

Канчаткова ж Барская канфэдэрацыя згубіла падтрымку Эўропы пасьля няўдалае спробы выкрасьці караля з мэтаю ягонага забойства 3 лістапада 1771 г. Аўстрыя, якая спачатку была падтрымлівала барцаў, адмовіла ім у дапамозе ды пачала, побач з Прусіяй, выступаць за падзел Рэчы Паспалітае між трыма дзяржавамі. Прускія войскі, якія ўжо зь лета акупавалі Паморʼе, сталі, у паразуменьні зь Пецярбургам, займаць Вялікапольшчу. Расейскія ж палкі даўно пачуваліся на абсягах дзяржавы гаспадарамі. Краіна была ня ў стане абараняцца, ня выратаваў становішча і пераход вялікага гетмана літоўскага Міхала Агінскага на бок канфэдэратаў увосень 1771 г. Кіраўнік войска Вялікага Княства Літоўскага даўно ўжо рыхтаваўся выступіць супраць захопнікаў. Калі расейскія войскі, што даведаліся пра гэтыя пляны, з розных бакоў пачалі падыходзіць да літоўскага войска, якое стаяла пад Целяханамі, гетман раптоўным нападам разьбіў палкі генэрала Альбічава пад Безь-

дзежам (6 верасьня). На маніфэст пераможцы аб далучэньні да Генэральнае канфэдэрацыі адгукнуліся шырокія шляхоцкія колы, у тым ліку многа прыхільнікаў Фаміліі. Яшчэ пару такіх перамогаў, і расейскія войскі ў Вялікім Княстве Літоўскім былі б зьнішчаныя. Але ўдача адвярнулася ад М. Агінскага. Расейскі пасол Салдэрн, нягледзячы на асабістую непрыхільнасьць да Фрыдрыха II, сам заклікаў прусакоў заняць Познань, каб усе свае сілы кінуць на непакорлівага гетмана. Уначы на 22 верасьня Сувораў раптоўна напаў на сонны лягер М. Агінскага пад Сталовічамі і выразаў усё ягонае войска. Сам жа гетман апынуўся на эміграцыі... (32;200)

Канфэдэраты з самага пачатку паўстаньня мала спадзяваліся на ўласныя сілы і ўскладалі надзеі перш за ўсё на замежныя двары — Бэрлінскі, Венскі, Дрэздэнскі ды Вэрсальскі. Але гэтыя спадзяваньні аказаліся марнымі. Напачатку суседнія дзяржавы, баючыся ўзмацненьня Расеі, актыўна дапамагалі барцам. Аўстрыя дазволіла канфэдэратам фармаваць на сваёй тэрыторыі ўзброеныя атрады, Францыя дасылала ім грошы й ваенных інструктараў... Аднак нямецкія двары не хацелі дый не маглі адкрыта паўставаць супраць Расеі, а, наадварот, жадалі ўзмацніцца за кошт Рэчы Паспалітае. У сваю чаргу, зблíжэньне Бэрліна зь Венаю, арганізаванае Прусіяй, пераканала Кацярыну II у неабходнасьці саступак на карысьць прускага саюзьніка. 15 жніўня 1772 г. у Пецярбургу быў падпісаны трактат між Расеяю, Прусіяй і Аўстрыяй, які зацьвярджаў тэрытарыяльныя набыткі гэтых дзяржаваў коштам фэдэратыўнае краіны. Найбольшыя тэрыторыі (92000 кв. км) атрымала Расея, да якой адышлі землі Вялікага Княства Літоўскага з гарадамі Дзьвінскам, Віцебскам і Магілёвам. (20;18) 18 жніўня капітулявала апошняе апірышча канфэдэратаў — Ясна Гура. Кіраўнікі барцаў мусілі ратавацца на эміграцыі. Тысячы і дзясяткі тысячаў канфэдэратаў, 70 % зь якіх складалі мяшчане й сяляне, былі сасланыя ў Сібір на катаргу...

Пастаўленую на калені Рэч Паспалітую чакаў яшчэ сойм, які мусіў зацьвердзіць падзел. Шляхта мела сама падпісацца пад актам інкарпарацыі земляў сваёй дзяржавы...

Паводле плянаў суседніх краінаў, сойм павінен быў

прызначыць са свайго складу дэлегацыю, якая ўступіла б у перамовы з прадстаўнікамі трох агрэсараў ды зацьвердзіла б падзел. У гэтай далікатнай справе вялікае значэньне набывала асоба маршалка, які мусіў палагодзіць усё так, як было неабходна пераможцам. Выбар паў на князя Адама Паніскага, які быў абраны ад Вялікага Княства Літоўскага пад аховаю расейскіх штыхоў, але стаўся кіраўніком кароннае дэлегацыі. За брудную місію, якую ён згадзіўся ўзяць на сябе, будучы маршалак атрымліваў 3000 чырвонцаў на месяц ад расейскага пасла Штакельбэрга. Дый большая частка паслоў была падкупленая. Плату яны атрымлівалі розную — у залежнасьці ад палітычнае вагі яна складала ад 200 да 300 чырвонцаў на месяц. Тыя, хто павінен быў намовіць сваіх калегаў без супраціву зацьвердзіць ганебны падзел, атрымлівалі болей. (23;93)

Зважаючы на тое, што звычайны сойм павінен быў прымаць рашэнні аднагалосна, і баючыся ягонага зрыву пры дапамозе права liberum veto, расейскія гаспадары вырашылі ўтварыць канфэдэрацыю.

Супраць гэтага выступіў цэлы шэраг паслоў, сярод якіх найбольш вядомыя паслы наваградзкія Тадэвуш Рэйтан і Самуіл Корсак, якім соймік даручыў «на падзел краю трыма суседнімі гаспадарствамі... не пагаджацца». (30; 31) Сярод 15 паслоў, што падтрымалі Рэйтана й Корсака, былі пінскі пасол Куранецкі, Булгарын — пасол ваўкавыскі,Валадковіч і Багушэвіч — паслы менскія... Прычым Станіславу Багушэвічу ўдалося праз расейскія вайсковыя кардоны выслаць да сваіх выбаршчыкаў інфармацыйны ліст пра гвалт расейскіх войскаў і Паніскага, якія парушалі легітымнасьць сойму. Гэты ліст быў упісаны ў Менскія гарадзкія кнігі, што аўтаматычна рабіла несапраўднымі ўхвалы сойму. Але высілкі нешматлікае апазыцыі ўдарэмніў А. Паніскі. Дый пра якія правы і законы магла йсьці мова там, дзе кіравала бяспраўе... Т. Рэйтан і С. Корсак былі выключаныя зь ліку паслоў і аддадзеныя пад суд...

Кароль мусіў «дабрахвотна» прызнаць канфэдэрацыю пасьля таго, як Штакельбэрг абвесьціў яму, што ў адваротным выпадку 50 000 расейскіх жаўнераў дадаткова будуць уведзеныя ў межы дзяржавы.

Сойм, безумоўна, зацьвердзіў падзел Рэчы Паспалітае. Апроч таго, ён выпрацаваў новы лад кіраваньня



Міхал Казімер Агінскі.

дзяржаваю. Сярод іншага, была прынятая пастанова, паводле якой толькі «прыродны Пяст» можа быць абраны каралём (умова, прадыктаваная Расеяй як супрацьвага імкненьню барцаў пасадзіць на трон Рэчы Паспалітай саксонскага курфюрста); забаранялася спадчыннасьць кароны; дысыдэнты ўраўноўваліся ў правах з каталікамі; была ўведзеная адказнасьць за забойства халопаў... Пры каралю ўтваралася сталае кола дарадцаў з 36 чалавек, якое атрымала найменьне «Нястомная Рада» і зьяўлялася правобразам кабінэту міністраў. «Нястомнай Радзе» даручалася весьці пяць дэпартамэнтаў — замежных справаў, паліцыі, правасудзьдзя, скарбаў, вайсковась-

ці. Утварэньне гэтага органа значна абмяжоўвала ўладу магнатэрыі, якая адгэтуль ужо ніколі ня мела выключнага, як гэта было раней, уплыву на кіраваньне дзяржаваю.

Значным дасягненьнем гэтага, па сутнасьці, ганебнага сойму было ўтварэньне «Адукацыйнае камісіі», якая мусіла кіраваць асьветаю і ўсімі навучальнымі ўстановамі Рэчы Паспалітае і адыграла выключную ролю ў гісторыі культурнага разьвіцьця краіны. На чале «Адукацыйнае камісіі» стаў віленскі біскуп Масальскі.

Апроч таго, сойм яшчэ раз пацьвердзіў гарантыі Расеі ў справе непарушнасьці нутранога ладу Рэчы Паспалітай. (23;96—97)

Кароль, разумеючы, што ў складаных умовах анархіі ў дзяржаве яму не абысьціся без уласнага староньніцтва, усе сілы скіраваў на перавабліваньне шляхты. Кіраўніком «станіслаўскае» партыі ў Кароне стаў прымас Міхал Панятоўскі, а ў Княстве — Антоні Тызэнгаўз, падскарбі надворны літоўскі. Да «станіславаўцаў» далучыліся пераважна прадстаўнікі сярэдняе шляхты, так ці йнакш залежныя ад караля або Тызэнгаўза: дзяржаўцы каралеўскіх маёнткаў, чынавенства ды інш. Акрэсьленае праграмы дзеяньняў «станіславаўцы» ня мелі. Галоўнаю іхнаю задачаю была падтрымка караля ва ўсіх ягоных пачынаньнях. (30;27—28)

Безумоўна, старая, радавітая магнатэрыя не магла пагадзіцца з абмежаваньнем сваіх правоў на карысьць «выскачак» зь менш заможнае шляхты. Супраць караля й ягонае партыі ў 1776 г. утварылася староньніцтва на чале зь вялікім гетманам каронным Ксавэрым Браніцкім. Да абаронцаў старасьвецкіх правоў далучыліся Адам Чартарыйскі, пляменьнік Браніцкага генэрал літоўскай артылерыі Казімер Сапега, вялікі маршалак літоўскі Ігнат Патоцкі й ягоны брат Станіслаў. Кіраваў гэтым староньніцтвам у Вялікім Княстве Літоўскім Міхал Агінскі, вялікі гетман літоўскі.

Характэрнаю асаблівасьцяй новага зґрупаваньня стала тое, што ў ягоныя шэрагі ўліліся ня толькі «рэспубліканцы», але й рэшткі былой «Фаміліі», аб'яднаныя агульным клопатам пра будучыню Айчыны. Караля яны бачылі правадніком прарасейскае палітыкі. (32;213)

Гэтая партыя пачала рыхтаваць канфэдэрацыю. Прычым Браніцкія спадзяваліся на падтрымку ўплыво-

вага князя Пацёмкіна, зь якім яны былі ў сваяцтве. Але дапамогі не дачакаліся: расейскі пасол Штакельбэрг даслаў царскія войскі, якія разагналі канфэдэрацыю на самым пачатку. Больш за тое, апазыцыя, прыбылая на сойм, была выключаная зь ліку паслоў пры дапамозе расейскіх штыхоў. (23;100) Сканфэдэраваны ж сойм правёў рашэньні, якія яшчэ больш узмацнялі ўладу караля над войскам, яшчэ больш абмяжоўвалі правы гетманаў.

Між тым надворны падскарбі літоўскі, адданы прыхільнік рэформаў, вырашыў ператварыць у цэнтры прамысловага разьвіцьця краіны давераныя Антонію Тызэнгаўзу велізарныя каралеўскія эканоміі ў Вялікім Княстве Літоўскім — Гарадзенскую і Шаўлеўскую (Шаўляйскую). Ен стварыў 23 фабрыкі й 2 вялікія фабрычныя паселішчы ў Ласосьне й Гарадніцы пад Горадняю. А. Тызэнгаўз ставіў млыны й бровары, маслабойні й мэханічныя майстэрні... Сапраўдная прамысловая рэвалюцыя, якую задумаў падскарбі, сьведчыла пра ягоныя рэфарматарскія перакананьні. Спосабы ж яе правядзеньня — пра адсутнасьць здольнасьцяў ажыцьцяўляць задуманае. Чалавек, які вырашыў вывесьці краіну з глыбіняў фэадалізму адразу ў разьвіты капіталізм, дзейнічаў мэтадамі, характэрнымі для тагачаснага грамадзтва.

Зачараваны карцінаю сваёй «расквітнелай Галяндыі», «літоўскі каралёк», як яго паўсюдна называлі, не лічыўся ні з чым і ні з кім. На чале асабістае гвардыі, якая складалася з басьнійцаў, ён урываўся ў маёнткі каралеўскіх даўжнікоў і сілаю далучаў іх да эканоміі... Парушаў правы асабістае ўласнасьці й абмяжоўваў асабістыя свабоды... Цісну ў на суды, вымушаючы судзьдзяў пад пагрозаю вайсковага ўмяшальніцтва выносіць несправядлівыя прысуды на сваю карысьць... Меў у распараджэньні велізарныя дзяржаўныя сродкі, якія выкарыстоўваў без усялякага кантролю й ліку...

Празь некалькі гадоў такое дзейнасьці Антоні Тызэнгаўз стаў самым ненавісным чалавекам у Вялікім Княстве Літоўскім. Жыхары эканоміяў, якіх ён прымушаў да рабскае працы, называлі яго «д'яблам». Кансэрватыўныя магнаты зьдзекаваліся зь яго і лічылі самым небясьпечным вар'ятам. Прыхільнікаў рэформаў ён адштурхоўваў тым, што быў паслухмянаю зброяю ў

руках караля й выконваў для яго самую брудную палітычную работу. (33;45)

Партыя Тызэнгаўза разбурылася ўсьлед за падзеньнем свайго кіраўніка ў 1780 г. Ворагі скарысталі недакладнасьці ў рахунках Літоўскае скарбовае камісіі, за якую падскарбі адказваў. Кіраўнік партыі быў дыскрэдытаваны ў грамадзкай думцы. Уплывы на сойміках перахапілі ягоныя шматлікія праціўнікі. Некаторыя зь іх потым сталі шчырымі прыхільнікамі караля. На чале раялістаў стаў таксама адзін зь іх — Яўхім Храптовіч, пазьнейшы падканцлер літоўскі. Але ніколі ўжо кароль ня меў такіх уплываў на сойміках Вялікага Княства Літоўскага, як у часы панаваньня Тызэнгаўза. (30;28—29)

Між тым у гэты пэрыяд параўнальнага ўзмацненьня каралеўскае ўлады Вялікае Княства Літоўскае, як і Рэч Паспалітая ў цэлым, перажывала пэрыяд пэўнага адраджэньня. Дзякуючы дзейнасьці адукацыйнае камісіі ўзрос ровень асьветы. Былая Віленская акадэмія была пераўтвораная ў Галоўную Літоўскую школу, якая разгарнула шырокую дзейнасьць дзеля адукацыі краю. Паўсталі ваяводзкія школы ў Вільні, Горадні, Берасьці, Коўне, Менску, Пінску й Наваградку. На 1783 г. у Вялікім Княстве Літоўскім налічвалася 40 парафіяльных школаў.

Паўставалі новыя мануфактуры (толькі ў землях Радзівілаў іх было створана 23), на якіх выраблялiся сукно і шкло, парцаляна й вырабы з мэталю... Разьвіваліся новыя тэндэнцыі ў сельскай гаспадарцы. Распаўсюджваліся мэханізаваныя сродкі апрацоўкі прадукцыі, разводзілася элітная жывёла, спосаб вядзеньня гаспадаркі набываў усё больш рацыянальныя рысы. (34;182,186, 195)

На схіле XVIII ст. адбылося і ўзмацненьне цэнтралізаванае ўлады коштам абмежаваньня магнацкага ўсяўладзьдзя. Гэта было абумоўлена некалькімі чыньнікамі. Найгалоўнейшым зь іх стала ўтварэньне «Нястомнае Рады». Створаная на ўказку расейскай амбасады з мэтаю абмежаваць каралеўскую ўладу і не дапусьціць новаўвядзеньняў, яна штогод усё болей станавілася інструмэнтам палітыкі манарха, накіраванай на ўмацаваньне цэнтралізаванае ўлады коштам улады вышэйшых урадаўцаў — звычайна прадстаўнікоў найбольш магутных і багатых родаў. (2;307)

Немалое значэньне для ўпадку ўплыву магнатэрыі мела і ейнае амаль усеагульнае супрацьстаяньне каралеўскай уладзе. Калі манарх карыстаўся моцнаю падтрымкаю Пецярбургу, выступы супраць караля й намеры пасадзіць на каралеўскі пасад іншаземных прэтэндэнтаў, не такіх ляяльных да Расейскай імпэрыі, сустракалі супраціў Расеі. Апроч таго, пасьля паразы Барскае канфэдэрацыі многія прадстаўнікі магнатэрыі мусілі эміграваць і, такім чынам, былі выключаныя з грамадзкага жыцьця краіны. Тыя ж, хто застаўся або вярнуўся, штораз больш выціснутыя каралём і ягонай партыяй з найбуйнейшых дзяржаўных пасадаў, былі вымушаныя да часу трываць стан рэчаў. (21;304) Аднак зьмены ў краіне наклалі адбітак і на арыентацыю магнатэрыі. Ва ўмовах эканамічных посьпехаў Рэчы Паспалітае зь неабходнасьцю мелі адбыцца й зьмены ў палітычным ладзе. Бадай, не засталося нікога сярод буйных палітычных постацяў краіны, хто б адмаўляў неабходнасьць рэформаў у дзяржаўным ладзе. Але шляхі гэтых рэформаў бачыліся розным групоўкам па-рознаму. Толькі да часу ўсіх апазыцыянэраў яднала нянавісьць да караля. З варожасьцю да Станіслава Аўгуста ў пераважнай частцы тагачасных магнатаў лучылася і патрыятычнае імкненьне да адраджэньня Айчыны, яўна немагчымага пад фактычным пратэктаратам Расеі. Так, калі перад соймам 1787 г. Станіслаў Панятоўскі накіраваў да Кацярыны II ліст з просьбаю дазволіць сякія-такія рэформы, царыца адказала: «Няхай сойм займецца спачатку толькі справамі саюзу з Расеяй». (23;136)

А для шчыльнейшага далучэньня Рэчы Паспалітае Пецярбург меў падставы. У 1787 г. палітычная сытуацыя для Расеі значна ўскладнілася — пачалася новая расейска-турэцкая вайна... Швэдзкі кароль Густаў III таксама абвесьціў вайну сваёй усходняй суседцы. Прусія заключыла антырасейскі саюз з Англіяй і Галяндыяй... Да таго ж, Пецярбург надта непакоіўся ростам прапрускіх настрояў у Рэчы Паспалітай. Імкнучыся пазбавіцца расейскага панаваньня, шляхта павярнулася да паўночнага суседа, спадзеючыся атрымаць дапамогу ў справе адраджэньня Айчыны. Дапамога гэтая, па сьмерці ў 1786 г. Фрыдрыха Вялікага і ўступленьні на прускі пасад ягонага сына Фрыдрыха Вільгельма II, здавалася гарантаванай. Адкрыта экспансіяністцкія намеры былога караля

зьмяніліся ня менш захопніцкімі, але добра дыпляматычна прыхаванымі намерамі ягонага наступніка.

Асабліва ўзрос крэдыт Фрыдрыха Вільгельма ў Рэчы Паспалітай пасьля патрабаваньня Кацярыны II, каб фэдэратыўная дзяржава далучылася да вайны з Турцыяй. Прускі кароль выказаўся супрадць такога саюзу, заявіўшы, што «калі Рэспубліка мае патрэбу ў саюзе, то я прапаную свой з абавязкам выставіць 40 000 войска на яе абарону, не патрабуючы за гэта для сябе нічога». (29;525)

Выступ Фрыдрыха Вільгельма як абаронцы Рэчы Паспалітае нечувана пашырыў тут прапрускія настроі. На чале прапрускае партыі, якая атрымала назву «патрыятычная», усталі гетман вялікі літоўскі Міхал Агінскі, надворны маршалак літоўскі Ігнат Патоцкі й Адам Чартарыйскі. «Патрыёты» выступалі за рэформы ў дзяржаўным ладзе ды ўнезалежненьне ад Расеі пры падтрымцы Прусіі. Некаторыя прадстаўнікі гэтае групоўкі, такія як Ігнат Патоцкі, выступалі за супрацоўніцтва з каралеўскаю партыяй, слушна ўважаючы, што дамагчыся сваіх мэтаў можна толькі аб'яднаўшы сілы ўсяго грамадзтва, тым больш што і Станіслаў Аўгуст, падбадзёраны нечаканаю падтрымкаю Прусіі, рашуча заняў антырасейскую пазыцыю.

Малалікае прарасейскае староньніцтва ўзначаліў генэрал літоўскай артылерыі Казімер Нестар Сапега. Гэтая групоўка найбольш яскрава рэпрэзэнтавала магнацкія колы, якія выступалі за рэстаўрацыю ранейшае дзяржаўнае сыстэмы, за павелічэньне самастойнасьці Вялікага Княства Літоўскага ў складзе Рэчы Паспалітай пры падтрымцы Расеі. Ня дзіва, што староньніцтва карысталася ўсямернаю падтрымкаю расейскага пасла Штакельбэрга. (21;323) Аднак гэтая групоўка на той момант, калі ўсю краіну ахапілі антымаскоўскія настроі, да часу не адыгрывала вялікае ролі.

Прапанова Прусіі дапамагчы Рэчы Паспалітай выклікала выбух энтузіязму ў шырокіх шляхоцкіх колах. Канфэдэрацыя Вялікага Княства Літоўскага, завязаная пры каралю, з мэтаю павялічыць войска й падаткі, гатовая была ўжо сарваць сойм і запрасіць у межы дзяржавы прусакоў, але пасьля згаданае заявы Фрыдрыха Вільгельма неабходнасьць у гэтым адпала: сойм рашуча ўстаў на прапрускія пазыцыі... (32;229)

Безумоўна, прускі манарх ня быў тым дабрачынцам,



Адам Казімер Чартарыйскі.

якім яго ўяўлялі ў Рэчы Паспалітай. Ва ўмовах вайны, у якой, з аднаго боку, удзельнічалі Расея і Аўстрыя, а з другога — Турцыя, чакаліся вялікія тэрытарыяльныя набыткі для саюзных дзяржаваў. Прусія ж, ня хочучы застацца ўбаку ад новага прырошчваньня тэрыторыяў магутнымі эўрапейскімі дзяржавамі, вырашыла набыць новыя землі коштам Рэчы Паспалітае, а менавіта — завалодаць Торуньню і Гданьскам, прычым набыць іх, як і пры першым падзеле, не вайсковым,

а дыпляматычным шляхам, прымусіўшы Расею пайсьці на саступкі.

Узрадаваныя падтрымкаю Фрыдрыха Вільгельма, паслы адразу пачалі рабіць крокі, супярэчныя падпісаным раней з Расеяю дамовам і накіраваныя на аднаўленьне незалежнасьці краіны. На хвалі энтузіязму сойм прыняў рашэньне павялічыць войска да 100 000. Ніхто і не падумаў, што ўтрымліваць такую армію не было ніякае магчымасьці, бо выдаткі на яе складалі 50 млн. залатых, у той час як увесь дзяржаўны бюджэт складаў усяго 18 млн. У захапленьні многія прапанавалі дабрахвотныя ахвяраваньні, але яны аказаліся мізэрнымі... Чатыры гады запар ішла размова пра павелічэньне падаткаў на ўтрыманьне войска, але да выніку так і не дайшло — лік арміі не перавысіў 60 000. (29;256)

Сойм абвесьціў сябе бестэрміновым і працягваў прымаць рашэньні, якія перш за ўсё былі накіраваныя на ўнезалежненьне ад Расеі. Найпершы ўдар прыйшоўся на «Нястомную Раду», якая карысталася ўсеагульнаю непрыхільнасьцю і нават атрымала зусім не заслужанае найменьне «Нястомнае Здрады». «Патрыёты» бачылі ў ёй інстытут, навязаны краіне Пецярбургам, які, адпаведна, зьяўляўся сымбалем панаваньня Расеі ў Рэчы Паспалітай. «Магнацкая» ж групоўка слушна бачыла ў ёй праваднікa моцнае выканаўчае ўлады, што ніяк не стасавалася з «кансэрватыўнымі» намерамі гэтага староньніцтва. На гэтай хвалі Ігнату Патоцкаму ўдалося правесьці рашэньне аб скасаваньні «Нястомнае Рады».

Пры агульным панаваньні антырасейскіх настрояў А. Паніскага, маршалка сойму, які зацьвердзіў І падзел Рэчы Паспалітае, было вырашана аддаць пад суд і выгнаць за межы краіны... Натхнёны падтрымкаю Прусіі, сойм запатрабаваў ад Расеі вывесьці свае войскі з тэрыторыі Рэчы Паспалітай.

Сойм, які пазьней атрымаў назву «Чатырохгадовы» (1788—1792), не адчуваючы супраціву з боку Расеі, зрабіў яшчэ адзін крок да вызваленьня з-пад расейскага апякунства — прыняў рашэньне склікаць Пінскую кангрэгацыю праваслаўнага душпастырства, дзе мелася сфармавацца незалежная ад Пецярбургу праваслаўная ярархія, што ў будучыні павінна была пераўтварыцца ў аўтакефальную праваслаўную царкву. Гэты крок меў аднаць у Расеі падставу для чарговага ўмяшальніцтва

ў справы Рэчы Паспалітае дзеля «абароны праваслаўных адзінаверцаў».

Было вырашана накіраваць паслоў у замежныя краіны, што раней забаранялася Пецярбургам.

Кацярына II да часу, пакуль вяла вайну на два фронты, ішла на саступкі непаслухмянай дзяржаве. Яна і пагадзілася вывесьці войскі зь межаў Рэчы Паспалітае і не зрабіла ніякіх захадаў для абяцанага гарантаваньня нязьменнасьці нутранога ладу ў фэдэратыўнай дзяржаве. Але ўсе цудоўна разумелі, што па сканчэньні войнаў Пецярбург зьверне ўсю ўвагу на непакорлівую краіну, якая асьмелілася пярэчыць ягонай волі. І агульныя спадзяваньні былі накіраваныя на завязаньне самага шчыльнага саюзу з магутнаю Прусіяй.

29 сакавіка 1790 г. была падпісаная абарончая дамова паміж дзьвюма дзяржавамі, што мела гарантаваць бясьпеку Рэчы Паспалітай з боку Расеі. Шляхта была ў захапленьні. Аднак для яго не было падставаў — Прусія мела свае віды на Рэч Паспалітую. Так, прускі пасол Люкензыні пісаў свайму каралю: «Цяпер, нарэшце, гэтыя людзі ў нас у руках і будучыня Польшчы залежыць ад нашых меркаваньняў; край гэты паслужыць для Вашае Каралеўскае Мосьці тэатрам вайны і будзе закрываць сабою Сілезію ад Усходу, ці, знаходзячыся ў руках Вашае Каралеўскае Мосьці, станецца прадметам гандлю пры мірных перамовах. Увесь спрыт з нашага боку павінен складацца з таго, каб гэтыя людзі ні пра што не здагадаліся і не маглі прадбачыць, да якіх саступкаў даведзеныя яны будуць у той час, калі Ваша Каралеўская Мосьць пажадае ад іх удзячнасьці...». (23;213—215)

У якасьці пачатковае «ўдзячнасьці» Прусія неўзабаве запатрабавала ад Рэчы Паспалітае аддаць ёй Торунь і Гданьск узамен за Галіччыну, якую Аўстрыя, можа, верне дзяржаве. Краіна апынулася ў пастцы. З аднаго боку, адпрэчыўшы пратэктарат Расеі, трэба было дагаджаць новаму апекуну ды йсьці яму на саступкі, з другога — патрабаваньні новых тэрытарыяльных саступак на карысьць Прусіі паказалі сапраўдную вартасьць новага «саюзьніка». У гэтай сытуацыі «патрыёты» выказаліся за задавальненьне патрабаваньняў Фрыдрыха Вільгельма, з тым каб умацаваць саюз паміж дзьвюма краінамі. К. Сапега ж, цьвёрда трымаючыся прарасейскага кірунку, выступіў катэгарычна супраць перадачы земляў Прусіі.

Спрэчка паміж дзьвюма партыямі разгаралася, але чым далей, тым менш яна мела пад сабою глебу: па меры таго як вайна паміж Расеяй і Турцыяй падыходзіла да перамогі першай, Фрыдрых Вільгельм прыкметна ахалоджваўся да Рэчы Паспалітай і шукаў зьбліжэньня зь Пецярбургам. (32;253) Яшчэ больш яскрава выявілася імкненьне Прусіі паразумецца з Расеяй пасьля прыняцьця соймам 3 траўня 1791 г. трэцяй у сьвеце (пасьля Амэрыканскае й Францускае) Канстытуцыі. Гэты акт стаўся вянцом працы Чатырохгадовага сойму і выклікаў глыбокае незадавальненьне эўрапейскіх манархіяў, якія ўбачылі ў прыняцьці Канстытуцыі праяву адкрытага «якабінства» ды непажаданага суседнім дзяржавам умацаваньня краіны. Прыклад рэвалюцыйнае Францыі даваў яшчэ больш падставаў эўрапейскім манархіям для непрыняцьця канстытуцыйнае Рэчы Паспалітае.

У Канстытуцыі абвяшчалася спадчынная манархія, прычым наступнікам Станіслава Аўгуста быў названы саксонскі курфюрст Фрыдрых Аўгуст, абвяшчалася павелічэньне свабоды гарадоў і асабістых правоў мяшчанаў, усталяваньне талеранцыі пры паноўным каталіцкім вызнаньні ды інш. Але абвяшчалася і скасаваньне фэдэратыўнага ладу дзяржавы, чым былі істотна закранутыя амбіцыі магнатэрыі. Яна фактычна страчвала ня толькі даходныя пасады ў Княстве, але й магчымасьць істотна ўплываць на нутраную і замежную палітыку Рэчы Паспалітае ад імя яе дзейснага чыньніка — Вялікага Княства Літоўскага. (35; 236)

Безумоўна, абмежаваньне правоў магнатэрыі, распаўсюджаньне талеранцыі й дэмакратычных свабодаў у дзяржаве не маглі ня выклікаць супраціву ў шматлікіх прадстаўнікоў шляхоцкай алігархіі, што ўсё яшчэ марылі пра захаваньне «залатое вольнасьці». Сярод незадаволеных у Вялікім Княстве Літоўскім былі: інфлянцкі біскуп Я. Касакоўскі, смаленскі ваявода П. Сапега, канцлер вялікі літоўскі А. Сапега, падканцлер літоўскі Я. Храптовіч, кашталян троцкі К. Плятар і інш. З гэтага не маглі не скарыстаць суседнія дзяржавы, асабліва абражаная ў сваіх імпэрскіх імкненьнях Расея, якая, нарэшце, улетку 1791 г. падпісала мірную дамову з Турцыяй. Тады ж былі падпісаныя аўстра-турэцкі й аўстра-прускі трактаты, якія запачаткавалі збліжэньне абедзьвюх нямецкіх дзяржаваў. Такім чынам, тры моцныя краіны, якія акружа-

лі Рэч Паспалітую, па сканчэньні канфліктаў пачалі збліжацца між сабою. (20; 21)

Пагроза для дзяржавы вісела ў паветры. Ігнат Патоцкі гаварыў: «Мы не баімся вайны, але баімся лёгкасьці, зь якой Расея можа зрабіць контррэвалюцыю, асабліва цяпер, калі столькі незадаволеных». (29; 572) Але арганізаваць контррэвалюцыйныя выступы ў самой Рэчы Паспалітай, дзе мноства шляхты вітала пачатак адраджэньня сваёй дзяржавы, было немагчыма. Паводле словаў расейскага пасла Булгакава, «пры найменшым тут замаху ці супраціве ўсіх іх (апазыцыянэраў.— **Г. П.**) самнуць. Гэтае ж самае прымушае ўсіх незадаволеных маўчаць да зручнага моманту... Без уступленьня ў Польшчу моцнага войска нельга ні да чога яўным чынам прыступаць». (29; 571)

Пад пагрозаю небясьпекі «патрыёты» пачалі рабіць захады да ладжаньня супраціву. Перш за ўсё зьвярнуліся да саюзнага Фрыдрыха Вільгельма, які, паводле дамовы, мусіў аказаць збройную падтрымку Рэчы Паспалітай у выпадку вонкавае пагрозы. Але Прусія, спадзеючыся на новы падзел суседняе дзяржавы, не сьпяшалася выканаць свае абавязкі. Прускі пасол Люкезыні на просьбу вайсковае дапамогі адказаў: «Яго Вялікасьць кароль прускі ня браў удзелу ў тым, што задумвалі кароль і сойм (у прыняцьці Канстытуцыі), а таму не абавязаныя даваць дапамогу, бо пра гэта не было сказана ў саюзным трактаце». (23; 381)

Слабы саксонскі курфюрст, хаця і прываблены пэрспэктываю кароны Рэчы Паспалітае, ня мог супрацьстаяць аб'яднаным сілам Расеі й Прусіі і таму абмежаваўся толькі выразам спачуваньня.

У такіх умовах трэба было разьлічваць толькі на свае сілы. Сойм усё больш павялічваў уладу караля, які сам зьбіраўся камандаваць войскам. Усе надворныя войскі магнатаў перадаваліся пад начала вайскаводцаў рэгулярнай арміі. З замежных краінаў выпісваліся афіцэры. Рабіліся дзяржаўныя пазыкі. Рыхтавалася паспалітае рушаньне. Былі нават прапановы вызваліць сялянаў, якія мелі стаць асноўным апірышчам супраціву чужаземным войскам... Але часу было адпушчана вельмі мала.

27 красавіка ў Пецярбургу эмігранты польны гетман каронны Севярын Ржавускі, вялікі гетман каронны Фэлікс Шчэнсны-Патоцкі і адзін з былых кіраўнікоў

Барскае канфэдэрацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім генэрал-паручнік расейскай арміі Сымон Касакоўскі падпісалі акт канфэдэрацыі, складзены расейскім чыноўнікам Васілём Паповым. У гэтым акце абвяшчалася барацьба за ўзнаўленьне ранейшага ўнутрыпалітычнага ладу ў Рэчы Паспалітай.

18 траўня расейскі пасол Булгакаў перадаў падканцлеру літоўскаму Храптовічу дэкларацыю Кацярыны II, у якой, у прыватнасьці, гаварылася: «...Партыя, якая захапіла цяпер у свае рукі панаваньне, насуперак прынятай Расеяю на сябе гарантыі старажытнага ладу Рэспублікі, самавольна прыдумала новы манархічны лад, што нішчыць свабоду й дабрабыт польскае нацыі... Імпэратрыца не магла не схіліцца да шчырай просьбы многіх палякаў, якія вылучаюцца нараджэньнем, чынам і патрыятычнаю мужнасьцю, што жадаюць узнавіць старажытную свабоду і незалежнасьць сваёй Айчыны. Складаючы з гэтаю мэтаю канфэдэрацыю, яны зьвярнуліся з просьбаю аб дапамозе і апякунстве да імпэратрыцы, і гасударыня абяцала ім дапамогу, а таму загадала частцы сваіх войскаў уступіць у Польшчу дзеля ўзнаўленьня старажытных польскіх правоў і вольнасьцяў...». (23; 387—388)

Пасьля абвешчаньня дэкларацыі 96 тысячаў расейскіх жаўнераў перайшлі мяжу Рэчы Паспалітае. Войскі генэрал-аншэфа Кахоўскага рушылі на Ўкраіну, а палкі генэрала ўвайшлі ў межы Вялікага Княства Літоўскага. Ва ўкраінскім памежным мястэчку Таргавіцы і была абвешчаная падпісаная ўжо раней у Пецярбургу канфэдэрацыя.

Рэгімэнтарам Літоўскае канфэдэрацыі Кацярына II прызначыла Сымона Касакоўскага, аднак гэта быў палкаводзец бяз войска. Каб здабыць сабе армію, Касакоўскі мусіў перацягнуць на свой бок харугвы Вялікага Княства Літоўскага. Але войскі не далі сябе ані намовіць на здраду, ані перакупіць. Былі створаныя напачатку толькі павятовыя канфэдэрацыі ў Полацку, пад кіраўніцтвам Юрыя Корсака, ды ў Воршы, пад началам Тадэвуша Прысецкага. Аднак гэтыя канфэдэрацыі былі цалкам фікцыйныя, бо, апроч сваіх маршалкаў, нікога не прадстаўлялі. Па заняцьці расейскім войскам Браслава казакі гвалтам сьцягнулі нешматлікую шляхту да горада й прымусілі 125 чалавек падпісацца пад актам канфэдэрацыі...

Шляхта масава ўцякала перад прыходам чужаземна-

га войска. Тыя ж, хто заставаўся, ня надта палалі прыхільнасьцю да таргавічанаў, часта высылалі ў Варшаву паведамленьні, што, калі яны падпішуць акт канфэдэрацыі, дык толькі пад прымусам. У занятых гарадох расейскія каманды прымушалі і мяшчанаў прысягаць Таргавіцкай канфэдэрацыі. Калі мяшчане Дзісны пачалі былі супраціўляцца гэтаму, то іх змусіў да прысягі рэквізыцыямі ды гвалтамі казацкі полк... (30; 47—48)

14 чэрвеня расейскія войскі занялі Вільню. Тут і была абвешчаная Генэральная канфэдэрацыя Вялікага Княства Літоўскага. Маршалкам ейным стаў вялікі канцлер літоўскі Аляксандар Сапега, але сапраўдным кіраўніком зьвязу быў інфлянцкі біскуп Язэп Касакоўскі, які марыў адарваць Княства ад Рэчы Паспалітае і далучыць яго да Расеі. (30; 52) Сымон Касакоўскі атрымаў скасаваную раней Чатырохгадовым соймам пасаду польнага гетмана літоўскага, а пасьля пазбаўленьня званьня вялікага гетмана літоўскага Міхала Агінскага стаў уладальнікам вялікае булавы.

У Вільні былі прызначаныя прадстаўнікі таргавічанаў па ваяводзтвах і паветах. Аднак прыхільнікаў у канфэдэратаў яўна не хапала. Таму ў сьпісе гэтым значыліся імёны і тых асобаў, якіх не было тады ня толькі ў Вільні, але ўвогуле ў Княстве. Так, Станіслаў Аўгуст у сваіх лістох паведамляў, што некаторыя з запісаных у Літоўскую канфэдэрацыю знаходзіліся ў той час каля яго ў Варшаве і не выяўлялі ніякага жаданьня зрачыся Канстытуцыі. (23; 429—430)

Увогуле, нягледзячы на тое, што непрыхільных таргавічанам чакалі гвалты і рабаўніцтва, супраціў дзеяньням здраднікаў быў адчувальны. Так, напрыклад, два разы рэзыдэнт канфэдэратаў Снарскі наведваў Ашмяны, каб утварыць там канфэдэрацыю, і кожны раз абывацелі горада сыходзілі перад ягоным войскам. Удалося сабраць толькі некалькі дзясяткаў подпісаў. У Навагрудку ж 8 чэрвеня перад прыбыцьцём туды расейскіх войскаў 170 мясцовых шляхцічаў з уласнай волі сабраліся й падпісалі акт вернасьці... Канстытуцыі 3 траўня, а калі царскія палкі ўсё ж прымусілі іх прыступіць да канфэдэрацыі, то форма акту, складзенага навагародцамі, не задаволіла Генэральнасьць. Тое самае адбывалася ў Пінскім і Берасьцейскім паветах. (30; 49—50)

Расейскія войскі імкліва займалі тэрыторыю краіны.

Аднак пры ўсёй непрыхільнасьці да захопнікаў, супраціў быў вельмі пасыўны. Кіраўніком войска ў краі зьяўляўся прынц Віртэмбэрскі. Але неўзабаве быў перахоплены ягоны ліст да прускага караля, дзе ён, як брат жонкі спадкаемцы расейскага трону, заяўляў, што ня будзе змагацца супраць Расеі. Прынц мусіў сьпешна пакінуць свой пост ды эміграваць. Кіраўніцтва войскам перайшло да Юдзіцкага, вайскаводца зусім няздатнага, тым больш што ў ягоным падпарадкаваньні знаходзілася каля 10 тысячаў жаўнераў, а расейская армія ў Вялікім Княстве Літоўскім складала 32 тысячы. (23; 410) Вораг амаль без баёў прайшоў увесь край. Спробы збройнага супраціву пад Мірам, Нясьвіжам, Берасьцем посьпеху не прынесьлі...

12 ліпеня Станіслаў Аўгуст на патрабаваньне расейскага пасла Булгакава далучыўся да Таргавіцкае канфэдэрацыі ўзамен на абяцаньні непарушнасьці межаў дзяржавы. Супраць гэтага кроку рэзка выступілі надворны маршалак літоўскі Солтан і вялікі маршалак літоўскі Ігнат Патоцкі, якія пачалі рыхтаваць паўстаньне ў Варшаве сярод войскаў Вялікага Княства Літоўскага, што там стаялі. Але вялікіх вынікаў гэта не дало — пасьля нязначных выступленьняў падбухтораных імі аддзелаў абодва маршалкі мусілі эміграваць. (29; 583—584)

Між тым у лягеры таргавічанаў не было аднадушша: Браніцкі, Ржавускі, Шчэнсны-Патоцкі ня толькі былі ворагамі Касакоўскіх, але і варагавалі між сабою. Браніцкі — са Шчэнсным-Патоцкім і Ржавускім, Ржавускі — з Патоцкім і Браніцкім разам. І ў кожнага былі свае партыі, гатовыя распачаць міжусобную вайну... (23; 445—446) Ахвяраю гэтае варожасьці паў і даўні прыхільнік Расеі К. Сапега, аддадзены таргавічанамі пад суд.

Аднак рэальнае сілы варожыя паміж сабою канфэдэраты ня мелі: Расея неабмежавана панавала ў краі. Каб выратаваць становішча, Станіслаў Аўгуст прапанаваў карону ўнуку Кацярыны II, вялікаму князю Канстанціну Паўлавічу. Але гэтыя захады ня мелі посьпеху. Царыца, маючы фактычна нічым не абмежаваныя магчымасьці для ўлатвеньня справаў суседняе краіны, выношвала зусім іншыя пляны. Найперш коштам Рэчы Паспалітай яна намерылася ізноў сысьціся з Прусіяй, каб заахвоціць яе на далейшую барацьбу з рэвалюцыйнай Францыяй. Да таго ж Кацярына II пераканалася, што Таргавіцкая канфэдэрацыя ня ў стане запэўніць супа-

каеньне настрояў у краі, дзе трэба было чакаць новых выбухаў.

Наколькі прапанова падзелу Рэчы Паспалітае зыходзіла ад Прусіі, нагэтулькі канчатковае рашэньне залежала ад Расеі. Аўстрыя, занятая вайною з Францыяй, была пакінутая ўбаку. Дазволіўшы анэксію Прусіі (58 тыс. кв. км), Пецярбург ладна акругліў і свае тэрыторыі вялізным абшарам у 259 тыс. кв. км. Прускія дыпляматы, заклапочаныя «несправядлівасьцю» падзелу, спрабавалі былі пратэставаць, але, паколькі Бэрлін у гэтым падвойным альянсе быў слабейшым бокам, то мусіў пагадзіцца з умовамі, пастаўленымі Расеяй. У студзені 1793 г. прускія войскі ўвайшлі ў Вялікапольшчу. (20; 21—22)

Толькі 9 красавіка прадстаўнікі Расеі й Прусіі афіцыйна абвесьцілі пра падзел Рэчы Паспалітае. Гэтая вестка ўразіла ўсіх — і «патрыётаў», і караля, і нават таргавічанаў, у якіх, нарэшце, расплюшчыліся вочы на брудную ролю, якую яны адыгралі ў лёсе сваёй Айчыны. У адказе на дэклярацыі суседніх дзяржаваў, дзе абвяшчаўся падзел, Генэральнасьць заявіла, што яна «сьведчыць перад Богам... што ня ўдзельнічала ў падзеле...». (23; 510) Многія былыя кіраўнікі канфэдэрацыі (такія, як Шчэнсны-Патоцкі, Ржавускі й інш.) усталі ў апазыцыю да яе. Але многія, у чаканьні сваіх 30 срэбранікаў, працягвалі верна трымацца абранага шляху, пракладзенага яшчэ Юдам. Да апошніх у Вялікім Княстве Літоўскім залічаліся Касакоўскія.

Менавіта на Касакоўскіх расейскія гаспадары ўсклалі абавязак назіраць за выбарамі на сойміках паслоў на сойм, які меў зацьвердзіць новы падзел краіны. У мясцовасьці, дзе мелі праходзіць соймікі, былі разасланыя расейскія аддзелы. Каб гарантаваць выбраньне слухмяных паслоў, шляхце раздавалі грошы і загадвалі абраць маршалкамі праверaных, ляяльных Пецярбургу асобаў, якія тут жа атрымлівалі па 500 чырвонцаў. На сойміках не дазвалялася прамаўляць нічога, што магло б усхваляваць сабраных. Падкупленая шляхта пад пагрозаю расейскіх штыхоў, якія бачыла на ўласныя вочы, абірала паслоў, якіх загадалі. Абранаму ж прызначалі плату каля 200 чырвонцаў штомесяц. Дзеля большае бясьпекі канфэдэраты на загад расейскага пасла 11 траўня выдалі распараджэньне, паводле якога да ўдзелу ў сойміках не дапускаліся ня толькі тыя, хто не адступіўся ад Канстыту-

цыі 3 траўня, але нават і тыя, хто раней хоць як хваліў яе або асуджаў дзеяньні Таргавіцкае канфэдэрацыі. (23; 514)

Выбары адбыліся паводле жаданьня расейцаў — пасламі былі выбраныя нават колькі афіцэраў расейскай службы. Але і з такім складам паслоў замежным дыпляматам давялося паспытаць непрыемнасьцяў — толькі пасьля арыштаў, канфіскацыяў маёнткаў, пад стваламі расейскіх гарматаў пажаданьні драпежных суседзяў былі задаволеныя. Зацятае маўчаньне сойму было расцэненае як згода на падзел Рэчы Паспалітай.

Няўмольны гадзіньнік гісторыі адлічваў апошнія часіны жыцьця дзяржавы...

Яе яшчэ чакала вызвольнае паўстаньне Касьцюшкі, наперадзе быў апошні падзел — канец працяглае агоніі Рэчы Паспалітае... Але ў гэтых падзеях магнацкія групоўкі ўжо не адыгрывалі былое выключнае ролі — яны сышлі ў нябыт, саступіўшы месца шырэйшым шляхоцкім згрупаваньням ды пакінуўшы па сабе невырашальныя праблемы ды нядобрую памяць...

* * *

На схіле XVIII ст. уплывы магнатэрыі паступова, але няўхільна зьмяншаліся. Як ужо было зазначана, параўнальнае ўзмацненьне каралеўскае ўлады, якую падтрымліваў Пецярбург, зрабіла магчымым для караля вылучыць на галоўныя ролі ў палітычным жыцьці Рэчы Паспалітае і Вялікага Княства Літоўскага, як ейнае складовае часткі, сваіх стаўленікаў, якія (як А. Тызэнгаўз) зусім не належалі да магнатэрыі. Асабліва працэс вылучэньня нерадавітага шляхоцтва паскорыўся падчас Чатырохгадовага сойму, які сваімі рэформамі стварыў глебу для далейшага абмежаваньня ўсяўладзьдзя магнатэрыі.

У дзяржаве, якая чым далей, тым больш трапляла ў залежнасьць ад суседніх моцных краінаў, барацьба магнацкіх груповак паступова перарастала ў палітычную барацьбу паміж староньніцтвамі. Кіраўнічая роля ў апошніх належала шляхцічам, чыё становішча, незалежна ад радавітасьці ды багацьця, вызначалася перадусім аданасьцю той ці іншай дзяржаве. Так, у 90-я гг. XVIII ст. ключавыя пазыцыі ў Вялікім Княстве Літоўскім займеў род Касакоўскіх, які раней не адыгрываў прыкметнае

ролі ў палітычным жыцьці краю. І сталася гэта не ў апошнюю чаргу дзякуючы прарасейскай пазыцыі, якую занялі Касакоўскія, ды падтрымцы іх Пецярбургам.

Не належаў да ўплывовае магнатэрыі і Карл Прозар, што стварыў таемнае таварыства ў Вялікім Княстве Літоўскім, мэтаю якога было вызваленьне краю ад чужаземнае навалы. Дый у вызвольным паўстаньні, якое пазначыла канец Рэчы Паспалітае, вызначальную ролю адыгралі прадстаўнікі не старажытных магнацкіх родаў, а сярэдняе й дробнае шляхты — Т. Касьцюшка, Я. Ясінскі, Ю. Серакоўскі й інш.

Гэты працэс пашырэньня шляхоцкае дэмакратыі коштам абмежаваньня сваволі пары дзясяткаў магнацкіх родаў мог бы прывесьці ў больш спрыяльных вонкава- і ўнутрыпалітычных умовах да адраджэньня краіны. Але, паводле словаў гісторыка, «дзяржаўная ўлада Рэчы Паспалітае занадта доўга прымала бок вялікіх супраць малых. І занадта часта дбала пра ўласныя дактрыны і амбіцыі, а не пра край». (36; 78) Занадта доўгі пэрыяд панаваньня магнацкіх клянаў быў пазначаны зацятаю барацьбою за ўладу паміж імі. Бакі не спыняліся ні перад чым, нават перад здрадаю сваёй Айчыне. Толькі так можна кваліфікаваць уцягваньне суседніх дзяржаваў у свае міжусобныя звадкі ды шуканьне ў іх дапамогі, у тым ліку і збройнай. А дапамога ў міжнароднай палітыцы ніколі не бывае дабрачыннаю. Коштам яе стала свабода й незалежнасьць дзяржавы...

Пашырэньне на працягу стагодзьдзяў правоў магнатэрыі, ўзмацненьне барацьбы паміж living рознымі магнацкімі ўгрупаваньнямі прывялі да катастрафічнага аслабленьня краіны. А гісторыя ня любіць слабых...

## ЛІТАРАТУРА


1. Olszewski W. Sejm Rzeczypospolitej epoki oligarchii (1652—1763).— Poznań, 1966.
2. Bardach J., Leśnodorski B., Pietrzak M. Historia Państwa i prawa polskiego.— Warszawa, 1977.
3. Jasienica P. Rzeczpospolita obojga Narodów. Dzieje agonii.— Warszawa, 1992.
4. Sowa A. Pociej Ludwik Konstanty h. Waga // Polski slownik biograficzny, t. XXVII/1, zesz. 112, Wroclaw — Warszawa — Łódź — Gdańsk, 1982.
5. Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мн., 1972.
6. История Польши. Т. I. М., 1959.
7. Молчанов Н. Дипломатия Петра Первого.— М., 1986.

8. Cieślak E. W obronie tronu króla Stanisława Leszczyńskiego.— Gdańsk, 1986.
9. Sapiehowie. Materiały historyczno-genealogiczne i majątkowe.— Petersburg, 1894, t. III.
10. Пушкін І. ...Праз агонь у попел і тло.— Беларуская мінуўшчына, № 3, 1994.
11. Беларуская мінуўшчына.— №№ 5—6, 1993.
12. Заозерский А. Фельдмаршал Б. П. Шереметев.— М., 1989.
13. Otwinowski E. Dzieje Polski pod panowaniem Augusta II od roku 1696—1728.— Kraków, 1849.
14. Wyczański A. Polska Rzeczą Pospolitą szlachecką.— Warszawa, 1991.
15. Тарле Е. Северная война и шведское нашествие на Россию.— М., 1958.
16. Артамонов В. Россия и Речь Посполитая после Полтавской победы (1709—1714).— М., 1990.
17. Polska, jej dzieje i kultura od czasów najdawniejszych aż do chwili obecnej.— Kraków, 1927.
18. Kałużniacki O. Denhoff Stanisław Ernest // Polski słownik biograficzny. T. V/2, zesz. 22.— Kraków, 1939.
19. Maciszewski J. Szlachta polska i jej państwo.— Warszawa, 1969.
20. Cegielski T., Kądziela L. Rozbiory Polski 1772, 1793, 1795 // Magazyn Historyczny, № 1, 1992.
21. Samsonowicz H. Historia Polski do roku 1795.— Warszawa, 1976.
22. Link-Lenczowski A. Ogiński Marcjan Michał // Polski słownik biograficzny. T. XXIII/3, zesz. 98.— Wrocław — Warszawa — Kraków — Gdańsk, 1978.
23. Костомаров Н. Старый спор.— Смоленск, 1994.
24. Sidorski D. Panie Kochanku.— Katowice, 1987.
25. Konopczyński W. Chronologia sejmow polskich 1493—1793 // Archiwum komisji historycznej, seria 2. T. IV, N 3.— Kraków, 1948.
26. Zielińska T. Więź rodowa domy Radziwiłłowskiego w świetle diariusza Michała Kazimierza Radziwiłła Rybeńki // Miscellanea Historico-Archivistica. T. III.— Warszawa — Łódź, 1989.
27. Буганов В., Буганов А. Полководцы XVIII в.— М., 1992.
28. Matuszewicz M. Pamiętnik Marcina Matuszewicza, kasztelana Brzeskiego-Litewskiego, 1714—1765. Tt. III—IV.— Warszawa, 1876.
29. Соловьёв С. История падения Польши // Собрание сочинений. Т. XVI.— М., 1995.
30. Arcimowicz W. Wielkie Księstwo Litewskie za czasów Stanisława Augusta.— Wilno, 1938.
31. Szczygielski W. Pac Michał Jan h. Gozdawa // Polski słownik biograficzny. T. XXIV/4, zesz. 103.— Wrocław — Warszawa — Kraków — Gdańsk, 1979.
32. Konopczyński W. Dzieje Polski nowożytnej. T. II.— Warszawa, 1986.
33. Brandys M. Nieznany książe Poniatowski.— Warszawa, 1960.
34. Kosman M. Historia Białorusi.— Wroclaw — Warszawa — Kraków — Gdańsk, 1979.
35. Нарысы гісторыі Беларусі. Т. І. Мн., 1994.
36. Jasienica P. Polska anarchia.— Kraków, 1989.

# БЕЛАРУСКАЯ ЭТНАГРАФІЧНАЯ КАЛЕКЦЫЯ З ВІЛЬНІ

У 1977 г. у Музей старажытнабеларускай культуры Акадэміі навук Беларусі, дзякуючы намаганням супрацоўнікаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Вольгі Церашчатавай і Алы Лявонавай, былі перададзеныя з Гісторыка-этнаграфічнага музея Літоўскай ССР экспанаты. Усяго 891 прадмет — прылады працы і побыту беларусаў, адзенне, галаўныя ўборы, ручнікі, паясы, посцілкі, івянецкая, поразаўская, ракаўская, гараднянская, сіняўская кераміка, гліняныя цацкі канца XIX — пачатку XX ст. І на сёння гэтыя экспанаты найбольш раннія паводле свайго паходжання ў беларускіх музейных зборах народнага мастацтва. Лепшыя ўзоры гэтай калекцыі змешчаныя ў манаграфічных і энцыклапедычных выданнях і ўспрымаюцца як класіка народнага мастацтва Беларусі.

Аднак папярэдняя гісторыя гэтых каштоўных экспанатаў высветлена неканчаткова. Хто і калі іх збіраў? У энцыклапедыі «Этнаграфія Беларусі» занатавана, што калекцыя паходзіць з Беларускага музея ў Вільні. Аднак самыя рэчы і дакументацыя, з якой яны трапілі ў Мінск, маюць старыя інвентарныя нумары з манаграмай «ЕМ».

Гісторыка-этнаграфічны музей у Вільні быў створаны ў 1919 г. у выніку рэарганізацыі Музея старажытнасцяў. Ягоная дзейнасць у хуткім часе была прыпыненая, і на той час нельга было сабраць больш-менш значную беларускую калекцыю. Музей быў адноўлены толькі ў 1940 г., і ягоныя экспазіцыі склалі зборы некалькіх зачыненых на той час у Вільні музеяў.

Таму лічыцца, што перададзеныя з Вільні экспанаты паходзяць з Беларускага музея імя Івана Луцкевіча, дзейнасць якога была спыненая ў 1945 г., а фонды часткова трапілі ў Гісторыка-этнаграфічны музей.

З апісанняў Беларускага музея, зробленых яго захавальнікам Антонам Луцкевічам у 1933 г. і надрукаваных у гадавіку Беларускага навуковага таварыства, а таксама ў зборніку навуковых працаў Інстытута даследаванняў Усходняй Еўропы ў Вільні, вядома, што этнаграфічны збор музея на той час не быў вялікі. У 1918 г. калекцыя

народнага адзення і тканін музея ў большасці была згубленая пры яе вяртанні ў Вільню з выставы ў Мінску. Архіўныя звесткі сведчаць, што па стану на 1 студзеня 1937 г. у Беларускім музеі ўсяго налічвалася 4228 экспанатаў, з іх: прадметаў этнаграфіі — 86, мастацкіх промыслаў — 154.

Слушным будзе меркаванне, што беларускія экспанаты, перададзеныя ў Музей старажытнабеларускай культуры з Вільні, паходзяць з нейкіх іншых збораў. Калі манаграму «ЕМ» на старых інвентарных нумарах расшыфроўваць, абапіраючыся на польскую мову, атрымаецца «этнаграфічны музей».

І сапраўды, Этнаграфічны музей у Вільні існаваў. Ен быў створаны ў сакавіку 1925 г. пры Віленскім універсітэце. У 1939 г. Этнаграфічны музей быў зачынены разам з самым універсітэтам, а ягоныя экспанаты перададзеныя ў Гісторыка-этнаграфічны музей. На 1 студзеня 1937 г. у музеі было 3822 экспанаты — пераважна этнаграфічныя зборы і прадметы народнага мастацтва, у сваёй большасці яны былі з Заходняй Беларусі, што ўваходзіла ў той час у склад II Рэчы Паспалітай. У савецкі час польскамоўная дакументацыя ўніверсітэцкага музея, відаць, была перапісаная. З Гісторыка-этнаграфічнага музея экспанаты былога Этнаграфічнага музея перадаваліся на Беларусь адпаведна месцам іх паходжання, што знаходзіліся ў межах сучаснай тэрыторыі краіны. З боку Літоўскай ССР на той час гэты акт быў актам сяброўства і добрасуседства з Беларуссю.

Пра Этнаграфічны музей Віленскага універсітэта і ягоную дзейнасць у 1925—1939 гг. не знойдзем нават упамінку ў ніводным беларускім энцыклапедычным даведніку, у тым ліку і ў «Этнаграфіі Беларусі». Таму звесткі пра яго трэба пакласці на белую пляму ў гістарыяграфіі, этналогіі і музеялогіі Беларусі.

* * *

Стварэнне Этнаграфічнага музея стала працягам арганізацыі пры Віленскім універсітэце аддзялення этналогіі, якое распачало сваю дзейнасць у 1924 г. Заснавальніцай музея была выдатны этнолаг Цэзарыя Бадуэн дэ Куртэнэ Эрэнкройц, прафесар і кіраўнік катэдры этнаграфіі і этналогіі Віленскага ўніверсітэта. Ейныя погляды на развіццё культуры, выкладзеныя на пачатку нашага

стагоддзя, не страцілі сваёй арыгінальнасці і актуальнасці і сёння.

Ц. Эрэнкройц добра ўсведамляла, што новая эпоха парушае традыцыйны лад жыцця вёскі, нівелюе культурнае аблічча грамадства: «Гінуць традыцыйныя абрады, вясковыя, дворскія, местачковыя і цэхавыя звычаі, гінуць характарыстычныя вырабы нашых дзядоў, страчваецца адметны, своеасаблівы характар вёскі, двара, мястэчка. Вялікі горад і мода прыносяць у жыццё вёскі свае суровыя і нівелюючыя элементы». Першыя экспанаты для будучага музея яна прывезла з навуковых выправаў у 1924 г.

Музей ствараўся як лабараторыя, на матэрыялах якой студэнты маглі б вывучаць «марфалогію твораў і з'яў культуры». Ён задумваўся як рэгіянальны і павінен быў знаёміць з культурай народаў, што жылі на тэрыторыях былога Вялікага Княства Літоўскага (на той час паўночна-ўсходніх земляў, далучаных да II Рэчы Паспалітай, што ахоплівалі Віленскае, Наваградскае, Беластоцкае і Палескае ваяводствы). Пры гэтым музей не браў пад асаблівую ўвагу толькі якую-небудзь адну этнічную ці грамадскую групу шматнацыянальнага краю, а імкнуўся стварыць цэласнае ўяўленне пра ягоную культуру.

Нягледзячы на недахоп субсідыяў на набыццё экспанатаў, якія выдаткоўваў Віленскі ўніверсітэт, а ў 1926 г. і Фонд нацыянальнай культуры Польшчы, калекцыі Этнаграфічнага музея хутка павялічваліся, пашыраліся і мэты. Амаль ад пачатку сваёй дзейнасці, дзякуючы шырокаму разуменню культурнай місіі Музея яго стваральнікамі, ён становіцца цэнтрам, які аб'ядноўваў розныя арганізацыі, прыватных асобаў, студэнцкую і школьную моладзь — усіх, хто імкнуўся да вывучэння і захавання багатых традыцыяў народнай культуры.

Дзейнасць музея пачалася з мерапрыемства, наладжанага ў сакавіку 1925 г. у памяшканні катэдры этналогіі. «Выстаўка тканін і іншых вясковых вырабаў» была арганізаваная сумесна з Віленскім таварыствам падтрымкі народных промыслаў. На ёй дэманстраваліся калекцыі Таварыства, сабраныя ягонымі інструктарамі, зборы Этнаграфічнага музея, аддзела мастацтва ваяводскай управы, а таксама прыватных асобаў. Пасля закрыцця выстаўкі, што працавала некалькі дзён, амаль усе гэтыя калекцыі былі пакладзеныя на дэпазіт Этнаграфічнага музея.

Пачынаючы з першай выстаўкі, у музея склаліся трывалыя сувязі і з Віленскім таварыствам падтрымкі народных промыслаў, з гэткімі ж арганізацыямі ў Навагрудку і Берасці, якія ў тыя гады распачалі вельмі актыўную працу па развіцці народных промыслаў. Супрацоўнікі аддзялення этналогіі ўніверсітэта і музея бралі непасрэдны ўдзел у распрацоўцы ідэалогіі гэтай дзейнасці, выпрацоўвалі навуковыя метады практычнай работы.

Навагрудскае таварыства падтрымкі народных промыслаў таксама перадало на захаванне ў музей уласную калекцыю твораў народнага мастацтва. Трапіў у музей і вельмі каштоўны збор Палескага таварыства, які збіраўся і апрацоўваўся пры ўдзеле ягонага старшыні Я. Крагельскай.

Уласныя калекцыі папаўняліся падчас навуковых экспедыцый, разам з пашырэннем этнаграфічных даследаванняў, што праводзіла катэдра. Навуковыя падыходы да камплектавання Этнаграфічнага музея і метадычныя парады па збору экспанатаў былі выкладзеныя Ц. Эрэнкройц у брашуры «Парады для збіраючых прадметы ў этнаграфічны музей», выдадзенай у 1926 г.

У пошуку экспанатаў для музея была задзейнічаная школьная і студэнцкая моладзь. Для іх у 1932 г. захавальніца музея М. Знамяроўская-Пруфер распрацавала «Малы этнаграфічны апытальнік», які меў яшчэ дадатковую назву «Што можам прывезці з вакацыяў і святаў?»

Сярод іншага апытальнік звяртаў увагу на народнае мастацтва. Прапанавалася збіраць узоры малявання на сценах, ваконніцах, куфрах, шафах і разьбы на пранікаx, рублях, прасніцах, лясках, гаспадарчым начынні, шукаць усялякія аздобленыя прадметы і прылады для нанясення ўзораў: штампікі з косці, розныя формы на друкаванне ўзораў на палатне і інш. Да прадметаў народнага мастацтва залічаліся тканіны набіваныя і вышываныя, выцінанкі і наляпанкі, ручнікі, кераміка, павукі з саломы і інш.

У другім сваім артыкуле «Ахова народнай культуры» М. Знамяроўская-Пруфер звярталася да настаўнікаў і да тых, хто ўвогуле сваёй працай і жыццём быў звязаны з вёскай ці сядзібай: «Дапамажыце ў ратаванні помнікаў народнай культуры! Дапамажыце ў разумным, мэтавым збіранні і ахове твораў вясковага народу! Няхай не загінуць на паверхні нашага краю старажытныя каплічкі,

хаты, сядзібы, свірны з іх нутраным абсталяваннем, а таксама іншыя творы народнай культуры. Няхай сённяшняе пакаленне яе ўшануе, захавае і ў цэласці перадасць будучым пакаленням».

Стваральнікі музея былі людзьмі апантанымі, захопленымі сваёй працай, адданымі ёй. Аднак сілы былі невялікія. Этнаграфічны музей меў усяго дзве штатныя адзінкі — захавальніка і дырэктара. Жадаючы ад шчырага сэрца стварыць сапраўдны музей, яны абапіраліся перш-наперш на шырокія колы грамадства. «Для стварэння музея, які б паказваў цэласць народнай культуры, патрэбна дапамога мноства людзей... Калі знойдзецца хоць малая жменька людзей, якія захочуць нам дапамагчы... з'явяцца яны таксама стваральнікамі будучага Этнаграфічнага музея паўночна-ўсходняй Польшчы, які можа стаць гордасцю нашага краю. Развіццё гэтага музея залежыць ад карпатлівай працы і ахвярнасці людзей усяго краю»,— зноў чытаем палымяныя заклікі Знамяроўскай-Пруфер.

Сапраўды, музей меў шматлікіх прыхільнікаў. Свае зборы народнага мастацтва ахвяравалі Ашмянскае і Свянцянскае староствы, настаўніцкія курсы 1930 г., што праходзілі ў Вільні, школа ў Навасёлках, прыватныя асобы. У 1932 г. колькасць ахвярадаўцаў налічвала 101 асобу. Музей меў спецыяльны рэестр, куды ўносіў іхныя імёны. На дэпазітах музея ў той час захоўваліся фонды 9 розных інстытуцый. Самы вялікі дэпазіт мела Віленскае таварыства падтрымкі народных промыслаў, што запачаткавала музей,— 1005 прадметаў, сярод якіх — тканіны, адзенне, цацкі, кераміка і іншыя вырабы. Усяго ў музеі на той час было 2106 экспанатаў, з іх уласных — 1115, а ў 1933 г. іхная колькасць павялічылася да 1442 адзінак.

Пры музеі меўся архіў. У ім захоўваліся рукапісныя звесткі пра гісторыю стварэння, спосабы выкарыстання экспанатаў, тэрміналогія, звесткі пра этнічную прыналежнасць уладальнікаў, мову, якой яны карысталіся ў штодзённым ужытку і г. д. Архіўныя запісы мелі тую ж самую нумарацыю, што і экспанаты. У архіў перадаваліся вынікі навуковай працы выкладчыкаў катэдры этналогіі і студэнтаў універсітэта. У асноўным гэта былі апытальнікі па спосабах апрацоўкі розных матэрыялаў, па промыслах і рамёствах, а таксама адказы на іх. У зборы

звестак паводле распрацаваных апытальнікаў, акрамя студэнтаў універсітэта, бралі ўдзел школьнікі, аб'яднаныя ў краязнаўчыя гурткі, настаўнікі. Меліся апытальнікі па народным мастацтве і промыслах Ц. Эрэнкройц, народных паясах і вырабах з косці М. Знамяроўскай-Пруфер, па кераміцы і ткацтве Л. Туркоўскага, па скрынях, куфрах і паліхромных прадметах хатняга ўжытку В. Дуноўскага.

У архіве захоўваліся фотаздымкі (у 1932 г. іх было 600 адзінак і 300 клішэ), рэестры інфарматараў і ахвярадаўцаў, спісы прадметаў, што трэба было набыць для музея ці апякаць на месцы.

Музей меў уласныя фатаграфічныя апараты, фанограф, а таксама, як пазначана ў пераліку ягонай маёмасці, «тры кажухі і боты вайсковыя для зімовых экспедыцый». Гэта сведчыць пра тое, што збіральніцкая дзейнасць у музеі не прыпынялася круглы год.

Музей размяшчаўся ў памяшканні катэдры этналогіі ўніверсітэта. Ён займаў 3 залы і некалькі маленькіх пакояў для фондасховішчаў. З-за недахопу выставачнай плошчы экспанаты былі размешчаныя нават на сценах двух калідораў і сходаў, тут віселі тканіны і фотаздымкі.

Найбольш прадстаўніча было паказана ткацтва: ад варштатаў і розных ткацкіх прыладаў да вялікай калекцыі тканін і паясоў з Віленскага, Наваградскага і Палескага ваяводстваў. У раздзеле апрацоўкі гліны дэманстраваліся калекцыі вырабаў з ганчарных цэнтраў Віленшчыны, Наваградчыны, Палесся. Народнае адзенне ж было прадстаўлена ўсяго некалькімі строямі.

У асобны раздзел было выдзелена народнае мастацтва: драўляныя скульптуры Хрыста і святых з крыжоў і прыдарожных каплічак, розныя прасніцы, паліхромныя дугі, тканіны, паясы, ручнікі, у тым ліку вельмі адметныя стараверскія з буйным каляровым арнаментам, вышыўкі на палескіх кашулях, маляваныя куфры, павукі з саломы, пісанкі, скрыначкі з кары, цацкі з дрэва, гліны, цукру, малюнкі і карціны вяскоўцаў.

У раздзеле абрадаў дэманстраваліся велікодныя пальмы, пісанкі, дажыначныя вянкі, воты з воску, народныя карнавальныя маскі, адзенне калядоўшчыкаў і іншае.

Усе экспанаты музея падзяляліся на тры асноўныя групы: культура тэхнічная (апрацоўка рознай сыравіны, промыслы і рамёствы, сельская гаспадарка), культура

грамадская (прадметы, звязаныя з абрадамі, вясковымі, маламестачковымі звычаямі, некаторымі гарадскімі традыцыямі), культура духоўная (рэлігія, магія, народнае мастацтва).

Матэрыялы музея выкарыстоўваліся для навуковай працы выкладчыкаў і студэнтаў універсітэта. Удзельнікі этналагічнага семінара, які працаваў пры катэдры, апрацоўвалі экспанаты музея і са сваіх навуковых выпраў прывозілі новыя.

Вартая ўвагі і тэматыка навуковых даследаванняў, што праводзіліся ў 1924—1933 гг. на катэдры этналогіі і этнаграфіі Віленскага ўніверсітэта, матэрыялы якіх папаўнялі Этнаграфічны музей. У значнай ступені яны закранаті беларускі этнас і праводзіліся на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Кіраўнік катэдры прафесар Цэзарыя Эрэнкройц праводзіла даследаванні па тэхнічнай і абрадавай культуры, народным этыкеце, кульце св. Яна ў Віленскім, Наваградскім і Беластоцкім ваяводствах, на паўднёва-ўсходнім Палессі і на памежжы з Падляшшам.

Марыя Знамяроўская-Пруфер — старэйшая асістэнтка катэдры і захавальнік Этнаграфічнага музея — даследавала пчалярства, рыбалоўства ў Віленскім, Наваградскім ваяводствах, у тым ліку на азёрах Нарач і Свіцязь, рацэ Буг, вывучала народныя паясы і тэхніку іх пляцення, кручэння і ткання, прылады з косці, апісала велікодныя звычаі.

Вітольд Дуноўскі, асістэнт этналагічнага семінара, праводзіў даследаванні разьбы і народнага роспісу, мэблярства, прадметаў хатняга ўжытку.

Алімпія Сваневіч вывучала народную магію, чараўніцтвы, задушкавыя звычаі, культ памерлых, помнікі на могілках у Віленскім, Наваградскім, Беластоцкім ваяводствах і на Палессі.

Дыпломнік Люцыян Туркоўскі абследаваў ганчарныя цэнтры, а таксама апісаў вясковае ганчарства, народнае ткацтва, бандарства і інш.

Навуковай працай і зборам экспанатаў для музея займаліся і старэйшыя студэнты — слухачы этналагічнага семінара, сярод якіх былі і беларусы па паходжанні: Казіміра Даманеўская вывучала народнае мастацтва, гульні і забавы; Зыгмунт Карыбуцяк — праўныя звычаі, жывёлагадоўлю, пастухоўства; Ірма Кухарская — на-

родную медыцыну і гігіену, выхаванне дзіцяці; Марыя Лукасевіч — цяслярства і бандарства, маскі абрадавыя і іншыя сродкі абрадавай экспрэсіі; Мар'ян Пецюкевіч — старавераў як этнічную групу ў Браслаўскім павеце; Яўгенія Сянкевіч — калыскі, штодзённыя і абрадавыя стравы, а таксама іх прыгатаванне.

Матэрыялы гэтых даследаванняў часткова былі выдадзеныя ў Вільні. Напрыклад, значны артыкул па этнаграфіі Віленшчыны Ц. Эрэнкройц змешчаны ў манаграфічным зборніку «Вільня і зямля Віленская», выдадзеным у 1930 г. Яна пісала пра гэты вельмі цікавы для этнографа край: «На нашых вачах сціраюцца і ўзаемапранікаюць тут традыцыі польскія, літоўскія і беларускія, сціраюцца і ўзаемапранікаюць тут спрадвеку, каб у выніку вызначыць этнічнае аблічча нашага краю, як і ўвогуле воблік усёй Літвы Міцкевіча». Артыкул праілюстраваны фотаздымкамі і малюнкамі экспанатаў з Этнаграфічнага музея. На ілюстрацыях — 4-нітовыя тканіны, саламяныя вырабы і павукі, тканыя з саломы маты, гліняныя цацкі і інш., якія ў асноўным паходзяць з беларускай тэрыторыі. Некаторыя рэчы з тых, пра якія ідзе размова ў артыкуле, цяпер захоўваюцца ў Музеі старажытнабеларускай культуры. Напрыклад, староверскія ручнікі з Браслаўскага і Дзісенскага паветаў з буйным своеасаблівым арнаментам, што ў іншых месцах, як пісала аўтар, не сустракаюцца.

На матэрыялах навуковых даследаванняў катэдры этналогіі Віленскага ўніверсітэта і зборах Этнаграфічнага музея ў 30-я гг. былі выдадзеныя ў Вільні манаграфіі В. Дуноўскага «Распісныя сялянскія куфры з ваколіц Віленшчыны і Палесся» (1935), «Народнае мастацтва Віленшчыны і Навагрудчыны» (1935), З. Карыбуцяка «Народнае кавальства ў Віленскім ваяводстве» (1936), Л. Туркоўскага «Народная рамесніцкая вытворчасць у Віленскім і Навагрудскім ваяводстве» (1935). Праца «Крыніцы ўплыву на народнае ткацтва ў Віленскім і Навагрудскім ваяводстве» Л. Туркоўскага, матэрыялы для якой збіраліся ў 30-я гг., была выдадзеная толькі ў 1977 г. у Лондане.

Дзейнасць Этнаграфічнага музея, дзякуючы грунтоўнай навуковай падставе, на якой яна ажыццяўлялася, а таксама апантанасці яго стваральнікаў, хутка перарасла свае першапачатныя задачы быць лабараторыяй для сту-

дэнтаў-этнолагаў універсітэта. Музей меў рэпутацыю сапраўднага цэнтра, які прыцягваў да сябе тых, хто цікавіўся народнай культурай, мастацтвам, імкнуўся працаваць на карысць развіцця мастацкіх промыслаў. На той час таварыствы падтрымкі народных промыслаў, што дзейнічалі ў Вільні, Наваградку, Берасці, у выніку непаразумення ў пытанні формаў і метадаў працы ў галіне развіцця народных мастацкіх промыслаў з Варшаўскім таварыствам ды, імкнучыся да самастойнасці ў сваёй дзейнасці, стварылі супольную Раду.

Пад уплывам этнографаў універсітэта, Этнаграфічнага музея дзеячы гэтых таварыстваў добра разумелі своеасаблівасць народнай мастацкай культуры свайго краю. Іхная праца па развіцці народных промыслаў — ткацтва, вышыўкі, керамікі — у асноўным была скіраваная на захаванне і прапаганду гэтых каштоўнасцяў у асяроддзі гарадскога насельніцтва, інтэлігенцыі, на ўключэнне традыцыйных сялянскіх рэчаў у гарадскі інтэр'ер.

У 1932 г. на паседжанні Рады чатырох таварыстваў была падтрыманая прапанова М. Знамяроўскай-Пруфер аб стварэнні Цэнтральнага этнаграфічнага музея для Наваградскага, Віленскага, Беластоцкага і Палескага ваяводстваў. Гэтая ідэя была таксама падтрыманая дырэктарам Горадзенскага музея Ю. Ядкоўскім, які ўсведамляў, што вырашыць такую вялікую задачу можа толькі ўніверсітэцкая Вільня.

Вось якім бачыла будучы музей Ц. Эрэнкройц: «Музей павінен дэманстраваць «тутэйшую» культуру земляў даўняй Літвы, структуры ўзораў гэтай культуры, іх суадносіны паміж сабой і паміж культурамі бліжніх і больш адлеглых земляў. Гэты музей, які будзе знаёміць са стылямі формаў, у якіх адлюстроўваецца радзіма Міцкевіча, Музей сінтэзу яе этнічнай традыцыі павінен быць даступным самай шырокай грамадскасці».

Сваё бачанне перспектываў музея М. Знамяроўская-Пруфер выклала ў брашуры «Этнаграфічны музей Універсітэта імя Стэфана Баторыя ў Вільні і яго будучыня». Яна пісала, што музей ахоплівае тэрыторыю, вельмі багатую на помнікі народнай культуры, што тут даволі лёгка набываць прадметы для музея, бо сяляне пераважна недастаткова ацэньваюць уласныя вырабы і з ахвотай ад іх пазбаўляюцца, ахвяруюць імі, абменьваюць ці прадаюць па нізкіх цэнах. На яе думку, Цэнтральны этна-

графічны музей павінен мець скансен — экспазіцыю народнага дойлідства на вольным паветры. З мэтай ажыццяўлення гэтай ідэі М. Знамяроўская-Пруфер вывучала вопыт арганізацыі і дзейнасць музеяў-скансенаў у скандынаўскіх краінах.

У 1935 г. кіраўніцтва катэдрай і Этнаграфічным музеем перайшло да Казімера Машынскага — выдатнага польскага этнографа, які пераехаў у Вільню з Кракава. «Гады працы з прафесарам Машынскім, слуханне ягоных цудоўных выкладаў, удзел у семінарах і агульных выправах былі для нас, віленскіх вучняў, асабліва каштоўныя. Побач з найбольшай колькасцю палякаў былі сярод нас ліцвіны, беларусы, расіяне, жыды і караімы... Як захвочвала да працы радасць прафесара, калі набывалі і прывозілі ў музей каштоўныя помнікі, калі ўдавалася знайсці нейкі элемент культуры, што высвятляў шляхі яе развіцця»,— так пісала пра чатыры гады сумеснай працы з Машынскім М. Знамяроўская-Пруфер.

Аднак часу на рэалізацыю задумаў па пашырэнні Этнаграфічнага музея да сапраўднага рэгіянальнага музея не хапіла. Выбух Другой сусветнай вайны ў 1939 г., змены ў Вільні польскіх уладаў на савецкія, а ў хуткім часе і на літоўскія прывялі да новай палітычнай, сацыяльна-грамадскай і культурнай сітуацыі. У 1939 г. быў зачынены Віленскі ўніверсітэт, а разам з ім і Этнаграфічны музей. Кола навукоўцаў і студэнтаў, што былі аб'яднаныя катэдрай этналогіі і этнаграфіі і музеем, распалася, па-рознаму склаўся іх жыццёвы лёс падчас вайны і пасля яе.

Нястомная захавальніца Этнаграфічнага музея М. Знамяроўская-Пруфер з Вільні выехала ў Торунь. Яна не здрадзіла свайму прызначэнню этнографа-музейшчыка — заснавала Этнаграфічны музей у Торуні, адзін з найбольш значных у Польшчы, была яго дырэктарам да канца свайго жыцця. Тут яна рэалізавала і сваю віленскую мару — стварыла музей-скансен. Па яе запрашэнні і з яе дапамогай у Торунь пераехаў на сталае месца жыхарства пасля пакут сталінскіх лагераў беларус Мар'ян Пецюкевіч, які нарадзіўся ў вёсцы Цяцёркі на Браслаўшчыне,— этнограф, выпускнік Віленскага ўніверсітэта. Праца гэтых людзей пасля вайны ў этнаграфіі і ў музейнай справе стала працягам тых ідэй, што былі выпрацаваныя ў навуковым асяроддзі катэдры этналогіі і этнаграфіі ўні-

версітэта і Этнаграфічнага музея ў Вільні ў міжваенны перыяд.

Пачатак Другой сусветнай вайны перашкодзіў таксама здзяйсненню адной ідэі, што звязала паміж сабой Этнаграфічны музей у Вільні і Палескі музей у Пінску. Звесткі пра гэта захоўваюцца сёння ў архіве Музея Беларускага Палесся ў Пінску. Згодна перапісцы 1937—1938 гг. паміж галоўным захавальнікам Палескага музея Д. Геаргіеўскім і М. Знамяроўскай-Пруфер, Этнаграфічны музей у Вільні павінен быў перадаць у Пінск палескую калекцыю, сабраную ў пачатку 20-х гг. Калекцыя была ўласнасцю Палескага таварыства дапамогі народным промыслам у Берасці, якое ахвяравала яе музею ў Пінску. Верагодна, такое рашэнне Палескага таварыства было выклікана тым, што музей у Пінску ў тыя гады стаў сапраўдным рэгіянальным музеем на Палессі, праводзіў вельмі значную збіральніцкую, культурна-асветніцкую і выдавецкую дзейнасць. У перапісцы паміж захавальнікамі абодвух музеяў вырашаліся пытанні перадачы гэтай каштоўнай калекцыі з дэпазіта Этнаграфічнага музея ў Пінск. У той час гэтаму не суджана было здзейсніцца.

І ўсё ж, хоць і не прамым шляхам, гістарычная справядлівасць спраўдзілася праз 40 гадоў. Частка палескай калекцыі трапіла ўсё-такі на Беларусь. Пра гэта можна меркаваць таму, што сярод экспанатаў, перададзеных у Музей старажытнабеларускай культуры ў Мінску, шмат прадметаў паходзяць менавіта з Палесся: цудоўна аздобленыя кашулі, фартухі, наміткі, чапцы, андаракі і спадніцы, паясы, ручнікі і іншыя дэкаратыўныя тканіны, гараднянская кераміка...

Сёння варта быць удзячнымі тым людзям, што без палітычных амбіцый аддана і шчыра рабілі навуковую справу і захавалі для нашчадкаў частку беларускага скарбу — народнае мастацтва.

Трэба пакланіцца і тым, хто нейкім цудам, відаць, з божае ласкі, вярнуў яго на Беларусь.

**Вольга ЛАБАЧЭЎСКАЯ.**

Аўтар выказвае падзяку касе імя Юзафа Мяноўскага ў Варшаве, на сродкі якой ажыццяўляліся даследаванні ў Польшчы, а таксама нашчадкам Ц. Эрэнкройц і М. Знамяроўскай-Пруфер — спсп. Марце Ясінскай і Хрысціне Яноўскай за дапамогу ў пошуку неабходных матэрыялаў.

Фёдар КЛІМЧУК

# БЕЛАРУСЫ — НАШЧАДКІ БАНЦАРАЎЦАЎ!

Банцараўская эпоха — гэта больш як трохсотгадовы перыяд існавання гэтак званай банцараўскай археалагічнай культуры — з рубяжа IV—V па першую палову VIII стст. Назва дадзеная ўмоўна па вёсцы Банцараўшчына, што на паўночны захад ад Менска (у Ждановіцкім сельсавеце Менскага раёна).

Арэал яе пашырэння: Рэспубліка Беларусь без значнай часткі Палесся і Панямоння, цэнтральная і заходняя Смаленшчына, паўднёвая Пскоўшчына, большая частка Браншчыны, цэнтр і захад Курскай вобласці, захад Белгарадскай вобласці ў Расіі, большая частка Чарнігаўскай і Сумскай абласцей на Украіне. На тэрыторыі значнай часткі Чарнігаўскай, Сумскай, Курскай і Белгарадскай абласцей, акрамя банцараўцаў, жыло насельніцтва пражска-пянькоўскай культуры.

У банцараўскай культуры вылучаюцца дзве групы помнікаў, якія некаторыя даследнікі лічаць асобнымі культурамі. Гэта паўночна-заходняя, ці ўласна банцараўская група, якую нярэдка называюць банцараўска-тушамлінскай культурай, і паўднёва-ўсходняя, ці калочынская група або культура. Мяжа гэтых групаў праходзіць па лініі Тураў — Старыя Дарогі — Беразіно — Рослаў.

Некаторыя даследнікі дапускаюць існаванне дзяржаўнасці ў банцараўцаў. Для яе абазначэння карыстаюцца назвай «гіпатэтычная «Банцараўская» дзяржава. Вось што піша беларускі археолаг М. Чарняўскі: «... пашырэнне жалезаробства, рамёстваў, абмену вялі да накаплення ў асобных

родах пэўных багаццяў. Таму зараз стала прыбытковым не толькі стваральная праца, але і ўзброенае грабежніцтва суседзяў. Пры адсутнасці сістэмы калектыўнай абароны, без дзяржаўнай арганізаванасці, кожны чалавек, калектыў спадзяваўся толькі на свае сілы, на ўмацаванае гарадзішча... Для банцараўскай культуры тыпова і тое, што яе носьбіты жылі на адкрытых селішчах, земляныя ж умацаванні выкарыстоўвалі толькі як сховішчы пры небяспецы. Значыць, сярод тутэйшых плямёнаў ужо была арганізавана калектыўная абарона, якую магла здзяйсняць пэўная дзяржаўная ўлада. Аб існаванні далетапіснай дзяржаўнасці на Беларусі сведчаць знаходкі надзвычай багатых убораў, прывазных рэчаў, якія належалі асобам, што займалі выключнае становішча сярод супляменнікаў. Агульнавядома, што тагачасныя і больш раннія германскія плямёны, тыя ж готы, мелі свае дзяржаўныя ўтварэнні. Славяне былі прыкладна на такім жа ўзроўні гаспадарчага і сацыяльнага развіцця. Таму ў іх існавалі аналагічныя ўмовы для дзяржаватворчасці».

Не будзем паглыбляцца ў дыскусію наконт дзяржаўнасці ў банцараўцаў. Хоць гэта істотна. Нават калі аспрэчваць наяўнасць дзяржаўнасці ў плямёнаў, якія стварылі банцараўскую культуру, дык трэба ўсё ж прызнаць, што ўзроўнем свайго сацыяльна-эканамічнага развіцця яны павінны стаяць на парозе стварэння раннякласавай дзяржавы.

Істотны сам факт існавання банцараўскай культуры. Як вядома, археалагічная культура адлюстроўвае пэўную супольнасць чалавечага грамадства на пэўнай тэрыторыі і ў пэўны перыяд. Банцараўская ж культура праіснавала прыкладна 300 гадоў. За такі час, безумоўна, адбылася значная кансалідацыя насельніцтва, якое яе стварыла, і пэўнае яго адасабленне ад суседніх групаў.

Да якога этнасу ці этнасаў належалі банцараўцы, на якой мове ці мовах яны гаварылі? Пытанне дыскусійнае. Не будзем пералічваць розныя пункты погляду на этнамоўную прыналежнасць банцараўцаў. Звернемся да характару старажытных працэсаў этна- і глотагенезу на тэрыторыі Беларусі і ў сумежных рэгіёнах.

Найбольш глыбінныя па старажытнасці звесткі пра мову насельнікаў тэрыторыі Беларусі дае так званая **«мова вады» — гідронімы.** Таму спынімся на арэалах «водных моваў» больш падрабязна.

Беларуская мова адносіцца да славянскіх. Таму натуральна выглядае пашырэнне на тэрыторыі Беларусі славянскіх гідронімаў. Архаічныя славянскія гідронімы, узніклыя ў старажытны перыяд існавання славянскай супольнасці, пашыраныя ў паўднёвай і ўсходняй Беларусі. Іх арэал абмежаваны лініяй: р. Ясельда, р. Прыпяць ад вусця Ясельды да вусця Птычы, р. Птыч і яе прыток Арэса, вярхоўі Друці. Архаічныя славянскія гідронімы пашыраныя ў расійскай частцы Верхняга Падняпроўя. На Украіне іх арэал абмежаваны з поўдня лініяй: Івана-Франкоўск — Камянец-Падольскі — Бярдзічаў — Чаркасы — Палтава — Сумы. У цэнтральнай і паўночна-заходняй Беларусі такія гідронімы не выяўленыя. Усё гэта дае падставы меркаваць, што славянскі моўны элемент у межах Беларусі спачатку ўсталяваўся ў яе паўднёвай і ўсходняй частках.

На большай частцы тэрыторыі Беларусі (акрамя часткі Заходняга Палесся) пашыраная балтыйская гідранімія. Яе арэал працягваецца на тэрыторыі Расіі, Украіны, Польшчы. У Расіі балтыйскія гідронімы пашыраныя ў Верхнім Падняпроўі, Падмаскоўі, у басейне Акі, на Пскоўшчыне. На Украіне арэал балтыйскіх гідронімаў з поўдня абмяжоўваецца лініяй: Сарны — Роўна — Крамянец — Житомір — Нежын — Пуціўль, асобныя гідронімы сустрэтыя на Чаркашчыне і Палтаўшчыне. У Польшчы балтыйскія гідронімы ўтвараюць два арэалы — паўночны і паўднёвы. Паўночны арэал з поўдня абмяжоўваецца лініяй: Калобжэг — Шчэцінэк — Гожуў Велькапольскі — Каліш — Лодзь — Торунь — Варшава — Бяла-Падляска. Арэал паўднёвы абмяжоўваецца лініяй з поўначы: Катавіцэ — Серадз — Чанстахова — Кельцэ — Люблін — Жэшуў. Паводле насычанасці балтыйскімі гідронімамі тэрыторыя Беларусі падзяляецца на цэнтральна-паўночную і паўднёвую часткі. Мяжа паміж імі праходзіць па лініі: вытокі Нарава і Ясельды — Выганаўскае возера — Слуцак — Бабруйск — Рагачоў — Хоцімск. У паўночна-цэнтральнай зоне насычанасць балтыйскай гідраніміі вялікая, у паўднёвай яна значна меншая. Гэта, відаць, сведчыць пра тое, што балтыйскі моўнаэтнічны кампанент у паўночна-цэнтральнай частцы Беларусі пераважаў даўжэй, чым у паўднёвай Беларусі (Ісаенка У. Ф. Этнакультурныя карты старажытнай Беларусі. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак, т. 1).

Славянскі і балтыйскі моўнаэтнічныя кампаненты — ас-

ноўныя кампаненты старажытнай Беларусі. Але існавалі і іншыя. Спынімся і на іх (таксама ў аспекце гідранімії).

На паўночным усходзе Беларусі сустракаюцца асобныя фінскія гідронімы. Суцэльны фінскі гідранімічны арэал уключае Пскоўшчыну, Падмаскоўе і тэрыторыі, размешчаныя далей на поўнач і паўночны ўсход.

На ўсходзе Гомельшчыны сустрэтыя іранскія гідронімы. Арэал іранскіх гідронімаў працягваецца на левабярэжнай (Чарнігаўшчына, Палтаўшчына) і паўднёвай Украіне. У Крыме, на Кубані, у нізоўях Дняпра, а таксама на Днепрапятроўшчыне фігуруе індаарыйская гідранімія.

Прыведзеныя факты сведчаць на карысць пункту погляду, што асобныя групы фінаў, іранцаў, а магчыма, і індаарыйцаў узялі ўдзел у этнагенезе насельніцтва Беларусі.

У паўночна-заходняй Украіне (зона прымыкае да тэрыторыі Беларусі) да лініі Кіеў — Чаркасы — Магілёў-Падольскі сустракаюцца заходнебалканскія, або ілірыйскія, гідронімы. Іх арэал працягваецца ў паўднёвай Польшчы, Маравіі, Вугоршчыне, Сербіі, Харватыі. Аб прычынах узнікнення гэтага арэала цяжка сказаць нешта канкрэтнае. Магчыма, яго фармаванне звязанае з нейкімі параўнальна пазнімі міграцыямі з Сярэдняга Дуная праз паўднёвую Польшчу на Валынь. А магчыма, гэты гідранімічны пласт узыходзіць да міграцыйных рухаў часоў неаліту і бронзы, засведчаных археалагічна (пра іх ніжэй).

У паўднёва-заходняй Украіне сустракаюцца гідронімы ўсходнебалканскія. Іх арэал абмяжоўваецца лініяй: Драгобыч — Цярнопаль — Житомір — Кіеў — Пераяслаў-Хмяльніцкі — Кіравагтрад і працягваецца на тэрыторыю Румыніі, Баўгарыі, Сербіі, Грэцыі. Усходнебалканскую гідранімію на Украіне даследнікі звязваюць з трыпольскай культурай 4250—2350 гг. да н. э. (Труб. Пр. Укр. 282—283). Відаць, трыпольскі субстрат адыграў пэўную ролю ў вылучэнні паўднёваўсходняй славянскай зоны.

Працэсы этна- і глотагенезу славянаў адбываліся ў далёкай мінуўшчыне. Для іх высвятлення неабходны комплексны падыход з прыцягненнем фактаў розных дысцыплінаў: гідранімії (на ёй мы спыняліся), археалагічных культураў, пісьмовых крыніцаў, антрапалогіі, супастаўляльнага мовазнаўства і інш. Гаворачы пра археалагічныя культуры, неабходна ўсвядоміць, як суадносіць археалагічную культуру з этнасам і мовай. Суадносіны бываюць розныя. У адных выпадках археалагічная культура адпавядае пэўнаму этнасу

і пэўнай мове (групе роднасных дыялектаў ці гаворак), у другіх — аб'ядноўвае два і больш этнасаў, у трэціх — этнас можа ўваходзіць у склад дзвюх і больш культураў. Узнікае пытанне, як могуць два ці больш этнасаў ствараць адну культуру. Паміж гэтым насельніцтвам павінны існаваць шчыльныя кантакты, узаемаразуменне і г. д. Як жа людзі могуць разумецца, калі яны гавораць на розных мовах, прытым не блізкіх? Выяўляецца, што гэта не было непераадольнай перашкодай, бо, як паказалі назіранні над жыццём плямёнаў, якія яшчэ ў XIX—XX стст. жылі ва ўмовах першабытнага ладу, у дакласавым грамадстве быў даволі пашыраны білінгвізм, існавала і шматмоўе (История первобытного общества. Эпоха первобытной родовой общины. М.: Наука, 1986, с. 469).

Праблеме этнагенезу славянаў прысвечана вялікая літаратура. Праблема гэтая далёкая да канчатковага вырашэння. Спынімся толькі на некаторых стрыжнявых момантах. Якое месца праславянскай мовы сярод іншых індаеўрапейскіх? Выяўляецца, што найбольш у яе сувязяў з мовамі балцкай і італійскай, яна як бы займае прамежкавае становішча паміж імі (Мартынов В. В. Язык в пространстве и времени. М.: Наука. 1983). Сувязі з мовамі германскай, кельцкай, фракійскай, іранскай меншыя. Прарадзіма італікаў знаходзілася на поўнач ад Альпаў. Значыць, прарадзіма славянаў (праславянаў) хутчэй за ўсё знаходзілася недзе паміж Альпамі і паўднёва-ўсходняй Балтыяй. Яшчэ больш канкрэтна фіксуецца ілірыйская мова. Даследнікі лічаць, што яна займала прамежкавае становішча паміж мовамі італійскай і балта-славянскай, з аднаго боку, і мовамі грэцкай і германскай — з другога. Ілірыйцы (ілірыйцы-месапы), на думку вучоных, спачатку жылі на тэрыторыі паўночнай Вугоршчыны, Славакіі, Маравіі, Чэхіі, паўднёвай Сілезіі. Пазней яны пасяліліся на тэрыторыі паўднёвай Вугоршчыны, Харватыі, Сербіі, Албаніі. Як ужо гаварылася вышэй, ілірыйская (заходнебалканская) гідранімія пашырана на поўдні Польшчы і ў паўночна-заходняй Украіне, дасягаючы раёна Кіева. У паўднёвай Польшчы, а таксама ў раёнах Роўна і Жытоміра на Украіне яна «накладваецца» на балтыйскую гідранімію. На жаль, ад ілірыйскай мовы захаваліся толькі рэлікты.

Паводле антрапалагічнага тыпу асноўныя групы славянаў займаюць прамежкавае становішча паміж паўночнымі і паўднёвымі еўрапеоідамі. Гэта нібы падмацоўвае меркаван-

не аб прамежкавасці праславянскае мовы паміж італійскаю і балцкаю.

Гістарычныя факты таксама нібы пацвярджаюць такую прамежкавасць. Звернемся да пытання: што ж адбывалася на тым абшары, які знаходзіцца паміж меркаванай прарадзімай італійцаў (Альпы) і паўднёва-ўсходняй Балтыяй, г. зн. там, дзе павінны фармавацца праславяне. У старажытнасці горны пас Карпаты — Судэты — Альпы падзяляў насельніцтва Еўропы на дзве зоны, паўночную і паўднёвую. У VI—III тыс. да н. э. адбываліся неаднаразовыя вялікія міграцыйныя рухі з паўднёвай зоны ў паўночную, змешванне паўночных і паўднёвых еўрапейцаў на поўнач ад гэтага горнага ланцуга. Міграцыі адбываліся ў першую чаргу з Сярэдняга Дуная праз Мараўскую Браму. (Мараўская Брама знаходзіцца на паўночным усходзе сучаснай Чэхіі, там бярэ пачатак рака Одра.) З цягам часу на поўнач ад Карпатаў, у вярхоўях Одры, Віслы, Заходняга Буга, Гарыні, а таксама ў Маравіі, часткова на Сярэднім Дунаі адбываецца кансалідацыя насельніцтва, нашчадкаў як мясцовых паўночных еўрапеоідаў, так і паўднёвых прышэльцаў. Зона гэтая пашыралася на паўночны ўсход. У ёй узніклі свае кансалідацыйныя цэнтры. Этнічная супольнасць, якая тут фармавалася, была спачатку, безумоўна, друзлая. Як і заўсёды бывае ў гісторыі, у гэтай супольнасці павінны былі быць свае «залатыя» і «змрочныя» вякі. «Залатыя» вякі спрыялі кансалідацыі этнасу, а вякі «змрочныя» былі спрыяльнымі для яго разбурэння, паглынання суседнімі этнасамі. У «змрочныя» вякі ўсе перыферыйныя, друзлыя групы адпадалі ад этнасу, зліваліся з этнасамі іншымі, але ядро этнасу захоўвалася. Калі ядро этнасу перажывала «змрочныя» вякі, гэтым самым этнас здаваў экзамен на права існаваць. Нешта такое адбывалася са славянамі. Як канкрэтна? Зыходзячы з матэрыялу, які прыведзены вышэй, і шэрагу іншых фактаў, мы прапануем свайго роду рабочую гіпотэзу ранніх этапаў славянскага этна- і глотагенезу. Магчыма, нейкія новыя факты вымусяць ад яе адмовіцца. Але ў гэты момант яна, як нам здаецца, заслугоўвае ўвагі.

Вынікам змешвання паўночных і паўднёвых еўрапеоідаў на поўнач ад Карпатаў, Судэтаў, Альпаў і іх пэўнай кансалідацыі з'яўляецца археалагічная культура лінейна-стужкавай керамікі (4500—3750 гг. да н. э.). Яна займала вялікую прастору ад Францыі на захадзе да Падолля на ўсходзе. На такой тэрыторыі не мог сфармавацца адзіны

этнас. Але носьбіты гэтай культуры былі ўжо не паўночнаеўрапейцы, не паўднёваеўрапейцы, а **сярэднееўрапейцы.** Пазней фармуюцца культуры накольчатай керамікі і лендзельская. Абедзве датуюцца 3500—2500 гг. да н. э. Арэал іх вузейшы і, што цікава, блізкі да арэала гіпатэтычнай прарадзімы славянаў. Ён упісваўся ў трохкутнік: Сярэдні Дунай — Одра — вярхоўі Гарыні. Адзначаныя культуры, магчыма, з'яўляюцца сімптомам пачатку кансалідацыі пэўных групаў насельніцтва, пачатку фармавання пэўнай этнічнай супольнасці, ядро якой пазней стала праславянамі. Праўда, нельга не звярнуць увагу яшчэ на адзін момант. Лендзельская культура і культура накольчатай керамікі сфармаваліся менавіта там, дзе адбылося напластаванне паўднёвых культураў на адну з культураў паўночных — свідзерскую. У гэтым сэнсе лендзельцы і плямёны культуры накольчатай керамікі — вынік змешвання паўднёваеўрапейскіх плямёнаў не з усімі паўночнаеўрапейскімі плямёнамі, а толькі з іх часткай — свідзерцамі.

Пэўную ролю ў кансалідацыі насельніцтва гіпатэтычнай славянскай прарадзімы адыгралі ў старажытнасці і заходнія ўплывы. Маецца на ўвазе культура лейкападобных кубкаў (3350—2100 гг. да н. э.). Пачатковы яе цэнтр знаходзіўся на поўначы Германіі і ў Ютландыі. На ўсходзе яна дасягала лініі Ваўкавыск — Пінск — Роўна — Цярнопаль.

Магчыма, адным з «залатых» вякоў у пачатковы перыяд кансалідацыі славянства ёсць эпоха культуры шарападобных амфараў (2900—2000 гг. да н. э.). На захадзе яна ўключала значную частку тэрыторыі сучаснай Германіі, на ўсходзе яе мяжа праходзіла па лініі Ваўкавыск — Берасце — Ковель — Оўруч — Кіеў — Чаркасы. Пачатковы агмень яе фармавання, відаць, знаходзіўся недзе на тэрыторыі Польшчы. Адна з яскравых яе асаблівасцяў — каменныя грабніцы, якія сведчаць пра вялікую ролю правадыроў. У эпоху культуры шарападобных амфараў адбываліся міграцыі насельніцтва з ранейшага агмяня гіпатэтычнай прарадзімы славянаў на ўсход, перадусім у паўднёвую частку Прыпяцкага Палесся і ў заходнюю частку ўкраінскага лесастэпу. Але карпата-судэцкія сярэднееўрапейцы ў гэтым выпадку напластоўваліся на розныя субстраты. У Прыпяцкім Палессі гэта быў паўночнаеўрапейскі субстрат, у лесастэпавай зоне — трыпольцы (носьбіты трыпольскай культуры, адна з групаў сярэднееўрапейцаў). Такім чынам арэал гіпатэтычнай славянскай прарадзімы пашыраўся.

Рубеж III—II і першая палова II тыс. да н. э.— гэта эпоха баявых сякераў або шнуровай керамікі. Гэтая культура перакрыла сабою многія культуры, многія еўрапейскія этнасы. Яе арэал на захадзе сягаў Рэйна, на ўсходзе — Волгі, на поўначы — Скандынавіі, на поўдні — Альпаў. Што адбывалася ў гэты час з праславянамі — цяжка сказаць нешта канкрэтнае. Відаць, у гэтую эпоху мяжа гіпатэтычнай славянскай прарадзімы пашыралася на большую частку Прыпяцкага і Дзяснянскага Палесся.

На аснове культуры шнуровай керамікі ці баявых сякераў склаўся шэраг археалагічных культураў. Адна з прычынаў фармавання культуры шнуровай керамікі — пашырэнне на вялікай тэрыторыі вытваральнай сістэмы гаспадаркі, перш за ўсё земляробства і жывёлагадоўлі. Заўважым, што такая гаспадарка на поўдзень ад Карпатаў і на Балканскай паўвыспе атрымала пашырэнне яшчэ ў VI—V тыс. да н. э. У сярэдняй і паўночнай Еўропе ў гэты час панавала прысвойвальная гаспадарка — паляванне, збіральніцтва і інш. У другім выпадку чалавек браў ад прыроды тое, што яна давала яму сама, у першым выпадку — ствараў сам пэўныя вартасці. Культура шнуровай керамікі аб'яднала многія этнасы Еўропы. Але раздзяленне яе было непазбежным, як раней — падзел культуры лінейна-стужкавай керамікі.

Каля 1500 г. склалася **тшцінецкая** культура, існавала яна прыкладна да 1100 г. да н. э. Яе яшчэ называюць тшцінецка-камароўская культура. Варыянт яе — сосніцкая культура ці група. На захадзе яе арэал уключаў парэчча сярэдняй Одры, на поўдні — дасягаў Карпатаў. Паўночна-ўсходняя і ўсходняя мяжа праходзіла па лініі: Гданьск — Беласток — вярхоўі Ясельды — Выганаўскае возера — Старобін — Светлагорск — Магілёў — Бранск — Рыльск — Нежын — Черкасы. Асобныя групы тшцінеўцаў пранікалі далёка на поўнач, дасягаючы раёнаў сучасных Навагрудка, Менска, Барысава.

Для нас істотна тое, што шэраг даследнікаў суадносілі ці атаясамлівалі тшцінеўцаў з праславянамі: А. Гардаўскі, Б. Горнунг, В. Гензель, П. Траццякоў, А. Цераножкін, С. Беразанская, Б. Рыбакоў. Аўтар таксама прыхільнік такога погляду, хоць, праўда, нейкія новыя факты могуць даць падставы для перагляду гэтай думкі.

На рубяжы II—I тыс. да н. э. гіпатэтычная славянская прарадзіма раздзялілася на тры зоны: заходнюю, паўночна-ўсходнюю і паўднёва-ўсходнюю. Заходняя частка нашчадкаў

тшцінеўцаў увайшла ў склад лужыцкай культуры (1200—400 гг. да н. э.). Усходняя яе мяжа праходзіла па Гарыні. Да рубяжа нашай эры ўсходняя мяжа заходняй славянскай (?) зоны адступіла на захад і прайшла прыкладна па р. Заходні Буг. Лужыцкую культуру змянілі культуры паморская і клёшавых пахаванняў (600—125 гг. да н. э.). На аснове паўднёва-ўсходняй часткі тшцінецкай культуры сфармавалася культура белагрудаўская (1100—900 гг. да н. э.). Яна размешчана ў зоне лесастэпу. На аснове белагрудаўскай культуры сфармавалася культура чарналеская (900—750 гг. да н. э.), на аснове чарналескай — жабоцінскі тып (750—650 гг. да н. э.), на аснове апошняга — сколацкія групы скіфскай лесастэпавай культуры (650—250 гг. да н. э.).

На аснове паўночна-ўсходняй часткі тшцінецкай культуры ўтварылася лебядоўская культура (існавала з XII—XI да пачатку VIII стст. да н. э.). Фактычна яна ўяўляе сабою працяг тшцінецкай культуры ў сярэднім і ніжнім Надпрыпяцці і ў сумежных абшарах. Яе мяжа: Карэлічы — Давыд-Гарадок — на поўнач ад Навагграда-Валынскага і Жытоміра — на поўдзень ад Кіева — Пераяслаў-Хмяльніцкі — Лубны — Пуціўль — Трубчэўск — Старадуб — на поўдзень ад Гомеля — Светлагорск — Слуцак — Карэлічы.

Лебядоўскую культуру змяніла культура **мілаградская** (VIII—III стст. да н. э.). Асноўныя групы мілаградскай культуры склаліся на аснове культуры лебядоўскай. І ўсё ж мілаградская культура ўключала таксама групы іншых культураў. Арэал мілаградскай культуры абмяжоўваўся лініяй: Мядзел — Смаргонь — Маладзечна — Карэлічы — Слонім — Пінск — Сарны — Дубна (Ровенская вобл.) — Крамянец (Цярнопальская вобл.) — Шапятоўка (Хмяльніцкая вобл.) — Бярдзічаў (Жытомірская вобл.) — Белая Царква (Кіеўская вобл.) — Пераяслаў-Хмяльніцкі — Чарнігаў — Наваыбкаў (Бранская вобл.) — Касцюковічы — Крычаў — Орша — Барысаў — Мядзел. Асноўнае ядро мілаградскай культуры — сучасная Гомельская вобласць. Цікавае размяшчэнне вядомых пунктаў знаходак мілаградскай культуры. Паводле каталога, складзенага В. Яроменкам, усяго месцаў знаходак помнікаў мілаградскай культуры 532, з іх у Беларусі 431 (81 %), на Украіне 98 (18,4 %), у Расіі 2 (Бранская вобласць), у Польшчы 1 (Беластоцкае ваяводства). Па абласцях у Беларусі і на Украіне гэтыя пункты размяшчаюцца наступным чынам: Гомельская вобласць — 300, Менская — 66, Магілёўская — 38, Берасцейская — 19, Горадзен-

ская — 5, Віцебская — 3, Кіеўская вобласць — 38, Ровенская — 34, Чарнігаўская — 20, Жытомірская — 3, Хмяльніцкая — 3. У Беларусі на поўнач ад лініі: Выганаўскае возера — Старобін — Жлобін — Слаўгарад — Крычаў жылі як мілаградцы, так і носьбіты культураў штрыхаванай керамікі і верхнедняпроўскай. Пры гэтым на ўсход ад лініі Бабруйск — Бялынічы пераважалі мілаградцы, а на захад ад яе — штрыхавікі.

Хто такія мілаградцы паводле моўнаэтнічнай прыналежнасці? Прыведзены вышэй матэрыял сведчыць на карысць думкі пра тое, што мілаградцы — вынік пранікнення на паўночны ўсход карпацка-судэцкіх сярэднееўрапейцаў, змешвання іх з мясцовымі паўночнаеўрапейцамі, асіміляцыі, пэўнай кансалідацыі. Даследнікі адносяць мілаградцаў або да славянаў, або да балтаў, або, нарэшце, выказваюць думку пра нейкі «прамежкавы» стан у дачыненні да славянаў і да балтаў. Мілаградцы, вядомыя нам з археалагічных помнікаў,— гэта супольнасць культурная. Хутчэй за ўсё сярод іх пераважаў нейкі дыялект карпацка-судэцкага тыпу. Але яны, як і іхныя папярэднікі (лебядоўцы, тшцінеўцы), пранікалі далей на поўнач і паўночны ўсход, уцягвалі ў сваю культурную, а затым і моўную арбіту мясцовае паўночнаеўрапейскае насельніцтва. Наўрад ці пераход гэтага насельніцтва на гаворку асноўнай часткі мілаградцаў быў імгненны. Відаць, адбывалася ўсё не так просталінейна. Былі і зваротныя працэсы — моўнай асіміляцыі сярэднееўрапейцаў паўночнаеўрапейцамі. Хутчэй за ўсё, значная частка мілаградцаў карысталася адным з паўночнаеўрапейскіх (балтыйскіх) дыялектаў, пры гэтым быў пашыраны білінгвізм.

У сярэдне-паўночнай Беларусі ў I тыс. да н. э.— першай паловы I тыс. н. э. існавалі археалагічныя культуры штрыхаванай керамікі (VII ст. да н. э.— V ст. н. э.) і дняпроўска-дзвінская (VII ст. да н. э.— IV ст. н. э.). Большасць даследнікаў адносіць іх да балцкіх культураў. Культура штрыхаванай керамікі пашыраная на значнай частцы Беларусі і Літвы. У межах Беларусі яе арэал абмежаваны лініяй: Ваўкавыск — Слонім — Баранавічы — Слуцак — Глуск — Рагачоў — Слаўгарад — Орша — Віцебск — Полацак — Браслаў. Мяжа арэала гэтай культуры ў Літве: Вілкавішкіс — Каўнас — Купішкіс. Мяжа (паўднёва-заходняя) арэала дняпроўска-дзвінскай культуры ў Беларусі: Браслаў — Докшыцы — Лепель — Бялынічы — Быхаў — Мсціслаў. У Расіі арэал гэтай

культуры ўключаў Смаленшчыну, без паўночна-ўсходніх ускраінаў, паўднёвую Пскоўшчыну, паўднёвы захад Цвярской вобласці, паўночныя ўскраіны Браншчыны. Як бачым, на значнай тэрыторыі накладаліся арэалы сінхронных культураў штрыхаванай керамікі, дняпроўска-дзвінскай і мілаградскай. Гэта сведчыць, што плямёны гэтых культураў жылі і цераспалосна. Блізкая да дняпроўска-дзвінскай — юхнаўская культура (VIII—VII—II—I стст. да н. э.). Культура, відавочна, балцкая. Яе арэал: цэнтральна-ўсходняя Браншчына, большая частка Курскай вобласці, паўднёвы захад Арлоўскай, паўночная частка Сумскай, паўночны ўсход Чарнігаўскай. Блізкая да гэтых культураў верхняокская культура сярэдзіны і другой паловы I тыс. да н. э.— першых стагоддзяў нашай эры. Пашырана яна ў абласцях Арлоўскай, Калужскай, Маскоўскай.

У III ст. да н. э. склалася зарубінецкая культура, існавала да пачатку II ст. н. э. Арэал яе абмяжоўваецца лініяй: Бельск-Падляскі (поўдзень Беластоцкага ваяводства, Польшча) — Слонім — Слуцак — Менск — Орша — Бранск — Пуціўль — Ромны — Крамянчуг — Тульчын — Вінніца — Роўна — Ковель — Бельск-Падляскі. Як гэтая культура сфармавалася — няма адзінага пункту погляду. Адны даследнікі лічаць, што зарубінецкая культура склалася на аснове эвалюцыйнага развіцця мясцовых культураў — мілаградскай ці прыдняпроўскай культуры скіфаўаратых. На думку другіх, аснову яе стварылі плямёны, якія прыйшлі з захаду (Цэнтральная Еўропа і інш.). На думку трэціх, зарубінецкая культура ўтварылася ў выніку кантактаў плямёнаў заходніх, сярэднепрыдняпроўскіх і мілаградскіх пры значнай міграцыі першых і другіх у лясную зону Верхняга Падняпроўя, пры істотных уплывах культураў Сярэдняга Дуная і грэцкіх гарадоў Прычарнамор'я.

Рэзюмуючы розныя працы, прысвечаныя зарубінецкай культуры, папярэдне можна сказаць наступнае. Відаць, яе стваралі розныя этнакультурныя кампаненты, якія потым інтэграваліся. Да такіх кампанентаў неабходна аднесці і мілаградцаў, і групы плямёнаў балцкіх культураў штрыхаванай керамікі, юхнаўскай, дняпроўска-дзвінскай, якія ўвайшлі ў арбіту гэтай культуры, і заходнія плямёны. Сярод заходніх былі і мясцовыя — насельнікі Берасцейска-Пінскага Палесся, якія адносіліся да групаў плямёнаў усходнепаморскай культуры. Відаць, мелі месца значныя міграцыі з лесастэпавага Падняпроўя на поўнач, у лясную зону, а таксама —

з Цэнтральнай Еўропы. Бальшыня даследнікаў адносіць зарубінцаў да славянаў, некаторыя вучоныя лічаць іх балтамі або «прамежкавай» групай (паміж славянамі і балтамі). На нашу думку, асноўную частку зарубінцаў складалі славяне. Былі сярод іх і балты. Гэта, у першую чаргу, групы карэннага насельніцтва Сярэдняй Беларусі, уцягнутыя ў арбіту зарубінецкай культуры. Дарэчы, на даволі вялікай тэрыторыі зарубінцы жылі цераспалосна з плямёнамі штрыхаванай керамікі, г. зн. з балтамі. Гэта цэнтр і поўдзень (без заходняй часткі) Менскай вобласці, Магілёўская вобласць без усходняй часткі, прылеглыя раёны абласцей Гомельскай і Віцебскай.

Сярод міграцыйных рухаў у арэале зарубінецкай культуры адзначым наступныя. У другой палове I ст. да н. э.— пачатку I ст. н. э. зарубінецкае насельніцтва выцеснена сарматамі са значнай часткі Сярэдняга Падняпроўя (сучасная Чаркаская і поўдзень Кіеўскай абласцей Украіны). Адсюль адбывалася масавае перасяленне зарубінцаў у два рэгіёны: 1) на р. Дзясну ў межы сучасных Бранскай і паўднёвай часткі Смаленскай абласцей і 2) у вярхоўі Паўднёвага Буга. Да сярэдзіны I ст. н. э. прыпыняюць існаванне многія зарубінецкія паселішчы ў Надпрыпяцці. Даследнікі мяркуюць, што зарубінцы адышлі адсюль пад націскам готаў. Вучоныя дапускаюць, што частка надпрыпяцкіх зарубінцаў адышла ў нізоўі Прыпяці і на Дняпро, а другая частка — па Гарыні, Стыру, Случы (паўднёвай) дасягнула вярхоўяў Заходняга Буга, Паўднёвага Буга, Днястра.

У II ст. н. э. характар культуры істотна мяняецца. У гэты час лесастэпавая яе частка ўваходзіць у склад новафармаванай культуры — чарняхоўскай. Мяняецца культура ў ляснкой зоне, хоць яна ў асноўным з'яўляецца вынікам далейшага развіцця зарубінецкай культуры. Некаторыя называюць яе: зарубінецкая культура, позні этап; іншыя — познезарубінецкая культура або познезарубінецкія групы. Сярод гэтых групаў вылучаюць асобныя археалагічныя культуры. Адбываецца пранікненне нашчадкаў зарубінцаў — позніх зарубінцаў — далей на поўнач, паўночны захад, паўночны ўсход, у цэнтральную і паўднёвую Смаленшчыну, у басейн Акі.

Беларускі археолаг Л. Побаль склаў каталог зарубінецкіх помнікаў Беларусі. На аснове гэтага каталога ўскладзена наступная табліца.

| Вобласці | Зарубінецкая культура (паводле Л. Побаля, ранні этап зарубінецкай культуры) III ст. да н. э.— пач. II ст. н. э. Колькасць помнікаў і % адносна ўсіх помнікаў гэтай культуры ў Беларусі | Познезарубінецкія групы (паводле Л. Побаля, позні этап зарубінецкай культуры) II—V стст. н. э. Колькасць помнікаў і % адносна ўсіх помнікаў гэтай культуры ў Беларусі |
|---|---|---|
| Берасцейская | 83—24,6% | 81—12,8% |
| Віцебская | 5—1,5% | 42—6,6% |
| Гомельская | 173—51,2% | 240—37,9% |
| Гарадзенская | 4—1,2% | 65—10,3% |
| Менская | 28—8,3% | 70—11,1% |
| Магілёўская | 45—13,3% | 135—21,3% |
| Беларусь | 338—100% | 633—100% |

Як паказвае табліца, асноўнае ядро ўласна зарубінецкай культуры і познезарубінецкіх групаў у Беларусі — гэта Гомельшчына. Праўда, у познезарубінецкую эпоху працэнт разгляданых помнікаў адносна ўсіх помнікаў Беларусі нашмат ніжэйшы. Відаць, гэта звязана з наступнымі прычынамі: 1) з адтокам насельніцтва з Надпрыпяцця і 2) з павелічэннем колькасці помнікаў разгляданага тыпу ў паўночнай Беларусі. Ва ўласна зарубінецкі перыяд на другім месцы пасля Гомельшчыны па насычанасці і колькасці разгляданых помнікаў стаяла Берасцейшчына. У познезарубінецкі перыяд працэнт такіх помнікаў на Берасцейшчыне скараціўся амаль удвая. Звязана гэта, відавочна, таксама з дзвюма прычынамі: 1) з адтокам насельніцтва, хутчэй за ўсё, па прытоках Прыпяці на поўдзень; 2) з пасяленнем на Берасцейшчыне групаў готаў. Табліца таксама паказвае, што ў познезарубінецкую эпоху ўзмацняецца зарубінецкі кампанент на Магілёўшчыне, у меншай ступені на Меншчыне і становіцца прыкметны на Гарадзеншчыне і Віцебшчыне.

Мы так падрабязна спыніліся на зарубінецкіх (і познезарубінецкіх) помніках, таму што яны з'яўляюцца адным з галоўных кампанентаў, на аснове якіх склалася банцараўская культура. Другі кампанент — мясцовы балцкі. Дарэчы, частка зарубінцаў, хутчэй за ўсё, з'яўлялася балтамі. Уласна ж зарубінцы, відавочна,— славяне. Праўда, спрэчкі наконт этнічнай прыналежнасці зарубінцаў не закончыліся,

ёсць вучоныя, якія лічаць іх балтамі. Калі ж лічыць зарубінцаў (асноўную іх частку) балтамі, тады мы павінны і банцараўцаў лічыць выключна балтамі. Дарэчы, многія даследнікі банцараўскую культуру і адносяць да балцкіх.

І ўсё ж трэба ўлічыць наступнае. Банцараўцы гістарычна звязаныя з паўднёвым захадам: паўночна-заходняе Прыкарпацце і раён Судэтаў (праз мілаградцаў, лебядоўцаў, тшцінеўцаў і г. д.). Пры фармаванні зарубінцаў мог быць значны прыліў насельніцтва з захаду, але гэта не мяняе становішча. Прызнаць банцараўскую культуру выключна балцкаю — значыць прызнаць, што ў VIII ст. больш як 80 % тэрыторыі сучаснай Беларусі было балцкай. А праз стагоддзе ўжо з'яўляюцца звесткі пра Полацк, пра захоп князем Алегам Смаленска, Кіева і г. д. Мы лічым, што нерэальна за адно стагоддзе ператварыць тэрыторыю Беларусі з балцкай на славянскую. Нават калі дапусціць, што шчыльнасць насельніцтва балцкіх абшараў была нашмат ніжэйшая, чым абшараў славянскіх. Але, зыходзячы з папярэдняй этнічнай гісторыі Беларусі, банцараўцаў нельга лічыць выключна славянамі. Асабліва гэта датычыць паўночнай і нават сярэдняй часткі нашай краіны. На поўначы балты, хутчэй за ўсё, пераважалі над славянамі. Найбольш славянскай (сярод абласцей, дзе пашырана банцараўская культура), відавочна, была ўсходняя Гомельшчына. Але і там, відаць, захоўваліся анклавы балтамоўнага насельніцтва. Між іншым, двухкампанентавы этнічны характар банцараўцаў, наяўнасць сярод іх як славянаў, так і балтаў прызнаюць некаторыя даследнікі. Неаднародны этнічны характар уласцівы такім археалагічным культурам, як чарняхоўская (славяне, іранцы, фракійцы, готы; канец II — сярэдзіна V ст.), пшэворская (славяне, германцы; канец II ст. да н. э.— пачатак V ст. н. э.).

Такім чынам, этнічныя працэсы ў банцараўскую эпоху на тэрыторыі Беларусі і сумежных рэгіёнаў уяўляюцца нам наступным чынам: банцараўская эпоха працягвалася прыкладна 300 гадоў. Гэта даволі працяглы час, у плане этнічнай кансалідацыі ён не мог прайсці без следу. Працэсы кансалідацыі, відаць, адбываліся як сярод банцараўцаў-славянаў, так і сярод банцараўцаў-балтаў. Банцараўцы-славяне, відавочна, кансалідаваліся ў пэўную этнічную еднасць, адасобіўшыся ад суседніх славянскіх групаў. Банцараўцы-балты з цягам часу асіміляваліся са славянамі. Наколькі інтэнсіўна адбываўся гэты працэс у банцараўскую эпоху, сказаць цяжка. Ды гэта і неістотна. Безумоўна, сярод банца-

раўцаў вялікую долю складалі балта-славянскія білінгвы. Гэта непазбежна ў сітуацыі, якая склалася пры пранікненнях паўднёвага этнічнага элементу ў балтыйскае асяроддзе на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Сінхронныя банцараўскай суседнія культуры: пражская (яе дзве групы — пражска-корчацкая і пражска-пянькоўская) на поўдні і мошчынская — у басейне Акі.

Наступная эпоха ў этнічнай гісторыі Беларусі — эпоха дрыгавічоў, полацка-смаленскіх крывічоў і радзімічаў.

Пачатковы агмень крывічоў знаходзіўся на Пскоўшчыне. Датуюцца тут крывіцкія помнікі VI—VII і наступнымі стагоддзямі. У VIII ст. арэал крывічоў пашырыўся на Полаччыну і Смаленшчыну. А ў X ст. у раёнах Заслаўя і Барысава арэал крывічоў сышоўся з арэалам дрыгавічоў. Пачатковы арэал дрыгавічоў лакалізуецца ў парэччы Прыпяці між нізоўямі Гарыні і раёнам Мазыра, датуецца ён VII—VIII стст. У IX ст. дрыгавічы жывуць таксама ў раёне Брагіна, Рэчыцы, па р. Бярэзіне да раёна Барысава, у вярхоўях Случы. Да X ст. адносяцца шматлікія пасяленні дрыгавічоў між Прыпяццю і Слуцкам, у цэнтральнай Меншчыне, а таксама ў раёне Ганцавічаў, Лунінца, Жлобіна, Рагачова, Бялынічаў. Да XI—XIII стст. адносяцца помнікі дрыгавічоў у Панямонні (Смаргонь, Наваградак, Слонім), у паўночна-заходняй Берасцейшчыне, на Беласточчыне. У VIII ст. завяршаецца фармаванне радзімічаў (усходняя Гомельшчына, паўднёва-ўсходняя Магілёўшчына, заходняя Браншчына).

Такім чынам, дрыгавічы, полацка-смаленскія крывічы і радзімічы фармаваліся на аснове як мясцовага банцараўскага, так і прышлага насельніцтва. Якія суадносіны паміж першымі і другімі? Доўгі час вучоныя прытрымліваліся думкі, што банцараўцы — гэта балты, а мігранты з сярэдняга Надпрыпяцця на поўнач і з Пскоўшчыны на поўдзень — гэта першыя славяне на большай частцы тэрыторыі сучаснай Беларусі. Але калі прыняць палажэнне, што сярод банцараўцаў былі і балты, і славяне, то сітуацыя мяняецца. Сярэднепрыпяцкія і пскоўскія славяне маглі толькі кансалідаваць насельніцтва ў плямённыя саюзы, перадаць яму нейкія асаблівасці мовы і культуры, але самі былі асіміляваныя гэтым насельніцтвам. Атрымліваецца сітуацыя блізкая да той, якая адбылася ў Баўгарыі: цюркі-баўгары перадалі славянам, якіх яны ўзначалілі, сваё імя, а самі паступова сталі славянамі. Міграцыі з поўначы на поўдзень і з поўдня на поўнач і ўтварэнне дрыгавіцкага і крывіцкага саюзаў, здаец-

ца, знайшлі адбітак у беларускіх гаворках — у падзеле іх на паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні дыялекты. Аднак розніца памежных гаворак названых дыялектаў не такая ўжо вялікая — напрыклад, паміж гаворкамі паўднёвых раёнаў Віцебскай і паўночных раёнаў Менскай вобласці. Гэта непараўнальна з розніцай, напрыклад, паміж мовамі беларускай і рускай, беларускай і ўкраінскай.

Калі прыняць, што славяне-пскавічы і славяне-надпрыпятцы сышліся на поўнач ад Менска толькі ў X ст., а дагэтуль тут славянаў не было, то ў гэтых мясцінах была б вельмі рэзкая моўная мяжа, пераходныя гаворкі займалі б вузкі пас. Між тым, пераходныя гаворкі — сярэднебеларускія — між паўночна-ўсходнімі беларускімі і паўднёва-заходнімі беларускімі займаюць прастору ненашмат меншую, чым асноўныя масівы гэтых гаворак. Як гэта растлумачыць? Магчыма, тым, што паўночны (пскоўскі) і паўднёвы (надпрыпяцкі) уплывы ў сярэднебеларускай зоне выявіліся слабей, чым на поўначы і на поўдні. Дарэчы, абшар радзімічаў (усход Гомельшчыны) амаль цалкам уваходзіць у абшар сярэднебеларускіх гаворак. Хутчэй за ўсё гэта таму, што радзімічы фармаваліся на мясцовай банцараўскай аснове без істотных прытокаў насельніцтва з іншых мясцінаў. Выснова напрошваецца наступная. Пры фармаванні дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў хутчэй за ўсё перамагла мова славянаўбанцараўцаў. Найбольш «чыстай» яна захавалася ў абшары радзімічаў, у паўднёвай і паўднёва-заходняй частцы крывіцкага абшару, дзе ўплыў Пскова адчуваўся слабей, і ў паўночнай і паўночна-ўсходняй частцы дрыгавіцкага абшару, дзе, у сваю чаргу, уплыў гаворак парэчча сярэдняй Прыпяці меншы, чым у паўднёвай частцы гэтага рэгіёна. Беларуская літаратурная мова фармавалася найперш на аснове сярэднебеларускіх гаворак: атрымліваецца — рэанімавалася банцараўская гаворка. Парадокс? Ці гістарычная заканамернасць?

Акрамя крывічоў полацка-смаленскіх, існавалі яшчэ крывічы пскоўскія і верхняволжскія. Пскоўскія крывічы з IX ст. адмежаваныя ад полацкіх крывічоў дзяржаўнымі ці адміністрацыйнымі межамі. Між тым, яшчэ ў XX ст. некаторыя даследнікі інтэрпрэтавалі пскоўскія гаворкі як пераходныя паміж рускімі і беларускімі. Адкуль у пскоўскіх гаворках беларускі элемент? Нярэдка спрабавалі тлумачыць гэта беларускімі ўплывамі ў XIV—XVII стст. Але ў гэтыя стагоддзі ўмоваў для такіх уплываў не было. Відавочна, агульныя

рысы ў гаворках нашчадкаў пскоўскіх і полацкіх крывічоў узыходзяць у значнай меры да крывіцкай эпохі, калі і пскоўскія, і полацкія крывічы былі **крывічамі.** З другога боку, відаць, гаворка пскоўскіх крывічоў з самага пачатку істотна рознілася ад гаворкі крывічоў полацка-смаленскіх. Так можна сцвярджаць, зыходзячы з характару этнагенезу розных групаў крывічоў. Аснову полацка-смаленскіх крывічоў склаў банцараўскі кампанент, а для пскоўскіх крывічоў ён меў значна меншае значэнне. Невялікую ролю адыграў фінскі кампанент у полацка-смаленскіх крывічоў, а для пскоўскіх крывічоў яго роля прыкметная. Вялікае значэнне для пскоўскіх крывічоў меў славянскі кампанент, які з'явіўся на Пскоўшчыне ў VI ст. і вытокі якога бачаць у заходнеславянскім свеце. Роля гэтага кампанента для полацка-смаленскіх крывічоў нашмат меншая. Волжскія крывічы сфармаваліся пазней у выніку перасяленняў крывічоў з Пскоўшчыны, Смаленшчыны, Полаччыны. У склад гэтай крывіцкай групы ўліліся таксама іншыя групы, у тым ліку жыхары вярхоўяў Волгі, якія жылі тут раней.

Археалагічна дрыгавічы, крывічы, радзімічы асобнай групы не ўтвараюць. Паводле археалагічных асаблівасцяў яны выразна адрозніваюцца між сабою. Затое, у прыватнасці, радзімічы маюць нямала агульнага з севяранамі і вяцічамі. Археалагічна дрыгавічы блізкія да плямёнаў паўночнай Украіны.

Археалогія мае вялікае (нават велізарнае) значэнне для высвятлення фактаў мінуўшчыны, у тым ліку моўных, этнічных. І ўсё ж атаясамліванне археалагічных супольнасцяў з моўнымі можа заблытваць навуковы аналіз. Маючы на ўвазе археалагічную блізкасць дрыгавічоў, валынянаў, драўлянаў, а таксама наяўнасць у паўднёва-заходніх беларускіх гаворках (нашчадкі гаворак дрыгавічоў) агульных моўных рысаў з паўночнаўкраінскімі гаворкамі, некаторыя выказвалі думку, што гаворкі паўднёва-заходняй палавіны Беларусі (да Менска) уваходзілі ў адну групу з гаворкамі паўночнай Украіны, і толькі ў часы Вялікага Княства Літоўскага адбылася іх пераарыентацыя. Відавочна, нерэальна, каб у часы ВКЛ Віцебшчына і Полаччына асімілявалі Наваградчыну і Случчыну. Хоць культура дрыгавічоў, полацка-смаленскіх крывічоў і радзімічаў рознілася, але гаворкі іх, хутчэй за ўсё, утваралі адну групу. Відаць, таму ў часы Вялікага Княства Літоўскага гэтыя гаворкі канчаткова кансалідаваліся ў беларускую мову.

У Вялікім Княстве Літоўскім стварыліся спрыяльныя ўмовы для кансалідацыі беларускай народнасці. Але ж у яе склад увайшлі толькі нашчадкі дрыгавічоў, полацка-смаленскіх крывічоў, радзімічаў. Не ўвайшлі ў склад беларускай народнасці жыхары сучасных Калужскай, Арлоўскай абласцей у Расіі, Валынскай, Вінніцкай абласцей на Украіне, хоць у XIV—XVI стст. яны таксама ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага.

Вучонымі XIX—XX стст. былі вызначаныя тэрыторыя рассялення беларускага этнасу, яго прыблізныя межы, этнаграфічныя асаблівасці і інш. Беларусам (як і некаторым іншым народам, напрыклад, украінцам) была ўласцівая дваістасць этнанацыянальнай самасвядомасці: з аднаго боку, усведамленне прыналежнасці да свайго этнасу (беларускага), а з другога — нявызначаны «статус» гэтага этнасу: ці гэта самастойная нацыя, ці этнаграфічная група нацыі расейскай (для праваслаўных) або польскай (для католікаў). Такая дваістасць часткова захавалася ў беларусаў і ў наш час, асабліва за межамі Рэспублікі Беларусь. Мяркуем, што ў часы Кіеўскай Русі беларусам таксама характэрная была дваістасць самасвядомасці. Але яна была іншага характару. Па-першае, усведамленне сябе як этнасу. Што да статуса этнасу, хутчэй за ўсё, існавалі такія варыянты: 1) беларускі (хоць так сябе не называлі, відавочна) этнас — гэта самастойная народнасць і 2) гэта адзінства ўнутры агульнаўсходнеславянскай народнасці. Відаць, першы варыянт самасвядомасці пераважаў на Полаччыне, якая была незалежная ад Кіева, а другі быў больш значны на Смаленшчыне і Тураўшчыне. У часы Вялікага Княства Літоўскага, мабыць, пераважала свядомасць самастойнасці беларускага этнасу сярод іншых славянскіх.

У эпоху дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў, можна меркаваць, былі наступныя суадносіны самасвядомасці. Па-першае, гэта залічэнне сябе да пэўных плямёнаў — дрыгавічы, крывічы, радзімічы і інш. Але сярод гэтых плямёнаў вылучалася група, блізкая гаворкай, паходжаннем (банцараўскі субстрат).

Калі ж беларускі этнас склаўся, кансалідаваўся як адзінства і ў той жа час адасобіўся ад іншых усходнеславянскіх еднасцяў?

Межы беларускага этнасу (арэал, блізкі да арэала беларускіх гаворак) былі вызначаныя вучонымі ў XIX — пачатку XX ст. Неабходна знайсці этнапалітычныя структуры,

якія прыкладна адпавядалі б арэалу беларускага этнасу нашага часу. Сярод такіх структураў у апошнія паўтары тысячы гадоў мы знаходзім **толькі адну** — гэта **банцараўская культура.** З структураў, якія адпавядалі б пастаўленаму крытэрыю, безумоўна выпадаюць: эпоха Кіева, эпоха старажытных усходнеславянскіх дзяржаваў-княстваў, эпоха Рэчы Паспалітай, эпоха Расейскай імперыі. Уяўляюць цікавасць эпоха дрыгавічоў-крывічоў-радзімічаў і эпоха Вялікага Княства Літоўскага. Але. Калі б прычынай вылучэння беларускага этнасу была толькі эпоха Вял. Кн. Літоўскага, то арэал беларусаў сягаў бы да Чорнага мора на поўдні, да Акі на ўсходзе. Арэал дрыгавічоў, полацка-смаленскіх крывічоў і радзімічаў прыкладна супадае з арэалам беларускіх гаворак XIX — пачатку XX ст. Але эпоха гэтых плямёнаў была супрыяльная дзеля фармавання трох этнасаў у межах сучасных этнічных беларусаў.

Арэал жа банцараўскай культуры — гэта арэал пэўнага адзінства, вельмі блізкі да арэала беларускіх гаворак (беларускага этнасу) XIX — пачатку XX стст.

Ці банцараўцы-славяне — этнічныя беларусы? Калі зыходзіць з выкладзенага вышэй, дык гэта так. Калі ж з'явяцца новыя факты, супярэчныя прыведзеным разважанням, дык, магчыма, нашыя погляды будуць перагледжаныя.

Але закранем яшчэ некаторыя пытанні.

Якія суадносіны паміж банцараўцамі-славянамі і сучаснымі (этнічнымі) беларусамі? Магчыма, такога самага плану, як і суадносіны паміж старажытнымі і сучаснымі грэкамі. Сучасныя грэкі — нашчадкі не толькі старажытных грэкаў, але і групаў розных народаў (фракійцаў, карыйцаў, македанян, ілірыйцаў, славянаў, таўраў), а таксама цэлых народаў (пелазгаў), якія этнічна зліліся з грэкамі. У той жа час групы грэкаў, якія пасяліліся ў розных краінах, асіміляваліся іншымі народамі. Так і сучасныя беларусы з'яўляюцца нашчадкамі не толькі банцараўцаў-славянаў, але і такіх групаў, як банцараўцы-балты, славянскія выхадцы з іншых мясцінаў (Пскоўшчына і інш.). З другога боку, групы банцараўцаў зліліся з іншымі плямённымі групамі. Ну і мова на працягу стагоддзяў мяняецца.

І яшчэ адно пытанне. А можа беларускі этнас і асновы беларускай мовы скл аліся яшчэ раней, да банцараўскай эпохі? Магчыма, і так. Але каб даказаць гэта ці абвергнуць, трэба шукаць далей.

***Адною магутнаю грамадой, зьяднаўшыся ў адзін моцны, неперparam можны маналіт, павінны дружна мы стаяць на варце дзяржаўна-палітычнай незалежнасьці, вольнасьці і шчасьця Бацькаўшчыны. Бо хмары, якія адвечна засьцілалі ад нас неба і сонцаву яснату, робяцца вось бялейшымі. Яны радзеюць.***

***Беларусы! Нам трэба бараніць сваю долю і незалежнасьць самым...***

**М. Краўцоў. Наш голас. (Звон. 1919. 27 жніўня).**

# Макар Краўцоў пра Ўсебеларускі зьезд

*КРАЎЦОЎ Макар (сапр. КАСЦЕВІЧ Макар Мацвеевіч) нарадзіўся 6(18) жніўня 1891 г. у в. Бабройня Скідзельскай вол. Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н, дзяяч нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння, паэт, публіцыст, крытык, перакладнік. Паходзіў з сялянскай сям'і, дзядзька паэта Міхася Васілька (М. В. Касцевіча).*

*Пасля заканчэння Галавацкай царкоўнапрыходскай школы паступіў у Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, з 1910 г. працаваў настаўнікам на Горадзеншчыне. У гады першай сусветнай вайны (з 1915 г.) служыў у царскай арміі, дзе пачаў удзельнічаць у беларускім руху. Узначальваў салдацкі камітэт 44-га армейскага корпуса Паўднёва-Заходняга фронту, ад якога быў абраны дэлегатам у Менск на Усебеларускі з'езд (снежань 1917 г). Прымаў актыўны ўдзел у яго працы. У 1917—1919 гг. жыў у Менску, некаторы час працаваў настаўнікам у школе. Прытрымліваўся эсэраўскіх поглядаў, з 1918 — сябра БПС-Р.*

*Пісаў вершы, апавяданні, публіцыстычныя артыкулы, якія друкаваў у газетах «Вольная Беларусь», «Звон», «Беларусь», часопісе «Рунь». Яго творчасці ўласцівы дух барацьбы за беларускасць, за нацыянальнае адраджэнне, незалежнасць Бацькаўшчыны.*

*Са снежня 1919 г. уваходзіў у склад Беларускай вайсковай камісіі, якая займалася фармаваннем беларускіх аддзелаў у*

*польскім войску. Некаторы час узначальваў культурна-прасветную падкамісію БВК.*

*У 1919 г. напісаў ваяцкі марш «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» (муз. У. Тэраўскага), які стаў гімнам Беларускай Народнай Рэспублікі. У ім упершыню ўслаўляўся «штандар наш бел-чырвона-белы», з якім паэт заклікаў ісці «на бой за славу і за волю народу беднага свайго». Верш быў апублікаваны ў газеце «Беларусь». У 1920 г. удзельнічаў у Слуцкім паўстанні. Ваяцкі марш Краўцова быў гімнам слуцкіх паўстанцаў.*

*З 1921 г., пасля Рыжскай дамовы, жыў і працаваў у Вільні, займаўся літаратурнай і грамадскай дзейнасцю. Друкаваўся ў віленскіх беларускіх выданнях: «Наша думка», «Сялянская ніва», «Беларуская крыніца», «Беларускае слова», «Родны край», часопісах «Маланка», «Беларуская культура», «Шлях моладзі» і інш.*

*Есць меркаванні, што Краўцоў меў сувязь з Беларускай сялянска-работніцкай грамадой і яе дзеячамі Б. Тарашкевічам, С. Рак-Міхайлоўскім, І. Дварчанінам і іншымі.*

*Пасля травеньскага перавароту Пілсудскага (1926) арыштоўваўся польскімі ўладамі.*

*Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР (1939) працаваў у рэдакцыі газеты «Віленская праўда», але неўзабаве быў арыштаваны разам з іншымі дзеячамі беларускага руху (Антон Луцкевіч, Ян Пазьняк, Сяргей Бусел, Антон Трэпка, Вінцук Грышкевіч, Уладзімір Самойла і інш.).*

*«Контррэвалюцыйную нацдэмаўскую дзейнасць пачаў з 1919 года... Пасля здзяйснення Кастрычніцкага перавароту ў снежні месяцы 1917 года быў дэлегатам эсэраўскага кулацка-нацдэмаўскага з'езда... які ставіў пытанне аб нязгодзе з Савецкай уладай, Кастрычніцкай рэвалюцыяй і патрабаваў стварэння беларускай буржуазнай краявой улады»,— гэта радкі з паведамлення наркома ўнутраных справаў Л. Цанавы сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку 5 лістапада 1939 г., пасля арышту Макара Краўцова.*

*Першы Усебеларускі з'езд быў адной з найважнейшых падзеяў у гісторыі Беларусі. Спрэчкі аб яго ацэнках і значэнні для лёсу беларускага народа ідуць і па сёння. Пошук шляхоў нацыянальнай незалежнасці — галоўная праблема, што абмяркоўвалася на з'ездзе. Рашэнні, выпрацаваныя ў 1917 г., сталі асновай для падрыхтоўкі і абвешчання Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Пры абмеркаванні рэзалюцыі аб самавызначэнні Беларусі і краёвай уладзе з'езд быў разагнаны бальшавікамі, Прэзідыум з'езда арыштаваны. Надзеі на ўсталяванне народаўладдзя дэмакратычным шляхам пацярпелі крах.*

*Першы пункт рэзалюцыі, за які пазней абвінавачвалі з'езд у контррэвалюцыйных настроях, быў такога зместу: «Замацоўваючы свае правы на самаазначэньне, абвешчанае расейскай рэвалюцыяй, і прыймаючы рэспубліканскі дэмакратычны строй на абшары беларускай зямлі, для ратунку роднага краю і для забесьпячэньня яго ад разьдзелу і адлучэньня ад Расейскай Дэмакратычнай Фэдэратыўнай Рэспублікі, першы Усебеларускі зьезд ухваляе безадкладна ўтварыць са свайго складу орган краёвай улады ў асобе Усебеларускага Савету сялянскіх, сал-*




Афіцэр Беларускай вайсковай камісіі Макар Краўцоў. 1920-я гады. БДАМЛіМ. Друкуецца ўпершыню.

*дацкіх і рабочых дэпутатаў, які часова становіцца на чале кіраваньня краем, уступаючы ў дзелавыя зносіны з цэнтральнай ўладаю, адпавядальнай перад Саветам рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў».*

*Для сучаснага чытача цікавым будзе погляд удзельніка тых далёкіх падзеяў. Першыя ўспаміны Макара Краўцова былі на-*

*пісаныя ў траўні 1918 г. і апублікаваныя ў часопісе «Беларускае жыцьцё» ў сакавіку 1920 г. пад назвай «Разгон».*

*Уражанні больш свежыя, адлюстроўваюць узнёслую, урачыстую атмасферу з'езда. «Бясьсьмертны момант у жыцьці нацыі», «гістарычная часіна»,— так пісаў пра гэты дзень Краўцоў.*

*Праз 20 гадоў з'яўляецца новы варыянт успамінаў. У літаратурным плане яны больш дасканалыя, з асэнсаваннем трагічнасці таго, што адбылося. Значнае месца адводзіцца паказу ўласнай ролі ў тых падзеях.*

*Толькі заканчваюцца ўспаміны па-рознаму.*

*«У душы не было жалю, што так сталася. Чулася энэргія, жаданьне барацьбы, чулася непакарымасьць праўды — бясьсьмертнасьць ідэі Вялікага Сходу!» — такі аптымізм гучаў у 1918-ым. У 1938-ым ён знікае: «Гінула народная воля сярод мяккае зімовае начы, ахінуўшай сэрца Беларусі ценямі рабства...»*

**КРАЎЦОЎ Макар**

# РАЗГОН
## (Успамін)

Адчыніліся дзьверы дарадчага пакоя ў б. Шляхецкім Доме і адтуль пачалі выходзіць сябры Рады Зьезду — прадстаўнікі ўсіх групаў, усіх часткаў Вялікага Народнага Сходу — Першага Ўсебеларускага Зьезду.

Там — у дарадчым пакоі была іх парада аб тым, каб з гурбы рэзалюцыяў: зямлячстваў, фракцыяў, сэкцыяў, партыяў, стварыць нешта моцнае, зьліць гэтыя дробныя рэзалюцыі і жаданьні ў вадно ды вынесьці на зацьвярджэньне ўсяго Зьезда.

Пасьля доўгіх спрэчак, гоману, крыку, папраўак, дадаткаў і г. д. агульная рэзалюцыя была знойдзена, і настаў рашучы момэнт: адважна, голасна абвясьціць свае жаданьні, сваю сувэрэннасьць і здольнасьць да дзяржаўнага жыцьця.

Заля сьцішылася; назначаны фракцыйныя і групавыя аратары дзеля пунктоўнага паясьненьня рэзалюцыі. Яна агалошана Старшынёю адзін і другі раз. Уносіцца й прый-

маецца спакойна прапазыцыя аб галасаваньні рэзалюцыі па пунктах. Урачыстыя мінуты! Бясьсьмертны момант у жыцьці нацыі!

Гэта было ў Менску-Беларускім у рок ад Хрыстовага Нараджэньня тысячу дзевяцьсот сямнаццаты ў месяцы Сьнежні ўночы з 17 на 18 яго дзень, пасьля першае гадзіны па поўначы. Надходзіла гістарычная часіна — палова другой гадзіны. Сярод сьвяточнага настрою Вялікага Сходу прашарахцела нейкая трывога, усе крыху замітусіліся, напружыўшы нэрвы. Пісар голасна пачынае агалашаць першы пункт рэзалюцыі — прадмову да яе. А пунктаў усіх — пятнаццаць. Да стала прэзыдыуму падыходзяць дзьве фігуры ў шэрых салдацкіх шынэлях: міністры... гэнэралы, але, гледзячы на іх, здаецца, што гэта ўсё байка, так мала яны падходзяць да сваіх гэркулесавых роляў. Адзін зь іх у новай шапцы з надта доўгім брылём, з такімі ж доўгімі чорнымі вусыма, ідзе арлом — гэта начальнік Менскага гарнізону і тымчасовы (за выездам «праўдзівага») «Главкозап» (глаўнакамандуючы Заходнім фронтам) «гэнэрал-ад-рэвалюцыі» Крывашэін; другі ў стаўбунаватай шапцы зь нейкае рыжае скуры ліса ці медзьвядзя — народны камісар унутраных справаў Заходняй вобласьці і фронту «гэнэрал-ад-Земсаюзу» — Рэзаускі. Падыходзіць за імі і становіцца зь левага боку ад стала Прэзыдыуму трэйцяя фігура; баявая, у зімовай белаватай шапцы з шашкаю зь левага боку й «наганам» з правага, выбрытая, чырвоная, ад'еўшаяся морда, кароценькі да каленкаў ні то фрэнч, ні то шынэль — тыповага бальшавіцкага кшталту вопратка,— ва ўсім грубасьць, дзіч, малакультурнасьць. Гэта — камандзер «Першага Рэвалюцыйнага палку імя Менскае Рады Работніцкіх і Салдацкіх Дэпутатаў» — таварыш Рамнёў. Фігура Рэзаускага зьнімае з галавы зьвярыную смушку і штось ціха гаворыць Прэзыдыуму.

Старшыня трэбуе дакумэнтаў, хто яны такія, гэтыя фігуры. Рэзаускі не ўстаіць на месцы, размахвае праваю рукою (пад леваю пахай портфэль і шапка), а фігура Крывашэіна, ня зьнімаючы свайго доўгага брыля, сіпліва, нібы з прабітым горлам, прабуе крычаць: «Я начальник гарнизона»... ды яшчэ нешта, але сіплівасьць не пазваляе разыйсьціся, як ён хацеў бы, дый да таго замітусілася мацней заля, чуваць протэсты.

Пасьля крыху сьціхае гул, і Старшыня дае слова «на-

чальніку гарнізону».

Ізноў сіпліваісьць, кепска чуваць, язык заплятаецца, штось няздатна. Чутно толькі: «Под видом мягких лайковых перчаток, под видом мягкой пуховой постели...»

Відочна п'яны начальнік гарнізону, апэрэтачны «Главкозап»; фігура народнага камісара Рэзаускага, больш адукаванага, сама не здаволена ахінэяй «таварыша Крывашэіна», моцна «дзюбнуўшага» й мала адукаванага.

Крывашэін на прапазыцыю Старшыні й галасы з залі аб тым, каб зьняць шапку, нязграбна й паволі бярэцца за брыль, скідае з сваё чорнае галавы «ваяводзкі ківер» і, глянуўшы на Старшыню, мармыча, як праз сіта: «Призываю президиум к... порядку».

Фігура Рэзаускага, бачучы, што стрымаць «Главкозапа» не ўдаецца, сама прапануе Прэзыдыуму: «Лишите его слова...» А Рамнёву тым часам прыказвае ўвясьці ў залю «таварышоў — ваякоў Першага Рэвалюцыйнага палка».

Паслухмяны Рамнёў зараз жа праціскаецца праз шчыльную масу нашых салдатаў і сялян — сяброў Зьезду, рвецца да стала, каб арыштаваць Прэзыдыум, як агаласіў Рэзаускі, што ён распушчае Зьезд, а Прэзыдыум абвяшчае арыштаваным. Рамнёў паднімае ўгару наган, націскае курок, але штось пстрыкае й ня паліць.

Усё завалтузілася, загаманіла, нібы пчолы ў вульлі — пайшла праўдзівая барацьба ўзброеных і безаружных шэрых фігураў між сабою. Некаторыя зь сялян пахаваліся ў кутках, але адважная іх большасьць зьмяшалася разам з шынэлямі і шчыльнаю сьцяной забараняе «рэвалюцыйнаму палку» дарогу да Прэзыдыума.

Адзін селянін, стаўшы на крэсла, з каменнаю аратарскай адвагаю шле праклёнствы збройцам, паказваючы свае мазольные далоні. Яго не хапаюць «ваякі», не глядзяць на яго. Некаторыя зь сялян з халопскай пакорнасьцяй моляць і просяць, каб іх выпусьцілі, бо яны вось не разумеюць, што гэта робіцца, бо, кажуць, яны не вінаваты. І апынуўшыся ўжо каля дзьвярэй, Крывашэін літасьціва пацягвае іх за рукавы: «Проходите... проходите...»

Прэзыдыум арыштованы. На яго месцы брыкаюцца «таварышы» са стрэльбамі ў руках. Прэзыдыум выводзяць. Раздаўся дружны сьпеў «Марсэльезы», у другім рагу сьпяваюць па-беларуску: «Ад веку мы спалі...».

Абодва гімны зьліваюцца ў рашучы гром адвагі й ба-

рацьбы... Загрукаталі крэсламі. У мінюту зьяўляецца новы Прэзыдыум... Растуць барыкады пасярод залі; з аднаго боку барыкадаў, пад гром гімнаў, новы прэзыдыум абвяшчае рэзалюцыю пратэсту, з другога боку бальшавіцкія гэнэралы абмяркоўваюць свае стратэгічныя дзеі.

Больш ніхто ўжо не пакідае сходу, усе цеснаю грамадой стоўпіліся за барыкадамі, слухаючы рэзалюцыю пратэсту. У гэтай масе зьядналіся і левыя, і правыя, і фракцыі, і зямлячаствы ў вадну моцную грамаду адважных рэвалюцыянэраў.

Спробы «гэнэралаў» «отозвать товарищей большевиков» не ўдаюцца. Гэтыя «большевики» наймацней пратэстуюць. Стратэгія простая. Крывашэін камандуе зараз жа арыштаваць вунь гэтага кудлатага (старшыню новага прэзыдыуму). Ізноў атака... грукат крэслаў... «полк» разьбірае барыкады, абаронцы барыкадаў іх ізноў складаюць — ідзе нейкая бесканечная работа. Грукат заглушаецца новым громам гімнаў. «Полк» адхлынуў назад да дзьвярэй... Кінуўшыся ўперад, Рамнёў ізноў вядзе яго ў атаку... Лезуць праз барыкады, хватаюць новы прэзыдыум, хватаюць, каго могуць, ды выпіхваюць у дзьверы.

У новым прэзыдыуме паненка... Яна б'е па мэфістофэлевым твары Крывашэіна... Крык... гоман... гукі жалобнага маршу.

Нехта папхнуў мяне на Крывашэіна, той пацягнуў мяне за рукаў: «Проходите».

Я вырваўся ад яго, відочна пераканаўшыся па гарэлачнаму ад яго паху, што ён як мае быць п'яны... Зразумеўшы, што далейшая барацьба, напрасная, сход выходзіць у дзьверы, сьпяваючы «Жалобны марш». «Полк», акружыўшы ўсіх, падпіхае ззаду ў дзьверы.

Заля паволі апаражняецца. Пачало крыху днець. Выйшаўшы на вуліцу, я ўбачыў нейкіх «рыцараў» на сівых конях — чалавек каля дваццацёх — і два панцырных самаходы з кулямётамі.

Сход направіўся за арыштаванымі па Падгорнай вуліцы да Камэрчаскай школы (Штаба Рады Народных Камісараў). Я зірнуў на гадзіньнік: было ўжо пяць гадзін ранку 18 сьнежня.

Вялікі сход быў разагнаны за... «контррэвалюцыйныя мэты»!? «Контррэвалюцыянэры» пацягнуліся «да штабу

рэвалюцыі», сьпяваючы... Што б вы думалі?.. Сьпяваючы рэвалюцыйныя гімны...

У душы не было жалю, што так сталася. Чулася энэргія, жаданьне барацьбы, чулася непакарымасьць праўды, бясьсьмертнасьць ідэі Вялікага Сходу!

26 мая 1918
Менск

**Беларускае жыцьцё. 1920.
18 сакавіка.**

# 20 ГАДОЎ НАЗАД

## (Успамін пра Ўсебеларускі зьезд 1917 г.)

Шмат хто зь цяперашняе нашае моладзі чуў напэўна, што быў у Менску некалі Зьезд з усяе Беларусі, які хацеў лепшае долі свайму народу, што дасягнуць яе не ўдалося, бо сіла перамагла права: бальшавікі Зьезд разагналі, дэмагагічна трубячы, быццам складаўся ён... *«из помещиков и буржуазии»*. А тымчасам нават і цяпер, праз 20 гадоў, лягчэй хіба было б сустрэць сярод беларусаў нэгра, як абшарніка або запраўднага капіталіста.

Што ж гэта быў за Зьезд? Як і скуль папаў на яго я? Што там рабіў, чуў і бачыў?

Шмат можна было б паставіць падобных пытаньняў, шмат што напісаць. Хочацца ўспомніць пра кардынальнае зьявішча ў незайздроснай долі роднага народу, успомніць тое, што моцна трымаецца ў памяці.

Дый ці можна гэта з памяці выкінуць?..

Густы, малады хваёвы лес каля Рожышча (на Валыні). У зямлянках і бараках сярод гэтага лесу стаяў штаб 44-га расейскага корпуса, у якім мяне ўсе добра зналі як старшыню корпуснага камітэта. Зналі таксама, што я беларус, маю кантакт зь менскімі беларусамі, атрымліваю сваю родную літаратуру і г. д.

Украінцаў у корпусе была цэлая 72-я дывізія. А беларусаў трудна было выявіць. Аказаліся яны самі. У пер-



Макар Краўцоў з жонкай. Вільня, 20-я гады. З асабістага архіва А. Ліса. Друкуецца ўпершыню.

шых чыслах сьнежня (паводле старога стылю) клічуць неяк мяне на сход беларусаў, быўшых у корпусе. Сход сабраўся недалёка ад корпуснага штаба ў 46-м інжынэрным палку. Заходжу ў прасторны барак. Каля сотні паўтары чалавек (а можа й больш) пад прэзэсоўствам штабс-капітана (прозьвішча ня помню, раз у жыцьці тады яго я толькі і бачыў); радзяцца, каго паслаць у Менск, на Ўсебеларускі Зьезд, а таксама і ў Кіеў на зьезд беларусаў-ваякаў был. расейскага Паўдзённа-Заходняга фронту (абодва зьезды зьбіраліся ў адзін і той жа самы час). Павінен зазначыць, што корпусны камітэт, на чале якога я тады стаяў, выбраны быў месяцы за два да бальшавіцкага перавароту, на 20 зь нечым сяброў сваіх меў гэты камітэт толькі 2-х бальшавікоў, органам новае (бальшавіцкае) улады ня быў... Землякі мае, сабраныя (ня ведаю, з чые ініцыятывы) у 46-м інжынэрным палку, таксама не былі бальшавікамі. Сярод сабраных пераважна былі салдаты, пара афіцэраў, некалькі вайсковыхураднікаў і пісараў. Скідаю шапку, вітаю землякоў па-беларуску. Нейкі ўраднік заікнуўся пра тое, што Беларусь, дык справа зразумелая, але каб мову сваю ў яе інстытуцыях заводзіць, дык гэта можа і крыху нешта лішняе. За родную мову выступіў адзін маладзенькі пісар і прачытаў цэлую

лекцыю пра слаўную мінуўшчыну нашае мовы ў старадаўнай Літве... Мне запрапанавалі на выбар: ехаць дэлегатам у Менск або ў Кіеў, а калі спраўлюся, дык пабываць на абодвух зьездах. Я выбраў Менск. У Кіеў паехалі іншыя дэлегаты.

У Менск прыехаў я, калі Зьезд яшчэ зьбіраўся. Адразу кінулася ў вочы зусім слабая арганізацыя гэткага вялікага народнага веча. Не было ніякай рэальнай збройнай сілы, якая давала б гарантыю таго, што Зьезд магчыме давясьці сваю работу да канца. Думку гэткую я выказаў старшыні Цэнтральнае Беларускае Вайсковае Рады Рак-Міхайлоўскаму. Ад яго пачуў, што няма нават вартых жалю фінансаў, каб паслаць чалавек пару ў Кіеў на зьезд фронту. Цешыла толькі тое, што прафэсіянальныя саюзы паштавікоў і чыгуначнікаў, а таксама іншая працоўная інтэлігенцыя, не вылучаючы акружнога камітэта расейскіх эсэраў і гарадзкіх ды губэрніяльных самаўрадаў (яшчэ тады бальшавікамі не паразганяных) былі на баку беларускага кангрэсу.

Адкрыць зьезд у гарадзкім тэатры 5(18)-га сьнежня 1917 году выпала на долю Рак-Міхайлоўскага. Ад прыроды не аратар, гаварыў ён неяк вяла, пачаў па-беларуску, зьехаў на расейскую мову... Энтузіязм, любоў да свае роднае зямлі, да лепшага заўтра свайго народу выклікалі сярод блізка што двухтысячнага Зьезду прывітальныя прамовы армейскіх дэлегатаў і прадстаўнікоў розных менскіх арганізацыяў. Громам воплескаў пакрываў Зьезд прывітаньне ўкраінца Кавердынскага, калі, паміж іншым, вырвалася з вуснаў яго: «Нашае гора — вашае гора, нашае сьвята — вашае сьвята...». Грымеў Зьезд на словы нашага паэта Алеся Гаруна, прамаўляўшага ад імя Белар. Сацыялістычнай Грамады. Паважна, на другі дзень (ужо ў зале былога Шляхоцкага Дома) віталі Зьезд два прамоўцы ад мясцовага польскага грамадзянства.

Сьвяточны бок справы мінуў, і Зьезд пачаў энэргічна працаваць у розных сэкцыях. Дыспанаваў Зьезд вялікім будынкам Шляхоцкага Дома, у зале якога зьбіраўся яго пленум; сэкцыі і камісіі Зьезду працавалі ў былым Губэрнатарскім доме. Бальшавікі стараліся, як маглі, раскласьці Зьезд унутры яго, зманулі на свой бок Шантыра і Фальскага ды аднаго з магілёўцаў. Кідалася ў вочы русафільства магілёўцаў з «Областного Белорусского Коми-

тета», існаваўшага ў час керэншчыны ў Петраградзе. Земскія (самаўрадавыя) дзеячы з гэтага Камітэта — Канчар, Вазіла і іншыя абвясьцілі нават збор беларускага зьезду ў Менску на 10 дзён пазьней (Вялікая і Вайсковая Беларускія Рады склікалі Ўсеб. Зьезд на 5, а гэтыя паны на 15 сьнежня (паводле ст. стылю). Шантыру ўдалося на адзін вечар адкалоць меншую палавіну Зьезду, якую ён сам ахрысьціў як «левое течение». Вазіле з кампанамі ўдалося разьбіць Зьезд на гэт. званыя «зямлячаствы» (паводле губэрняў — Менскае, Магілёўскае, Віленскае, Гарадзенскае і г. д.).

Мушу ўспомніць, што ў часе прывітаньняў віталі Зьезд і два народныя камісары «Западной области и фронта»: «Берсан (нацыянальных справаў) і Рэзаускі (унутраных справаў). Першы зь іх выступаў ад ППС-левіцы, а другі — ад імя партыі бальшавікоў. Прамова Берсана была выслухана Зьездам спакойна, Рэзаускаму да канца дагаварыць не ўдалося. Калі ў часе прамовы ён узяў за ражок вісеўшага над аратарскай трыбунай (на сцэне Гарадзкога Тэатра) нацыянальнага беларускага штандару, назваў гэты штандар «национальной тряпкой» і заклікаў замяніць яе «красным знаменем Интернационала», дык на сцэну выйшлі два здаравяцкія матросы (адзін зь іх вядомы ўсяму Зьезду сваім грымотным голасам левы эс-эр Дулін), узялі фігуру наркома Рэзаускага пад рукі і вывелі вон. Адзін зь менскіх наркомаў, таксама левы расейскі эсэр і матрос, Муха (сацыяльнай апекі), як дэлегат і беларус, быў увесь час на Зьезьдзе.

Характарным было тое, што ніводзін з выступаўшых на Зьезьдзе магілёўцаў па-беларуску не гаварыў. Будучы, гэтак трагічна закончыўшы сваю кар'еру, «прэзыдэнт» Савецкай Беларусі Алесь Чарвякоў хітранька маўчаў і трымаўся зусім незаўважаным, нічым не адрозьніваючыся ад цэлага мора сялянскіх шэрых світак і кажушкоў ды ня менш шэрых салдацкіх шынялёў, у якія вайна апранула тых жа сялянскіх сыноў Беларусі. Чорнаю вопраткаю выдзяляліся работнікі-петраградцы, жменя народных настаўнікаў, ня ўзятых на вайну, ды яшчэ меншая колькасьць прадстаўнікоў іншых інтэлігенцкіх прафэсіяў, а таксама і групка матросаў. Дзьве-тры адзінкі жанчын, напэўна, чуліся сіратліва сярод вялізарнага Зьезду. Некаторыя зь менскіх беларусаў, з наіўнасьцю чэ-

хаўскіх герояў зь мяшчанскага вясельля, цешыліся з таго, што быў на Зьезьдзе нават запраўдны гэнэрал (ген.-лейтэнант Аляксееўскі — былы начальнік артылерыі ўсяе Фінляндыі), выбраны дэлегатам ад сваіх салдатаў і беларусаў-маракоў Балтыцкага флёту.

Быў мамэнт, калі нашэпты бальшавікоў зрабілі немалы ўплыў на загадкавы сфінкс маўклівае наагул сялянскае масы Зьезду, і, апаражніўшы ад правізіі свае торбачкі, дзядзькі голасна заяўлялі, што ім пара ўжо ехаць дамоў. Адкрытыя контрвыступленьні лепшых аратараў Зьезду сярод сялян пераканалі іх, што галоўная задача яшчэ ня вырашана.

Надходзіў фатальны мамэнт — ноч з 30-га на 31-е сьнежня (нов. стыль). Справа будучыні Беларусі абгаворана была ў «зямлячаствах», і ў кожным зь іх апрацаваны былі дэкларацыі. Зарысаваліся два кірункі: смаленцы, менчукі, віленцы і горадзенцы выказваліся за як найбольшую самастойнасьць Беларусі, а віцябляне і магілёўцы не маглі разьвітацца з сваім усерасейскім патрыятызмам, снуючы думкі аб Расеі дэмакратычнай, якая надоўга, як аказалася, была пахована бальшавікамі. Ясна помніцца, што на паседжаньні горадзенцаў Я. Варонка заявіў: «Я ўжо цэлы тыдзень нашу ў партфэлі праект унівэрсалу аб незалежнасьці...»

Пад канец Зьезду зьявіліся зь Петраграда эмісары Сталіна-Джугашвілі (ён быў тады ўсерасейскім наркомам па справах нацыянальнасьцяў). Рознымі абяцанкамі нейкі салдат і два ці тры работнікі-беларусы стараліся дабіцца ад Зьезду прызнаньня ўсерасейскаю ўладаю петраградзкае рады народных камісараў. З гэтых стараньняў нічога ня выйшла.

Дэкларацыі «зямлячастваў» зводзіліся юрыстамі ў адну абшырную рэзалюцыю, і гэткія кампрамісныя людзі, як адвакат Цьвікевіч, стараліся хоць на паперы прымірыць масквафілаў-магілёўцаў з самастойнікамі. У бакавым пакоі вялікае залы Шляхоцкага Дома ішлі гарачыя спрэчкі сяброў Рады Зьезду вакол усялякіх формулаў Цьвікевіча. Каля гадзіны першай уночы з 30 на 31 сьнежня як быццам быў знойдзены нейкі кампраміс. Янка Серада — старшыня Зьезду — адкрыў яго пленум. У нарадзе над формулай Цьвікевіча (пункт першы, як бы дэкляратыўна-ўступны, рэзалюцыі) умоўлена было, што за і процi гэтага пункта рэзалюцыі (з папраўкай аб поўнай

беларускай самастойнасьці) выступіць толькі па адным аратары. Гаварыць за рэзалюцыю Цьвікевіча вызначаны быў магілёўскі жыдок (здаецца, Гольдман), проці формулы Цьвікевіча, значыцца проці фэдэрацыі зь неіснаваўшай Расейскай дэмакратычнай рэспублікай, выступіць вызначылі мяне. Старшыня даў слова Гольдману. Той пачаў гаварыць. Я зыйшоў уніз, пад эстраду прэзыдыума, скуль Гольдмана вельмі добра было чутно, і натаваў слабыя месцы яго аргумэнтацыі, адначасна накідаючы кароткі канспэкт свае прамовы. Да мяне спусьціўся магілёвец Канчар і з буйнымі сьлязьмі на вачох прасіў не падрываць кампрамісу, прыдуманага Цьвікевічам. Мамэнт высока-драматычны. Нейкі малітвенны настрой. Маўчу і лаўлю кожнае слова з трыбуны. Хвалі нявымоўных адчуваньняў расьпіраюць грудзі. Ні я, ні Канчар ня ведаем, што над Зьездам павіс фатум.

Гольдман гаварыў мінут пяць ці дзесяць. Раптам сьціх... Каля прэзыдыума вырасьлі дзьве шэрыя фігуры: успамінаны ўжо тут нарком унутраных справаў Рэзаускі і п'яны, у шапцы зь вялізарным бліскучым брылём, нязвычайна хамаваты выглядам, начальнік менскага бальшавіцкага гарнізона Крывашэін.

— Кто вы? Ваш мандат, товарищ? — энэргічна пытаецца старшыня Зьезду д-р Серада.

— Я начальник гарнизона! — выкрыкнуў сярод агульнага гоману Крывашэін...— Прошу слова! — паўтарае ён...

Старшыня звоніць. На залі крыху цішэй.

— Я под видом мягких лайковых перчаток, под видом мягкой пуховой постели...— пляце нейкую бязглуздзіцу Крывашэін. Магутны гул пратэсту заглушае яго... Віцэ-старшыня Вазіла закрывае Зьезд... Серада звоніць, пазбаўляе Крывашэіна слова і ўзнаўляе паседжаньне, на якім усе трымаюцца стоячы, не вылучаючы самога старшыні. Сядзіць толькі сакратар Калядка і ўвесь час піша. З маестатычнай павагаю ўзносіцца сярод прэзыдыуму фігура прафэсара Карскага. Вазіла брыкнуў назад галавою... Прыкінуўся ці запраўды самлеў?.. Страшэнны гоман і мітусьня... Улавіўшы мамэнцік некаторай цішыні, Рэзаускі абвяшчае Зьезд распушчаным, а Прэзыдыум яго арыштованым... Матрос Муха голасна пратэстуе і заяўляе, што ён больш не камісар апекі... Тымчасам урываюцца ў залу ўзброеныя салдаты Рамнёва і, разыхо-

дзячыся направа і налева, стараюцца ахапіць Зьезд. Дэлегаты спраціўляюцца, настаўляючы грудзі, іншыя пасярэдзіне грымяць крэсламі, барыкадаю адгароджваючы Прэзыдыум. Калёнаю ў два рады салдаты ўціскаюцца ў сярэдзіну Зьезду. Дайшоўшы да барыкадаў, Рамнёў вымае з похвы рэвальвэр, паднімае ўгару і колькі разоў націскае цынгель... Але стрэлу не чутно... Пара трусьлівых прэсьвітак бяжыць за раяль, што стаіць па левай руцэ прэзыдыуму. Магутная фігура селяніна ў жоўтым расшпіленым кажусе становіцца на крэсьле пасярэдзіне залы, сьціскае свае мазалістыя кулакі і крычыць: «Раззброіць іх!» — паказваючы на чырвонаармейцаў...

Усё бачанае апісаць немагчыма... Зьезд разганяецца пагрозаю штыхоў... Нехта запяяў беларускую марсэльезу. Зь ёю выходзім, паміж шпалерамі збройных салдатаў, па сходах на Падгорную вуліцу... На скрыжаваньні Скобелеўскай і Падгорнай — ваякі на белых конях... Два панцырнікі грозна маўчаць...

Паход разагнанага Зьезду скіроўваецца ў бок рэзыдэнцыі бальшавіцкае ўлады — будынку Камэрцыйнае Школы... З тысячы грудзей разьлягаецца матыў хаўтурнага марша: «Вы жертвою пали в борьбе роковой...»

З заміраньнем гукаў чужое трагічнае песьні гінула воля народная, сярод мяккае зімовае ночы, ахінаўшай сэрца Беларусі ценямі рабства...

**Шлях моладзі. 1938. 5, 26 лют.**

**Прадмова і падрыхтоўка да друку**
**Аляксандры ГЕСЬ.**

# ДЫЯРЫЮШ
# князя Міхала Казімера Радзівіла, ваяводы Віленскага Гетмана Вялікага В. К. Літ.

## 1747

### Januarius

(На Украіне.— **Перакл.**)

1. Зранку быў на набажэнстве ў калегіяцкім касьцёле, апат, ксёндз Моцкі, pontificaliter цэлебраваў, я спавядаўся і камуніяваў, дай Божа цэлы рок гэты ў чыстым сумленьні прабыць! На вячэру прыбыў да мяне Ям п. Пётр Браніцкі, кашталян Брацлаўскі, з сынам сваім Ксавэрым, харунжым рэгімэнту маяго пешага.

3. Розныя Іхмці суседзі былі ў мяне; драгонія мая з Олыкі тут сягоньня стала.

5. Бавіўся ў добрай кампаніі, на вячэры абралі мы мігдалёвай каралеваю Яемць паню кашталянавую Брацлаўскую і пана Вышчынскага, бунчучнага маяго, каралём мігдалёвым, і досыць весела нам дзень гэты зышоў; на абедзе зь Ям п. кашталянам напіўся я ad hilaritatem [1].

14. Узяў рэзалюцыю збыць п. Бельскаму, старасту Чырвонагародзкаму, маёмасьць Збораў дзеля ўлагадненьня даўгоў маіх за суму 773.262 польскіх злотых.

17. In gratiam дня анівэрсацыйнага каранацыі каралеўскай банкет даваў пры гучным з гарматаў біцьці і каляцыю, але дзеля жалобы маёй без балю. Мой добры слуга і прыяцель п. Міхал Пяскоўскі, харунжы мой гусарскі, праз дванаццаць дзён хваробы Богу і Створцы сваяму духа аддаў, зь вялікім жалем маім, бо ад маладосьці сваёй у мяне быў.

27. Стаў я, дужа слабы, у Жоўкве.

30. Увесь дзень, хаця й слабы, з гасьцямі бавіўся, уночы да кампаніі прыбыла яемць п. Канстанцыя з Жураў-Даніловічаў Патоцкая, кашталянавая Брацлаўская, удава, зь першага мужа дочкамі Барбарай і Зоф'яй,

---

Пачатак у №№ 4, 5, 1994 г., №№ 1—6, 1995 г.

паннамі Малахоўскімі, старасьцянкамі Сматрыцкімі; яна крэўная мая і з айца і з маткі — з айца па Сабескіх, а зь яе маткі па Дэнгофах, дзед каторай нарадзіўся ад княжны Радзівілянкі, роднай сястры дзеда маяго.

## Februarius

4. Па абедзе пачалі ўбіраць панну маладую Яемць панну кашталянку Вышгародзкую; вечарам даваў шлюб Ям ксёндз Ледахоўскі, канонік Львоўскі, Ям пану Яну Чарнецкаму, старасту Каралiскаму, судзьдзі вайсковаму, зь Яемцяй паннай Фэліцыянай з Абор Часноўскай, кашталянкай Вышгародзкай, па каторым скончаным, пры гучным з гарматаў біцьці, каляцыя адпраўлена была, потым панства маладое пайшло да ложку, а кампанія да дня бавілася.

6. Кашталянавая Вышгародзская з сынамі і новым малжонствам выехала ad propria, а я сабе, як па вайне, слабы адпачываў.

22. Стаў у Львове і паехаў да кляштару паненак даміініканак, дзе рэзыдэнцыя княгіні Яемці Тэафілі Вішнявецкай, кашталянавай Кракаўскай, маткі жонкі маёй, і ў яе абед і вячэру еў, і ўвесь той дзень у яе бавіўся, і, аддаляючыся да Літвы, разьвітаўся з княгіняю.

## Martius

4. Стаў у Рахманах, аглядаў жарабяты мае, каторых там ёсьць 78.

11. Стаў у Тайкунах, дзе быў міла прыняты ад князтва Ульрыка і Зоф'і з Рэяў Радзівілаў, канюшых В. К. Л., брата маяго ад стрыечных; па абедзе трымаў да хросту з княгіняй Тадэвуша, сына Іхмцяў Войцеха і Барбары з Русецкіх Любеніцкіх, чэсьнікаў Чарнігаўскіх, потым, з князтвам разьвітаўшыся, з князем канюшым, уехаўшы мілю з палавінаю, начуем у Роўным.

20. Стаў у Нясьвіжы, жонку маю слабою застаў, а дзеці здаровыя.

26. Зранку ў параксызьме, вечарам прыбыў князь падчашы В. К. Л. з жонкаю сваёй, брат мой родны, але дзеля слабасьці маёй ні аб чым паміж сабой не канфэравалі.

27. Зранку канфэравалі мы, conclusum [2] на тым, што

на ягонае сумленьне здаў я падзел рухомасьці па матцы маёй і што мне выдзеліць grato [3], тое прыму animo [4], што да сумаў жа і bona immobilia [5], дык падзел іхны адклалі мы да паховінаў Я. А. княгіні Ганны з князёў Любартовічаў Сангушкаў Радзівілавай, канцлеравай в. В.К.Л., маткі і дабрадзейкі нашай, каторая хай з Богам спачывае; паховінам тэрмін прызначылі мы diem 8. Septembris hujus anno [6] у Нясьвіжы, і ўжо цела прыправоджана і дыспанавана разам з сынам маім першародным, у Белай памерлым Мікалаем Крыштапам, у касьцёле фарным Мірскім; па абедзе брат мой ad propria ад'ехаў да Белай, а мяне, з ласкі Божае, параксызм адпусьціў.

## Aprilis

5. Быў у Акадэміі, аглядаў сыноў маіх і іншых, ці прафітуюць з экзэрцыцыі.

7. Трафіўся асаблівы казус, хлапец піўнічнага маяго, меўшы 12 год, сваволячы ў сераду з хлапцом аканома маяго, добраў ваяводзтва Берасьцейскага, каторы меў 10 гадоў, сапхнуў яго са сходаў, з чаго той сёньня памёр, а я, узяўшы маіх двох сыноў, Януша і Кароля, рушыўся ў дарогу, разьвітаўшыся з жонкай маёй і дочкамі.

9. Начуем у Камянцы, дзе ашукаў я сыноў маіх, намовіўшы ім, што ёсьць там пекны касьцёл трынітарыяў.

14. Па абедзе выехаў да Вільні, у паўдарогі спаткаў мяне Ям ксёндз Міхал Зянковіч, біскуп Віленскі, і Ям п. Міхал Масальскі, кашталян Віленскі, гетман польны В. К. Л., з каторымі да палацу маяго, што пры Троцкай браме, прыехалі мы, тыя як разьехаліся, дык я некалькі візытаў аддаў; суды вайсковыя пратрубіць загадаў на 8-ю гадзіну.

17. Зранку езьдзіў я да біскупа Віленскага, з каторым паехалі мы да катэдры, там імшу а Духу Сьв. меў Ям ксёндз Жалкоўскі, суфраган Беларускі, казаньне меў ксёндз Радкевіч, канонік Віленскі; па набажэнстве пайшлі мы да Ізбы дзеля слуханьня юрамэнтаў; як распачаў я, дык першых чацьвёра прысягала пралатаў: з капітулы Віленскай ксяндзы — Пузына, біскуп Інфлянцкі, і Радкевіч, канонік; із Смаленскай ксёндз Цеханавецкі, із Жмудзкай ксёндз Францкевіч; потым зь Вільні Юзаф Гарадынскі і Манкевіч, з Ашмяны Іхмці Важынскі і Гутаровіч, зь Ліды Іхмці Бужымоўскі і Бранеўскі, зь Вількаміра

Іхмці Эпэр'яшы і Богуш, з Браслава Іхмці Рудаміна і Мірскі, з Трокаў Іхмці Журоўскі і Таньскі, з Горадні Іхмці Салагуб, ваявода Берасьцейскі і Барановіч, з Коўна Іхмці Салагуб, енэрал артылерыі, і Белазор, з Упіты Іхмці Плятар і Пёра, із Жмудзі Іхмці Салагуб і Тышкевіч, із Смаленска Іхмці Лопат і Загурскі, із Старадуба Пшазьдзецкі і Рдултоўскі, Полацак vacat, non comparnerunt[7], з Наваградка было трох, Іхмці Корсак, Булгак і Туганоўскі, што contra legem, pro vacanti[8] іх дэкляравау, із Слоніма vacat et non comparnerunt, з Ваўкавыска Іхмці Булгарын і Казаноўскі, зь Вітабска Іхмці Навацкі, судзьдзя гродзкі, але не прыехаў, і Мікоша, той прыехаў, з Оршы і зь Берасьця vacat non comparnerunt, з Мазыра Іхмці Богуш і Абуховіч, з Рэчыцы Халецкі і Дзерналовіч; па скончаных юрамэнтах да палацу на абед ад'ехаў, semotis arbitri[9] абралі маршалкам галоўным Ям пана Салагуба, ваяводу Берасьцейскага, пяро Віленскае аддалі Ям пану Манкевічу, пяро Рускае дэкляравалі Ям пану Лопату, падскарбім стаўся Ям п. Богуш; па абедзе віншаваў Ям пану маршалку вялікай ляскі, адтуль былі мы на камедыі нямецкай, каторая сюды з Гамбурга прыехала, па камедыі дамам тут прытомным даваў я каляцыю без балю, бо ў мяне па матцы жалоба.

19. Вечарам адправіўся кандукт Яемці пані Тарэзы з Валадковічаў Храпавіцкай, падкаморавай Смаленскай, цела magno apparati[10] пранесена было праз усё места да касьцёла а.а. місіянэраў, на каторым кандукце і я зь іншымі асыставаў; муж ейны вельмі быў засмучоны.

26. Стаў у Высокім Двары, ключы маім, што да эканоміі Віленскай належыць, на абед, падчас каторага п. Міхал Тшцінскі, таварыш петыгорскі, знаку брата маяго роднага, парубаў Юзафа Шуліцкага, падканюшага маяго, дзеля гэтага загадаў на заўтра пратрубіць Суды вайсковыя.

27. Ранкам на Судох засядаў, справа падканюшага пайшла на інквізыцыю, і адклалі Суды.

30. Сталі мы ў Заслаўі, і быў міла прыняты ад Іхмцяў п.п. Антонія і Кацярыны з Агінскіх Пшазьдзецкіх, пісараў в. В. К. Л., застаў тут Яемць паню Марцыбэлю з Агінскіх Завішаву, удаву каліська памерлага Ігнацыя Завішы, маршалка надворнага В. К. Л.

## Majus

4. Стаў з сынамі маімі ў Нясьвіжы, застаў жонку маю пасьля фэбры тэрцыяльнай слабою, але ў Богу надзея, што будзе здаровая; застаў князёў Лявона і Ганну з Мыцельскіх Радзівілаў, крайчычаў В. К. Л.

13. Па абедзе адправілася зь вялікай помпаю з касьцёла а. а. езуітаў да касцёла а. а. мінарытаў, ці, як у нашых краёх завуць, бэрнардынаў, інтрадукцыя Сьв. Пётра Рэгата дэ Валітолета, таго ж закону законьніка, каторы памёр у г. 1456, веку сваяго маючы 66 год, у гэтым толькі годзе ад сталіцы Апостальскай кананізаванага; дапазна набажэнства йшло, катораму я асыставаў пры гучным біцьці з гарматаў.

19. Ex consilio medicum[11], гэта значыць дактароў Шульца і Матэя, адразу з паўдня кроў з гэмароідаў піяўкамі адчыняў, пяць толькі піявак прыставіў, але сабраў крыві дзесяць талерак, і тая дывэрсія сіла мне як дапамагла, але быў надта слабы, а тым больш што ад мінулай фэбры, каторую меў перад Вялікаднем, успушыла мне страўнік і ўставічна балеў мне.

22. Па раньняй імшы ў а. а. Soc. Jesu паехаў да Марціна Казлоўскага, шатнага маяго, і там рэзальваваў суплікі, каторыя былі найбольш на Ям. п. Юзафа Младэцкага, старасту Нясьвіскага і грабства Мірскага, і ўсказалася, з чаго падзякаваў яму за службу; потым увесь дзень бавіўся з гасьцямі.

28. Цэлы дзень бавіўся ў кампаніі, пастанавіў я старастам Нясьвіскім і Мірскім паставіць Ям пана Самуля Дыякевіча, енэрала-аўдытара войскаў В. К. Л.

## Julius

(На Украіне.— **Перакл.**)

17. Зранку езьдзіў за мілю да манастыра Машнагорскага, што на маім грунце, каторы невядома якой веры, бо адны ўніяты, а другія сызматыкі, а манастырык досыць пекны, чарняцоў там з чатыры дзясяткі; на абед да Мошан вярнуўся; уехаўшы 1 мілю, начую ў ключы нашым Белавозеры; адразу ж па вясельлі маім узяў пасэсію ад бацькоў жонкі маёй, а ледзьве цяпер першы раз бачу.

20. Уехаўшы стэпам, досыць дзеля ўставічных там



Пры гармаце. XVII ст.

гайдамакаў небясьпечным, хаця мы іх там і ня бачылі, на папас сталі ў Рызнай Крыніцы, там на тым мейсцы, кола акапаўшы, капец выставілі мы.

Augustus

18. Сталі ў Ордах, там, каней і вазы пакінуўшы, сам сеў на шугалею і, вадою едучы мілі 3, шчасьліва стаў у Лахве.

20. Раніцой біскуп Зэнапалітанскі асьвячаў касьцёл Лахвіцкі, маёй фундацыі, пад тытулам Сьв. Тройцы, Беззаганнага Зачацьця, Сьвятых Панскіх Міхала, Ежага і Каетана, аўтар разам з касьцёлам кансэкраваў; разьвітаўшыся з ксяндзамі біскупамі і пры іх увесь мой двор пакінуўшы, налёгку пабег да Нясьвіжа і, уехаўшы міляў 5, начую ў Лунінцы.

22. Папасьвіўшыся ў Ляхавічах і ўзяўшы там Рэйтана коні, рушыўся, праз 1 мілю жонка мая спатыкала, і, праехаўшы зь ёю мілі 4, стаў у Нясьвіжы.

September

9. Па абедзе прыбылі Ям п. гетман польны кашталян Віленскі з жонкаю, стараста Ваўкавыскі з жонкаю і старастава Гарадзенская, таксама прыбыў Ям ксёндз Тыш-



Кацёл-бубен. Канец XVII ст.

кевіч Лагойскі, біскуп Жмудзкі; гетман з фаміліяй у замку стаіць, біскуп у а. а. дамініканаў.

10. Па абедзе выехалі мы ўсе да Ўжанкі, дзе засталі ўжо Ям ксяндза Міхала Зянковіча, біскупа Віленскага, каторага там жонка мая прымала, зараз жа пачаў казаньне ксёндз Вэрнэр, канонік Луцкі і мой надворны казнадзея, пасьля сканчэньня каторага ўзялі мы труну Я. А. княгіні Яемці Ганны Кацярыны з князёў Любартаў Сангушкаўны Радзівілавай, канцлеравай в. В. К. Л., маткі і дабрадзейкі маёй, і на воз цела ейнае паставілі і цела Мікалая Крыштапа, князя Радзівіла, сына маяго першароднага, у трэцім року веку сваяго памерлага, на той жа воз паклалі, і рушылася фунэбральная працэсія гэтакім спосабам: нападзе йшла харугва зямянаў ардынацкіх, якую вёў палкоўнік п. Младэцкі, потым адміністратар Карэліцкі п. Заянчкоўскі з цэлай воласьцю Карэліцкай, за ім п. Рымашэўскі, адміністратар Мірскі, з усім грабствам Мірскім, па ім другі пан Рымашэўскі, адміністратар Нясьвіскі, з цэлым княствам Нясьвіскім, потым места Мір і места Нясьвіж, катлы і трубачоў маіх надворных шэсьць, потым Іхмці ксяндзы ritus graeci suo ordine [12], Іхмці ксяндзы ritus latini [13], таксама suo ordine, за імі Іхмці ксяндзы біскупы і апаты, як тыя менавіта: ксёндз Аўсядоўскі —

апат Сьвятакрыскі Нясьвіскі, кс. Моцкі — апат Жолкеўскі, кс. Жаўкоўскі — суфраган Беларускі, афіцыял Віленскі, кс. Ляскарыс, біскуп Зэнапалітанскі, кс. Тышкевіч, біскуп Жмудзкі, кс. Кабельскі — біскуп Луцкі, кс. Міхал Зянковіч — біскуп Віленскі, потым ехаў воз у восем канёў запрэжаны, у капах кармазынавых аксамітных, на вазу таго ж колеру аксамітны з галёнамі цалун, на каторым труна княгіні Яемці маткі маёй і сына маяго стаялі, вакол дванаццаць чалавек са сьвечкамі ў капах кармазынавых аксамітных ішло; я з жонкаю маёй, сынамі і дочкамі маімі, зь Ежым, князем, і з самой Саламеяй з Сапегаў, ваяводамі Наваградзкімі, Станіславам, енэрал-маёрам войскаў В. К. Л.,— Радзівіламі, Мікалаем і Францішкаю, кашталянамі Віленскімі, гетманамі польнымі, Казімерам і Крысьцінаю з Сапегаў, старастамі Ваўкавыскімі, Антанінаю з князёў Радзівілаў, стараставай Гарадзенскаю,— Масальскімі, княгіняю Барбарай з Замойскіх Радзівілавай, ваяводаваю Наваградзкай, удавою, маткай вышэйпамянутых ваяводы і енэрал-маёра, і таксама сіла людзей годных з дому Радзівілаўскага і сіла ласкавыхураднікаў, вайсковых, сэнатараў ішло, за імі карэты, claudebat agmen [14] швадрон драгоніі маёй; калі мы перад местам спыніліся, ля мураванай калюмны, дык меў экзорту ксёндз Паноўскі закону S-ti Basilij Magni [15], па каторай рушыліся мы; у самым прадмесьці, на Казімеры, меў прамову па лаціне Ям. кс. Дэлятур, архідыякан Беларускі, плябан тутэйшы, потым рушыліся мы, ля брамы мураванай меў казаньне Ям кс. Гіляры Помян, прыёр дамініканскі канвэнту тутэйшага Нясьвіскага, і з гармataў з валоў мескіх дваццаць па трыкроць агню загадаў даваць; як падышлі пад браму цьвінтару, меў экзорту кс. Юрага Soc. Jesu, пасьля чаго ксяндзы-рэктары абодва цела да касьцёла ўнесьлі, і каторым па мажлівасьці сам дапамагаў несьці труну маткі і дабрадзейкі маёй, у касьцёле меў казаньне кс. Складоўскі Soc. Jesu, рэктар Сьвята Міхальскі Нясьвіскі, і тая цырымонія, трываўшы гадзін 12, а другой па паўночы скончылася.

11. Зранку адправіліся імшы сьпяваныя, першую pontificaliter меў Ям ксёндз апат Сьвятакрыскі, другую меў pontificaliter ксёндз суфраган Беларускі, чацьвертую імшу меў ксёндз біскуп Зэнапалітанскі pontificaliter, пятую імшу меў Ям. кс. Горайн, суфраган Жмудзкі, сёмую — кс. біскуп Луцкі, восьмую, астатнюю, меў



Урачыстае аздабленьне Нясьвіскага касьцёла езуітаў падчас паховінаў Ганны Радзівілавай.

pontificaliter ксёндз біскуп Віленскі, пасьля каторай меў казаньне Ям ксёндз Калантай, канонік Віленскі, потым праз тых жа біскупаў быў кандукт, па каторым унесена было труну маткі маёй ad domum aeternitatis [16], хай з Богам спачывае! І хто тое чытаць будзе, хай тры пацеры за яе замовіць; потым да таго ж гробу ўнесьлі сына маяго, з траістаю сальваю, як з ручной зброі, гэтак і з усіх гарматаў з валоў мескіх, нарэшце, сын мой Януш пекнаю прамовай, хаця й хворы быў, і досыць доўга ад

імя ў Богу спачыўшых з намі разьвітваўся і на хлеб жалобны запрашаў; усіх у замку трактаваў я, і надта многа людзей было.

15. Адправіліся экзэквіі па матцы маёй, імшу сьв. меў pontificaliter Ям ксёндз суфраган Беларускі, казаньне Ям ксёндз Жаба Soc. Jesu, па сканчэньні каторага, як пры канцы пахаваньня, меў прамову з падзякаю і разьвітаньнем князь Ям Прус Ябланоўскі, стольнік В. К. Л., швагер мой, я трактаваў усіх у замку.

16. Па імшы трактаваў я колькі сот убогіх пад намётамі, сам, па скончанай той паслузе, у замку трактаваў; увечары прывезьлі цела князя ваяводы Наваградзкага; князь, стараста Рэчыцкі, тут стаў зь целам айца сваяго, і дыспанавана цела ў полі, у намёце, там да заўтра пастаўленым.

17. Па абедзе рушыліся мы ўсе пад намёт, дзе стаяла цела, прыбыў да той фунэбральнай помпы князь Ульрык Радзівіл, канюшы В. К. Л., сын старэйшы. Цырымонія пачалася праз экзорту, каторую меў Ям ксёндз Уладзімірскі, канонік Смаленскі, па каторай скончанай, экспартацыя цела адправілася гэткім спосабам: пачынаў agmen Ям п. Мікалай Младэцкі, палкоўнік ардынацкі, за ім швадрон драгоніі лейб-рэгімэнту, харугва янчараў, прытым 24 пушкароў і 2 гарматы, па іх рэгімэнт мой пешы, за ім п. Даманскі, палкоўнік мой гусарскі з карпусовымі афіцэрамі і таварыствам, гэта значыць гусарскімі і петыгорскімі, за ім nobilitas ваяводзтва Наваградзага, па іх clerus ritus graeci et latini, за імі біскупы, тыя ж, што і на экспартацыі маткі маёй былі, толькі Луцкага не ставала, каторы ўжо ад'ехаў, за імі воз васьміконны, на каторым на цалуне стаяла труна Я. А. князя Ямці Мікалая Фаўстына Радзівіла, ваяводы Наваградзкага, старасты Бабруйскага, енэрал-лейтнанта войскаў Літоўскіх, шэф-камэнданта лейб-рэгімэнту, сына Дамініка Радзівіла з Палубінскаю, канцлера в. В. К. Л., мужа Барбары Завішанкі, ваяводзянкі Менскай, айца Ульрыка, канюшага В. К. Л., Альбрыхта, Рэчыцкага старасты, Ежага, ваяводы Наваградзкага, Станіслава, енэрал-маёра і шэф-камэнданта лейб-рэгімэнту,— Радзівілаў, усіх ужо жанатых і тут прытомных, а таксама Тарэзы Пацавай, стараставай Барцянскай, тут прытомнай, Марыі, законьніцы візыткі ў Вільні, Ганны, сакрамэнткі ў Варшаве, Брыгіды Салагубавай, енэралавай артылерыі,— Радзівілянак, той астатняй не-



Буздыган.



Булава.



Абойчык панцыру. XVII ст.



Шабля з похвамі. Пачатак XVIII ст.

прысутнай, бо ёсьць proxima parturia [17]; за возам усе мы йшлі, цалун трымаючы, за цалунам, за намі, два машталеры каня вялі ў мадэрункавым сядле, а другога таксама пад жалобным сядлом удвох вялі, за імі камэндэраванае таварыства петыгорскае з почтамі збройна з харугвы нябожчыка князя ваяводы, за імі жалобныя карэты, claudebat agmen швадрон маяго рэгімэнту драгоніі; пад мураванаю калюмнай меў экзорту ксёндз кармэліта чаравічкавы, пасьля каторага, увайшоўшы на прадмесьце, восем разоў, як па енэрал-лейтнанце, сальвы з гарматаў дадзена было; як прыйшлі да мураванай брамы, дык меў казаньне ксёндз Шышка, бэрнардын, як рушыліся, столькі ж сальвы з гарматаў дана; перад дзьвярыма цьвінтарнымі меў экзорту ксёндз Пагоцкі, дамінікан, і сальвы, цела ў труне, з тых жа гарматаў дадзена было; унесьлі цела да касьцёла, рэгімэнт мой пешы агню даў, з гарматамі чаргуючы, тры разы; як на пекна прыстасаваным катафалку цела паставілі, дык меў астатнюю прамову ксёндз Вароніч Soc. Jesu; перад палуначчу да замку вярнуліся.

18. Набажэнствы тым жа чынам ішлі, як на першым дні паховінаў княгіні Яемці маткі маёй; па астатняй, біскупа Віленскага, меў казаньне ксёндз Радкевіч, канонік Віленскі, потым, як енэрал-лейтнанту, двох харунжых, п. п. Мінстэр лейб-рэгімэнту і Зянковіч маяго рэгімэнту драгонскага, два штандары кінулі; п. п. Клекман лейб-

рэгімэнту і Гандройны маяго рэгімэнту кідалі шпады; рэгімэнт кідаў Ям п. Мэнрат, палкоўнік лейб-рэгімэнту; Ям п. Гасіцкі, таварыш петыгорскі, саблю княжацкую кідаў, коп'і крушыў Ям п. Шэмёт, той жа харугвы таварыш, харугву кідаў Ям. п. Каржанеўскі, харунжы той жа харугвы; перад тым Ям п. Лопат, стараста Прапойскі, пісар Трыбунальскі кадэнцыі Менскай, паручнік той жа харугвы, шванкаваў з каня і абойчык выбіў, на яго мейсца кінуў буздыган Ям п. Абрамовіч, стольнік Віленскі, паручнік петыгорыі Ям пана Сапегі, пісара польнага В. К. Л., потым узялі цела і да гробу ўнесьлі, і драгонія з васьмі гарматаў тры разы сальвы дала; Ям п. Несялоўскі, кашталян Смаленскі, nomine[18] караля разьвітваўся facundo sermone[19]; Ям пан Шышка, кашталян Наваградзкі, nomine Senatu et Ministerij[20] разьвітваўся; Ям п. Рдултоўскі, падваявода Наваградзкі, разьвітваўся nomine aequestri ordine[21] і ваяводзтва; Ям п. Сасноўскі, ротмістар петыгорскі разьвітваўся nomine войска В. К. Л., каторым усім таксама facundo sermone дзякаваў і на хлеб жалобны запрашаў Ям п. Ланеўскі, лоўчы В. К. Л.; абед елі мы ў палацы сыноў маіх, княжычы сыны мае трактавалі.

21. Па набажэнстве кадэты мае свае экзэрцыі ўсім прытомным паказвалі, як жа: на кані езьдзілі, муштр рабілі і ўсе эвалюцыі; абед елі мы ў палацы дзяцей маіх; потым тыя ж кадэты фэхтавалі, вальтыжавалі, танцавалі, рысаваньні свае паказвалі і ўвесь дзень забавілі; потым езьдзілі мы на грэблю, усеўшы там на бат, паехалі мы да замку і там жа на баце вячэру елі.

22. Князь Ян Радзівіл, ваявода Наваградзкі, памершы ў року 1729 студзеня 20-га дня, дагэтуль не пахаваны праз сына свайго Марціна Радзівіла, крайчага В. К. Л., дэпанаваны ляжаў, я за адным заходам, выбачай Божа, пахаваў і яго гэтакім спосабам: раніцой сьпяваныя праз законы вігіліі былі, астатнюю імшу меў pontificaliter Ям ксёндз біскуп Зэнапалітанскі, потым меў казаньне ксёндз Шчапкоўскі Soc. Jesu, потым настаў пышны кандукт; паколькі князь меў сваю петыгорскую харугву, дык кідаў шаблю Ям. п. Касажэўскі, таварыш харугвы князя старасты Рэчыцкага, коп'і крушыў Ям. п. Пратасевіч, таварыш мой петыгорскі, харугву кідаў Ям. п. Копец, харунжы петыгорскі князя крайчага В. К. Л., буздыган кідаў Ям. п. Карніцкі, паручнік петыгорскі Ям. п. Агінскага, кашталяна Вітабскага, потым цела князя ўнесьлі



Карвашы (наручы) панцырнай зброі. Турцыя XVII ст.

да склепу, а рэгімэнт мой пешы з шасьці гарматаў агню па трыкроць даваў.

27. Рознымі бавіўся забавамі; князь маранітаў Віктарын Нэсар, каторы з панстваў сваіх праз туркаў выгнаны, mendicato suffragio [22] езьдзіць і сюды да мяне прыбыўшы быў, ужо тры тыдні сядзеў, нарэшце, сёньня выехаў, чалавек слушны і досыць гжэчны.

29. Дзень імянінаў маіх; набажэнства справіў у касьцёле а. а. Soc. Jesu Сьв. Міхала, спавядаўся і камунію прымаў; абед у замку, і вельмі многа гасьцей меў я; па абедзе адправіўся карузэль, толькі чатыры банды кавалераў, у кожнай бандзе шэф і чацьвёра кавалераў; першую вёў мой сын Януш, другую мой сын Кароль,



Дзірыты ў похвах.

трэцюю п. Карніцкі, паручнік петыгорскі знаку кашталяна Вітабскага, чацьвертую вёў п. Нарніцкі, харунжы гусарскі знаку князя маршалка в. В. К. Л.; тыя тады кавалеры са сваемі бандамі бегалі да пярсьцёнка, дзірыт кідалі, шпадаю па-нямецку, а па-польску шабляй сьпярша галовы сьціналі, потым зь зямлі Сырэну бралі; было йзноў столькі ж бандаў на фаэтонах аднаконных, першай шэф Ям паня Агінская, маршалковая надворная В. К. Л., вёз яе Ям п. Сапега, пісар польны В. К. Л., другой шэф была княгіня Ябланоўская, стольнікавая В. К. Л., вёз яе Ям п. Ланеўскі, лоўчы В.К.Л., трэцяй шэф Ям паня Ланеўская, лоўчавая В. К. Л., вёз яе Ям п. Белазор, стольнік Упіцкі, маршалак Трыбуналу духоўнага В. К. Л., чацьвертай шэф жонка мая была, вёз яе Ям п. Агінскі, маршалак надворны В. К. Л.; у кожнай бандзе было на такіх жа калясках столькі ж німфаў, і кавалеры іх везьлі; каляскамі тымі бегалі дамы да пярсьцёнка з лянцамі, дзірыты да Мядузы кідалі, да сэрца з лука стралялі, потым у воркі галкі васковыя кідалі, у каторых птушка замкнутая была, калі ў ворак трапіла, дык птушка там заставалася, калі ж галка разьбівалася, дык птушка вылятала; мяняючыся з кавалерамі канямі, раз чатырох кавалераў, другі раз чатыры дамы бегалі, а кавалеры вазілі іх на калясках; зь пекнаю помпай да карузэлю ўяжджалі;

потым была каляцыя пышная ў замку, і гэтак нам дзень вясёла зышоў.

November

28. Рознымі бавіўся інтарэсамі, пошту атрымаў варшаўскую, у каторай даводзіцца, што in Decembri адбудзецца марш войска маскоўскага 35.000 праз Айчыну нашу ў помач сілам марскім; госьці тыя зусім не мілыя, Пане! Адвярні ад нас іх!

29. Ранюсенька ўстаўшы, з жонкаю маёй паехалі мы да Дыямполю, там сыны нашыя і дочкі начуюць; нештачка зьеўшы і ўзяўшы іх, мелі мы за Нёманам, за Магільнай, аблаву, і жонка мая з фузіі сьмяротна параніла вялікую досыць мядзьведзіцу, каторую ў сецях дабілі; вяртаючыся, дзеці ў Дыямполю пакінулі, а самі тут у Нясьвіжы сталі.

December

2. Раніцой атрымаў жалобную навіну, што сястра мая родная Тэкля з князёў Радзівілаў, primi voti Якубава Флемінгава, фэльдмаршалковая войскаў Саскіх, sekundi voti Міхалава Вішнявецкая, ваяводавая Віленская, гетманавая в. В.К.Л., tertii voti Міхалава Сапегава, ваяводавая Падляская, дня 25 Octobris гэтага ж року Богу душу аддала, і каторая хай з Богам спачывае; зь першым і другім мужам мела сыноў і дачок, але ўсе in minorennitati [23] памерлі; сама яна нарадзілася ў Белай дня 5 Septembris 1703 року, памерла ў Вішняўцы; экспэдытаваў пана Белазора з тою смутнаю навіной да Белай, да брата маяго роднага.

31. Надта злой дарогаю, ледзьве на поўнач сталі мы ў Жоўкве; без пасьцелі муселі спаць, і гэтак досыць для мяне смутны смутна й скончылі рок.

## 1748

Januarius

1. Праз позьні начны прыпадак спавядацца ня мог я; былі мы на набажэнстве з жонкаю маёй і дочкамі маемі Тэафіляй і Кацярынай, Ям ксёндз Ежы Ляскарыс,



Каруээль у Нясьвіжы. Малюнак М. Жукоўскага да пьесы «Кансалецыя пасьля клопатаў».

грабя, біскуп Зэнапалітанскі, інфулат Олыцкі, намінат Жоўкаўскага апацтва, цэлебраваў; падчас таго набажэнства прыбылі Іхмці п.п. Міхал Сапега, ваявода Падляскі, ксёндз Ліжыцкі, канонік і афіцыял Львоўскі, і суседзяў маіх было досыць, і ўвесь дзень на суцяшэньне Пану Богу добра нам зышоў; узяў рэзалюцыю заўтра самому толькі пасьпяшацца да Львова, каб павіншаваць княгіню матку жонкі маёй, якой цяпер пачынаецца веку ейнага год 67-мы і каторая хай як найдаўжэй гады свае лічыць.

## Aprilis

2. Сталі мы ў Нясьвіжы, застаў княгіню Яемць Барбару з Завішаў Ружыцаў гербу Лебедзь Радзівілаву, ваяводаваю Наваградзкую, удаву; Іхмцяў Ігнаца Ланеўскага, лоўчага В.К.Л., Альбрыхта, князя Радзівіла, старасту Рэчыцкага, і іншых сіла людзей; прыбыў таксама дваранін пана Замойскага з партрэтам старасты Пласкіраўскага да дачкі маёй Караліны (яна была 26.II.1748 заручана з Клемансам Замойскім, ст. Пласкіраўскім, якому на той час было 10 гадоў, сама маючы 9 (гадоў.— **Перакл.**); абед сёньня елі ў Акадэміі, там кадэты мае экзэрцыцыі адпраўлялі вельмі добра.

5. Раніцою выехаў і, уехаўшы мілі 4, стаў у Міры, там учынілася калькуляцыя і верыфікацыя мая з п. Міцкевічам, каторы тое грабства Мірскае трымаў восем гадоў і вялікія крыўды нарабіў; правavаліся ў Трыбунале, прызначылі дэкрэтам Ям п. Юдыцкага, судзьдзю земскага Рэчыцкага, з праціўнай стараны, з маёй Ям п. Яленскага, падваяводу Мазырскага, там скончыўшы свой інтарэс, далей паехаў і стаў у Цэтры.

## Majus

23. Спыніўся на набажэнства ў Суботніках, там застаў нешчасьлівую гісторыю, капітан Гаўдрынг, мой флігэль-ад'ютант, пана харунжага Гомбурга, сакратара маяго ад пошты чужаземскай, на паядынку letaliter [24] пастраляў, а сам паехаў; за ім пагоню паслаў, а пры хворым пакінуў дохтара; сам я, міляў 5 праехаўшы, начую ў Мікалаеве.

## Julius

3. Прыбыў Ям п. Казімер Несялоўскі, кашталян Смаленскі, зь Ям панам Пацам, старастам Фэйданскім, і Іхмці п.п. Пётар і Казімер Совічы Корсакі, першы харунжы, другі абозны і судзьдзя гродзкі, а таксама Ян Літавор Храптовіч, стольнік Наваградзкі.

17. Па абедзе была проба Камедыі Парыса з Галенаю, кампазыцыі вершамі жонкі маёй.

25. К паўдню а той гадзіне, як у тым календары пішуць, было зацьменьне сонца, досыць вялікае, бо столькі сонца

бачна было, як на маладзік, каляндар угадаў, але хай даброта Боская бароніць, абы вынікі злыя таго зацьменьня прадбачыў.

## Augustus

3. Сёньня адзначалі імяніны караля Аўгуста і фэст ордэру Aquilae Albae[25], на каторы прыбыў Ям енэрал артылерыі з жонкаю а маёй сястрою старэйшаю, абед пры біцьці з гарматаў, па абедзе Камедыя Парыса і Галены, кампазыцыі жонкі маёй, праз дзеці мае і двору знаных людзей граная была, вельмі пекная, потым быў баль і каляцыя да поўначы.

5. Па абедзе енэрал артылерыі ад'ехаў; скончыўся крыгсрэхт, асудзіўшы на расстраляньне капітана Гаўдрынга, каторы ў паядынку пад Суботнікамі Гомбурга забіў, я дэкрэт апрабаваў, але з кампасіі вызваліў ад сьмерці, пераменіў, каб у вежы Навагрудзкай паўроку сядзеў на гары, па скончэньні таго абы быў звольнены з войска; сам я ў дарогу да Вільні рыхтаваўся, хаця й хворы на фрызэт, гэта значыць каросты.

8. Стаў я ў Карэлічах, дзе знайшоў Іхмці п. п. Казімера Несялоўскага, кашталяна Смаленскага, і Вяжэвіча, віцэ-інстыгатара, з каторымі еў вячэру і тут са мной начуюць; бачылі мы месячнае зацьменьне, досыць дужае, хай даброта Боская ліха ад нас адменіць, як той каляндар страшыць.

17. Па раньнім абедзе жонка мая з сынам Каролем паехала да Ашмяны на соймік, каб Караля адтуль пасслом утрымаць, дай Божа, каб удалася; я тут пераехаў да арсэналу ў Вільні з сынам Янушам і дочкамі маімі.

25. Зранку рушыўся з жонкай маёй і дзецьмі; начуем у Салечніках Малых, атрымаў зь Нясьвіжа, зь Міра і Карэлічаў ведамасьць, што саранча вялікую мне шкоду зрабіла, гэтак Пану Богу спадабалася.

31. Шчасьліва стаў у Нясьвіжы, і нанач сталі ў палацы, бо ў замку рэпарацыя гардэробу, новы з фундамэнту мурую.

## September

4. Розныя чыніў дыспазыцыі, у Акадэміі дырэктарам паставіў п. Фрычынскага, сяржанта той жа Акадэміі, харунжага гарнізонаў маіх.

8. Спавядаўся і па казаньні трымаў ad pontem bap-

tismi[26] татарына аднаго, каторому дадзена імя Міхал, і жыдовак тры, каторым дадзена імя Францішка кожнай; я з дачкой маёй Тэафіляй трымаў, жонка мая із сынам Янушам, а сын Кароль зь сястрою Каралінай; меў гасьцей веле ў сябе, быў Ям пан Шышка, кашталян Наваградзкі.

16. У дарогу на Сойм да Варшавы выбіраўся, вазы ўкладаць загадаў.

29. Сёньня па імшы сьв. паехаў да палацу каралеўскага і меў у пана аўдыенцыю, прэзэнтаваў каралеўству сыноў маіх Януша і Кароля, з каралеўствам абед еў; быў на балі ў княгіні з Морштынаў Чартарыскай, кашталянавай Віленскай, каторая князю падканцлеру, сыну сваяму, міхалавіны спраўляла.

## October

5. Дзень элекцыі караля адзначалі мы, быў на пакоях, панству руку цалаваў, потым з каралём на замак, і заселі мы ў Сэнаце.

7. Галу ўрачыстую адзначалі мы пры двары — дзень нараджэньня каралеўскага, каторы нарадзіўся ў року 1696 дня 7 кастрычніка, хай шчасьліва і доўга пануе! Усе мы былі трактаваныя, я быў у пары з маршалковаю в. Кар. Бялінскай з дому Прэбяндоўскай, каліся удавою Радзівілаўскай,— ваяводаваю Наваградзкай, маткаю князя Марціна Радзівіла, крайчага В.К.Л., пад нумарам 8-ым, з каралеўствам у аднаго стала; па абедзе адбылася вельмі каштоўная камедыя зь пекнымі балетамі і фаэрвэрк.

## November

9. Па абедзе сядзелі мы ў Сэнаце без пана, каторы гатовы быў, каб далі знаць, што Ізбы пасьпеюць, але in die decretoria[27] гэтак шмат пастуціла матэрыі, што ніводным жывым спосабам да канца трафіць не маглі; адны хацелі да панядзелка, другія не дазвалялі, паколькі in die festo[28] саймаваць не варта — а тое прыпаў Сьв. Марцін у панядзелак, адны цытавалі права, што Сойм у той дзень скончыцца павінен, у каторы пачынаецца, другія цытавалі права, што саймаваць ня будуць in diebus festivis[29], і гэтак сіла мовячы, калі сонечнага сьвятла не стала, на сьвечкі аніякім спосабам дазволіць

не хацелі, і так cum summo dolore[30] вялікі годны і пачціві in Republica civis[31] маршалак стану рыцарскага разьвітаўся зь Ізбою, і Айчына пры сабраных станах sine consilio[32], зьмілуйся Божа, засталася.

## December

1. Прыйшла ведамасьць, што князь Ямць падчашы В.К.Л., брат мой, vigore curatorii Я.К.Мці[33], на мяне, на князя Радзівіла — ваяводу Наваградзкага, і сябе ўзяў у Чарнаўчыцах князя Марціна Радзівіла, крайчага В.К.Л., як нядзеяздольнага, in curatoriam potentatem[34], з дызгонарам нашай фаміліі, і да сябе памясьціў.

14. Сталі шчасьліва ў Жоўкве на абед.

30. Увесь дзень вельмі хварэў на камень, вечарам напала colica nefritica[35], ванітаваў крывёю.

31. На той жа камень страшна хварэю і ўжо чацьвёрты год мінуў таму, ня ведаю, што далей Пан і Бог мой са мною зробіць, за тое падзяку яму аддаю, што мне дазволіў у гэты рок дыярыюш жыцьця маяго скончыць, далей хай будзе ягоная найсьвяцейшая воля, а гэтаму року vale.

# 1749

## Januarius

1. Цэлы дзень на камень хварэў, дзеля чаго за дазволам Ям ксяндза Выжыцкага, арцыбіскупа Львоўскага, тут у палацы імшы сьв. слухаў і спавядаўся і досыць самотна рок гэты пачынаю; жонка і дзеці мае княгіні — матцы жончынай — увесь дзень служылі і віншавалі ня толькі року новага, але дня ейнага нараджэньня, каторая сёньня 68-мы рок жыцьця свайго пачынае, а я ў болесьцях трываў мамэнту.

5. Я хварэю; дзяцей маіх у кляштары п. п. дамініканак, у касьцёле, Ям ксёндз Выжыцкі, арцыбіскуп Львоўскі, бержмаваў; Януша айцом быў Ям п. Станіслаў Цёлак Панятоўскі, ваявода Мазавецкі, узяў імя Канстанты Павал Флярыян, Кароля быў айцом князь Каэтан Яблаnoўскі, імя ўзяў Дзімітар Вацлаў Геранім, дачок жа маіх абедзьвюх маткаю была княгіня Яемць кашталянавая Кракаўская, матка жонкі маёй, бабка іхная родная, Тэа-

філі дадзена імя Ганна Марыяна Барбара Вікторыя, Караліне ж надалі Тэафіля Генавефа Магдалена; ужо нарэшце дачакаўся я, што дзеці ўгрунтаваныя ў хрысьціянстве, хай іх Бог гадуе і ў цнотах дзеля хвалы сваёй памнажае! Я імшы сьв. у пакоі слухаў дзеля слабасьці.

27. Начуем у Красным Ставе, там страшная адліга, гэтак, што дрэвы набраклі, жукі лётаюць, а дарога як увесну гразкая.

## Februarius

2. Стаў у Белай, проста да касьцёла а. а. рэфарматаў, там спавядаўся, па набажэнстве да замку, застаў аднаго брата маяго, а сама на той час да маткі сваёй ад'ехала, і ўвесь дзень у кампаніі брата сваяго бавіўся. Бачыў князя Марціна, крайчага В.К.Л., у дэтэнцыі і знайшоў яго яшчэ не пры поўнай рэфлексіі; бачыў жонку ягоную і сыноў пяцёх ад першай жонкі Бэлхацкай, Ігнацы ў року ўжо 13-ым, ад другой, цяперашняй, Трэмбіцкай, чатырох: Антоні, Міхал, Дамінік і Мікалай — усе ў малых гадох; забыўся зь першай жонкі на дачку Антаніну, каторую выдаў ён за Ям п. Масальскага, старасту Гарадзенскага, сына гетмана польнага. З наложніц іншых розных in vivis[36] засталіся трох сыноў і дачок тры; асаблівы чалавек, цалкам створаны на пакараньне фаміліі нашай!

11. Разам брат мой з жонкаю, княгіня крайчавая, князь канюшы (Ульрык Радзівіл.— **Паракл.**) і я з маёй грамадой рушыліся мы і, уехаўшы міляў 5, сталі ў Кодні і былі міла прынятыя; стаім у замку, быў баль і каляцыя ў Ям пана канцлера; Іхмці ваявода Берасьцейскі і падскарбі надворны В.К.Л. прыбылі.

13. Сёньня адзначалі мы дзень нараджэньня жонкі маёй, каторая шчасьліва пачынае рок 44-ты, хай Бог ёй дась ста год дачакацца ў добрым здароўі і каб унукаў ажаніла а з праўнукаў цешылася; у касьцёле сьпявалі Te Deum laudamus in gratiarum actionem[37], што даў П. Бог нарадзіцца гэтак значнай для дому маяго матроне.

20. Зранку забраў ад княгіні крайчавай другога сына, Міхала Радзівіла, крайчыча, у 5-ым року, на адукацыю, потым, абед зьеўшы, рушыліся мы, брат мой з жонкаю праводзілі нас.




Сцэна са спэктакля «Судзьдзя пазбаўлены розуму». Нясьвіскі тэатар. Маст. М. Жукоўскі.

## Martius

1. Начуем дома ў Нясьвіжы, стаў у палацы, у месьце, бо ў замку муры нясканчаныя, асабліва ў нашых пакоях.

21. Раніцой былі мы на аблаве за карчмою Літвой, там забіў мядзьведзя, потым, у той карчме абед зьеўшы й уехаўшы міляў 5, стаў у Тулёме, фальварку маім; воз мой, едучы праз Прусінаў, быў атакаваны ад пасэсара Ям п. Лявона Быкоўскага; рэвізораў маіх Заморскага і Цехоньскага парубаў, як жа і Яна, паюка; безвыніко-

вы бой гэты стаўся на вольнай дарозе, за што яму заўтра позву дасылаю, буду зь Ямцем прававацца.

26. Прыбыў да мяне Ям п. Салагуб, кашталян Вітабскі, і Ям п. Пшазьдзецкі, пісар В.К.Л., з жонкаю; па абедзе дзеці мае гралі камедыю Трох Мучаніц за Дыяклеціяна, Агапы, Хіёны і Ірэны, кампазыцыі жонкі маёй, вершамі, вельмі добра ўдалася.

## Aprilis

6. Шчасьліва дачакаўся Вялікадня, па ўрачыстым набажэнстве і казаньні вясёла правялі мы той дзень.

7. Па набажэнстве і абедзе дзеці мае гралі на тэатрум Трагедыю Трох Мучаніц.

## Majus

6. Стаў у Горадні дзеля атрыманьня сукцэсіі па сястры маёй нябожчыцы ваяводавай Падляскай, але яшчэ, хаця дзень гэты і прызначаны, не знайшоў маіх кансукцэсараў.

17. Зранку сварыўся за кляйноты сястры маёй, што ў закладзе ў ксяндзоў картузаў былі ў шкатулцы і пячаткаю запячатаныя, а пячаткі парушаныя; я тую скрынку казаў у другую ўсадзіць і маёй запячатаць пячаткаю дзеля дастаўкі ў Трыбунал.

## Junius

4. Увесь дзень быў я надта слабы, увечары лекі браў; камэрдынэр, сваволячы, шабляй махаў, дык вылецела зь ельцаў, мала сына маяго Януша не забіў, параніў яго ў нагу і рану досыць глыбокую зрабіў, паляжыць небарака, але добра для маладзёна, хай навучыцца, як з жалезам бавіцца.

11. Атрымаў ведамасьць, што d. 8 praesentis Вільня цяжка пагарэла, горш чым мінулага року,— ратуш, касьцёл Сьв. Казімера і сіла іншых in favillam[38], а гадзіне 10-ай з палудня няшчасьце тое здарылася, году не прайшло, як гэтае сталічнае места гарыць; усе мае да здароўя прыходзяць, а я хворы.

13. Сёньня Богу і Стварцы маяму хай будзе ад усялякага стварэньня хвала, канчаю рок 47-мы; быў на набажэнстве ў а. а. бэрнардынаў, спавядаўся і камунію ўзяў,



Сцэна з «Камедыі французскай» па пьесе Мальера «Цудоўныя каханкі». Нясьвіскі тэатар. Маст. М. Жукоўскі.

Te Deum laudamus сьпявалі, ксёндз біскуп Зэнапалітанскі pontificaliter цэлебраваў; сыны мае ў кляштары гасьцей трактавалі, а я ў замку зь Іхмцю панствам канцлерствам еў, потым былі на нешпары і канклюзіі набажэнства, пасьля каторага сканчэньня на грэблі глядзелі мы на ставе флоты, досыць пекна адараваныя; Янек Вішнеўскі, карлік мой, быў адміралам і да мяне меў арацыю вершамі, адтуль паехалі мы да theatrum, там Камедыя ўрачыстая надта пекная адбылася, потым каляцыя, па каторай быў вельмі пекны фаэрвэрк і ілюмінацыя, і гэтак пекна дзень за стараньнем жонкі маёй зышоў.



Келіх XVII ст. і крыж-рэліквары з кропляю крыві Хрыста, з касьцёла ў Жырмунах.

15. Па абедзве адправілася камедыя француская, праз кадэтаў маіх граная й досыць ім удалася; я ўвесь дзень на галаву хворы пры болесьці каменю.

16. Сёньня перад Я.п. канцлерам в. В.К.Л. прызнаў я фундуш на дзьве імшы ў гробе Радзівілаўскім за душы князёў, там лежачых, штотыднёва, каторыя а.а. домініканe спраўляць маюць.

17. Саленная адправілася экзэквія, і целы ўсіх князёў антэцэсараў і продкаў маіх і дабрадзеяў перанесена да новага склепу, каторыя хай з Богам спачываюць; прашу ласкі, хто той дзёньнік чытаць будзе, абы прамовіў — «хай спачываюць у спакоі, амэн!» Я нядобра меўся на камень, але ж з гасьцямі маімі бавіўся цэлы дзень.

20. Штораз, дык у большых болях застаюся і слабну вельмі, хай Бог зьмілуецца нада мною; дзяцей пасылаў учора да Сьв. Міхала пехатой, абы за мяне афяравалі.

21. Усю ноч хварэючы страшна, ранкам паслаў дзеці да Сьвержаня, да цудоўнай Маці Божай у царкве; хутка да карэтаў паўсядалі, у дарогу тую едучы; вялікім цудам тае Маткі і Сьв. Міхала выйшаў зь мяне камень, як костка дактылёвая, вагою ў чвэрць чырвонага злотага, ужо мяне з болю канвульсіі бралі; імшы сьв. слухаў, але па гэтак вялікім параксызьме надта слабы быў.

24. Ранюсенька хадзіў з замку пехатою да касьцёла Сьв. Міхала і там спавядаўся і падзякаваў патрону маяму, што мяне з каменю шчасьліва вызваліў; вярнуўшыся, віншаваў іменем Яна Ям п. канцлера в. В.К.Л., швагра маяго, потым разам паехалі мы да касьцёла а.а. езуітаў, пры гучным біцьці з гарматаў і ручной стрэльбы сьпявала Te Deum laudamus.

## Julius

26. Стаў у Жырмунах, міла прыняты ад князёў Станіслава і Караліны з Пацеяў Радзівілаў, енэрал-маёраў войскаў В.К.Л., і тут у іх у двары начую.

27. У касьцёле імшы сьв. слухаў, аглядаў рэліквію, прывезеную праз Тышкевіча, біскупа Віленскага, з Рыму, кавалак вэлюму Найсьвяцейшай Панны, на каторым ёсьць кропля крыві Збаўцы нашага; па набажэнстве і абедзе, разьвітаўшыся з князямі енэрал-маёрамі, рушыўся.

## Augustus

5. Стаў у Нясьвіжы, застаў а гадзіне 3-й з паўдня ўжо памерлага Ям ксяндза Валадковіча, рэктара Калегіі, маяго добрага прыяцеля, хай з Богам спачывае.

6. Па пахаваньні ксяндза рэктара і па абедзе судзіў Суды гетманскія і асудзіў п. Касіцкага, намесьніка знаку петыгорскага князя-старасты Рэчыцкага, і. п. Пласкоўскага, таварыша таго ж знаку, першаму — на замку Троцкім, другому — на замку Наваградзкім, кожнаму па 6 тыдняў сядзець; пачтовых двох, аднаго непрысутнага, другога прысутнага Андрэя Савечынскага на расстраляньне, дзевяцёх жа на сядзеньне асудзіў у ланцугох у замку Мірскім, па колькідзесят тыдняў.

23. Розныя інтарэсы канчаў, выбіраючыся ў дарогу валынскую, жонку маю тут пакідаю.

[1] ad hilaritatem — на радасьцях (лац.)
[2] conclusum — скончылі, дайшлі да выніку (лац.)
[3] grato — тут: з ласкі сваёй (лац.)
[4] animo — душэўна, сардэчна (лац.)
[5] bona immobilia — нерухомая маёмасьць (лац.)
[6] diem 8. Septembris hujus anno — дня 8 верасьня гэтага году (лац.)
[7] vacat, non comparnerunt — вольна, не прызначаныя (лац.)
[8] contra legem, pro vacanti — супраць закону, няважнымі (лац.)
[9] semotis arbitri — тут: патаемным галасаваньнем (лац.)
[10] magno apparati — з пышным убранствам (лац.)
[11] ex consilio medicum — з рады лекарскай (лац.)
[12] ritus graeci suo ordine — грэцкага абраду адпаведна парадку (лац.)
[13] ritus latini — лацінскага абраду (лац.)
[14] claudebat agmen — тут: замыкаў шыхт (лац.)
[15] S-ti Basilij Magni — Сьвятога Васіля Вялікага — закон уніяцкі (лац.)
[16] ad domum aeternitatis — да месца вечнага спачыну (лац.)
[17] proxima parturia — блізка да родаў (лац.)
[18] nomine — імем (лац.)
[19] facundo sermone — красамоўнай прамоваю (лац.)
[20] nomine Senatu et Ministerij — ад імя Сэнату і міністраў (лац.)
[21] nomine aequestri ordine — ад імя рыцарскага стану (лац.)
[22] mendicato suffragio — жабрацкі просячы, жабруючы (лац.)
[23] in minorennitati — у малых гадох (лац.)
[24] letaliter — сьмяротна (лац.)
[25] Aquilae Albae — Белага Арла (лац.)
[26] ad pontem baptismi — да хросту (лац.)
[27] in die decretoria — у апошні дзень (лац.)
[28] in die festo — у сьвяточны дзень (лац.)
[29] in diebus festivis — у сьвяточныя дні (лац.)
[30] cum summo dolore — пры зупоўным сумаваньні (лац.)
[31] in Republica civis — у Рэчы Паспалітай абыватаць (лац.)
[32] sine consilio — бяз рады (лац.)
[33] vigore curatorii Я.К. Мці — сілаю ўраду Яго Каралеўскае Міласьці (лац.)
[34] in curatoriam potentatem — дзеля спаўненьня апякунскіх абавязкаў (лац.)
[35] colica nefritica — ныручныя колікі (лац.)
[36] in vivis — у жывых (лац.)
[37] in gratiarum actionem — у гонар падзеі (лац.)
[38] in favillam — у попел (лац.)

## ГЛАСАРЫ

**АБОИЧЫК** — верхняя частка панцырнай зброі; тут апісваецца традыцыйны варыянт шляхоцкіх пахавінаў, калі кідалі на падлогу касьцёла й крушылі зброю памерлага, а рыцар у панцыры ўяжджаў да касьцёла на кані і падаў, увасабляючы скананьне нябожчыка

**АНТЭЦЭСАРЫ** — продкі

**БУЗДЫГАН** — тып булавы, знак годнасьці палкоўніка,

ротмістра, харунжага і паручніка
ВЕРЫФІКАЦЫЯ — праверка
ДАКТЫЛЬ — фінік
ДЗІРЫТ — кароткі дроцік дзеля кіданьня
ДЫЗГОНАР — зьнявага
ДЭТЭНЦЫЯ — зьняволеньне
ЕЛЬЦЫ — эфес ці гарда ў шаблі
ІНТРАДУКЦЫЯ — увядзеньне
КАЛЯНДАР — папулярнымі былі яшчэ з XVI ст.; друкаваліся ў іх, акрамя ўласна календара і мартыралёга зьвесткі аб сьвятах і касьцельная навука, астранамічная і астралягічная інфармацыя, парады да гаспадаркі і лячэньня, палітычныя прагнозы, прадказаньні надвор'я ды іншыя прароцтвы
КАМЕДЫЯ ПАРЫСА З ГАЛЕНАЙ — «Каханьне зацікаўлены судзьдзя» — пьеса У. Ф. Радзівілавай на тэму выкраданьня Парысам Пекнай Галены
КАМЕДЫЯ ТРОХ МУЧАНІЦ — пьеса У. Ф. Радзівілавай «Судзьдзя пазбаўлены розуму»; М. К. Радзівіл называе яе то «камедыяй», то «трагедыяй», таму што жанравыя вызначэньні ў той піянэрскі пэрыяд нашага тэатру яшчэ не замацаваліся
КАНСУКЦЭСАРЫ — суспадкаберцы
ЛЯНЦЫ — тып дзіды
МАРАНІТЫ — ад назвы манастыра Сьв. Марона ў Антыёхіі, прыхільнікі асаблівай хрысьціянскай царквы, абшчыны якіх месьціліся ў Сірыі, Лібане, Эгіпце; прызналі ў XII ст. сваю блізкасьць да Рымскага касьцёла
МАРЦІН РАДЗІВІЛ — Марцін Мікалай Радзівіл (1705—1782), ардынат Клецкі, стрыечны ад стрыечнага брат М. К. Радзівіла (бацькі іхныя былі дваюроднымі братамі); адзначаўся рознымі дзівацтвамі — завёў цэлы гарэм наложніц, перайшоўшы быццам бы ў юдаізм; прызнаны быў нядзеяздольным і рэштку жыцьця пражыў хворы, пад апекаю
МІХАЛ РАДЗІВІЛ — сын Марціна Радзівіла, стаў прапапластаю наступнай лініі ардынатаў Нясьвіскіх і Олыцкіх пасьля таго, як апошні спадкаберца па простай лініі, унук М. К. Радзівіла князь Дамінік Геранім, загінуў у 1813 г.
ПЯРО ВІЛЕНСКАЕ — пасада пісара Віленскага ваяводзтва
ТЭАТРУМ — маецца на ўвазе тэатральная заля, збудаваная пры замку ў 1748 г.
РЭЗАЛЬВАВАЦЬ СУПЛІКІ — тут: разглядаць прашэньні, скаргі
РЭПАРАЦЫЯ — рамонт, папраўка
ШАТНЫ — прыдворная пасада, адказны за гардэроб
ШУГАЛЕЯ — палеская пласкадонная лодка-даўбёнка
Я.П. — ясны пан

**Пераклад і публікацыя Вацлава АРЭШКІ.**

Альбрыхт Станіслаў РАДЗІВІЛ

# ДЫЯРЫЮШ

## аб падзеях у Польшчы

20. Пакуль ня будуць выкананыя гэтыя ўмовы, маюць прысылаць на акрэсьлены час у каралеўскі лягер як заложнікаў пэўных знаных асобаў. 21. Дзеля выкананьня гэтых умоваў маюць быць прысланыя да каралеўскага лягеру камісары маскоўскае ды нямецкае народнасьцяў. 22. Усе гэтыя артыкулы камісары кожнага народу маюць пацьвердзіць ня толькі пісьмова, але й прысягаю. 23. Чужаземскім афіцэрам і жаўнерам, калі яны захочуць вярнуцца да айчыны (321) ці пойдуць на службу да караля, будзе выплачаная тут і зараз рэшта належнае аплаты; таксама жонкі і дзеці, калі пакінулі іх у маскве, будуць выдадзеныя ў акрэсьлены тэрмін, як будуць магчы забраць зь лягеру свой набытак.

А паколькі й іншыя чужаземцы жадалі тэкстаў дамоваў, гетман мае іх ім даць.

Калі скончыліся гэтыя перамовы, Шэін папрасіў спыніць стральбу з гарматаў, каб у спакоі абдумаць прапанаваныя ўмовы. Але кароль насьмешліва адказаў ягоным пасланьнікам, што, «паводле запэўніваньняў вашых афіцэраў, нашыя гарматы не прычыняюць ніякіх шкодаў у вашым лягеры», і адразу па ад'езьдзе камісараў гарматы пачалі біць.

У той дзень быў атакаваны няпрыяцель падчас нарыхтоўкі дроваў і шасьцярых узялі жывымі ў палон.

30 студзеня

Полацкая шляхта, разьбіўшы маскоўскі разьезд, узяла сто палонных і чатырох між іх найзнатных і ў часе ўрачыстага візыту прадставіла каралю, а потым аддала ў рукі гетмана. Але ў тыя дні ня ўдаўся напад мсьціслаўскае шляхты, загінула да 2000 нашых абучаных сялянаў, а коньніца, паскакаўшы, выратавалася; відочна, масква былі папярэджаныя і з засады заўзята нашых атакавалі. Ад гетмана кароннага Казаноўскага, ваяводы падольскага і

Пачатак у № 6, 1995 г.



Пінск. Калегіюм. XVII ст.

смаленскага, былі атрыманыя зьвесткі, што нічога, вартага ўвагі, там не адбылося, але жаўнер, падмацаваны здабытаю няпрыяцельскай зямлёй, усё зьнішчаў агнём, прыносячы шмат клопату маскве ды іхнаму князю; шмат іх загінула, вераломны край, заліты крывёю, не бяз плачу і нараканьня на легкадумнасьць іхнага патрыярха, які давёў да парушэньня заключанага пад прысягаю яшчэ на год міру. І тут канец месяца.

## Месяц люты

Пачну з асабістых справаў. Прызначыў маіх пінскіх гродзкіх суседзяў: Аградзінскі стаў падстаросьцім, Тарлецкі — судзьдзём, пісар застаўся той самы.

### 2 лютага

...Вярнуўся да маскоўскіх справаў. Перш раскажу, што там адбывалася. Здаецца мне, што зусім нічога ня будзе нагадваць пра пачатак гэтае вайны. Калі колькі гадоў таму патрыярх маскоўскі Філарэт, бацька цяперашняга

маскоўскага князя, быў нашымі вызвалены, дык даклад-на прытрымліваўся заключаных пагадненьняў [1]. Аж вось у сьне (як сам запэўніваў у сваёй недарэчнай даверлівасьці) зьявіўся яму сам сьвяты Мікалай, якога яны атачаюць нібы боскім культам, і сказаў, што цяпер добрая пара ўдарыць на палякаў у часе бескаралеўя; калі яе зараз упусьцім, ніколі ня знойдзем гэткай. Запалонены забабонамі, пераканаў сына, каб, сабраўшы войска, сарваў перамір'е [2] і дамагаўся зброяй вярнуць страчаны Смаленск. Калі б нашых ажыўляла любоў да айчыны, даўно б ужо Смаленску было дададзена падмацаваньняў. Аднак бессаромная нязгода магнатаў яшчэ перад узьніклай небясьпекай выклікала затрымку, вызваляючы ўсім рукі да вайны, а калі з усходу наблізілася пагроза, яшчэ да перамогі нязгода военачальнікаў сталася галоўнай прычынай маруднасьці дзеяньняў [3]. Прыведзеныя Літвой і Каронай жаўнеры рабавалі бедных сялянаў. Усюды нагэтулькі прыгняталі змучаных людзей, што палі заставаліся пустымі, асабліва калі шэрагі (напрыклад, афіцэраў) папаўняліся немцамі; тыя меркавалі, што вайну можна весьці і вяла, а забываліся на тое, што небясьпеку ствараюць найспраўнейшыя, адсюль гэтулькі памерлых, гэтулькі ўцекачоў, выгнаных холадам і голадам. І хоць ласкавасьць караля спрыяла абложанаму няпрыяцелю, але перамагла ўмова перасьцярогі, каб, атрымаўшы надзею адыходу, зь бязьлітаснасьці не прадоўжыў далей вайны, што было б яму на згубу, а нашым — небясьпека. Да гэтага набліжалася цана шчасьлівага заканчэньня вайны пры ўхваленьні хрысьціянскага сьвету і ласкавасьці фартуны. Бо маскву пужаў вобраз ганьбы, менавіта вераломства, падманвала вера ў міласэрнасьць караля. Розныя былі парады, што рабіць напрыканцы, вывучалі прапанаваныя варункі, брыдзіліся жыцьцём, цяжэйшым за сьмерць і — наадварот. Разважаючы гэтак, сама гадзіна выйсьця здавалася цяжэйшай за яе чаканьне, бо прыніжэньне ў акопах не было так яўным, як сорам, які адкрываўся ў полі і ўдзень.

20 лютага

І калі ў тыя дні ўсе чакалі міру, надышоў гэты памятны дзень 20 лютага, прыносячы сорам няпрыяцелю [4], а нашым сусьветную славу навякі, калі бачылі тое, як Шэін выйшаў з усімі сваімі з розных схованў, упаў да ног



Валенштэйн.

караля, каб яго ратаваў сваёй міласэрнасьцяй, а 36 харугваў былі кінутыя на зямлю, і ўсе, нізка кланяючыся, ушаноўвалі трыумфатара. Кароль, седзячы, як пераможца, на кані, у атачэньні сэнатараў, з усім сваім войскам прыглядаўся да гэтай цырымоніі. Каля паўдня пачаўся зьневажальны выхад няпрыяцельскага войска і працягваўся да вечара, аж многія прагаладаліся, хоць забыліся на голад, ап'яненыя радасьцю славы. Дададзена было некалькі нашых харугваў дзеля гарантаваньня небясьпекі на дарозе 9000 масквы. О цудоўная Боская абарона! Няпрыяцель, які колькасьцяй перавышаў нас у два разы,

мусеў згінаць карак перад нашымі, да таго ж зморанымі голадам і бракам сну.

21 лютага

Назаўтра аглядалі акопы, прынята 15 гарматаў магутных памераў і незвычайнай вагі і 50 меншых, пасьля гарматны порах, волава і шмат шчытоў. Расказваюць, што кароль размаўляў зь нейкімі знанымі масквіцінамі, выклікаючы ў іх зьдзіўленьне. Навошта ж шукаць большых цудаў, ці ж ня лепш лічыць за цуд тое, што гэта наш кароль з 3000 людзей аблажыў 20 000 і прымусіў іх здацца, падпарадкавацца, а 9000 адпусьціў на волю. Здабыты скарб — гарматы, а няпрыяцель нібы наўмысна сабраны, каб у адзін час і ў адзін дзень аддаць пераможцы ўвесь свой вайсковы рыштунак і ўласныя шыі.

22 лютага

Назаўтра няпрыяцельскія гарматы, зьмяніўшы пана і Бога, асьвячалі ягоны трыюмф, а адказвалі ім гарматы са Смаленска. Кароль захацеў ахвяраваць срэбную лямпу коштам у 1000 залатых у касьцёл дамініканаў у Смаленску і абяцаў вуніі захаваць вечна тое мейсца, дзе вераломная схізма дагэтуль узьнімала гордую галаву, а цяпер была зламаная. Адсюль шмат якія зьвесткі, што плывуць цераз каралеўства, яшчэ павялічвалі каралеўскі трыюмф, напоўнілі касьцёлы дзякаваньнем на радасьці сьмяротных, а на смутак суседзяў, якія чакалі іншага канца. Кароль застаўся ў Смаленску да канца месяца, заняты нарадамі, што трэба рабіць далей. Але, паколькі не прыслалі мне адтуль дыярыюша, падаў і падаю пяром толькі тое, што пачуў з вуснаў іншых.

Вырашыў, аднак, коратка нагадаць трагедыю Валенштэйна. Гэты шляхціч, які паходзіў са Штырыі, быў вельмі мілы цяперашняму цэсару Фэрдынанду з прычыны сваёй адданасьці і заслугаў, засьведчаных падчас вайны ў Немцах, якая выбухнула ў 1618 годзе [5]. Названы военачальнікам, застаўся верны цэсару Фэрдынанду, а бачачы яго маючым патрэбу ў грошах, ахвяраваў яму 100 000 фларэнаў (болей ня меў), лічачы шчасьце цэсара за сваё, ды нават нешчасьлівы ягоны лёс прагнуў зьяднаць са сваёй будучыняй. Цэсар прыняў з удзячнасьцяй гэты ягоны



Максымілян I Баварскі.

афэкт і, калі прыняў чэскія маёнткі пераможаных мяцежнікаў, даходы зь якіх былі ацэненыя ў 700 000 філіпікаў, г. зн. даўніх талераў [6], амаль усе яму аддаў. Тады ж, пасьля страты дэ Бускуо, прызначыў Валенштэйна генэралам, надаўшы яму тытул князя Фрыдлянду. Не задавальняючыся гэтым, надаў яму яшчэ Макленбурскае княства і ўзьняў яго да гэткіх годнасьцяў, што яго назвалі другім цэсарам Фэрдынандам. Былі апрабаваныя ўсе ягоныя пачынаньні, не зьвярталі ўвагі ні на якія абвінавачаньні, бо зупоўная вера ў яго рабіла дарэмнымі ўсе скаргі. Аднак настроіў супраць сябе думку князёў, асабліва баварскага курфюрста [7]. Скарыстаўшы дзеля гэтага сытуацыю на сойме ў Рэгенсбургу, на якім цэсар клапаціўся пра выбрань-




Хрысьціна, каралева Швэцыі (1632—1654).

не свайго сына на рымскага караля [8]. Тым часам Густаў уварваўся на Памор'е і вельмі ўдала прасоўваўся ў 1629 годзе ўглыб цэсарства [9]. Вырашылі пазбавіць Валенштэйна ягонае вайсковае ўлады. І так сталася. Але калі пад Ляйпцыгам войскі Цільлі былі разьбітыя, калі пераможцы швэды пачалі спусташаць Майнцкае арцыбіскупства, біскупства Бамберскае і Вюрцбург [10], а свае сілы разгрупавалі па ўсёй Баварыі, цэсар мусеў зьмірыць Валенштэйна са шмат якімі абвінавачаньнямі і зноў паклікаць на пасаду генэрала. Той, валодаючы грашыма і вялікай павагай, за кароткі час сабраў шматлікую армію і, адабраўшы Прагу і частку Чэхіі, атакаваў Нюрнбэрг і аблажыў там Густава. Тады казалі, што, пабуджаны



Цільлі, цэсарскі генэрал.

ці то помстай, ці з іншае прычыны, паводзіў сябе больш нядбала. Таму потым павялічыліся сілы ў няпрыяцеля. Валенштэйн знаходзіўся ў Чэхіі і на Шлёнску, дзейнічаў няўпэўнена, страціў давер, ці хапаючыся за што-небудзь, ці зноў тое пакідаючы. Ахоплены амбіцыяй і жорсткасьцяй, разьятрыў сэрцы шмат якіх няпрыяцеляў. Гішпанец [11], лепш распазнаўшы ягоныя задумы, пачаў яму раіць, каб дабрахвотна склаў зь сябе чын генэрала, бо цэсар прагне свайго сына, Фэрдынанда, які два гады таму каранаваўся на караля Чэхіі, прызначыць яго наступнікам [12]. Тая зьвестка глыбока закранула гэтага напышлівага а разам няўдзячнага чалавека. Стала бачнаю цяпер няшчырая да гэтага часу вернасьць, заўважана ягонае свавольства, калі дазволіў ворагу заняць Рэгенсбург, хаця Баварац [13] дарэмна прасіў падмацаваньне.



PHILIPPVS IV DOMINICUS VICTOR
AVSTRIACUS HISPANIÆ TOTIUS ET IN
DIÆ VTRIUSQ. &c. REX CATHOLICUS.

Філіп IV, кароль Гішпаніі.

Тым часам у няшчырым сэрцы зь цягам часу пачаў падумваць аб помсьце і здрадзе, ладзячы таемныя сходы, прымушаць войска да прысягі на вернасьць сабе, схіляць камандзераў пагрозамі й золатам. Дайшоў да такога шаленства, што наважыўся зьнішчыць самога цэсара і ягоных нашчадкаў. Але, дзякуй Богу, Пікалёміні [14], які прыбыў да цэсара на 2 дні раней, адкрыў яму ўсю справу.

Распавяду коратка, не адымаючы месца ў нямецкіх гісторыкаў. Валенштэйн быў забіты ў Эгеры ў Чэхіі ірляндцам Батлерам, зь вялікім галасам і плюгава, даючы нашчадкам прыклад нечуванага лёсу і ягонай гульні. Дзень 26 лютага стаўся днём помсты здрадніку [15].

Няхай жа бачаць манархі, каму вераць, бо дабрадзействы, хоць і надаваныя празьмерна, ня могуць перамагчы непрыязных пачуцьцяў. Часта нават здараецца, што прыхільнасьці вялікіх паноў выклікаюць яшчэ большую іхную прагу, гэта ператвараецца ў нянавісьць і няўдзячнасьць. І ў небе не хапае падобных узораў, і на зямлі бываюць выпадкі забытых дабрадзействаў; ёсьць шмат гэтага прыкладаў у розных дзяржавах і ў розных часах.

## Месяц сакавік

Кароль наш пасьля нарады, дзе гучалі спрэчныя думкі, рушыў з цэлым лягерам у першых днях сакавіка да Белай. Гэта была цьвярдыня, занятая масквой з прычыны здрады нашых. Мясцовы стараста Бухгольц [16], саступіўшы места няпрыяцелю і, забраўшы ўсю здабычу, адышоў да масквы. Здавалася, што можна будзе лёгка вярнуць страчанае места. Таму, калі майстры ад акопаў заахвоцілі хцівага на славу караля да шпаркага ім авалоданьня, войска мусела прабівацца зімой, у маразы і голад, праз лясную бездараж і зарасьнікі. Слухаў пра гэта з найвялікшым абурэньнем, як гэтую цяжкую дарогу, прыдатную хіба што для варвараў, сам кароль ператрываў у цяжкасьці ды голадзе. Два тыдні доўжыўся гэты абцяжарваючы марш, шмат коней і валоў страчана ў багне, шмат было раздушаных наступаючым войскам, для якога яны былі накшталт памосту; бо калі падалі, не было месца дзеля аказаньня дапамогі, бо вазы, якія насоўваліся, сярод крыку ад болю ўтоптвалі іх у балота. Бо каралевіч Казімер страціў час на рамонт вазоў і пазьней мог імі карыстацца, ледзь на восьмы дзень убачыў напаўрасшарпаных жывёлаў, у той жа час (жаўнеры) падтрымліваліся ўзаемна жыўнасьцяй, якую ўсюды пільна вышуквалі.

Напрыканцы месяца яны ўбачылі ўрэшце Белую, гэтак пажаданую і праклінаную. Кароль стаў за дзьве мілі ля манастыра Сьвятога Міхала Архангела. Адтуль выслаў выведніка і масквіціна з нашых, каб заваяваць прыхільнасьць абложаных абяцаньнямі і застрашыць прыкладам Шэіна. Аднак нічога не зрабілі. Расказваюць, што бельскі губарнатар [17] адказаў ім незапалохана, што каралеўскім абяцаньням процістаіць ягоная адданасьць цару, а небясьпецы мусіць процістаяць ня лічба абаронцаў, але сталасьць; прыклад Шэіна ўзбудзіў у ім і жаўнерах ня страх,



Нагружаны воз на балоцістай дарозе.

а хутчэй адвагу; праўдападобна, здарылася гэта па волі Божай, і яны пад яе падладжваюцца; вырашылі лепш страціць жыцьцё, чым быць зганьбаванымі.

Тады кароль, пераканаўшыся, што ласкавым словам нічога не дасягнеш, загадаў абкружыць места акопамі і падрыхтаваць патрэбныя міны. Цяпер надышоў час, каб дарадцы паказалі сваё мастацтва. Але насуперак іхным спадзяваньням зямля, узрушаная пэтардамі, узьлятаючы ў паветра, трапляла толькі ў нашых; здарылася нават, што падчас выбуху самыя пярэднія ротмістры былі прысыпаныя зямлёй. Ледзьве іх зь вялізнымі намаганьнямі, параненых і амаль без жыцьця, выцягнулі. Нашыя гарматы білі з валоў безь вялікага выніку. Дадала абложаным бадзёрасьці пэўная гнуснасьць нашых, якія, падманутыя даўнім посьпехам, разлажылі дысцыпліну і, пагражаючы няпрыяцелем, расставілі рэдкія старожы і, марачы аб славе, бясьпечна ў сябе адпачывалі. Гэта заўважылі абложаныя і вырашылі вярнуць страчаную славу. Ударылі, такім чынам, па аддзелах Вайгэра [18], трох жаўнераў забілі і, быццам здабычу, схапілі восем харугваў; ужо зь места хваліліся сваёй перамогай, калі нашыя перш рыхталіся да помсты. Каралеўскія жаўнеры, навучаныя, падаліся чуйнейшымі, каб на будучае пазьбегнуць падобнай памылкі.

Тым часам маскоўскі князь настойваў праз сваіх паслоў, каб накіраваць з абодвух бакоў камісараў наануляваньне канфліктаў праз заключэньне міру, часовага ці трывалага. Са згоды караля на перамовы прызначаны дзень 16 красавіка; кароль прызначыў наступных камісараў: канцлера кароннага, ваяводаў віленскага, смаленскага і падольскага, кашталяна камянецкага, рэфэрэндара літоўскага, сакратара Рэя, люблінскага харунжага Гне-

ваша і троцкага харунжага Агінскага [19], хоць справа з розных прычынаў зацягвалася, аднак маглі распачаць працу.

Быў абвінавачаны пісар земскі смаленскі па прозьвішчы Вароніч [20], які перш быў паслом да маскоўскіх баяраў. Той, перакуплены срэбрам масквіцінамі, прызнаў Міхалку тытул вялікага князя. Справа гэтая моцна перашкодзіла каралю, бо масква пачалі вагацца ў сваёй вернасьці, бачачы, што яшчэ напачатку перамоваў даў сябе пазбавіць гэтага тытулу. Вестка аб турэцкай вайне, да якой схілялі цэсара маскоўскія паслы ў Канстантынопалі, і аслабленьне ў выніку гэтага нашых сілаў — усё гэта надало годнасьці нашым ворагам.

Сапраўды, шырыліся зьвесткі пра турэцкую падрыхтоўку супраць нас. І наш пасол Тшэбінскі, львоўскі падкаморы, папярэджваў пра тое самае [21]. Таго, калі месяц таму пераяжджаў дарогай да Канстантынопаля, ваявода валаскі Мойзаш Магіла досыць ветліва прыняў, прыдаючы яму калявуша ці праваднікa. Але наш пасол накіраваўся да Асманскае Порты, быў затрыманы башою Абазы, варожа настроеным да нашага народа; той прымусіў пасла да пратэрміноўкі прыезду і, зьмяніўшы сваю трасу, сам зьявіўся над Дунаем. Справа здалася падкамораму падазронаю, але сваім спрытам абышоў лісіную хітрасьць варвара. Бо калі баша ўсё ў Канстантынопалі прывёў у рух, каб выклікаць вайну супраць нас, часткова хочучы змыць пляму мінулага года, часткова ж для адтэрміноўкі кары, якую хацеў сабе зьменшыць, часткова падбухтораны пасламі маскоўскага князя, бо тыя абавязваліся плаціць штогод турэцкаму цэсару 200 000 залатых і абяцалі аплаціць з уласных фундушаў ваенны рыштунак, а самому Абазы башы ахвяравалі вялікія дары, пераканаў свайго цэсара, што пры няроўных нашых сілах трэба выслаць да нас пасла з аб'яўленьнем вайны, а ён, пэўна, прывязе цэсару даніну з Польшчы.

А каб справа рухалася згодна зь ягонымі абяцаньнямі, пачаў перакладаць нашаму паслу, каб некаторыя дары ахвяраваў цэсару ад імя караля. Тшэбінскі зразумеў ягоны падкоп і засьведчыў, што ніякіх дароў не прывёз цэсару, апроч добрай прыязьні, пацьверджаньня старых дамоваў і запэўніваньня ў мірным суседзтве. Тады баша хацеў схіліць яго да гэтага ці ўхвалою, ці абяцаньнямі, ці пагрозамі. У туркаў між іншымі ёсьць такі звычай, што, калі каму даюцца паўнамоцтвы на дзеяньні, цэсар дазваляе

таму патрымаць уласную бараду. Таму баша, узносячы пасла ва ўхвалах і мяркуючы фальшыва, што палякі прынялі гэты звычай ад туркаў, гаварыў, што ведае пра тое, як гэта ягоны кароль дазволіў паслу патрымаць сваю бараду, і гаварыў, што нешта зробіць і абяцае, што кароль будзе гэта лічыць добрым і мілым. Наш пасол адказаў на гэта (ведаючы, што варвар мае наўме), што сапраўды кароль, пан мой, падаў мне сваю бараду, але калі ёю буду злоўжываць, ведаю напэўна, што заплачу за гэта сваёй галавой. На працягу многіх дзён затрымліваў баша нашага пасла і рознымі спробамі схіляў яго, каб каварным чынам дабіцца даніны. І хаця пасла перасьцерагалі пра небясьпеку, якая пагражае ягонаму жыцьцю, для сталага мужа, які пагарджае жыцьцём з прычыны любові да караля і айчыны, нічога ўсё гэта не азначала, бо прагнуў уласнаю крывёю як найлепш захаваць гонар Рэчы Паспалітай. Бачачы нязломнасьць нашага пасла, разам зь ім падаўся баша да Канстантынопаля, называючы яго сваім сынам, той жа імкнуўся як найхутчэй пазбыцца гэтага тытулу.

Напрыканцы месяца прыбыў да Канстантынопаля. Быў прыняты вельмі дрэнна, не паводле звычаю прыёму іншых паслоў. Ніводнаму з хрысьціянскіх паслоў не было дазволена сустрэцца зь ім. На трэці дзень быў дапушчаны да каймакама (бо вялікі вэзыр быў заняты пэрсыдзкай вайной) [22]. Той пасьля прывітаньняў найперш запытаў пра даніну. Пасол адказаў, што кароль у той справе нічога яму не даручыў, тады турак казаў, што цэсар гэтага чакае; калі адмовіце ў даніне, аб'явім вам вайну. Тут дадаў, што цэсар не яму даверыў справу з вашым каралём, а Абазы башы. І так няміла закончылася гэтае спатканьне для пасла, які турбаваўся ня гэтулькі пра сваё жыцьцё, колькі пра дабро Рэчы Паспалітай; выходзячы ад каймакама, засумняваўся ў посьпеху сваёй місіі. Але з прыроджанай хітрасьцяй разважаў, якім чынам зьвесьці на нішто махлярствы Абазы башы, але дарэмна, бо цэсар кіраваўся думкай башы і тое абвяшчаў ад імя цэсара, што сам перш яму каварна падшапнуў, а цэсар, прыхіляючы да яго вушы, тое аб'яўляў, што ў канфідэнцыйнай размове абодва ўзгаднілі. Тым часам баша пераконваў нашага пасла, каб прынамсі сам ад свайго імя ахвяраваў што-кольвек цэсару. Тшэбінскі на гэта згадзіўся і падараваў колькі гадзіньнікаў цудоўнай работы.



М. Вашчанка. Ілюстрацыя да Манархіі Турэцкай (Слуцак, 1678).

Праз колькі дзён быў праведзены да цэсара, якога застаў напаўляжачым на сафе з нагамі, спушчанымі долу; меў шаблю, прычэпленую пры боку, быў прыбраны ў чырвоны шаўковы строй. Калі пасол пацалаваў цэсарскі строй, сам султан насуперак звычаям усіх папярэдніх уладароў запытаў яго пра даніну, нагадаў пра сваю магутнасьць і высунуў чатыры ўмовы: калі кароль прагне міру, каб Каралеўства прыняло магамэтанскую веру, каб штогод плацілі даніну, каб загадалі зьнішчыць замкі, пабудаваныя на беразе Днястра, каб зьнесьлі казакоў; інакш недарэчна пагражаў, што зьнішчыць наш край вайною. Тое сказаўшы, схапіў шаблю, выцягнуў яе напалову з похваў і закрычаў, што гэтым мечам пасьцінаў бы каркі няпрыяцелю, калі б захацеў. А ўсоўваючы шаблю ў похвы, дадаў, што згодзіцца на мір, калі гэтага захоча. Пасол прадбачліва адказаў, што ён сапраўды вялікі пан і што няма намеру спрацівіцца ягонай волі, але, як пасол, ня можа перавышаць сваіх даручэньняў; кароль, мой пан, абраны Рэччу Паспалітай праз шэсьць месяцаў пасьля

сьмерці свайго бацькі Жыгімонта III каралём польскім і каранаваны згодна з даўнімі законамі, паслаў мяне як пасла ў Порту з паведамленьнем пра сваё ўступленьне на сталец і нагадваньнем дамоваў абодвух папярэднікаў, якія прагнулі ўмацаваць і пацьвердзіць дамовы, тут стаю, нічога іншага, акрамя гэтага не прыносячы, бо даніны Каралеўства Польскае нікому ня плаціць, хутчэй захоча страціць жыцьцё і ўсё, што мае, чым цярпець такую ганьбу і рашыцца на страту сапраўднай свабоды.

Адразу пасьля гэтага праводзілі пасла ад аблічча цэсара да свайго дому, дзе зьявіўся Абазы баша, пытаючы пасла, які б меркаваў аб высакароднасьці аблічча іхнага цэсара; дадаў, што ягоны пан яшчэ юнак, які прагне вайны, у ім кіпіць кроў, любіць гаварыць аб войнах. Пасол спрытна ўчыніў, хвалячы бессаромнасьці варвара.

На наступны дзень сакратар галяндзкага пасла запытаў, ці праўда гэта, што стала вядома пра польскага караля, што быццам войска каралеўскае напэўна было зьнішчанае масквою, каралевіч Казімер загінуў у бітве, а кароль уцёк да Вільні. Наш пасол з незадавальненьнем прыняў гэты няўклюдны нагавор, ведаючы, што галяндзкі пасол [23] падтрымлівае намаганьні масквы і ўсіх ворагаў караля на тэрыторыі атаманскае Порты. Каб, аднак, выкрыць хлусьню, загадаў прачытаць ліст, атрыманы ад гетмана Канецпольскага, у якім той паведаміў яму аб усіх удалых учынках Караля і трыюмфе, атрыманым над Шэіным. Той, сканфужаны, адышоў да свайго пана; невядома, ці паўтарыў ён яму гэта, досыць, што адышоў, пачырванеўшы ад сораму.

Наш пасол ужо страціў надзею на спрыяльнае ўладкаваньне сваёй місіі ў варвараў, з чым выслаў шпаркага ганца да гетмана, і пачаў зьбіраць уюкі на зваротную дарогу, але зноў натрапіў на супраціўленьне з боку Абазы башы, які насуперак волі затрымаў яго на колькі дзён, хаця не дапускаў яго ні перад аблічча цэсара, ні на размовы зь іншымі хрысьціянскімі пасламі. Тым часам ён бачыў, што па ўсім замахваецца на вайну; праходзілі ваенныя нарады, высылаліся лісты і патэнты, вэрбаваліся жаўнеры, сьцягваўся ваенны рыштунак, бачыў навакол злосныя твары туркаў, якія прагнулі крыві, і ўжо ў бліжэйшым атачэньні цэсара рыхтаваліся да дарогі. Але насуперак турэцкім намерам былі дрэнныя прадказаньні аб вайне супраць Польшчы. Сам вэзыр, які знаходзіўся з войскам у



Станіслаў Канецпольскі.

Пэрсіі, ганіў прыгатаваньні і прыслаў ліст да цэсара, адрайваючы яму гэтую вайну. Заміж іншымі дадаў тыя словы, што хутчэй трэба пакінуць у спакоі гэтага хітрага вужа (так ён называў палякаў) і не чапаць яго. Бо забабонныя туркі прадказвалі небясьпеку, якая пагражае Асманскаму цэсарству з боку Сэптэнтрыёну (Поўначы); толькі б гэта калісьці збылося. Расказвалі, што перад паходам Асмана [24] у 1621 г. нейкі турэцкі варажбіт, убачыўшы ў Канстантынопалі вобраз нашага караля Жыгімонта III, жахнуўся, а калі яго спыталі, зь якое прычыны, адказаў, што той пакладзе пачатак заняпаду нашага цэсарства. Ён быў недалёкі ад праўды, бо са сьмерцяй Асмана, прычыненай яму яго ўласнымі падданымі, наступілі не бывалыя дагэтуль і частыя беспарадкі ў Порце, распачатыя

звыклымі да вернасьці вялікасьці двору янычарамі і спагамі, якія адкрыта выяўлялі сваю нянавісьць як вершнікі, так і пешыя, замяшаньні, ня цалкам уціхамiраныя, будучы затоеныя, выбухнулі агнём праз гады. Расказваюць яшчэ, што ў выніку сваёй дзёрзкасьці янычары менш здабылі сабе сілай, мардуючы цэсара, змусілі толькі ў адпаведнасьці са сваімі жаданьнямі да зьмены вэзыраў. Аднак захавалі звычай, паводле якога цэсар, прызначаючы вялікага вэзыра, адзявае яму на шыю малую пячаць. Калі (як часта залежала ад волі цэсара жыцьцё ўсіх) хоча яго пазбавіць жыцьця і прызначыць наступніка, высылае перш суровае пасольства, што жадае ягонае галавы; загадвае яе сабе прыслаць; пачуўшы гэта, вэзыр кажа сваім бліжэйшым зьняць з шыі пячаць ды адаслаць цэсарскаму паслу, пасьля загадвае ўдушыць сябе ў прысутнасьці пасла, выконваючы гэткім чынам даручэньне свайго пана. Цяпер цэсар мусіць насуперак сваім намерам і волі сьмерцю вэзыраў, сваіх прыяцеляў, ільсьціць янычарам.

О, няшчасны лёсе варвараў! У адзін і той дзень атрымаць ад цэсара моц кіраваньня, абсыпаньне многімі ласкамі, падзел правінцыяў і каралеўстваў, блішчаньне золатам і каштоўнасьцямі, атачаць сябе тысячнай сьвітай, а потым, калі зьменіцца думка цэсара, быць пазбаўленым усяго, пагарджаным усімі, вызваляцца ласкавай сьмерцяй ад жыцьця, быць голым трупам, кінутым на пляц, без пахаваньня, выстаўленым на ўсялякія зьнявагі — гэта добра ведаюць жыхары Канстантыпопаля. Бясьпечней там жыць прыватна, але шмат спакушаных прагай улады і надзеяй на лепшы лёс сьлепа імкнецца да ўзвышэньня, за нішто сабе маючы падзеньне.

Я, каб вярнуцца да хатніх справаў, у гэтым месяцы ў выніку падагры тры ці чатыры разы быў прыкуты да ложка, толькі праз акно з жалем адпраўляючы пахаваньні колькі прыватных асобаў. У апошні дзень гетман паведаміў мне пра нязьменныя ваенныя намеры туркаў.

## Месяц красавік

Каралеўскае войска стаяла пад Белай, затрыманае рашучай і сталай мужнасьцяй, вартай зьдзіўленьня нават у няпрыяцеля. Бясьпечны кароль забаўляўся паляваньнем у коле нешматлікіх таварышаў. Масква спраба-

вала нападаць на акопы нашых зь меншай удачай для каралеўскіх жаўнераў, так што тое месца належала б называць хутчэй чырвоным, чым белым, хоць па-польску азначае «Белая». Голад быў сталым таварышам, так што і на каралеўскім стале ў першы велікодны дзень [25] салёнае мяса замяняла велікоднага баранчыка, а каралю дзялілі курыцу з куранём на абед і вячэру; але ўсё гэта каралю міла, бо было напоена духам славы.

Не аднаму наталялі голад рэдкі хлеб і гароднiна, іншыя паміралі з голаду, астатнія, аслабелыя ад хваробаў, хацелі вярнуцца да айчыны. Кароль у сваёй раўнавазе, якая стымулюе ягоную мужнасьць, задумаў яшчэ болей сьціснуць няпрыяцеля. Двойчы прыходзілі лісты ад масквы з просьбамі, каб пашкадаваў хрысьціянскае крыві, бо праз дамовы кароль можа атрымаць бяскроўную перамогу і завалодаць Белай, мусіць, такім чынам, дабрынёй зьмякчыць свае намеры, а гэта пасадзейнічае заключэньню хутчэйшага міру. На просьбу сэнатараў былі спыненыя ваенныя дзеяньні. Камісарам загадана было пасьпяшацца да вызначанага месца, якое называлася Шамлёва [26], на перамовы. Каб падавалася, што войска не бязьдзейнічае, рабіліся напады асобных харугваў; усё рабавалі, мардавалі людзей, забіралі палонных, пакідаючы пасьля сябе пажары і вогнішчы.

Масква ўвогуле і сам маскоўскі Міхалка [27] меў дакоры сумленьня і чуў шкадаваньне з нагоды распачатае вайны, увесь свой гнеў скіраваў на Шэіна, якога аддаў пад суд. Учынена фармальнае расьсьледаваньне. Выяўлена, што правінаваціўся ў 10 пунктах, калі яму вялікі князь даверыў свае войскі: 1. Атрымаўшы 60 000 храбрых жаўнераў і здабыўшы Дарагабуж, не атрымаў гэтае перамогі, восем тыдняў страціў у бязьдзейнасьці, а тым часам Смаленск быў падмацаваны жыўнасьцяй і былі сабраныя на абарону сяляне і шляхта. 2. Абложаны Смаленск, пакінуў адкрытымі межы Літвы, якія мусеў, выслаўшы туды свае войскі, спустошыць мечам. 3. Што спалохаўся гэткага малога смаленскага войска, а мог бы яго сьмелай атакай разагнаць. 4. Што гетман Радзівіл без сумненьня толькі ў выніку ягонае гнюснасьці двойчы падмацаваў Смаленск. 5. Што перад прыбыцьцём караля, а ў часе адсутнасьці гетмана Радзівіла, страціў аказію зьнішчэньня зьнясіленага хваробамі і пастаяннымі баямі жаўнера. 6. Калі кароль быў заняты атакаваньнем Празароўска-



Маскоўская вуліца XVII ст. ў сьвяточны дзень. З карціны мастака А. П. Рабушкіна, 1896 г.

га, не хацеў паслухацца парады Лесэля [28] і напасьці на каралеўскі лягер і рэшту ягоных войскаў. 7. Што загадаў Празароўскаму без сур'ёзнай прычыны пакінуць акопы, пакідаючы нашым вялікія запасы жыўнасьці. 8. Што не адважыўся атакаваць ноччу ў Багданавай Ваколіцы каралеўскія войскі, калі значная частка гэтага войска адышла са смаленскім і падольскім ваяводам. 9. Што сьцягнуў на адно месца коньніцу і пяхоту, чым аслабіў галоднага і ўстрывожанага жаўнера. Калі б адаслаў коньніцу, даўжэй зносіў бы аблогу і падтрымаў бы свае сілы новымі падмацаваньнямі, падасланымі князем. 10. Што навечна зганьбаваў свой народ, здаючыся з усім войскам, кідаючы на зямлю вайсковыя штандары, аддаючы польскаму каралю ўсе запасы і ваенны рыштунак, спрычыняючыся гэтым да нязмыўнага зганьбаваньня на вечныя часы слаўнае памяці Масквы. Шэін хацеў ачысьціцца ад гэтых абвінавачаньняў, згадваў даручэньне вялікага князя, каб аблажыў Смаленск і ім завалодаў, што затрымаўся ў Дарагабужы, каб падрыхтаваць аблогу; тое, што здарылася, адбылося не па ягонай віне, але з прычыны малой кемлівасьці ў статутах, так хацеў лёс, гэта, зрэшты, вынікала з правільнага выкананьня даручэньняў князя; урэшце, захаваў жыцьцё падданых; хацеў даверыцца ласкавейшай фартуне і гэтым выклікаць сьлёзы ў свайго пана, калі б было зьнішчана войска і айчына была адда-




Крыштап Радзівіл, гетман польны літоўскі, ваявода віленскі.

дзеная на апошнюю згубу. Усе гэтыя довады суд прызнаў недарэчнымі і вынес яму сьмяротны вырак; ударам тупой сякеры разам з сынам быў высланы ў краіну ценяў, жонцы ж ягонай на просьбу баяраў была падараваная міласьць; маёмасьць Шэіна пайшла на карысьць дзяржавы, аддалі яе губарнатару Белай за ўзнагароду за абаро-

ну горада. Двое дарадцаў Шэіна, Ізмаілавы, падзялілі ягоны лёс [29]. У любым выпадку варты шкадаваньня лёс, хутчэй, стойкасьць ці смеласьць згаданага Шэіна, бо, калі б ён падпарадкаваўся разам са сваімі волі караля, перайшоў на бок палякаў, з гэтага атрымалі б вялікую карысьць абодва бакі, бо кароль, падтрыманы гэтулькімі тысячамі жаўнераў і дапамогай сваіх падданых і крэўных, мог бы сілай апанаваць места Маскву, схапіць нерашучага князя падчас уцёкаў ці змусіць да адрачэньня ад стальца. З гэтага Шэін карыстаўся б поўным забесьпячэньнем, уратаваў бы жыцьцё, набыў бы маёмасьць. Але нельга параіць там, дзе інакш бачыцца Божай волі вырашаць і падвышаць павагу і сілу сваіх саўдзельнікаў над нявольніцкай дзяржавай, дапускаючы, каб, нягледзячы на перасьцярогу небясьпекі, было сьсечана шмат маскоўскіх галоў, перш чым князь пацягнуўся і за ягонай, Шэіна, галавой. Марнай надзеяй быў абумоўлены іншы вынік. Дрэнная парада сталася для дарадцы самым балючым ударам гэтае вайны. У час першага паходу памерлага караля Жыгімонта III, пасьля страты Смаленска, дзе быў ваяводам, страціў галаву і волю. Палонены нашымі, ён цяжка гэта пераносіў. Вярнуўшыся да айчыны, прагнуў здабыць страчаную славу вяртаньнем Смаленска. Але яшчэ больш зганьбаваў сябе, аддаўшы ў рукі няпрыяцеля ўвесь ваенны рыштунак. Захаваў быў жыцьцё, але і яго ганебна страціў, даючы нашчадкам прыклад таго, як караюць за захаваньне вернасьці няпрыяцелям, за празьмерную напышлівасьць і фанабэрыстасьць. Адсюль жа вынікае агульная навука для ўладароў, што мусяць прапаноўваць мірнае ўрэгуляваньне справаў і захаваньне непарушнай веры ў дачыненьнях да ворагаў, нават паганцаў, і адкідваньне таемнай умовы, зрываньне зь якой-небудзь прычыны суседзкага міру. Вугорскі кароль Людвік, вугорскі і польскі кароль Уладзіслаў [30] няхай будуць дарадцамі ўсім манархам і прыкладамі нязвыклай хады жыцьця і лёсу, бо тыя прызвычаіліся лютаваць пры спадарожным ветры, уяўляць сабе ў падманлівым і моцным жаданьні, што заўсёды ім будзе спрыяць удача. Бачым, што шчасьлівы лёс ніколі ня старыцца, а зьедлівая зайздрасьць ці нянавісьць імкнецца зьнішчыць яго падземнымі каналамі супраціўленьня і, як хваля, падмывае шчасьце. Бо ніколі, як сьведчыць гэты твор, чалавек, якога

кідае нядоля чалавечага роду паміж шчасьцем і горыччу, не знаходзіцца ў адным стане.

Але пасьля разважаньняў пра Поўнач спытаем пра Ўсход. 8 кветня, унікнуўшы гнюснасьці Асманскага манарха, вялікасьці і сабраўшы зь незвычайнай шпаркасьцяй зброю і людзей, турак Амурат асабіста рушыў з Канстантынопаля на агрэсіўную вайну з Польшчай. Напачатку паспрабавалі розныя сродкі, якімі баша і сама маці султана[31] стараліся адцягнуць цэсара ад распачынаньня гэтае вайны, выключаючы самога Абазы башу. Нічога не дабіліся, хаця маці султана, спадзеючыся на сыноўскае паслушэнства, пераконвала яго, каб пакінуў палякаў у спакоі, бо яны не вінаватыя. Крывава ўціхамірылі казакоў, не парушылі суседзкіх абавязкаў, а кароль выслаў пасольства дзеля працягу дружалюбных дачыненьняў; прасіла, каб зьмяніў меч на прыхільнасьць і зычлівасьць. Словы маці выклікалі такі шал у цэсара, што, не зважаючы на гонар, які ёй належыць, схапіў свой турэцкі нож (які туркі носяць звычайна за поясам, доўгі, накшталт штылета, але шырэйшы), кінуў ім у маці і параніў яе. Тут жа, сеўшы на каня, рушыў у дарогу. На колькі дзён раней была абвешчаная публічная цырымонія ці ваенны марш, які ўсім вольна было глядзець, таксама і паслам. Наш пасол ня быў зь іх выключаны і мог бачыць яго праз вакно. Ад паўдня аж да вечара розныя аддзелы войска маршыравалі ў вызначаным парадку пад сваімі адрознымі знакамі, у суправаджэньні музыкі і, паводле прынятага звычаю, з рэлігійнымі сьпевамі. Поруч зь іншымі маршыраваў і аддзел кухараў, а перад ім несьлі вялізную лыжку. Перад цэсарам на аздобленых конях ехалі пекна прыбраныя башы. Сам Амурат, едучы верхам на кані, зьзяючы ад золата і дарагіх камянёў, прыбраны, як і яго конь, у пер'е, пазіраў навокал. Казалі, што яго суправаджала тады 8000 найлепшага войска. Потым ехаў з шасьцю коньмі воз, укрыты зялёным шоўкам. Затым праяжджала шмат іншых вазоў, поўных розных рэчаў. Шэсьце замыкаў чорны воз, запрэжаны чатырма худымі клячамі, выклікаючы кпіны ўсіх нашых, што жадалі, каб на гэтым пышным экіпажы цягнулі назад труп султана.

Праз колькі дзён адправілі нашага пасла; вярнуўся ён без лістоў і даручэньняў, задаволены, аднак, тым, што сваёй асобай нічым ня зьменшыў аўтарытэту караля і Рэчы Паспалітай. Сьпяшаўся, як найхутчэй, каб зноў не



Турэцкае сядло і шабля. XVII ст.

затрымаў яго Абазы баша, гэты апякун, і яго дакучлівы айцец. Каб не вяртаўся наш пасол без ніводнай водпаведзі. Абазы баша ад імя цэсара абяцаў, што вышле ў пасольстве да караля Сахіна агу зь лістамі цэсара, каймакама і ўласнымі. Гэтае пасольства было ўчынена з нагоды абвешчаньня навіны пра подзьвіг караля ў Маскве, каб даведацца праўду і вывучыць ваенную падрыхтоўку палякаў супраць туркаў.

Наш пасол бясьпечна прыбыў на Валашчыну напрыканцы гэтага месяца. Ваявода Мойзаш скардзіўся ў ягонай прысутнасьці, што атрымаў ад Порты даручэньне, якое немагчыма выканаць,— пад страхам пакараньня сьмерцяй выставіць 12 000 валахаў. Баючыся турэцкай



Турэцкі кавалерыст.

тыраніі, ратуючы жыцьцё, сабраўшы ўсю сваю рухомасьць, ваявода зьбег у Польшчу...

...Сапраўды дзіўна, як чуў ад ваяводы падольскага і гетмана польнага кароннага Казаноўскага, што нашага войска, абкружанага з усіх бакоў масквой, было ледзь 2000, лік жа няпрыяцеля даходзіў да 60 000, але яны не адважыліся атакаваць нашых. Аднойчы, набраўшыся сьмеласьці, вырашылі паспрабаваць шчасьця і выслалі некалькі на нашых, якія нічога не чакалі; люта біліся з абодвух бакоў, але масквіцін мусеў адысьці. Калі падышоў большы натоўп няпрыяцеля, нашы вымушаныя былі адступіць. Тады ўзяты быў у палон адзін з нашых жаўнераў; калі ў яго запыталі пра колькасьць нашага войска, ён

адказаў, што гэтулькі, колькі было сапраўды, дадаючы, што падыходзіць дапамога ваяводаў падольскага і смаленскага, гэта яны паабяцалі зрабіць, але потым, зьмяніўшы пляны, засталіся на ранейшым стане. Таму няпрыяцелі, ураджаныя гэтай весткай, вярнуліся да Вязьмы, учыніўшы вылазку, не ўбачылі ніводнага з ваяводаў, асудзілі палоннага за фальшывыя зьвесткі і выдалі яго на катаваньні, у часе якіх выціснулі зь яго душу.

Кароль, баючыся, каб падчас ягонай адсутнасьці ў краі не былі зробленыя якія-небудзь памылкі ў падрыхтоўцы да вайны з Турцыяй, найперш выслаў у ваяводзтвы і паветы ўнівэрсалы, у якіх запрашаў да супольнай ваеннай нарады, а потым, паводле звычаю, пытаў у сваіх лістох сэнатараў, ці належыць і калі прызначыць сойм; я таксама атрымаў гэткі ліст. Выпала рашэньне, каб сойм сабраўся ў Варшаве 19 ліпеня. Гэта занепакоіла Русь, і суседнія правінцыі, што бліжэй да няпрыяцеля, хацелі б бачыць правядзеньне сойму ў Львове. Але ўзьнікла такое вялікае натхненьне на абарону вольнасьці, што на Валыні, падчас майго там знаходжаньня, на працягу шасьці тыдняў склалі грошы на 1000 коньніцы, у тым ліку 400 гусараў і 600 лёгкай кавалерыі, на паўтара года. Са шчасьлівай зайздрасьці і суперніцтва падобным чынам спрабавалі зрабіць і ў іншых паветах. На заклік гетмана з любові да айчыны пасьпяшалася шмат дабрахвотнікаў. Шмат падахвочаных просьбай караля закладвалі сваю маёмасьць і на выручаныя грошы вэрбавалі за ўласны кошт шматлікія харугвы. Я таксама выставіў за ўласны кошт 150 вершнікаў. Чутка, распаўсюджаная тут і там, значна памнажала колькасьць войска як нашага, так і варвараў. Татары выхваляліся і пагражалі, што ўварвуцца шматлікай ардой. Не ўражаны гэтым, гетман пільна сачыў за іхнымі ўчынкамі.

Цэлы месяц дзьмулі мы ў сурмы, будучы паглынутымі падзеямі з боку масквы і з напругаю чакалі пасла; толькі ў наступным месяцы дачакаліся мы шчасьлівых зьвестак. Дома агарнуў мяне жаль з нагоды сьмерці луцкага земскага судзьдзі, майго няпрыяцеля Станішэўскага [32], які памёр у першы дзень Вялікадня, пакліканы Баранькам Нябесным, перш чым спажыў бараньку велікоднага; быў на пахаваньні, праліваючы сьлёзы над памерлым. Потым, вярнуўшыся да Олыкі, пасьля ўжываньня лекаў загадаў пусьціць сабе ланцэтам кроў з жылы...

Месяц гэты стаў славутым дзякуючы заключэньню доўгачаканага міру з масквою, дзякуючы багацьцю вятроў і пажараў шмат у якіх месцах. Кароль, выслаўшы наперад з каралеўскаю велікадушнасьцяй нашых камісараў, рушыў са сваім войскам да Шамлёва, хаваючы, аднак, там сваю прысутнасьць. Такім чынам, пачатак гэтага месяца быў таксама пачаткам перамоваў; найперш пачалося з цырымоніі. Масква груба дыскутавалі пра месца, аўтарытэт паслоў, аб праве першынства ў перамовах. Раздражняў іх тытул маскоўскага князя, які належаў нашаму каралю [33]. Уладзілі гэта, адмяніўшы часова ўжываньне згаданага тытулу. На агульным паседжаньні камісараў з абодвух бакоў было забыта аб звыклых прывітаньнях, што здараецца нават між пасваранымі бакамі. З прыроджанай грубасьцяй масква адразу пачалі высоўваць свае прэтэнзіі ды пералічваць шкоды, топячы іх у мностве словаў. Разгневаныя водпаведзьдзю смаленскага ваяводы адносна іхнага варварства, пачалі спрачацца. Тады канцлер каронны, прагнучы навучыць іх ветлівасьці, так да іх зьвярнуўся: «Трэба зьдзіўляцца, што панове камісары так далёка сышлі з дарогі хрысьціянства і пачцівасьці. Зьезд наш, дзякуй Богу, адбыўся; хочам яго давесьці да шчасьлівага канца; звычай і прыстойнасьць патрабуюць пачынаць разам з прыязным вітаньнем, таксама і просьбай аб Божай помачы, а не сваркамі. Разам з тым, калі зьявіцца якое-небудзь сумненьне, аргумэнты і сумесныя разважаньні, патрэбна іх вырашыць. Мне маё ўласнае духоўнае прызваньне і аўтарытэт пасады патрабуюць дамагацца таго, каб, калі між намі, камісарамі, узьнікне розьніца ў поглядах, што бывае звычайна ў такіх выпадках, стаў хутчэй пасярэднікам.

Такое ўшчуваньне канцлера трохі астудзіла грубіянства масквы. Зразумеўшы сваю памылку, зноў пачалі з забытага вітаньня, пасьля чаго падалі свае законы і разгарнулі шырокія карты, якімі спрабавалі абгрунтаваць свае прэтэнзіі на землі ў самой нават Літве. Смаленскі ваявода, дасьведчаны ў маскоўскіх справах, адхіляў іхныя няслушныя скаргі, нагадваў аб прысязе, прынесенай імі нашаму прысутнаму каралю, а перш пасольскаму каралевічу, як сапраўднаму ўладару, вялікаму князю. Пасьля дакараў іх, што сарвалі заключаны пакт міру ў нечаканы тэрмін, раней чым праз год, абвінавачваючы іх, што на шмат якіх супольных нарадах перашкаджалі крыкамі. З гэтага маск-

ва, баючыся, каб не разышліся безвынікова, запрасілі сабе за пасярэдніка кароннага канцлера. Той жа ахвотна ўзяўся за гэтую задачу. Але калі масква ставілі празьмерныя ўмовы, жадаючы звароту назаўсёды ўсіх занятых земляў разам са Смаленскам і нават гарматаў, нашы камісары, абражаныя гэтым, хацелі сьпешна адысьці. Канцлер спыніў іх і ўшчуваў маскву, каб жадалі слушных рэчаў. Тады адразу стрымалі свае апетыты і зь меншым пыхам ставілі больш сьціплыя варункі. Шмат дзён доўжыліся перамовы, і ўжо блізкая была згода, калі адзін з маскоўскіх камісараў, Львоў, з прыроджанай дзёрзкасьцяй унёс пратэст [34]. Абражаны словам, смаленскі ваявода выйшаў са сходу і сеў на каня. Тады кароль адпачываў у краі інкогніта міжураднікаў, што не было таямніцай для масквы; ведалі пра ягоную прысутнасьць, але памыляліся наконт асобы. Такім чынам, хадзілі, хочучы распазнаць караля; ледзьве яго знайшлі. Калі Гасеўскі зьявіўся на кані, кароль, думаючы, што перамовы былі сарваныя, шпарка сеў на каня, пачаў фармаваць шыкі ды клікаць войска да зброі. Пасьля адклікальня ваяводы канцлерам войска было зноў адпушчана, і кароль вярнуўся да сваіх, чакаючы канца перамоваў.

27 траўня быў шчасьліва заключаны мір. Былі ўтрыманыя набытыя нашым каралём і занятыя масквой замкі, землі. Толькі замак Сярпейск з прылеглым да яго абшарам быў аддадзены маскве. Каб здабыць агульны мір, кароль адмовіўся ад тытулу вялікага князя. З удзячнасьцяй масква прыватна ахвяравалі каралю 20 000 рублёў (адзін рубель быў роўны нашым 4 залатым). Зброю і ваенны рыштунак зь перададзеных замкаў аддалі нашым. Дзеля пацьверджаньня дамоваў пастанавілі выслаць дэлегацыі і змацаваць акт прысягай абодвух манархаў у дзень 20 лютага 1535 года. Масква прызналі на вечныя часы за нашым каралём тытулы смаленскага, северскага і чарнігаўскага князя. За чатыры тыдні мелі быць перададзеныя разьмешчаныя далей замкі, а за два — бліжэйшыя. Пастанавілі склікаць камісію дзеля разьмежаваньня дзяржаваў у бліжэйшым кастрычніку. Былі разгледжаныя і іншыя варункі, як, напрыклад, вольнасьць гандлю, спосаб і тэрмін утрыманьня паслоў абодвума бакамі, але не былі канчаныя, адклалі іх, як шмат іншых, на вырашэньне паслам падчас канчальнага зацьверджаньня міру. Камісары муселі прынесьці прысягу. Быў пакладзены крыж, які

масква пакручвалі ў руках, ці быў сапраўдны, бо заўсёды падазроныя ды забабонныя. Хутка найперш прысягнуў канцлер, дамагаліся, каб і віленскі ваявода зрабіў тое ж. Але той адмаўляўся, бо быў іншай рэлігіі; прасіў аб Эвангельлі ці хацеў учыніць прысягу ўзьняцьцем двух пальцаў. Узьнялі крык, дзівячыся, што хрысьціянін пазьбягае крыжа, і прымушалі Радзівіла, пагражаючы абʼявіць дамовы несапраўднымі, каб аддаў належнае сваёй хрысьціянскай веры і пацалаваў крыж. Доўга высоўвалі ўзаемныя ўмовы, урэшце масква згадзіліся, каб Радзівіл прысягнуў на Эвангельлі. Калі шукалі апошняе, масква дзеля пэўнасьці прапанавалі ўласную кнігу. У часе гэтай цырымоніі пільна натапырылі вушы. Потым распачаліся ўзаемныя віншаваньні ды балі з падарункамі, як звычайна, багацейшымі з нашага боку.

Весела вярталася войска, цешылася мірам, а яшчэ больш радавалася надзеі звароту да айчыны, якая са смуткам прыняла іх на сваё ўлоньне, калі жаўнеры, як ворагі, нішчылі шляхоцкія, духоўныя і каралеўскія маёнткі. Найбольш пацярпела Літва, бо ліцьвіны, бачачы гарантыю бясьпекі ў разьяднаньні войска, хацелі, каб пераход не адбываўся праз цэнтральную правінцыю. Палякі ж горача настойвалі на гэтым і нагэтулькі спустошылі Літву, што была сапраўды як пасьля няпрыяцельскага нападу — гвалтам вымагалі грошы, рабавалі таксама жыўнасьць. Дайшло да таго, што запрагалі бедных сялянаў замест коней цягаць вазы і падганялі іх бізунамі. Здаралася дзе-нідзе і ў маім старостве, што ў сялянскіх семʼяў сілай забіралі дзяцей і прымушалі да выкупляньня іх за грошы. Варты спачуваньня вобраз Кароны і Літвы, дзе геразім прыніжаны пакутамі й рабункамі; невядома, ці не хацелі б няшчасныя вайны ад такога міру. У дадатак да благога, нязгода, што набрыняла з Турцыяй, давала сэрцу прадчуваць большыя няшчасьці.

Тым часам напрыканцы месяца вярнуўся кароль да Смаленска, наважаны прадоўжыць свае падарожжы да Вільні ў наступным месяцы.

Літоўскі рэфэрэндар Марцыян Трызна, мой блізкі прыяцель, дзякуй Богу, унікнуў сьмерці ад хваробы, выкліканай фатальным надворʼем. Каралеўскі сакратар Марцінкевіч [35], герэтык, памёр. Угаворвалі яго каталікі, каб вярнуўся ў праўдзівую веру. Ужо, працягваючы руку, абяцаў на наступны дзень выспаведацца. Але ня выканаў

свайго абяцаньня, тлумачачы, што ўтрымаў яго чорны певень, які стаіць пры ім, у што зусім не паверылі. І так няшчасны страціў цела і душу. Гэта варта жалю, бо пры жыцьці ён быў чалавекам добрым і разважным.

Увесь месяц наведваў свае фальваркі ды бавіў час у кампаніі прыяцеляў, чытаньні або паляваньні; усё гэта кампенсавала страх перад татарскай і турэцкай небясьпекай. А ў наступным месяцы чакалі непажаданай асобы самога султана зь яшчэ большай арміяй. Прыбягалі з гэтымі зьвесткамі да караля паслы а таксама шпегі і даносілі, што туркі набліжаюцца да Дуная. У гэты час праяжджаў праз Валынь турэцкі пасол да караля Сахін ага. Ён прыбываў з нашым паслом Тшэбінскім; вёз перад сабой голы меч у знак аб'яўленьня вайны, але выказваўся мовай міру. Праводзілі яго да Вільні, утрымліваючы з каралеўскага скарбу. Згадваюць, што, заўважыўшы спусташэньні вёсак і местаў, учыненыя жаўнерамі, запытаў, як гэта атрымліваецца, жаўнер беспакарана нішчыць у Польшчы правінцыі, што ў хуткім часе без вайны здасца нашае каралеўства, ня трэба будзе ўжываць на гэта сілу. Туркі ўмеюць утрымліваць дысцыпліну між сваіх жаўнераў, таму іх падданыя ня церпяць такіх шкодаў. Але мы пачынаем месяц чэрвень.

**Месяц чэрвень**

Нічога асаблівага не прынёс. Кароль той самай дарогай, якой сьпяшаўся ў маскоўскі паход, вярнуўся 23 чэрвеня ў трыюмфуючае і поўнае ўхвалаў яму места. На Валынь, дзе быў раней, 22 чэрвеня прыйшла вестка аб заключэньні міру; усе мы скакалі з радасьці. Але няма поўнага шчасьця пад сонцам, турбавалі нас навіны з Асманскае Порты. Чуткі ўзмацнялі страх, што ўжо падыходзяць варвары, што няма нідзе ні спакойнага, ні бясьпечнага месца. Аб'яўлена было вэрбаваньне на дапамогу, але ледзь адныя зьнішчылі сялянаў на вёсцы, як са страхам ужо чакалі галоднага жаўнера, які вяртаецца з маскоўскае вайны. У такіх умовах прайшлі гэтыя два месяцы.

Сахін ага атрымаў аўдыенцыю ў караля ў Вільні. Учыніўшы сваё пасольства, прасіў, каб яго адправілі. Яму адказалі, што ён прынёс такія важныя справы, што мусіць пачакаць рашэньня ўсяе Рэчы Паспалітае; хутка адбудзецца сойм, на які накіроўваецца кароль; параілі

Сахін агу, каб пасьпяшаўся за ім. Учыніў гэта, хоць неахвотна.

Перш чым кароль выехаў зь Вільні, адбылося вясельле Казаноўскага, кароннага стольніка, улюбёнца караля; пашлюбаваўся з пані добрага роду, Случанкаю, дачкой менскага ваяводы [36]. Сам кароль быў на вясельлі і паводле звычаю ахвяраваў у падарунак празь літоўскага падскарбяга залаты кубак, а ў ім быў ліст з абяцаньнем 20 000 залатых. Зьмест таго ліста быў такі: Кароль заўсёды быў ласкавы да Казаноўскага. Цяпер вось з такой аказіі гэтым абяцаньнем пацьвярджае сваю зычлівасьць, але каб ніхто такога дару не чакаў, бо гэта выключэньне, якое прадыктавана асаблівай каралеўскай міласьцяй. Іншыя таксама ахвяравалі падарункі, якія ацэненыя былі вартасьцяй у 40 000 залатых. Гэта зрабіла аказаная Казаноўскаму каралеўская ласка. Напрыканцы вясельнага абеду сарваўся балдахін над каралём і ці не цалкам яго прыкрыў бы, каб каронны маршалак ляскай не падтрымаў матэрыі. Гэта спарадзіла розныя падазрэньні ў многіх сэрцах. Наступным днём выпітае зашмат віно дало аказію на праліцьцё крыві, што аж маршалак мусеў сурова ўмяшацца; двое заплацілі за тое віно сваімі галовамі. Гэта адбывалася пры прытомнасьці караля.

Я ж быў заняты дома выкананьнем тастаманту сьв. п. суфрагана луцкага, майго олыцкага пробашча, Францішка Заерскага, бо мяне прызначыў яго выканаўцам; ён запісаў маёнтак Людзін на фундацыю духоўнай сэмінарыі [37]. У гэты месяц, у дзень Сьвятога Яна, пры ягоным заступніцтве, перш за ўсё Бога Ўсемагутнага, у Олыцы адчынілі школы, запрасіўшы вучыцеляў з Кракаўскае Акадэміі.

Папа Урбан VIII абвесьціў юбілей з выпадку шчасьлівых перамог цэсара Фэрдынанда II. Адпраўлена гэта было праз два тыдні ў Олыцы з найвышэйшай набожнасьцяй.

На канец месяца ваяводзтва Валынскае навэрбавала ў Луцку 1000 коньніцы і зараз накіравала яе пад Камянец-Падольскі, але ня ўсе прыступалі да марсавай патрэбы, бо перад славай аддавалі перавагу грашам...

30 ліпеня

Шмат нас было на абедзе ў віленскага ваяводы Радзівіла. Там у канцы стала зь нейкай благой прычыны пабіліся двое ваяводаў — рускі Даніловіч зь ленчыцкім




Папа Урбан VIII.

Радзяёўскім[38]. Біліся пясьцямі і вырывалі сабе валасы гэтак зацята, што параніліся і засталіся амаль без валасоў. І калі б не зачынілі дзьверы перад іх службай, што падбягала, дайшло б да вялікай сумятні і праліцьця крыві, бо ўвесь пакой блішчэў ад выцягненых з похваў шабляў. Дзякуючы кемлівасьці ваяводы, гэтую замятню на месцы супакоілі, і тыя, пагадзіўшыся ў дружбе, разъехаліся...

1 жніўня

Сьцісла адбылася таемная нарада, на якой азнаёміліся са скарбовымі рахункамі і выслухалі пасольства літоўскага войска, якое знаходзіцца ў лягеры і зачынена ў мурох Смаленска. Ад імя караля адказаў тым паслам. На гэтым нараду скончылі...



Станіслаў Даніловіч, ваявода, стараста корсуньскі.

### 7 жніўня

...Зноў адбылася найтаемная з таемных нарада, у якой узялі ўдзел дзевяць сэнатараў і дзевяць прыведзеных да прысягі дэпутатаў зь ліку паслоў. Кароннага канцле-

ра, які пакутаваў на камень (у нырках), мусеў падтрымліваць каронны падканцлер. Кароль сказаў мне потым у Львове, што няпрыяцель ведаў зьмест ухвалаў гэтае нарады. Не хацеў нікога асуджаць бяз доказаў, як да гэтага дайшло.

## 8 жніўня

Кароль адправіў жаўнераў. Вечарам на месцы, ня вельмі ганаровым, наваградзкі ваяводзіч Сапега паядынкаваў на шаблях з Касабудзкім з Мазоўша і атрымаў рану. За гэта Касабудзкі пакараны быў потым сьмерцяй. Ваявода віленскі, гетман Радзівіл, ад'ехаў пасьля доўгай аўдыенцыі ў караля...

## 18 жніўня

Быў у мяне ў гасьцях каралеўскі двор, былі і танцы...

## 22 жніўня

...Выехаў з Варшавы аслабелы здароўем, стомлены шматлікімі справамі. Накіраваўся звыклай дарогай празь Люблін, дзе спаткаў князя Заслаўскага [39], занятага трыбунальнымі справамі. Затрымаўся на два дні, каб уладкаваць справы Валынскага ваяводзтва ў Людзіне [40]. У апошні дзень жніўня зьнесьлі мяне, хворага, з возу ў Амяляніку [41] каля Луцка, дзе ў поўным супакоі, дзякуй Богу, стаў здаровы, замыкаючы там жа гэты месяц...

## Месяц верасень

...Але вернемся да хатніх справаў. Завэрбаваных мною жаўнераў, якія выходзілі да лягеру, частаваў у Олыцы. Што наймацнейшыя горлы паглынулі бочку віна, але потым моц віна скінула некаторых з коней...

## 13 верасьня

Кароль абвесьціў унівэрсалы, каб усе з асобных правінцыяў рушылі на дапамогу айчыне; па-польску гэта называецца: pospolite ruszenie. Пасьля яго абвешчаньня паводле соймавага права муселі спыніць дзейнасьць трыбунальскія суды. Аднак перамаглі прыватныя інтарэсы і не



Даўнія строі ў Рэчы Паспалітай. XVII ст.

хацелі слухаць ні права, ні ўладара, гэта вельмі абразіла караля. Праехаў толькі праз Люблін, не хаваючы сваёй абразы. Учыніў тое, што праз восем дзён пасьля ад'езду караля трыбунал спыніў сваю дзейнасьць...

## 26 верасьня

...Калі 26-га стомленыя празьмернай сьпёкай і пылам у дарозе наважыліся адпачыць а гадзіне дзясятай, а потым вячэрнім холадам далей працягваць паездку, паведамілі нам, што кароль пастанавіў а другой гадзіне апоўдні ўехаць у Львоў. Таму, хутка зьеўшы абед і выслаўшы наперад коні, прызначаныя на ўрачысты ўезд, у самы поўдзень, у гарачыню, мусілі мы выехаць і чатыры мілі быць у шпаркай язьдзе. Прыехалі да Львова за гадзіну перад уездам караля, пакрытыя пылам, сасьмяглыя, на змучаных конях. Ледзь ачомаліся і зьмянілі верхнюю вопратку на болей урачыстую, зараз, сеўшы на коней, падаліся на прадмесьце і там віталі караля. Не сьсядаючы з коней, ехалі мы перад ім разам зь іншымі да места. Было дзесяцёра сэнатараў. Мяшчане, прыбраныя ва ўрачыстыя, багатыя строі, у атачэньні старожы выйшлі ў поле вітаць караля. Армяне на конях, прыбраных па-турэцку ў пер'е, бралі ўдзел у трыюмфальным паходзе; хаця ў 1621 годзе, калі кароль Жыгімонт III з нагоды турэцкае вайны пры-

быў да гэтага места, армяне выступілі яшчэ больш пышна, на конях з грывамі, аздобленымі чаплінымі пёрамі. Некалькі маскоўскіх харугваў дадало яшчэ больш бляску гэтай помпе. А раз тады за цэлы месяц верасень ня выпала на высахлую зямлю ніводная кропля дажджу, пыл зьменшыў колькасьць прысутных і засланіў увесь від. Твары і сукні ўсіх былі так ім укрытыя, што на іх можна было пісаць. Працягваўся гэты ўрачысты ўезд аж да гадзіны сёмай вечара. У месьце і на Высокім Замку гучала музыка разам з гукам гарматаў. Пры ўваходзе на рынак была бачна адна трыюмфальная арка, і то меншая, чым у іншых местах. Гарадзкія ўлады несьлі над каралём балдахін ад брамы аж да ягонага дома. У катэдры паводле звычаю капітула вітала караля прамовай пры адсутнасьці арцыбіскупа; ёй адказваў вялікі каронны сакратар. Потым на рыначнай плошчы кароль сьсеў з каня (было прызначана каралю на разьмяшчэньне чатыры камяніцы, злучаныя перакрыцьцямі). Па суправаджэньні туды караля і каралевічаў, якія таксама засталіся на плошчы, усе разышліся да сваіх гаспадаў. Я скарыстаўся выгодным памяшканьнем з другога боку плошчы.

## ЗАЎВАГІ

1 Філарэт быў зьняволены палякамі ў Мальборку ў 1611—1619 гг.

2 Перамір'е было заключанае ў Дзявуліне 3.I.1619 на 14 з паловай гадоў.

3 Гаворка ідзе пра суперніцтва між гетманам польным літоўскім Крыштапам Радзівілам і гетманам польным каралеўскім Марцінам Казаноўскім.

4 Фактычна капітуляцыя адбылася 25.II.1634.

5 Альбрыхт Вацлаў Яўзэбі Валенштэйн (Вальдштэйн), які нарадзіўся 14.IX.1553 у Германавіцах у Чэхіі ў пратэстанцкай сярэднешляхоцкай сям'і, юнаком перайшоў у каталіцызм.

6 Філіпо, срэбная гішпанская манэта, выбітая ў 1588—1778 гг. з утрыманьнем срэбра 27,842 г.

7 Шарль дэ Лянжэваль, француз у службе цэсара, браў удзел у вайне з чэхамі, у тым ліку пад Белай Гарой у 1620 г.; загінуў у 1621 г.

8 Сойм у Рэгенсбургу VI—VIII 1630 г. Фэрдынанд III з 1625 г. вугорскі кароль, з 1627 чэскі, цэсар — у 1627—1657 гг.

9 Густаў Адольф выгрузіўся на Памор'і ў чэрвені 1630 г.

10 Параза Цільлі пад Брайтэнфэльдам, 8 км ад Ляйпцыга.

11 Філіп IV, кароль Гішпаніі (1621—1665).

12 Фэрдынанд III, каранаваны на караля Чэхіі 27.IX.1627.

13 Максымілян I, баварскі курфюрст.

[14] Актавіё Пікалёміні, цэсарскі генэрал (1600—1656), паходзіў з Флярэнцыі.

[15] Валенштэйн замардаваны 25.II.1634 г. (памылка аўтара дыярыюша) у Хэбе (Эгеры, месьце над ракой Орай, у заходніх Чэхах, на нямецкай мяжы). Палкоўнік Уолтэр Батлер, ірляндзец у цэсарскай службе, быў удзельнікам сьпісу афіцэраў, верных Фэрдынанду II. Замардаваньне ўчыніў капітан Уолтэр Дэвэру.

[16] Філіп Бухгольц.

[17] Князь Фёдар Валконскі.

[18] Якуб Вайгэр.

[19] Андрэй Рэй, каралеўскі сакратар. Мікалай Гневаш, люблінскі харунжы. Аляксандар Агінскі, троцкі харунжы.

[20] Фёдар Вароніч выехаў у пасольстве да масквы 4.I.1634.

[21] Аляксандр Тшэбінскі (Трэбінскі).

[22] Каймакам, па-арабску намесьнік, намесьнік вялікага вэзыра, у 1634—1635 гг. Байрам баша. Табані Ясі Махмэд баша, вялікі вэзыр да 1637 г.

[23] Галяндзкім паслом у 1636 г. быў Рох ван дэн Хонаэрт.

[24] Асман II, турэцкі султан (1618—1622), замардаваны янычарамі, якія ўзбунтаваліся, у лёхах Сямі Вежаў у траўні 1622 г.

[25] Вялікдзень прыпадаў на 16.IV.1634.

[26] Сямлёў, места на паўночны ўсход ад Дарагабужа ў кірунку Вязьмы, над Паляноўкай.

[27] Цар Міхаіл Раманаў.

[28] Сямён Васілевіч Празароўскі, военачальнік расейскі. Аляксандар Юльянавіч Лесьлей, расейскі камандуючы.

[29] Князь Фёдар Валконскі. Арцемій Васільевіч Ізмаілаў, ваявода, і ягоны сын, відаць, Васіль.

[30] Людвік Ягелончык, вугорскі і чэскі кароль (1516—1526). Уладзіслаў III Варненскі, польскі кароль (1434—1444) і вугорскі (1440—1444).

[31] Кесэм Маапэйкер, фундатарка пекнай машэі (мячэці) ў Канстантынопалі.

[32] Войцех Станішэўскі памёр 17.IV.1634.

[33] Тытул, які належаў з выбараў вялікага князя ў 1610 годзе.

[34] Князь Аляксей Міхайлавіч Львоў, акольнічы і намесьнік суздальскі. Фармальна дамова была падпісаная 14.VI.1634.

[35] Ян Марцінкевіч, стольнік упіцкі.

[36] Адам Казаноўскі і Альжбета Случанка, дачка Аляксандра, ваяводы менскага. Шлюбаваліся ў Вільні 25.VI.1634.

[37] Князь Францішак Заерскі, біскуп суфраган луцкі, пробашч інфулят олыцкі, канонік плоцкі, дэкан пултускі, архідыякан сандамірскі.

[38] Станіслаў Даніловіч, рускі (беларускі) ваявода, стараста корсуньскі і чарынскі, і Еранім Радзяёўскі.

[39] Уладзіслаў-Дамінік Заслаўскі-Астроскі, каралеўскі ваявода.

[40] Не ўстаноўлена знаходжаньне гэтай мясцовасьці.

[41] Амялянік, або Амяленік, вёска паміж Луцкам і Забаролем.

**Пераклад і публікацыя**

**Уладзімера СЬВЯЖЫНСКАГА.**

**Аляксандар НАДСАН**

# СЬВЯТЫ КІРЫЛА ТУРАЎСКІ

## І. КІРЫЛА І ЯГОНЫ ВЕК

Сьвяты Кірыла, біскуп Тураўскі, быў, несумненна, адной з самых цікавых асобаў свайго часу. З аднаго боку, са скупых вестак аб ягоным жыцьці перад намі паўстае постаць пакорнага манаха, які, у пошуках адзіноты з Богам, вядзе аскетычнае жыцьцё ў самых яго суворых формах. З другога боку, мы бачым чалавека, які ведамі пераўзыходзіў сваіх сучасьнікаў ня толькі на Беларусі, але ўва ўсім усходнеславянскім сьвеце. Дзякуючы сваім прапаведніцкім здольнасьцям Кірыла заслужыў сабе назоў другога Залатавуснага. Ён быў выдатным, хоць і ня вельмі арыгінальным, багасловам у часе, калі багаслоўская думка ў нашай краіне рабіла толькі першыя нясьмелыя крокі. Слава Кірылы як духоўнага настаўніка разышлася сярод ягоных

*Айцец Аляксандр Надсан добра вядомы ў асяроддзі нашай эміграцыі, а ў апошнія гады — і ў Беларусі. Апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў за мяжой, кіраўнік Беларускай каталіцкай місіі Англіі і Францыі, дырэктар Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лондане... Працуючы ў «Англа-Брытанскім таварыстве», якое мае на мэце пашырэнне ведаў пра Беларусь у ангамоўным свеце, а. Аляксандр падрыхтаваў шэраг беларусазнаўчых лекцыяў для вышэйшых навучальных установаў Вялікабрытаніі. Яго пяру належаць шматлікія беларускія пераклады набажэнскіх тэкстаў, а таксама дзесяткі артыкулаў з гісторыі Беларусі, якія друкаваліся пераважна ў эміграцыйным часопісе «Божым Шляхам». У 1968 годзе ў Лондане выйшла кніга А. Надсана «Святы Кірыла Тураўскі». Прапануем увазе чытачоў нашага часопіса яе новы варыянт, папраўлены і дапоўнены аўтарам для другога выдання.*

суродзічаў яшчэ ў часе ягонага жыцьця. Нарэшце, колькасьць і мастацкі ўзровень ягоных твораў, якія дайшлі да нашага часу, робяць яго найбольшым з усіх раньніх беларускіх пісьменьнікаў і першым ведамым беларускім паэтам.

Вялікая колькасьць рукапісаў з творамі Кірылы, якія дайшлі да нас, сьведчыць аб ягонай папулярнасьці ня толькі сярод беларусаў, але і сярод усіх усходніх і паўднёвых славянаў ад Ноўгарада да Сэрбіі і Баўгарыі. На жаль, гэтага самага нельга сказаць пра весткі з жыцьця сьвятога. Адзіны жыцьцяпіс Кірылы, які дайшоў да нас, знаходзіцца ў г. зв. «Пралёгу» [1] і быў напісаны, праўдападобна, у XIV ст. Ён вельмі кароткі, але дазваляе нам, пры дапамозе вестак з агульнай гісторыі і твораў самога Кірылы, аднавіць жыцьцё сьвятога ў ягоных агульных рысах.

Паводле «Пралёгу», Кірыла нарадзіўся ў Тураве і быў сынам багатых бацькоў.

Тураў зьяўляецца адным з самых старажытных беларускіх гарадоў. Першы раз ён згадваецца ў летапісу пад годам 980 [2], калі ён быў галоўным горадам племені дрыгавічоў. Ляжыць Тураў на рацэ Прыпяці, недалёка ад месца, дзе ў яе ўпадае з поўначы рака Случ. Некалі там праходзіў гандлёвы шлях з Балтыцкага мора ў Чорнае па Нёмне, Случы, Прыпяці і Дняпры. Акрамя Турава, іншымі важнымі гарадамі на гэтым шляху былі Горадня і Слуцак [3]. У другой палове X ст. Тураў быў сталіцаю незалежнага княства. У 980 г., або крыху пазьней, ён быў зваяваны кіеўскім князем Уладзімерам і трапіў у залежнасьць ад Кіева больш як на 150 гадоў. Праз увесь гэты час у Тураве княжылі члены вялікакняскай сям'і, якім Тураў прыпадаў ва ўдзеле.

Некаторыя князі, якія жылі ў Тураве, былі спалучаныя сямейнымі сувязямі са знатнымі заходнімі і грэцкімі сем'ямі. Гэта напэўна мела ўплыў на культурнае жыцьцё гораду. Так, напрыклад, Уладзімер даў Тураў свайму трэцяму сыну, Сьвятаполку (празванаму пасьля «Акаянным») [4], які ажаніўся прыблізна ў 1010 г. з дачкой польскага караля Баляслава Харобрага [5]. Разам з нявестаю прыехаў з Польшчы лацінскі біскуп Калабжэскі Райнбэрн. Сьвятаполк, жадаючы аддзяліцца ад Кіева, пачаў рыхтаваць паўстаньне супраць свайго бацькі. Уладзімер даведаўся аб гэтым, схапіў Сьвятаполка з ягонай жонкаю і па-

садзіў іх у вязьніцу. Пацярпеў пры гэтым і Райнбэрн, які таксама быў арыштаваны і памёр у зьняволеньні. Сьятаполк выжыў. Пасьля сьмерці Уладзімера ў 1015 г. ён захапіў Кіеўскі пасад і быў галоўным віноўнікам сьмерці двух братоў, Барыса і Глеба, якія былі забітыя на ягоны загад.

Другі князь, які быў у Тураве, Яраполк, ажаніўся прыблізна ў 1073 г. з Кунэгундай, дачкой нямецкага графа Отто з Орлямундэ[6]. У 1087 г. ён быў падступна забіты сваім слугою, калі вяртаўся з ваеннага паходу. Летапісец згадвае пра яго як пра добрага, справядлівага і пабожнага князя, які любіў бедных і шмат нацярпеўся за сваё жыцьцё. Ён пакінуў пасьля сябе прынамсі адну дачку, якая пасьля выйшла замуж за немца, Гонт'ера з Турынгіі.

Малодшы брат Яраполка, Сьвятаполк II, жыў у Тураве ад 1087 да 1093 г., пасьля чаго заняў вялікакняскі пасад у Кіеве. Ягоная другая (або трэцяя) жонка, Барбара, была грэцкай княжной, спалучанай сямейнымі сувязямі з імпэратарскім домам Камнэнаў. Пасьля сьмерці мужа Барбара пераехала жыць у Тураў. Там яна заснавала жаночы манастыр сьв. Барбары, дзе і была пахаваная пасьля сьмерці ў 1124 г.[7]

У Тураве быў адзін з першых біскупскіх пасадаў на Беларусі. Ёсьць зьвесткі, быццам Тураўскае біскупства было заснаванае ў 1005 г. і што першым біскупам там быў нейкі Тамаш. На жаль, сёньня няма магчымасьці спраўдзіць, наколькі гэтыя зьвесткі праўдзівыя[8]. Лепш вядомая гісторыя Тураўскага біскупства ў XII стагодзьдзі. У жыцьці блаславёнага Мартына Тураўскага[9], пабожнага манаха і старэйшага сучасьніка Кірылы, падаюцца імёны чатырох біскупаў, у якіх Мартын быў кухарам. Вось яны: Сымон, Ігнат, Якім і Юры. Пра Якіма ёсьць дадатковыя зьвесткі ў Іпацеўскім летапісе, паводле якіх ён быў біскупам ад 1144 да 1146 году[10]. Юры быў, праўдападобна, непасрэдным папярэднікам Кірылы.

Год 1157 быў годам вялікіх падзеяў для Турава. Князь Юры Яраслававіч (унук Сьвятаполка II), які быў ізгоем, г. зн. князем беў удзелу, выгнаў Барыса, сына кіеўскага князя Юра Даўгарукага, і абвесьціў Тураў незалежным княствам. Два разы кіеўскія князі з саюзьнікамі хадзілі з вайною супраць Турава, але ягоныя жыхары добра баранілі сваю новаздабытую незалежнасьць[11]. Ня могучы

нічога зрабіць, кіеўскія князі павінны былі нарэшце прызнаць існаваньне Тураўскага княства. У тым часе Тураў быў вялікім горадам з немалым лікам цэркваў і манастыроў [12].

Дзейнасьць Кірылы прыпадае якраз на гэты пэрыяд. У «Пралёгу» не гаворыцца, калі нарадзіўся Кірыла. Паколькі, аднак, як будзе відаць ніжэй, ён быў ужо біскупам у 1169 г., а значыцца, павінен быў мець тады каля 40 гадоў, дык выглядае, што ён нарадзіўся не пазьней, як у 1130 г., а магчыма, і раней.

Кірыла быў адным з найбольш адукаваных людзей свайго часу. Ён выдатна ведаў Сьвятое Пісаньне. Некаторыя аўтары лічаць яго найлепшым біблістам сярод усіх раньніх усходнеславянскіх царкоўных пісьменьнікаў [13]. Ягоныя творы перасыпаныя біблейскімі цытатамі, не заўсёды дакладнымі, асабліва з Новага Запавету і псальмаў. Часам цэлыя сказы ў творах Кірылы зьяўляюцца спалучэньнем выразаў, узятых з розных частак Бібліі, каб надаць ім пэўны, пажаданы для аўтара сэнс.

Кірыла быў таксама знаёмы з творамі ўсходніх айцоў Царквы. Хоць ён нідзе не згадвае прозьвішчаў, але ў ягоных творах бачны ўплыў такіх грэцкіх царкоўных пісьменьнікаў, як Рыгор Багаслоў, Ян Залатавусны, Амфілёх Іконскі, Эпіфан Кіпрскі, Прокл і інш. З пазьнейшых аўтараў трэба нагадаць Тэафілякта Баўгарскага і ягоныя камэнтары да Сьвятога Пісаньня, а таксама «Хроніку» Юра Амартола. На падставе некалькі грэцкіх словаў у творах Кірылы некаторыя дасьледчыкі робяць вывад, што ён ведаў грэцкую мову. Сёньня, аднак, ужо стала вядомым, што крыніцы, якімі карыстаўся Кірыла, былі ў тым часе даступныя ў славянскім перакладзе.

Гэта не азначае, што Кірыла ня ведаў грэцкай мовы. XII стагодзьдзе было векам культурнага росквіту нашай краіны. Досыць нагадаць, што сучасьнікамі Кірылы былі сьв. Еўфрасіньня Полацкая і Клімэнт Смаляціч, а Аўрам Смаленскі жыў толькі крыху пазьней. Ёсьць зьвесткі, што ў другой палове XII ст. у Смаленску існавалі школы, заснаваныя князем Раманам Расьціслававічам [14]. Падобныя школы маглі існаваць і ў іншых гарадох, асабліва пры манастырох і біскупскіх пасадах. Акрамя школаў, ведамыя таксама прыклады прыватнай асьветы [15].

Беларусь у XI і XII стагодзьдзях была цесна зьвязаная з Бізантыяй, бо ўваходзіла ў склад Кіеўскай мітраполіі,

якая належала да Канстантынопальскай патрыярхіі. Амаль усе мітрапаліты і большасьць біскупаў былі грэкамі. Бізантыя ў тым часе перажывала культурны росквіт. Ажывіўся стары канстантынопальскі ўнівэрсытэт пад кіраўніцтвам аднаго з найбольш цікавых вучоных сярэднявечча, Міхала Псэльляса (памёр каля 1078 г.), настаўніка вышэйзгаданага Тэафілякта. На чале школы права стаяў ня менш вядомы Ксыфілінас. Навучаньне на ўнівэрсытэце было дармовым, і студэнты, якія пасьпяхова закончылі навуку, мелі запэўненыя высокія становішчы ў дзяржаўнай адміністрацыі або судаводзтве. Сярод бізантыйскіх багасловаў таго часу можна яшчэ згадаць Яўтыма Зігабэна (пачатак XII ст.), аўтара «Зброі праваслаўя», і яго-нага прадаўжальніка Мікіту Акаміната (пам. каля 1215 г.). У пачатку XII ст. жылі таксама такія выдатныя гісторыкі і пісьменьнікі, як Ганна Камнэна (1083— каля 1148), Ян Зонарас і іншыя. Грэцкіх настаўнікаў можна было сустрэць ва ўсім цывілізаваным сьвеце. Былі яны напэўна і на Беларусі, куды прыяжджалі разам з мітрапалітамі і біскупамі.

Такім чынам, Кірыла меў нагоду здабыць добрую асьвету, нават не пакідаючы роднага гораду. Тураў у тым часе быў паважным культурным цэнтрам: там быў біскупскі пасад і некалькі манастыроў. Дый ня так даўно там жыла грэцкая князёўна Барбара, і ў яе акружэньні былі вучоныя асобы, якія маглі пакіраваць навукаю здольнага юнака.

Будучы сынам багатых бацькоў, Кірыла, «не ўзьлюбіў багацьця і хуткаплыннай славы гэтага сьвету, але больш за ўсё ён прыкладаўся да вывучэньня Боскіх кнігаў, і добра пазнаў Боскія пісаньні». Яшчэ ў маладым веку ён пастанавіў пасьвяціць сваё жыцьцё Богу і ўступіў у манастыр. Жыцьцяпісец не называе імя гэтага манастыра, але ў адным з пазьнейшых рукапісаў гаворыцца аб Кірыле, як аб манаху манастыра сьв. Міколы [16].

У манастыры Кірыла «стараўся больш за ўсё дагадзіць Богу і, утаймаваўшы цела пастом і малітвамі, зрабіў сябе дастойным жыльлём Сьвятога Духа». Сваім спосабам жыцьця, пабожнасьцю і, несумненна, вучонасьцю, ён хутка зьвярнуў на сябе ўвагу іншых, і да яго пачалі прыходзіць, каб паслухаць рады ці навукі. Хоць сам Кірыла меў нахіл да жыцьця на самоце, ён, сьвядомы грамадзкага характару хрысьціянства, не адмаўляўся дапамагчы ін-

шым. Строгі вымагальны да сябе, у сваіх павучаньнях ён рабіў націск не на вонкавыя формы аскетызму, але на ўнутраныя цноты пакоры і паслушэнства. Вось што кажа пра гэта жыцьцяпісец: «(Кірыла) прынёс карысьць для многіх сваёй навукаю, заахвочваючы манахаў, каб былі пакорнымі і паслухмянымі ігумену, быццам Богу, бо манах, які ня слухае ігумена, якому ён абяцаў (паслушэнства), ня можа быць збаўлены».

Асабістыя схільнасьці цягнулі, аднак, Кірылу да большай адзіноты. Таму, пасьля некаторага часу супольнага жыцьця ў манастыры, ён, «прагнучы яшчэ большых подзьвігаў, увайшоў на стоўп і там зачыніўся». Стоўпніцтва зьяўляецца адной з найбольш суворых формаў аскетычнага жыцьця. Яго практыкавалі ў V стагодзьдзі некаторыя манахі на Блізкім Усходзе і ў Бізантыі. У пошуках большай адзіноты яны будавалі свае кельлі на плятформе, якая на адным або некалькіх стаўпах узвышалася над зямлёю. Таму яны і называліся стоўпнікамі, або пагрэцку «стылітамі» (ад грэцкага «стылёс» — стоўп). Самымі вядомымі з іх былі сьв. Сымон Стоўпнік (390—459) і ягоны вучань Даніла (409—493). Кліматычныя ўмовы Беларусі не дазвалялі весьці падобны лад жыцьця. Таму «стоўп» Кірылы быў, напэўна, стоўпападобнай кельляй, або маленькай вежай (па-грэцку «піргос»).

Пэрыяд стоўпніцтва быў для Кірылы часам яшчэ больш інтэнсыўнага духоўнага жыцьця і ня менш інтэнсыўнай разумовай дзейнасьці. Аўтар «Пралёгу» кажа, што ў стаўпе Кірыла «яшчэ больш стамляў сябе пастом і малітвамі, і паясьняў шматлікія сьвятыя пісаньні». Вельмі магчыма, што ў гэтым часе ён напісаў свае малітвы і каноны, а таксама некаторыя творы пра духоўнае жыцьцё.

Як часта бывае ў падобных выпадках, пошукі адзіноты мелі зусім адваротны вынік. Кірыла стаўся настолькі вядомым, што, калі памёр Тураўскі біскуп Юры, князь і ўвесь народ прасілі мітрапаліта прызначыць яго на Тураўскі пасад [17].

Як біскуп Кірыла, паводле слоў жыцьцяпісца, «працаваў шмат для Царквы Божае». Інтэнсыўная пастырская дзейнасьць не перашкаджала яму браць удзел у справах, якія датычылі ўсёй Кіеўскай мітраполіі, да якой належала і Тураўская епархія. У 60-ыя гады XII стагодзьдзя ў гэтай мітраполіі паўстаў закалот з прычыны нейкага Тодара, або Тодарца, які атрымаў подступам беспасрэдна

ад Канстантынопальскага патрыярха назначэньне на Растоўскі пасад, абмінаючы Кіеўскага мітрапаліта, што быў ягоным беспасрэдным зьверхнікам. Тодар меў магутнага апекуна ў асобе ўладзімерскага князя Андрэя Багалюбскага. Гэты князь, які пакінуў па сабе нядобры ўспамін, хацеў дзеля палітычных мэтаў мець у сваім княстве асобую царкоўную правінцыю, магчыма нават мітраполію, незалежную ад Кіева. Мітрапаліт Кіеўскі не прызнаў назначэньня Тодарца, адлучыў яго і забараніў усім сьвятаром і вернікам мець зносіны з ім. У адказ на гэта Тодарац, пэўны ў князёўскай апецы, пачаў перасьледаваць сваіх праціўнікаў і адначасова прапаведаваць нейкую неазначаную гэрэзію. Яму, аднак, прыйшлося горка дасьведчыць, які няпэўны лёс у тых, што спадзяюцца на ласку сьвецкіх уладароў. Андрэй зьмяніў сваю палітыку і пачаў шукаць пагадненьня з мітрапалітам. Ён арыштаваў Тодарца і адправіў яго ў Кіеў на мітрапалічы суд. Там ён быў асуджаны і памёр лютай сьмерцю [18]. Гэта здарылася ў траўні 1169 году.

Кірыла, які меў высокае паняцьце біскупскай годнасьці, не застаўся збоку ад гэтае сумнае справы. Вось што піша аб гэтым жыцьцяпісец: «У справе Тодарца, так пагардліва празванага, блаславёны Кірыла раскрыў ягоную гэрэзію пры дапамозе Боскіх пісаньняў і выкляў яго». Да нас дайшоў адзін твор Кірылы супраць Тодарца. Гэта «Сказ (прыповесьць) пра душу і цела, або пра кульгавага і сьляпога». Кірыла бароніць у ім годнасьці біскупскага стану супраць тых, якія недастойна яго прагнуць. У «Пралёгу» ўспамінаюцца таксама дагэтуль ня знойдзеныя лісты Кірылы да Андрэя Багалюбскага. Магчыма, у іх сьвяты дакараў князя за ягоныя недастойныя паступкі і за разьбіваньне царкоўнай еднасьці [19].

Справа Тодарца дазваляе ўстанавіць прыблізны час, калі Кірыла стаў біскупам. З аўтарытэтнага тону «Сказу пра душу і цела» і з вышэйпрыведзенай зацемкі з «Пралёгу» (Кірыла выкляў Тодарца), выглядае, што ў тым часе, г. зн. у 1169 г.[20], Кірыла быў ужо біскупам.

Гады біскупства Кірылы былі часам ажыўленай пісьменьніцкай дзейнасьці, якая напэўна мела сувязь з ягонымі пастырскімі абавязкамі. Жыцьцяпісец успамінае, што ён напісаў «навукі на тэмы Евангельля і прарокаў, казані на Гасподнія сьвяты і шмат іншых твораў, карысных для душы; а таксама малітвы і пахвалы многім сьвя-

тым». Заўсёды дбайлівы пра дабро іншых, Кірыла, «напісаўшы ўсе гэтыя творы, перадаў іх царкве, якая захавала іх да сёньняшняга дня для пацяшэньня і навучаньня верных усяе Русі».

На жаль, толькі нязначная колькасьць гэтых твораў захавалася да нашага часу. Магчыма, далейшыя пошукі адкрыюць іншыя згубленыя скарбы духоўнай і літаратурнай спадчыны сьвятога.

У «Пралёгу» няма больш ніякіх вестак пра біскупскую дзейнасьць Кірылы, ані даты ягонае сьмерці, а толькі кароткая зацемка: «Пажыўшы сумленна і пабожна, і дбайліва пасьвячы дручаны яму статак, ён перайшоў да жыцьця вечнага і непрамінальнага».

З летапісу вядома, што на пастрыжэньні новага ігумена Кіева-Пячэрскай Лаўры Васіля ў 1182 г. быў прысутны Тураўскі біскуп Лаўрэн [21]. Трэба прыпушчаць, што ў гэтым годзе Кірылы не было ўжо ў жывых, або, як думаюць некаторыя аўтары, ён адрокся ад біскупскага пасаду і вярнуўся ў манастыр.

Самы раньні вядомы сьпісак жыцьця сьв. Кірылы паходзіць з канца XIV або пачатку XV ст. У тым часе культ сьвятога Кірылы быў распаўсюджаны сярод усіх усходніх славянаў. Несумненна, у самым Тураве яго лічылі сьвятым раней, магчыма, адразу пасьля сьмерці [22]. Вось малітва, якою сканчаецца жыцьцё сьвятога: «Радуйся, слаўны сьвятаначальніку, настаўніку, другі Залатавусны, які зазьзяў больш за ўсіх на Русі. Радуйся ты, што сваім сьветлым вучэньнем усе куткі Русі прасьветліў, Радуйся ты, што, як сонца, прынёс сьвятло Боскае навукі для тых, што сядзелі ў цемры. Мы ўзносім да цябе ў малітве гэтую пакорную просьбу: маліся за нас Усявышняму, у чыёй прысутнасьці ты маеш сьмеласьць прабываць, каб Ён вызваліў нас ад цяперашніх напасьцяў і вызваліў ад бязбожных агаранаў [23], якія мучаць нас няспынна. Зрабі таксама, каб мы тваімі малітвамі маглі атрымаць міласьць і адпушчэньне грахоў і спадчыну вечных дабротаў у будучым жыцьці ў Хрысьце Ісусе, Госпадзе нашым».

Памяць сьвятога Кірылы адзначаецца 28 красавіка.

## II. ДУХОЎНЫ НАСТАЎНІК

У жыцьці сьвятога Кірылы гаворыцца, што, будучы яшчэ ў манастыры, ён быў карысны для многіх сваімі павучаньнямі. Пра характар гэтых павучаньняў даюць



Урачысты малебен, пасьвячэньне і ўмураваньне каменя пад новую царкву сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл. Квінс, Нью-Ёрк, 21 чэрвеня 1970 г.



Царква сьв. Кірылы Тураўскага падчас пабудовы. 1971 г.

уяўленьне два ягоныя аскетычныя творы аб законным жыцьці [24]. Першы з іх называецца «Прыповесьць пра бясклапотнага цара». Са зьместу відаць, што гэта адзін з раньніх твораў Кірылы. У ім адчуваецца «юнацкі» энтузіязм і аднабаковасьць, не зраўнаважаная шматгадовым досьведам.

«Прыповесьць» часам пакідае ўражаньне, што для аўтара манастырскае жыцьцё было адзіным хрысьціянскім. Кірыла нават ужывае ў адносінах да манахаў словы Хрыста: «Ойча сьвяты... не за ўвесь сьвет малю, але за тых, якіх Ты мне даў» *(Ян 17:9)*. Вось пачатак «Прыповесьці»:

«У адным горадзе быў ласкавы цар, добры і літасьцівы, які клапаціўся пра сваіх людзей. У адным ён толькі паступаў неразумна: не баючыся ніякіх закалотаў, ён ня меў падрыхтаванай збройнай сілы. Ён ня думаў, каб нехта захацеў бунтаваць супраць яго. Меў гэты цар шмат сяброў, дарадчыкаў, а таксама дачку на выданьні. Адзін мудры і сумленны дарадчык вельмі сумаваў з прычыны бясклапотнасьці цара і шукаў нагоды, каб пагутарыць з ім аб патрэбе быць падрыхтаваным да вайны. Аднаго разу паўстаў сярод ночы вялікі закалот у горадзе. Цар сказаў сваім дарадчыкам: Хадзем, паходзім па горадзе і, можа, знойдзем таго, хто ўзьняў бунт, бо я ў вялікім страху. Яны выйшлі, абышлі навокал, але нічога не знайшлі, апрача вялікага закалоту ў цэлым горадзе. Калі ўсе іншыя дарадчыкі стаялі прыгнобленыя і бездапаможныя, той добры дарадчык ўзяў цара і ягоную дачку і прывёў іх да вялікай гары, дзе было шмат рознай зброі. Яны заўважылі там сьвятло, якое зьзяла з пячоры праз маленькае ваконца. Прыпаўшы да ваконца, яны ўбачылі ўнутры жыльлё, а ў ім мужчыну, які жыў у вялікай беднасьці і быў апрануты ў рызьзё. Побач з ім сядзела ягоная жонка і сьпявала яму салодкую песьню. Перад ім стаяў на цьвёрдым камені нехта высокі і прыгожы і даваў яму есьці і чэрпаў віно. Калі ж той мужчына прымаў ежу, дык яго вянчалі пахваламі з вялікай радасьцю. Убачыўшы гэта, цар паклікаў сваіх прыяцеляў і сказаў: Гляньце, сябры, на цуд, як гэтае беднае і стоенае жыцьцё мае ў сабе больш радасьці, як наш магутны стан, а ўнутраныя (дабрадзейнасьці) зьзяюць ярчэй за вонкавыя».

Далей ідзе тлумачэньне прыповесьці: «Горад... гэта людзкое цела... Цар — розум, які кіруе целам... Вялікі

закалот у горадзе — нечаканае няшчасьце: хвароба, калецтва, паводка, крыўда ад сьвецкіх уладаў... Гара — манастыр, а ў ім духоўная зброя: пост, малітва, сьлёзы (жалю за грахі), устрыманасьць, чысьціня, любоў, пакора, працавітасьць, цярплівасьць... Мужчына, які жыве ў беднасьці — гэта ўвесь манаскі стан... Жонка, што сядзіць побач і сьпявае салодкую песьню — неадлучная памяць пра сьмерць... А прыгожы мужчына, што стаіць перад ім — гэта сам Хрыстос... Ён корміць і чэрпае віно, гэта значыць, дае верным сваё пачэснае Цела для адпушчэньня грахоў і сьвятую Кроў для жыцьця вечнага».

Твор сканчаецца пахвалаю законнага жыцьця.

«Прыповесьць пра бесклапотнага цара» — добры прыклад алегарычнага мэтаду, якім Кірыла карыстаўся даволі часта. Узорам для гэтай прыповесьці паслужыла вядомая «Гісторыя пра Барлаама і Яасафа», аўтарам якой лічыцца Ян Дамаскін. Гэтая гісторыя карысталася вялікай папулярнасьцю як на Ўсходзе, так і на Захадзе, і была вядомай сярод усходніх славянаў ужо ў канцы XI ці пачатку XII стагодзьдзя [25].

Другі твор Кірылы пра законнае жыцьцё называецца «Сказ аб манаскім стане ад Старога і Новага Запаветаў, паколькі манах носіць у сабе вобраз першага і робіць учынкі другога». Некаторыя іншасказальныя вобразы ў «Сказе» даволі цяжкія для зразуменьня, але ўвесь твор мае ў сабе адзнакі сьпелай і зраўнаважанай думкі.

Перадусім, манах прыносіць сябе ў ахвяру Богу, падобна старазапаветнаму ягняці, і таму ён павінен быць чыстым і беззаганным: «Згодна з вобразам Старога Закону ты прынёс сябе ў ахвяру Богу, падобна як некалі ягняты былі забіваныя ў пустыні. Дык ня будзь каросьлівым, ані кульгавым, ані сьляпым, ані параненым, бо ўсе такія, дзеля сваіх заганаў, аддаюцца на страву сабакам і птушкам». Далей ідзе тлумачэньне заганаў: кароста — гэта грахі; кульгавасьць — прывязанасьць да рэчаў гэтага сьвету; сьлепата — бескарыснае, самалюбнае жыцьцё.

Ахвяра, будучы дабравольнай, павінна быць поўнай: «Паводле Старога Запавету кожная дабравольная ахвяра, вялікая ці малая, павінна прыносіцца Богу ад шчырага сэрца. Хай ня будзе хвальшывых хістаньняў у тваіх думках. Ты — як сьвечка: маеш сваю волю толькі да царкоўных дзьвярэй, а пасьля не глядзі, што і як з табою

зробяць. Ты — як вопратка: ведай сябе, пакуль нехта ня возьме цябе ў рукі, а пасьля ня думай нічога, нават калі цябе парвуць на анучы. Таксама і ты, май сваю волю да паступленьня ў манастыр, а пасьля пострыгу не захавай у сваім сэрцы ніякай самаволі, каб не памерці душою, як Ананьня, калі ён пачуў ад Пятра, які сказаў яму: «Нашто захацеў ты спакусіць Духа Сьвятога» *(Гл. Дз 5:3-4)*? Ня будзь абыякавым да тваіх абяцаньняў, каб на табе ня спраўдзіліся словы Пісаньня: «Лепш было не пазнаць праўды, як, пазнаўшы, адвярнуцца ад яе» *(Гл. 2 Пт 2:21)*.

Намер мае асноўнае значэньне ўва ўсіх людзкіх дзеяньнях: «Бог сказаў Майсею: Выведзі з Ягіпту мой народ Ізраіля, каб, пайшоўшы, атрымалі ў спадчыну зямлю, якую Я абяцаў Абрагаму. Людзі, пачуўшы гэта ад Аарона, пасьпяшылі ў дарогу: адны ў радасьці Божага абяцаньня; другія, бо цяжкая няволя фараонава была для іх невыноснай; іншыя, бо ня мелі сілы рабіць цэглу і будаваць гарады; іншыя яшчэ, бо не маглі цярпець зьдзеку наглядчыкаў».

У падобны спосаб кожны, хто жадае паступіць у манастыр, павінен ясна здаць сабе справу з таго, што змусіла яго выбраць гэты спосаб жыцьця: «Ты ж, браце, калі хочаш ісьці ўсьлед за Хрыстом, які вядзе цябе да неба, май на ўвеце, чаму ты ўцякаеш з духоўнага Ягіпту [26], якім ёсьць гэты сьвет: ці ты жадаеш абяцанага валадарства, ці ня хочаш рабіць грэшнай работы д'ябальскай, а можа, ня любіш жыцьцёвых клопатаў, ад якіх няма карысьці, а толькі згуба для душы; або жонка і дзеці не даюць табе спакою» [27].

Усе гэтыя матывы добрыя і дастатковыя, але найбольшым і найлепшым з іх ёсьць самое жаданьне сьведама ісьці ўсьлед за Хрыстом. «Ты ж, манах, разважай над прыказаньнямі і жыцьцём адзінага Хрыста, які ад нараджэньня аж ад крыжа цярпеў прыкрасьці, намовы, пагарду і раны дзеля цябе — і падрыхтуйся пераносіць цяжкасьці... Памятай, што ў пастрыжэньні тваёй галавы ты носіш вобраз цярновага вянка Хрыстовага». Крыху далей Кірыла вяртаецца да гэтай тэмы, падкрэсьліваючы адначасова грамадзкі характар манаскага пакліканьня: «Старайся стацца сынам Божым праз Хрыстовыя цярпеньні, каб ня толькі самому збавіцца, але таксама ацаліць тых, хто трапіў да грахоўных разбойнікаў».

Мучанікі зьяўляюцца найбольш дасканалымі перай-

мальнікамі Хрыста, таму манаскае жыцьцё павінна быць працягам мучаніцтва: «Змагайся цярпліва, мужна перанось усялякія нягоды, беручы прыклад з мучанікаў, якія пралілі сваю кроў за Хрыста» [28].

Так як манах прыносіць сябе ў ахвяру Богу і зьяўляецца пераймальнікам Хрыста, то манаскі пострыг — гэта нешта вялікае і мае вартасьць ледзь не сьвятой тайны. Пра гэта нагадвае Кірыла свайму духоўнаму сыну: «Памятай, што ты чуў пры тваім пострыгу: «Вось Хрыстос тут стаіць нябачна». Дык глядзі, каму ты даваў абяцаньне. Падумай толькі: ці ж ты ня быў тады акружаны агнём страху Божага больш за гару Сынайскую? І ці ж не глыбей, як на Дошках Закону, былі вырытыя Словам Божым твае абяцаньні на цялесных дошках твайго сэрца? Сьцеражыся, каб не разьбіць іх тваёй дрэннай вераю» [29].

Ісьці ўслед за Хрыстом нялёгка: чалавек без правадніка можа заблудзіць, як некалі гэбраі, калі яны засталіся на нейкі час без Майсея, калі той узышоў на гару, каб гутарыць з Богам: «Майсей, загадаўшы ўсім прабываць у чысьціні, узышоў на гару, куды зышоў сам Бог, абкружыўшы гару агнём... І што сталася ў міжчасе? Усе цуды, якія яны бачылі, ня збавілі слабавольных людзей ад загубы. Яны прыйшлі да Аарона і пачалі прымушаць яго, каб даў ім бога. Калі іхняя воля была споўненая, яны селі есьці і піць, аж пакуль агонь не загарэўся, і многія згінулі ад гневу Божага. І ўсе яны згінулі б, калі б Майсей ня стаў перад Ім у пакоры, просячы, каб Ён адвярнуў свой гнеў і ня зьнішчыў іх, пакуль ня будзе зроблены Каўчэг Запавету». *(Гл. Выхад, разьдзел 32; Пс 105:23-24).*

Манах, каб яго не спаткаў падобны лёс, павінен знайсьці сабе духоўнага настаўніка — свайго Майсея, якому мусіць поўнасьцю даверыцца: «Пастарайся знайсьці мужа, які мае ў сабе Духа Хрыстовага, упрыгожанага дабрадзейнасьцямі, паважанага ўсімі, які ўсім сваім жыцьцём любіць Госпада больш за ўсё, ёсьць паслухмяны ігумену, ня мае злосьці на іншых братоў, а таксама ведае добра сьвятыя пісаньні, з дапамогаю якіх ён можа накіроўваць да Бога тых, што шукаюць неба. Такому перадай сябе, як Халеб Ісусу (Навіну), адсекшы сваю волю, каб быць табе чыстым посудам, які зьберагае ўсё добрае, што ў яго ўліваецца, аж пакуль ня станецца сьвятыняю Сьвятой Тройцы, паводле сказанага: Я і

Айцец мой прыйдзем і жыльлё зробім у табе» *(Ян 14:23)* [30].

Кірыла добра ведаў усе — добрыя і заганныя,— бакі законнага жыцьця. У ягоных творах можна часта спаткаць перасьцярогі супроць манахаў, якія «жывуць у манастыры бяз страху Божага і думаюць толькі пра свой страўнік і пра вопратку», а таксама «любяць сваё цела, часта мяняюць адзеньне, з нагоды сьвятаў ладзяць бяседы з папойкамі, зацягваюць зборы да позьняй ночы і стараюцца мець сваю волю над зьверхнікамі». Замест гэтага ён дае сваім духоўным сыном рады падобныя да вось гэтай: «Будзь слаўны ня сьветлай вопраткай, але добрымі ўчынкамі»; або: «Дрэва хваляць не за рост, а за плады. Таксама не манастыр робіць слаўнымі манахаў, але добрыя цноты манахаў робяць слаўным манастыр».

Гэтая апошняя думка знаходзіцца ў «Прыповесьці пра бесклапотнага цара», дзе ёсьць і іншыя цікавыя выказваньні пра жыцьцё ў манастыры. Так, законнае жыцьцё — гэта няспыннае ўслаўленьне Бога. У тлумачэньні да прыповесьці Кірыла кажа, што сьвятло, якое зьзяе ў пячоры,— гэта «ахвяра хвалы Богу, нязмоўкнае псаломскае пяяньне «алілуя». Бо гаворыцца: У ночы ўздымайце рукі вашыя да сьвятых рэчаў і бласлаўляйце Госпада (*Пс 133:2);* і яшчэ: Я ўстаў апоўначы, каб славіць Цябе» *(Пс 118:62).*

Жыцьцё ў манастыры ўладкаванае «згодна з апостальскімі звычаямі: ніхто ня мае нічога свайго, але ўсё там агульнае [31]. Усе знаходзяцца пад адным ігуменам, злучаныя з ім духоўнымі жыламі, як члены цела з галавою».

Беднасьць зьяўляецца адной з галоўных прыкметаў манаха: «Усякая багатая вопратка і цялесныя ўпрыгожаньні чужыя для ігумена і ўсяго манаскага стану. Бо Хрыстос кажа, што тыя, якія носяць мяккія вопраткі, жывуць у царскіх харомах (*Гл. Мц 11:8).* Затое манахі павінны быць апранутыя ў чысьціню, падпяразаныя праўдаю і ўпрыгожаныя пакораю».

Іншая неадлучная спадарожніца манаха — памяць пра сьмерць. Яна ягоная жонка, «якая сьпявае салодкую песьню: голас радасьці і вясельля ў жыльлях праведнікаў (*Пс 117:15).* Бо праведнікі вечна жыць будуць, і іхняя ўзнагарода ад Госпада (*Мудр 5:16*). Сьмерць праведніка — супакой (*Там жа 3:3*). Багацьці прамінаюць — не аддавайце сэрца вашага ім» *(Пс 65:11).*

Наогул, жыцьцё манаха — гэта няспынны высілак і праца над сабою: «(Некаторыя)... даўшы манаскія абяцаньні, хочуць дасягнуць сьвятасьці, не стараючыся перамагчы свае слабасьці. Хоць яны і чытаюць сьвятыя пісаньні, але думаюць, што Бог іх збавіць бяз высілку з іхняга боку. Але (калі так робім), не разумеем Паўла, які кажа: Бяз высілку ніхто ня можа атрымаць узнагароды. Тыя, што сьпяць, ня могуць перамагчы, а лянівыя ня могуць быць збаўленымі» [32]. Крыху далей Кірыла кажа: «Маючы такія абяцаньні, манахі, змагайцеся... Насьледуйце высілкі сьвятых айцоў і старайцеся пераўзысьці адзін аднаго ў плачы (за грахі), у трываньні, у малітвах, у паслугах... Уздыміце крылы вашага розуму, і паляцім разам далёка ад згубнага граху. Возьмем страву з кнігаў сьвятых і скажам разам з Давідам: Як салодкія паднябеньню майму словы Твае, яны для вуснаў маіх больш салодкія за мёд» (*Пс 118:103*).

Нягледзячы на высокія вымаганьні, Кірыла лічыў законнае жыцьцё лёгкім: «Забудзься пра зямныя рэчы, прымай з рукі кельляра лёгкі хлеб, быццам манну, і еш». Відаць, ён хацеў гэтым сказаць, што манах, даўшы абяцаньне паслушэнства, вызваліўся ад клопатаў штодзённага жыцьця.

Кірыла неаднаразова напамінаў манахам пра патрэбу пакоры. З другога боку, ён уважаў, што манахам, верным свайму пакліканьню, належыць пашана: «Унутраныя дабрадзейнасьці сьвятых манахаў зьзяюць ясьней за сьвецкую славу, і таму магутныя гэтага сьвету схіляюць перад імі свае галовы і аддаюць пашану, якая належыць тым, хто дагадзіў Богу».

Вось галоўныя думкі сьв. Кірылы аб законным жыцьці. Прыблізна сто гадоў раней сьвяты Хвядос даваў кароткія настаўленьні манахам Кіева-Пячэрскай лаўры. Некалькі настаўленьняў дайшлі да нашых дзён, і яны захапляюць сваёй прастатой і евангельскім духам. У Кірылы ўжо не кароткія настаўленьні на асобныя тэмы, але спроба — першая ва ўсходнеславянскай рэлігійнай літаратуры — сыстэматычнага падручніка манастырскай аскетыкі.

Аскетычныя творы сьв. Кірылы сьведчаць аб глыбокай духоўнасьці аўтара. Сёньня шмат каму яны могуць здацца залішне строгімі. Можна таксама сказаць, што пачуцьцё страху Божага ў Кірылы часта пераважае любоў.

У гэтым ён быў толькі верны традыцыям бізантыйскай духоўнасьці. Кірыла асабліва блізкі да сьв. Тодара Студыта (пачатак IX ст.), чые правілы законнага жыцьця былі ў тым часе прынятыя ўсімі ўсходнеславянскімі манастырамі. Гэтыя правілы вызначаліся выманганьнямі строгай, але разумнай дысцыпліны і безумоўнага паслушэнства. Апроч Тодара Студыта, сярод усходніх славянаў былі вядомыя аскетычныя творы сьв. Базыля Вялікага (IV ст.) і Яна Лесьвічніка. Несумненна, гэтыя вялікія духоўныя настаўнікі мелі, пасрэдна ці непасрэдна, уплыў на сьв. Кірылу.

Сам Кірыла ня меў прэтэнзіяў на арыгінальнасьць, як ён сам прызнаецца ў сваім «Сказе пра манаскі стан»: «Гэтыя словы я напісаў не ад сябе, але з кнігаў. А калі хто інакш вытлумачыць, дык спрачацца ня будзем. Мы не жняцы, але коласазьбіральнікі, і няхітрыя ў кнігах. Мы грубыя (нявучоныя) слугі і больш за ўсіх маем патрэбу ў вашых айцоўскіх малітвах у Хрысьце Ісусе, Госпадзе нашым, якому хай будзе слава разам з Айцом і Сьвятым Духам, цяпер і заўсёды, і на векі вечныя. Амін».

Нягледзячы на гэтыя пакорныя запярэчаньні, аскетычныя творы Кірылы, асабліва «Сказ пра манаскі стан», маюць дастаткова арыгінальнасьці і цікавасьці, каб забясьпечыць іх аўтару пачэснае месца сярод духоўных пісьменнікаў. Яны ня страцілі сваёй вартасьці і ў сёньняшні дзень — для тых, хто, паводле словаў Кірылы, «шукае неба».

## III. ПЯСЬНЯР БОЖАЕ МІЛАСЭРНАСЬЦІ

Духоўны воблік Кірылы нідзе не выступае так ясна, як у ягоных малітвах. Усяго іх налічваецца трыццаць — па чатыры і больш на кожны дзень тыдня. Па сваім характары малітвы Кірылы — «келейныя», прызначаныя для прыватнага ўжытку. Большасьць малітваў зьвернутыя да Бога ў Тройцы адзінага і да Госпада Ісуса Хрыста. У малітвах да сьвятых захаваны парадак тыднёвага літургічнага кругу: у панядзелак — анёлам; у аўторак — Яну хрысьціцелю, у чацьвер — апосталам і сьвятому Міколу; у суботу — усім сьвятым. Серада ў асаблівы спосаб прысьвечаная Найсьвяцейшай Багародзіцы, а ў пятніцу ўспамінаецца Крыж Гасподні.

Малітвы сьв. Кірылы маюць галоўным чынам пакутны характар. Асноўная думка ў іх — гэта вобраз

грэшнага чалавека, які стаіць перад Творцам і ня мае іншай надзеі на збаўленьне, апрача Божай міласэрнасьці. Разумеючы, аднак, што няўдзячныя ня могуць чуць жалю за грахі, Кірыла пачынае малітву звычайна ад услаўленьня Божай велічы і дабрыні: «Слава Табе, Госпадзе Божа мой, што Ты ўдастоіў мяне бачыць дзень Твайго слаўнага ўваскрасеньня, у які Ты вызваліў душы праведных, зьвязаных у пекле. Гэтага вызваленьня прагну і я, Уладару мой. Збаў мяне, зьвязанага шматлікімі грахамі, і зрабі, каб у пацямнелай душы маёй зазьзяла сьвятло Тваёй ласкі. Я ведаю Твае незьлічоныя шчадроты, Тваю невыказную любоў да людзей. Ты прывёў мяне з небыцьця да існаваньня і ўпрыгожыў падабенствам Твайго вобразу; Ты ўзвысіў мяне вышэй за іншыя зямныя істоты, даў мову і розум і паставіў мяне ўладаром усяго стварэньня. Ведаючы ўсе дні майго жыцьця, Ты апекаваўся мною ад майго дзяцінства, каб я мог быць збаўленым і стацца сябрам слаўнага чыну Тваіх анёлаў» (*Малітва ў нядзелю раніцай*).

А вось яшчэ адзін прыклад: «Што Табе дам, Госпадзе Ісусе Хрысьце, Сыне Божы, за ўсё, што Ты зрабіў для людзкога роду? Якую адплату ахвярую Табе за Тваю дабрыню? Ні неба, ні зямля ня могуць прынесьці Табе дастойныя дары. Ты сам захацеў прыйсьці на зямлю, каб збавіць грэшнікаў. Будучы бесьцялесным, Ты прыняў цела дзеля нас і дабравольна стаўся бедным, будучы багатым» (*Малітва ў пятніцу пасьля гадзінаў*).

З усьведамленьнем бязьмежнасьці Божай дабрыні перад грэшнікам з яшчэ большай сілай паўстае веліч ягоных злачынстваў: «Я ж няшчасны, усімі маімі пачуцьцямі гнаўся за цялеснымі асалодамі і ўваліўся ў гной грахоў, і зрабіў сябе чужым для Тваёй ласкі. Будучы сынам Тваім праз нараджэньне ў хрышчэньні, я стаўся нявольнікам граху. Таму ўздыхаю з глыбіні сэрца і хварэю душою, і ўвесь занемагаю, думаючы пра судны час. Што пачую ад Судзьдзі? Дзе мне схаваць безьліч маіх правінаў? Ня маю нікога, хто б мне дапамог і збавіў мяне. Што мне рабіць, Госпадзе мой, Госпадзе! Ня ведаю, да каго зьвярнуцца, каб прасіць збаўленьня маёй душы» (*Малітва ў нядзелю раніцай*).

Вялікі сум адчуваецца ў апісаньні стану грэшніка: «Я зышоў з праўдзівага шляху, які вядзе да жыцьця, і ўхіліўся ў пустыню асалодаў. Я заграз у балоце маіх дрэнных

учынкаў і стаўся ўвесь паранены цернямі беззаконьня. Вораг убачыў мяне ў гэтым жалю годным стане і ў яшчэ горшых брыдотах захацеў утапіць маю няшчасную душу» (*Малітва ў сераду вечарам*).

Аднак усьведамленьне грэшнасьці не павінна стацца прычынаю да зьняверанья. Бог літасьцівы і ня хоча сьмерці грэшніка. Ён не адкідае таго, хто прыходзіць да Яго са скрухаю сардэчнаю. Таму грэшнік шукае прытулку ў Бога, і ў сваё апраўданьне, не бяз долі гонару, сьцьвярджае, што, хоць ён і зграшыў, але ніколі не ўзьняў рук да чужога бога і ня страціў надзеі ў Божую міласэрнасьць: «Ня дай мне згінуць да канца, Ісусе — салодкае імя,— Ты, які стварыў мяне і даў мне жыцьцё! Глянь на маю пакорлівасьць: хоць я і зграшыў бяз ліку, але ніколі не ўзьняў рук да чужога бога і не ўсумніўся, ведаючы Тваю любоў да грэшнікаў. Я разважаю пра Давіда: ён, будучы царом, упаў у бездань грэшных пажаданьняў і зрабіў забойства, але пакаяўся перад Табою, Богам і Творцам, і аказаўся вартым Тваёй міласэрнасьці» (*Малітва ў нядзелю раніцай*).

Прыклад Давіда і іншых старазапаветных сьвятых, якія праз пакаяньне атрымалі адпушчэньне грахоў, умацоўвае грэшнікаў ў надзеі. Часам у Кірылы вырываецца сапраўдны гімн у гонар пакаяньня, што адчыняе дзьверы Божай міласэрнасьці: «Да каго мне прыбегнуць, шукаючы збаўленьня, як не да Цябе, Творца мой? Ведаю Тваю доўгацярплівасьць і сапраўдную любоў да людзей. Хто зможа выказаць усе цуды, якія Ты зрабіў адвеку, і годна ўсхваліць Тваю міласэрнасьць? Ты ня цешышся са сьмерці грэшніка, але радуешся з ягонага навароту да жыцьця. Дзеля гэтага ад самага пачатку Ты паказаў нам вобразы пакаяньня. Ты зьлітаваўся з Ізраіля, які прагневаў Цябе ў пустыні, а потым пакаяўся. Ты збавіў ніневіцянаў, вызваліў з путаў Манасію і Езакію вярнуў ад сьмерці да жыцьця. Што большае за пакаяньне, так мілае Твайму Духу? Уся праўда чалавечая ёсьць як павуціньне, што лёгка разьдзіраецца. Хто можа пахваліцца перад Табою, што мае праведнае сэрца, або што ён чысты ад граху? Фарысэй праведны пахваліўся і быў асуджаны. Я ж, няшчасны, абняты безьліччу злых грахоў, што зраблю? У якую бездань укіну сябе? О сіла сьлёзаў, о салодкая пакута, дзякуючы якой Ты асьвяціў Давіда і зрабіў яго прарокам, апраўдаў мытніка, грэшніцу ачысьціў і,

сустрэўшы з радасьцю блуднага сына, зрабіў яго ўдзельнікам Тваёй Боскай бяседы!» (*Малітва ў пятніцу раніцай*).

Вялікім пацяшэньнем для грэшніка ёсьць усьведамленьне, што ён не адзін, але мае магутных прыяцеляў і апекуноў — анёлаў, апосталаў, сьвятых, у першую чаргу Найсьвяцейшую Багародзіцу. Сваімі малітвамі і заступніцтвам яны дапамагаюць нам. Кірыла ў асаблівы спосаб усхваляе Маці Божую, «у чыёй моцы наша збаўленьне»: «Надзея ўсіх канцоў зямлі, Найсьвяцейшая Багародзіца, анёлаў вялікае зьдзіўленьне, пракракаў узвышанае прапаведаваньне, апосталаў хвала, мучанікаў цьвёрдае ўмацаваньне, сьвятаначальнікаў (біскупаў.— *А. Н.*) выдатнае ўпрыгожаньне, уладароў непераможная дзяржава, цэркваў пачэсная краса, манахаў сьвятая надзея, поснікаў непарушная моц, верных пэўная абарона, лёгкае выздараўленьне хворых, добрая настаўніца тых, што зблудзілі, хуткая заступніца ў бядзе, любоўная пацеха для тых, каго ненавідзяць, карміцелька сіротаў, ціхая радасьць матак, настаўніца мудрасьці для маленькіх, спакойнае прыстанішча для тых, што плаваюць, спадарожніца падарожных, супакой для спрацаваных, невычэрпнае багацьце бедных, покрыва і прытулак для пакрыўджаных, пацяшэньне сумных, прымірэньне з Богам грэшнікаў, надзейная абарона ўсіх хрысьціянаў і вядомае збаўленьне ўсяго сьвету... Усхваляю Цябе анёльскім прывітаньнем: Радуйся, поўная ласкі Дзева, Маці Багародзіца, зямное неба, адухоўленая сьвятыня, харам прасторны, селішча Бога незьмяшчальнага, сьветлы ліхтар, памочніца, хутчэйшая за маланку, зорка незаходная, чаша, што мае ў сабе віно збаўленьня, купеля, што абмывае грахі, узвышэньне роду людзкога, пасад Хлеба жыцьця, Маці Хрыста Бога нашага! Малі Яго, каб Тваім заступніцтвам выбавіў мяне ад вечнае мукі, цяпер і заўсёды, і на вякі вечныя. Амін» (*Малітва ў сераду раніцай*).

А вось як Кірыла зьвяртаецца да сьвятога Апостала Пятра: «Сьвяты Пётра, першапасадны, цьвёрды каменю веры, непарушная аснова Царквы, пастыру духоўнага статку Хрыстовага, ключару валадарства нябеснага, лавец у глыбіні, што пераўзыходзіць усякае ўяўленьне! Малю цябе, уседастойны: зрабі, каб абняла мяне Боская сетка, і выцягні мяне са згубнай глыбіні. Я ведаю, што ты атрымаў ад Бога ўладу вязаць і разьвязваць. Разь-

вяжы, прашу, мяне, зьвязанага грэшнымі путамі, і пакажы міласэрнасьць тваю мне, убогаму слузе твайму. Ажыві маю пакорную душу, як некалі ты ажывіў Тавіту; пастаў мяне на добры шлях, як ты некалі паставіў з пасьцелі кульгавага ў Красных Варотах. Ты ценем сваім праганяў немачы і хворасьці: хай упадзе на мяне цень тваёй дабрыні, што праганяе духоўныя хваробы і цялесныя слабасьці. Ты, сьвяты, можаш усё сілаю Хрыста, дзеля якога ты пакінуў усё і, палюбіўшы Яго, пайшоў усьлед за Ім і за Ягонае сьвятое імя насіў путы. Памаліся да Яго за мяне, няшчаснага, каб я мог выбавіцца тваімі малітвамі ад усякага зла» (*Малітва ў чацьвер раніцай*).

Такім чынам, нягледзячы на пакутны характар малітваў Кірылы, у іх адсутнічае дух зьняверанасьці ці роспачы. Наадварот, яны поўныя хрысьціянскага аптымізму, які мае сваю аснову ў веры ў бязьмежную Божую міласэрнасьць. Таму глыбокі і шчыры жаль за грахі спалучаецца з ціхай душэўнай радасьцю. Гэтая радасьць часам выліваецца ў натхнёную песьню хвалы Богу: «Зрабі мяне годным, Госпадзе, убачыць ранішнюю зару і сонца і, з Тваёй дапамогаю, захавацца ад граху; і дай, каб я мог славіць, Уладару, Тваю дабрыню. Ты стварыў увесь гэты прыгожы сьвет на службу для нас, грэшных: зрабі і мяне дастойным гэтых Тваіх дароў. Малюся Табе, літасьцівы Госпадзе, дай, каб адзін дзень я мог аглядаць вечнае, бясконцае і непрамінальнае сьвятло аблічча Твайго. А цяпер, падбадзёраны ласкаю Тваёю, і ўсьцешаны Тваёй міласэрнасьцю, усклікаю: Слава Табе, сьвятая, адзінасутная, неразьдзельная і жыватворчая Тройца, Ойча, Сыне і Сьвяты Духу, цяпер і заўсёды, і на вякі вякоў. Амін» (*Малітва ў суботу вечарам*).

Гімнаграфічная спадчына сьв. Кірылы прадстаўлена двума канонамі.

Канон — гэта даволі складаны твор, які зьявіўся ў бізантыйскай гімнаграфіі ў пачатку VIII стагодзьдзя. Першым аўтарам канонаў лічыцца сьв. Андрэй Крыцкі (660—740). Ягоны «Вялікі Канон», які сьпяваецца ў Вялікі Пост, адзначаецца пакутным характарам і празьмернай даўжынёю.

Поўны канон мае дзевяць песьняў, кожная з якіх зьвязаная з адной з песьняў Сьвятога Пісаньня. Звычайна, за выняткам некаторых канонаў Вялікага Посту, другая песьня адсутнічае, так што пасьля першай песьні

ідзе адразу трэцяя. Першая страфа кожнай песьні называецца «ірмас» і служыць лучнікам між гэтай песьняй і адпаведнай песьняй Сьвятога Пісаньня.

Кірыла вядомы як аўтар г. зв. «Малебнага канону». Пакутны характар твору і тое, што ён мае ўсе дзевяць песьняў, паказваюць, што ён быў прызначаны для ўжытку ў першую чаргу ў Вялікі Пост. Вось ягоная першая песьня:

«*Ірмас.* Прыгадай, душа, правую руку Майсея і ўцякай з грэшнага Ягіпту, адкінуўшы няволю духоўнага фараона. Вазьмі Крыж за падпору сабе і перайдзі пакорна мора пажадлівасьцяў, усклікаючы: Пяём песьню Госпаду, бо Ён праславіўся.

Я сам вінавачу сябе за дрэнныя ўчынкі, якімі я ўгнявіў Хрыста і зламаў Ягоныя прыказаньні. Сёньня перадаю на пісьме мае думкі, словы і ўсе агідныя ўчынкі, каб сьвет пачуў пра іх.

Як доўга, бедная душа мая, будзеш зблытаная цялеснымі асалодамі, крыўдамі, бязьлітаснасьцю, гордасьцю і п’янствам? Гэта варожыя пасткі, якія зьвядуць цябе жывою ў пекла. Лепш пакайся і ўсклікні: Разарві, Хрысьце мой, мае грэшныя путы і збаў мяне!

Цябе нязмоўкна хваляць вогненнымі галасамі хоры сэрафімаў, Найсьвяцейшая Тройца, Творца ўсяго сьвету. І я прыбягаю да Цябе, просячы адпушчэньня маіх шматлікіх грахоў. Збаў мяне, літасьцівы Творца мой, хоць у апошнюю хвіліну.

Як неразумныя дзевы, ня маю ліхтара пакаяньня, ані запасу алею міласэрнасьці. Таму дарэмна стукаю ў зачыненыя дзьверы. Маці Божая, збаў ад мукі маю няшчасную душу!»

Пераход ад тэмы першай песьні Сьвятога Пісаньня *(Выхад 15:1-19)* да тэмы канону ў ірмасе Кірыла зрабіў праз параўнаньне уцёкаў душы ад граху да выхаду гэбраяў з Ягіпту пад кіраўніцтвам Майсея. У перадапошняй страфе ўслаўляецца Сьвятая Тройца, а ў апошняй — Багародзіца.

Ірмас другой песьні гучыць так:

«Пачуй неба,— сказаў Майсей, калі напісаў другі закон для тых, што зламалі першы. Зразумей, душа, твой упадак: Бог справядлівы, Ён судзіць праведна і дае кожнаму паводле ягоных учынкаў».

Адпаведнай песьняй Сьвятога Пісаньня ёсьць песьня

Майсея ў Кнізе Другога Закону (*32:1-43*), якая пачынаецца: «Слухай неба, я буду гаварыць, слухай, зямля, словы вуснаў маіх... Імя Госпада праслаўлю: дайце славу Богу... Ён — цьвярдыня... Ён праведны і справядлівы. Але яны (г. зн. гэбраі) разбэсьціліся перад Ім, яны ня дзеці Ягоныя, род лянівы і распусны».

Трэці ірмас злучае канон з песьняй Ганны, маці прарока Самуіла (*1 Царстваў 2:1-10*). Ганна была бязьдзетнаю, але Бог пачуў ейную малітву і даў ёй сына, якога яна, згодна з абяцаньнем, ахвяравала Госпаду. Ганна засьпявала Богу хвалебную песьню: «Ніхто не сьвяты, апроч Госпада; няма іншага (бога), апроч Цябе, і няма цьвярдыні, апроч Бога нашага... Сытыя працуюць бяз хлеба, а галодныя адпачываюць; нават няплодная родзіць сем разоў, а шматдзетная занемагае. Госпад умярцьвяе і ажыўляе, зводзіць уніз і ўзвышае». Вобраз бязьдзетнай Ганны наводзіць аўтара на роздум аб сваёй душы, якая сталася няплоднай з прычыны грахоў. Ён просіць Бога, каб Той зрабіў яе зноў пладавітай:

«Ты, Божа ўсемагутны, зрабі зноў дабраплоднаю маю душу, зьнямоглую ад грахоў, і маё спустошанае сэрца: у пакоры духа прыношу Табе гэтую малітву».

Як і іншыя творы Кірылы, ягоны канон напоўнены біблейскімі вобразамі. У прыведзеным вышэй прыкладзе ёсьць напамін аб прыповесьці пра мудрых і неразумных дзеваў (*Мц 25:1-12*). Лёс старазапаветнага Лямеха (*Быцьцё 4:23-24*) змушае аўтара задумацца над сваімі ўчынкамі:

«Як Лямех, вызнаю перад усімі грахі мае, але дрэнных звычак не пакідаю. Гора мне, няшчаснаму, вартаму ўсіх мукаў».

У іншым месцы Кірыла прыраўноўвае грэшніка да згубленай драхмы (*Лк 15:8-9*):

«Ты, Хрысьце шматлітасьцівы, не жадаеш сьмерці грэшніка. Запалі ліхтар Тваёй міласэрнасьці і знайдзі мяне, Тваю драхму і, паклікаўшы сьвятых суседзяў, спраў бяседу для анёлаў і людзей».

Пакутны характар і насычанасьць біблейскімі вобразамі збліжаюць Канон Кірылы з Вялікім Канонам Андрэя Крыцкага і з вялікапоснымі творамі Тодара Студыта.

Другі вядомы канон сьв. Кірылы напісаны ў гонар сьв. Вольгі, бабкі Уладзімера Кіеўскага, якая прыняла

Хрысьціянства ў 954 г. Рукапіс канону быў упершыню знойдзены і апублікаваны Н. Нікольскім у 1907 г. І. Яромін лічыць, што няма прычынаў сумнявацца ў яго аўтэнтычнасьці. Магчыма, канон быў напісаны з нагоды залічэньня Вольгі да ліку сьвятых і такім чынам дае прыблізную дату яе кананізацыі. Тон гэтага твору ўрачысты і ўзьнёслы, але з мастацкага боку ён слабейшы за «Малебны канон». Вось адна страфа з першай песьні:

«Ты наша веліч і слава, Вольга багамудрая. Табою мы вызваліліся ад ідальскай спакусы. Цяпер маліся за род наш і людзей, якіх ты прывяла да Бога. Пяём песьню Хрысту, бо Ён праславіўся».

Наогул, гімнаграфічная спадчына Кірылы чакае яшчэ свайго дасьледчыка.

Калі судзіць пра вартасьць малітвы паводле ейнае здольнасьці парушаць людзкія сэрцы і накіроўваць думкі да Бога, то малітвы Кірылы маюць гэтыя якасьці ў вялікай меры.

Яны вызначаюцца глыбінёй і шчырасьцю рэлігійных пачуцьцяў. Іхнія мастацкія вартасьці паказваюць, што аўтар меў немалыя паэтычныя здольнасьці. Дзеля гэтага Кірылу справядліва належыцца гонар быць першым беларускім паэтам.

Высокія мастацкія і духоўныя вартасьці малітваў Кірылы былі прызнаныя ўсімі, хто меў нагоду пазнаёміцца з імі. Е. Галубінскі, звычайна вельмі скупы на пахвалы, прызнае, што «адносна малітваў Кірылы Тураўскага, дык яны прадстаўляюць сабою надзвычай добрыя аратарскія творы, якія з усёй справядлівасьцю павінны заняць месца сярод найлепшых малітваў грэцкіх аўтараў» [33]. Макары быў яшчэ больш шчодры на пахвалы: «Паводле стылю і зьместу як канон, так і малітвы павінны быць залічаныя да найлепшых твораў гэтага роду, якія існуюць у Праваслаўнай Царкве» [34]. На Беларусі малітвы Кірылы былі нагэтулькі папулярнымі, што яны выдаваліся шмат разоў друкам у XVI і XVII стагодзьдзях.

Хоць малітвы Кірылы носяць пакутны характар, у іх, як зоркі, што зьзяюць сьвятлом надзеі для грэшніка, усюды падкрэсьліваецца веліч Божай міласэрнасьці і Ягоная любоў да людзей. Дзеля гэтага можна справядліва назваць Кірылу «песьняром Божае міласэрнасьці».

## ДАДАТАК

## СЬПІСАК ВАЖНЕЙШЫХ ВЫДАНЬНЯЎ ТВОРАЎ СЬВЯТОГА КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

1. Калайдович К. Памятники российской словесности XII века. Масква, 1821. У кнізе зьмешчаны ўсе словы і аскетычныя творы Кірылы, разам з некаторымі сумніўнымі.

2. Молитвы на всю седмицу св. Кирилла, епископа Туровского. «Православный собеседник», Казань, 1857. С. 235—260, 273—351.

Трыццаць малітваў Кірылы з рукапісных крыніцаў.

3. Kirill von Turow. Gebete. München, Eidos Verlag, 1965.

Рэпрынт папярэдняга выданьня.

4. Сухомлинов М. И. Рукописи графа Уварова. Т. II, СПб., 1858.

Творы Кірылы, якія знаходзіліся ў зборах Уварава. Грунтоўны ўступ.

5. Творения святого отца нашего Кирилла, епископа Туровского. Издание Евгения, епископа Минского и Туровского. Киев, 1888.

Словы ў расейскім перакладзе. Малітвы і Малебны канон ў арыгінале і ў перакладзе на расейскую мову.

6. Макарий. История Русской Церкви. Изд. третье, СПб., 1888. Том III. С. 125—181, 316—320.

Тры малітвы і Малебны канон сьв. Кірылы. Абшырнае апісаньне ягонай пісьменьніцкай спадчыны.

7. Пономарев А. И. Святой Кирилл, епископ Туровский и его поучения. Памятники древнерусской церковно-учительной литературы. Вып. I. СПб., 1894. С. 87—198.

Словы Кірылы. Добры ўступ і камэнтары.

8. Никольский Н. К. Материалы для истории древнерусской духовной письменности. Сборник ОРЯС АН. Т. 82, кн. 8, СПб., 1907.

Жыцьцё Кірылы з «Пралёгу», Канон у гонар сьв. Вольгі і шэраг сумніўных твораў.

9. Еремин И. П. Литературное наследие Кирилла Туровского. Труды Отдела древнерусской литературы АН СССР. М-Л. Т. XI, 1955, сс. 342—367; т. XII, 1956, сс. 340—361; т. XIII, 1957, сс. 409—436; т. XV, 1958, сс. 331—348.

Найлепшае крытычнае выданьне словаў і аскетычных твораў Кірылы, папярэджанае бібліяграфічным аглядам. Гл. таксама артыкул гэтага аўтара: Ораторское искусство Кирилла Туровского. ТОДРЛ. Т. XVIII, 1962. С. 50—58.

10. Лабынцаў Ю. «Напой росою благодати...». Мн., «Маст. літ.», 1992.

Факсімільнае выданьне малітваў Кірылы з «Штодзённых малітваў», 1596 г.

11. Cyryl Turowski. Homilie Pascalne. Przekład i komentarze: Wacław Hryniewicz. Opole, 1992.

Словы Кірылы ў перакладзе на польскую мову. Добры ўступ і камэнтары.

12. Sermons and Rhetoric of Kievan Rus. Translated and with Introduction by Simon Franklin. Harvard UP, 1991.

Словы і аскетычныя творы Кірылы, а таксама ягонае жыцьцё з «Пралёгу», у перакладзе на ангельскую мову. Падыход перакладчыка і аўтара ўступу да жыцьця і творчасьці Кірылы «асьцярожны», у адрозьненьне ад, паводле яго, «неасьцярожнага» падыходу іншых аўтараў. Уступ пачынаецца так: «Кірыла Тураўскі, праўдападобна, існаваў. Калі ён існаваў, то, праўдападобна, жыў у другой палове XII стагодзьдзя, быў, несумненна, манахам, а магчыма, пасьля і біскупам Тураўскім. Магчыма, ён таксама напісаў нейкую колькасьць словаў і малітваў і некалькі лістоў».

## ЗАЎВАГІ

[1] «Пралёг» — зборнік кароткіх жыцьцяпісаў сьвятых і павучальных словаў сьвятых айцоў на кожны дзень. Тое самае, што сынаксар (ад грэцкага «сынаксарыён» — зборнік). «Пралёг» (ад грэцкага «пролегомэна») азначае «ўступ» або «прадмова», але славянскія перакладчыкі ўзялі гэтае слова як назву для ўсёй кнігі.

[2] «Бо Рагвалод прыйшоў з-за мора і меў уладу ў Полацку, а Туры ў Тураве: ад яго і пачалі называцца тураўцамі». Полное собрание русских летописей. Т. I, Ленинград, 1926, с. 76.

[3] Гл. Тихомиров М. Н. Древнерусские города. М., 1956, сс. 305—306.

[4] Полное собрание русских летописей. Т. I, с. 121.

[5] Baumgarten, N. Génealogies et marriages occidentaux des Rurikides russes. Rome, 1927, pp. 10—11.

Leib E. Rome, Kiev et Byzance. Paris, 1924, pp. 155—157. Больш абшырна пра Сьвятаполка і ягоную жаніцьбу гл.: Королюк В. Д. Западные славяне и Киевская Русь. М., 1964, сс. 208—268.

[6] Baumgarten... там жа.

[7] Baumgarten... там жа; Творения святого отца нашего Кирилла... Кіеў, 1888, с. VIII (уступ).

[8] Першы раз гэтая вестка сустракаецца ў г. зв. «Запавеце блаславёнага Ўладзімера для Тураўскай епіскопіі» ў Кіеўскім Пацерыку Язэпа Трызны (1647—55). Там гаворыцца, што Ўладзімер «трэцюю багамольную епіскопію заснаваў у Тураве ў лета 6513 (г. зн. 1005.— *А. Н.*) і даў ёй гарады і пагосты... і паставіў першага біскупа Тамаша...» (Гл. Голубинский Е. Е. История Русской Церкви. Т. I, паўтом I. М., 1901, с. 681).

Нягледзячы на позьняе паходжаньне весткі, Е. Галубінскі, а перад ім Макары (История Русской Церкви. Т. 1, с. 26) схіляюцца лічыць яе праўдзіваю. Зусім іншай думкі польскі дасьледчык А. Поппэ, які лічыць, што няма ніякіх пэўных вестак пра існаваньне біскупскага пасаду ў Тураве раней за XII стагодзьдзе (Poppe A. Państwo i Kościół na Rusi w XI wieku. Warszawa, 1968, ss. 183—188).

У кожным выпаду выглядае, што Тамаш, калі ён і быў, ня меў непасрэдных наступнікаў.

[9] «Сказание о Туровском мнихе Мартине». Творения... с. 295; таксама: Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926, с. 25.

[10] Полное собрание русских летописей. Т. II, сс. 314 і 330.

Для паўнаты варта зацеміць, што летапісы гавораць пра

высьвячэньне ў біскупы ў 1114 г. нейкага Кірылы (ПСРЛ. Т. I, с. 290), якога некаторыя аўтары ўважаюць біскупам Тураўскім. Тацішчаў падае, што ў 1146 г. на Тураўскі пасад быў назначаны нехта Іван (Татищев В. Н. История российская. Т. II. М. Л., 1963, с. 151).

Сьпіс вядомых Тураўскіх біскупаў да сьв. Кірылы выглядае наступным чынам: Тамаш (сумніўны, 1005—?), Кірыла (сумніўны, 1114—?), Сымон, Ігнат, Якім (1144—46), Іван (сумніўны, 1146—?), Юры (1146— прыбл. 1169) і, нарэшце, сьв., Кірыла (1169—1182 прыбл.). Пасьля Кірылы біскупам быў Лаўрэн (1182—?).

[11] Больш дакладна пра гэтыя падзеі і пра палітычную гісторыю Турава гл.: Лысенко П. Ф. «Киев и Туровская земля», у кн.: Киев и западные земли Руси в XI—XIII вв. Мн., 1982, сс. 81—108.

[12] Вось сьпіс Тураўскіх цэркваў і манастыроў, назвы якіх дайшлі да нашага часу: цэрквы сьвятога Спаса і Багародзіцы, пра якія згадваецца ў «Запавеце Ўладзімера»; царква і манастыр сьв. Зьміцера; царква сьв. Пятра (заснаваная Яраполкам), царква арханёла Міхала (заснаваная Сьвятаполкам II); манастыр сьв.сьв. Барыса і Глеба; манастыр сьв. Міколы, дзе манахам быў сьв. Кірыла; жаночы манастыр сьв. Барбары.

Лік каля сарака цэркваў і манастыроў, які падае Калайдовіч (Гл. ягоныя «Памятники...», с. XII (уступ)), відочна перабольшаны.

[13] Fedotov G. P. The Russian Religious Mind. New York, 1960, p. 71.

[14] Татищев. История российская. Т. III, с. 129

[15] Больш пра асьвету ў XII ст. гл. артыкул Н. С. Чаева. «Просвещение», у кн. «История культуры древней Руси». Т. II, М.-Л., 1951, сс. 216—244.

[16] «Малітвы ўмільныя недастойнага і больш за ўсіх грэшнага манаха Кірылы ў сьвятога Міколы ў Тураве...». Гл. «Творения...», с. LXXX (уступ).

[17] Тураўскім князем быў тады, напэўна, Сьвятаполк (1167—90), сын Юра Яраслававіча, а Кіеўскім мітрапалітам — грэк Канстантын II (1167—?).

[18] На загад мітрапаліта Канстантына яго завезьлі на «Пёсі востраў» на Дняпры, адрэзалі правую руку і язык і выкалалі вочы (ПСРЛ. Т. I, с. 356; т. II, с. 552—553). Праўда, летапісец кажа, што раней Тодарац паступаў ня менш нялюдзка са сваімі праціўнікамі.

[19] Няма нічога дзіўнага ў факце перапіскі біскупа Тураўскага з гордым князем. У 1151 Андрэй Багалюбскі атрымаў ад свайго бацькі, Юра Даўгарукага, Тураў разам з Пінскам, Драгабужам і Перасопніцай. Магчыма, ён і Кірыла былі знаёмыя з таго часу.

[20] Летапісы падаюць розныя даты арышту Тодарца. Паводле Лаўрэнцеўскага летапісу, гэта здарылася 8 траўня 1169 г. (ПСРЛ. Т. I, с. 355), а паводле Іпацеўскага — 8 траўня 1172 г. (ПСРЛ. Т. II, с. 552). Звычайна прымаецца першая дата.

[21] ПСРЛ. Т. II, с. 627.

[22] Голубинский Е. Е. История канонизации святых Русской Церкви. Чтения в Обществе истории и древностей российских,

кн. I. М., 1903, с. 140.

[23] Г. зн. татараў.

[24] Тут і далей разглядаюцца толькі творы, якія бясспрэчна належаць сьв. Кірылу. Гл. пра гэта: Еремин И. П. Литературное наследие Кирилла Туровского. ТОДРЛ. Т. XI, сс. 342—367.

[25] Вось для параўнаньня кароткі зьмест «Гісторыі пра Барлаама і Яасафа»: «Быў цар, які разумна правіў сваёй дзяржавай і ласкава абыходзіўся з людзьмі. Было толькі дрэнна, што ён ня ведаў Бога і пакланяўся ідалам. Быў у цара адзін добры дарадчык, які меў дар веры ў Бога... Ён шукаў нагоды зьвярнуць увагу цара на тое, што ёсьць добрым. Адзін раз уночы цар сказаў яму: Хадзем, паходзім па горадзе, можа, убачым нешта павучальнае. Ходзячы так, яны заўважылі прамень сьвятла, які выходзіў праз шчыліну. Прыпаўшы да шчыліны, яны ўбачылі пячору, а ў ёй мужчыну, які жыў бедна і быў апрануты ў рызьзё... Побач з ім стаяла ягоная жонка і чэрпала віно. Калі мужчына прымаў віно ў свае рукі, яна сьпявала яму салодкую песьню і цешыла яго танцамі і пахваламі... Цар сказаў дарадчыку: Што гэта за цуд, што наш стан, такі багаты на розныя гонары і выгоды, ніколі ня меў у сабе столькі радасьці, колькі мае беднае жыцьцё гэтых простых людзей... Ён спытаўся ў дарадчыка, хто былі гэтыя людзі, і пачуў адказ. Гэта ўсе тыя, што аддаюць перавагу вечнаму над дачасным» (Паводле St. John Damascene, Barlaam and Joasaph. Loeb Classical Library, Heineman, London, 1953, pp. 229—232).

Першы, хто зьвярнуў увагу на падабенства «Гісторыі пра Барлаама і Яасафа» і прыповесьці Кірылы Тураўскага, быў Сухамлінаў у 1858 г.

Перайманьне тэмаў было звычайным зьявішчам у старажытнасьці. Дый сама «Гісторыя пра Барлаама і Яасафа» была хрысьціянскай перапрацоўкай старой індускай легенды пра жыцьцё Будды. Перад тым, як атрымаць сваю канчатковую хрысьціянскую форму, яна пацярпела шмат зьменаў і сталася часткаю народнай творчасьці многіх усходніх народаў. Украінскі паэта і вучоны Іван Франко выказаў нават думку, што Кірыла, магчыма, запазычыў сюжэт не з пісьмовых крыніцаў, а з вуснага пераказу (Гл. ягоны артыкул «Притча про сліпца і хромца», Статьи по славяноведению под ред. В. И. Ламанского, Вып. II, СПб., 1906, сс. 137—139).

Варта заўважыць, што «Гісторыя пра Барлаама і Яасафа» была шырока вядомая ў Беларусі. У 1637 г. яна выйшла друкам на беларускай мове ў Куцеіне. Яна трапіла таксама ў беларускую народную творчасьць у выглядзе духоўных песьняў «Пра старца Арлавана і Алісахвея» або «Пра царэвіча Алісахвея». Тры такія песьні надрукаваў Е. Раманаў у сваім «Беларускім зборніку» (Вып. 5, Віцебск, 1891, сс. 371—377).

[26] Выхад гэбраяў з Ягіпту як вобраз паступленьня ў манастыр (г. зн. выхад з гэтага сьвету) добра вядомы ва ўсходнехрысьціянскай духоўнай традыцыі. Сьвятыя Ян Лесьвічнік (памёр у 649 г.) піша: «Калі мы хочам выйсьці з Ягіпту і ўцячы ад фараона, мы павінны мець Майсея — нашага пасярэдніка з Богам, які, стоячы між дзеяньнем і сузіраньнем, уздымае свае рукі, каб мы пад яго праваднііцтвам маглі перайсьці мора грахоў і прагнаць Амалека нашых дрэнных пажаданьняў»

(Migne, Patrologia Graeca, v. 88, pp. 635—636).

[27] Відаць, у тым часе не лічылася нечым незвычайным, калі нехта пакідаў жонку і сям'ю, каб ісьці ў манастыр. Сьв. Тодар Студыт (759—826) піша: «Ці ж некаторыя з вас не пакінулі бацькоў, іншыя — братоў, іншыя — жонак і дзяцей, іншыя — хаты, іншыя — гаспадарку, а ўсе апошнія — і гэта самае цяжкае,— адракліся ад сваёй волі?» (Migne, Patr. Gr., v., 99, p. 673).

[28] Сьв. Апанас Александрыйскі (296—373) расказвае, што сьв. Антон Вялікі вельмі прагнуў мучаніцкай сьмерці. Дзеля гэтага, у часе апошняга вялікага перасьледу хрысьціянаў у 311 г., ён пакінуў пустыню і прыйшоў у Александрыю. Калі, аднак, ягонае жаданьне ня споўнілася, ён «вярнуўся ў сваю кельлю і там кожны дзень быў мучанікам свайго сумленьня, увесь час змагаючыся за веру» (St. Athanasius, Life of St Anthony. Transl. R. T. Mayer. London, 1950, p. 60). Такім чынам, думка, што законнае жыцьцё ёсьць працягам мучаніцтва, вельмі старая. У грэцкай мове «мучанік» завецца «мартыс», але першаснае значэньне гэтага слова ёсьць «сьведка». Мучанікі сваёй крывёю сьведчылі аб праўдзе веры Хрыстовай. Манахі сьведчаць аб ёй сваім спосабам жыцьця.

[29] Сьвяты Хвядос Кіевапячэрскі (пам. у 1074 г.) піша: «Прыгадаем наш першы ўваход... Ці ж мы тады, стоячы перад сьвятымі дзьвярамі, не давалі абяцаньняў перад бачнымі і нябачнымі сьведкамі, быццам у судны дзень, і нават самога Бога клікалі, кажучы: Вось Хрыстос тут нябачны стаіць. Дык памятай, каму ты даваў абяцаньні! Ніхто цябе да гэтага не змушаў» (Евсеев И. А. Преподобный Феодосий Печерский и его поучения. Памятники древнерусской церковно-учительной литературы. Вып. I, СПб., 1894, сс. 36—37).

[30] Сьвяты Базыль Вялікі (330—379) так апісвае выбар духоўнага настаўніка: «З вялікай развагай і асьцярожнасьцю пастарайся знайсьці чалавека (манаха), які быў бы для цябе надзейным правадніком у гэтым спосабе жыцьця, і які ўмее кіраваць тымі, хто імкнецца да Бога. Трэба, каб ён быў упрыгожаны дабрадзейнасьцямі, і сваімі ўчынкамі даваў доказы любові да Бога, а таксама ведаў сьвятыя пісаньні. Ён павінен любіць адзіноту, цурацца багацьця, быць збоку ад усялякіх спрэчак, ціхім, любым Богу, прыяцелем беднасьці, спакойным, непамятлівым крыўдаў, а таксама служыць прыкладам для ўсіх вакол яго. У ім не павінна быць ніякай пыхлівасьці і гордасьці, трэба, каб ён быў недаступны для лісьлівых пахвалаў, меў цьвёрды характар і славіў Бога вышэй за ўсё. Калі знойдзеш такога чалавека, дык аддайся яму поўнасьцю, здушыўшы і выкінуўшы з сябе найменшы праяў уласнай волі, каб стацца табе чыстым посудам, які зьберагае ўсё, што туды кладзецца, для большай тваёй славы і пахвалы» (Migne, Patr. Gr. v. 31, pp. 631—632).

[31] Кірыла, напэўна, мае тут на ўвазе Ап. Дз 4:32.

[32] Такога сказу ў сьв. Паўла няма. Кірыла тут скарыстаў 2 Цім 2:5, зьмяняючы тэкст, каб надаць яму пажаданае значэньне.

[33] Голубинский Е. Е. История русской Церкви, т. I, паўтом I, М. 1901, с. 841.

[34] Макарий. Святой Кирилл, еп. Туровский, как писатель. Чтения по языку и словесности Имп. Акад. наук. СПб., 1857, с. 165.

**Канец будзе.**

## *ВІНШУЕМ!*

***Калектыў «Спадчыны» мае гонар паведаміць прыемную навіну: у конкурсе часопісаў культурнага накірунку, які ладзіў Беларускі Фонд Сораса, мы перамаглі. Трэці нумар «Спадчыны» за мінулы год прызнаны лепшым у краіне. Мы шчыра віншуем нашых аўтараў. Спадзяемся на далейшае плённае супрацоўніцтва на ніве аднаўлення гістарычнай праўды і адраджэння нацыянальнай культуры.***

***Дапамажы нам Бог у гэтай найважнейшай справе!***

SPADČYNA (Heritage) Magazine
5. Staražoŭskaja St. Minsk, Republic of Belarus.

